АЛЕСЬ
АСІПЕНКА





# ДВА ДНІ
# І ДЗВЕ НОЧЫ

АПОВЕСЦІ

МІНСК „МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА“ 1977

Чытачам бібліятэкі
інстытута літаратуры АН БССР
з надзеяй, што чытачы
[illegible]
[illegible] аўтар
26.V.77.



# КАНЕЦ БАБІНАГА ЛЕТА

## 1

Дзень гэты, падобны на ўсе астатнія, адрозніваўся хіба тым, што быў юбілейны.

Марыя, можа, і не ўспомніла б, што ёй спаўняецца пяцьдзесят (даўней дык гады на вёсцы ніхто не лічыў— яны каціліся самі, як вясновая вада ў ручаі), каб раніцай па радыё не перадалі Указ: «За заслугі ў развіцці жывёлагадоўлі і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння ўзнагародзіць даярку калгаса «Партызанская слава» Астрошыцкага раёна Дабрэню Марыю Кузьмінічну Ганаровай граматай...»

— Божачка, няўжо табе пяцьдзесят? — першая загаманіла Алена Ліпская.— Чакай, чакай, ты ж з нашым Колем равесніца. Толькі Коля перад хрышчэннем радзіўся. Мама казала, у самыя маразы, а ты перад уздвіжаннем. Дык гэта ж і яму было б пяцьдзесят...

— Гаворыш ты нешта! Коля, лічы на два гады за мяне старэйшы,— запярэчыла Марыя.

— Як жа на два гады, калі ад хрышчэння да ўздзвіжання восем месяцаў?

— А так, што на два гады,— не здавалася Марыя.— Ён жа і ў школу пайшоў раней аж на два гады...

Алена хацела была запярэчыць, але Хвядосава Волечка спыніла іхнюю спрэчку.

— Ну, во, завялі, быдта некага іншага ўзнагародзілі. Бабы, падкінем яе!..

Даяркі, нібы і чакалі Вольчынага загаду, абступілі Марыю.

— Не выдумляйце вы,— адбіваючыся ад жанчын, запрасіла літасці Марыя.— Далібог, бабы, перасвянчу каторую...

Але даяркі схапілі Марыю, пачалі няўмела падкідваць. Над іх галовамі то ўзляталі ногі ў гумавых ботах, то галава ў збітай на патыліцу хустцы. За гэтым заняткам іх і застаў Восіп Дудак — кладаўшчык няхітрага даярскага скарбу і ўчотчык малака. Нехта з даярак убачыў яго, крыкнуў:

— Бабы, Восіп!..

Даяркі ледзь не выпусцілі з рук Марыю. У самае апошняе імгненне яна неяк злаўчылася, стала на ногі.

— А каб на вас, здурэлі...

Восіп, нічога не разумеючы, стаяў у парозе, пазіраў на збянтэжаных даярак. Як было ўжо не адзін раз, Восіп спазніўся ледзь не на гадзіну, таму ён чакаў, што даяркі будуць сварыцца. А яны маўчалі, і ён па прывычцы стаў апраўдвацца.

— Гэта ж во ўначы зуб схапіў,— загаварыў ён, паціраючы няголеную шчаку.— Толькі пад раніцу заснуў. Ну і праспаў. Прахапіўся, а ўжо развіднела. Дык я бягом.

— Яно і відаць, што спяшаўся, аж апухнуў,— засмяялася Волечка.

— Не тое лякарства на зуб браў...

— Давайце, бабы, мы яму той зуб выдзярэм, што не перастае балець.

— Дык што ж ён рабіць стане без таго зуба...

— Калі выдзіраць, дык усе адразу...

Восіп, не адказваючы на кпіны і жарты даярак, адчыніў кладоўку, адышоўся ўбок, закурыў.

— Чаго яны да цябе прычапіліся? — спытаўся ён у Марыі, якая папраўляла на галаве хустку.— Як на пагібель усхадзіліся.

— Грамату яна палучыла,— падказала Алена.

— Ну?! То з цябе, Марыя, паложана,— адразу пажвавеў Восіп.— Прычына, так сказаць, ёсць. Прасі ў брыгадзіра дні тры адгулу, а мы падтрымаем. А як жа, граматамі не дужа часта ўзнагароджваюць.

— Табе абы выпіць! — выгукнула Хвядосава Волечка.— Толькі пра чарку і думаеш. А Марыі вунь пяцьдзесят стукнула. І ўсё адна. Такі во, як ты, ахламон недзе па свеце брындае.

— А ты не зневажай. Зраўняла, як той казаў...

Праз невялікія брудныя вокны ў хлеў нясмела заглядала світанне, але лямпачкі пад столлю, над праходамі, гарэлі ў гэтую пару яшчэ ярка. Каровы, якія даіла Марыя, стаялі ў самым канцы хлява справа. Трэба было спярша прайсці ўздоўж хлява да палавіны, потым звярнуць на папярочны праход, а затым зноў уздоўж па хляве. Даяркі ўжо месціліся ля кароў, весела пакрыквалі, каб тыя стаялі, не брыкалі нагамі. Раніцай, на свежыя сілы, гэтыя жаночыя воклічы былі асабліва гучныя, задзірыстыя.

Марыя любіла ранішнюю ўвішнасць і бадзёрасць жанчын. Падабалася, як тыя перагаворваюцца, стараюцца перакрычаць адна другую. Сама Марыя лішне не кідала слоў, больш слухала ды ўсміхалася. На ферме старэйшай за яе цяпер не было. І гэта як бы накладала на Марыю абавязак заўсёды быць сталай.

Але не толькі гэта.

Жыццё не песціла яе ніколі, хоць напачатку і здавалася, што яно не пойдзе, а паплыве, як той сыр у масле.

На самым канцы вайны, калі ніхто з крутагорскіх дзяўчат нават не мог марыць пра вяселле, Марыя выйшла замуж. І не абы за каго, а за Івана Дабрэню, былога партызанскага забеспячэнца, а цяпер старшыню райспажыўсаюза.

Нейкі час Марыя нават жыла ў спаленым дашчэнту раённым цэнтры. Потым перабраліся ў Дудакі. І зноў жылі, як людзі. Іван загадваў Дудакоўскім сельпо. Людзі зайздросцілі, і, можа, ад той зайздрасці ўсё пайшло наперакос.

Гадоў дзесяць назад Марыя і зусім засталася адна з трыма дзецьмі на руках. Іван паехаў у камандзіроўку і не вярнуўся. Прыслаў па пошце пісьмо: так, маўляў, і так, не чакай і не спадзявайся.

Папраўдзе, ад'езды такія былі і раней, але цяпер Марыя адчула, што, бадай, спадзявацца няма сэнсу.

Спачатку Іван высылаў грошы, хоць і не кожны месяц і не па шмат, але ўсё ж была нейкая надзея, што адумаецца, вернецца. Потым пераводы прыходзілі ўсё радзей, пакуль наогул перасталі прыходзіць.

Свёкар, Іванаў бацька, аднаго разу з'ездзіў да сына. Вярнуўся злосны, доўга маўчаў, пакуль нарэшце Марыя не стрымалася, спыталася пра Івана.

— Ты мне пра яго не напамінай, во што. Забудзь, як я забыўся. Нібы і не было яго,— сказаў свёкар.

Ды хіба ж забудзеш чалавека, калі любіла яго? І трое дзяцей не ад святога духа, ад яго, грэшнага, ненавіснага, а ўсё ж каханага. Марыя чакала яшчэ з год. Чакаць перастала, але забыць не магла. Часам уначы Іван сніўся. То на кані з аўтаматам, то ў белай вышыванцы — дужа моднай пасля вайны — ідзе па полі з «казою» — сажнем, то ловіць рыбу і тоне, а яна не можа ўратаваць яго. Чаго не прысніцца жанчыне, калі не перастае думаць пра каго.

З пасляваеннага жыцця толькі і ўспаміналася вось гэта. Каб не Іванавы здрады, дык і няма чаго ўспамінаць. Кожны дзень быў падобны на другі, як дзве кроплі.

Марыя прыйшла ў закутак, дзе стаялі яе каровы. Пагладзіла крайнюю, і ўсе пачалі выцягваць пысы, прасіць, каб палашчыла і іх. Жывёла — і тая ласку любіць, а чалавек...

Ну, канечне, прыемна, што ўспомнілі, грамату далі. Яшчэ як прыемна. Апошнім часам Марыю шанавалі. З той пары, як сакратаром райкома партыі стала Вежнявец, Марыю не крыўдзілі. Хоць і раней не забывалі, няма чаго наракаць. Але як ты ні кажы, а ласка любога чалавека самая дарагая. Дзе ён цяпер? Не аказваецца гадоў сем. Сын вырас. Унучка паявілася. А Івана не чутно. Відаць, добра жыве. Каб жыў блага, дык, напэўна, аб'явіўся б.

Марыя прысела на кукішкі, паставіла між каленяў даёнку. Ад вымя прывычна пахла свежым малаком,

гноем. Карова нецярпліва перарастуліла з нагі на нагу, як бы заахвочваючы Марыю да працы.

«Пяць гадоў засталося,— падумала Марыя,— а там на пенсію. Хоць адляжуся, адасплюся». Але яна і сама адчула, што пра пенсію падумалася абыякава, нібы не верылася, што можна нічога не рабіць, колькі хочаш спаць раніцай, куды хочаш і калі хочаш ісці. Праца на ферме ў адрозненне ад палявой як бы прыкоўвала чалавека да пэўнага распарадку, які нельга парушыць. За шмат гадоў гэта стала прывычкай.

— Марыя, ці чуеш ты? — гукнула яе Алена Ліпская.— Кажуць, што праз тыдзень адчыняюць новую ферму.

— Ну, дык і што? — не перастаючы даіць, адказала Марыя.

Яна толькі азірнулася. Алена стаяла на праходзе, трымаючы даёнку ў руцэ, быццам ужо кончыла даіць кароў.

— Думала, хоць да зімы параблю.

— Быдта табе на гэтай новай механізаванай ферме не будзе месца?

— А і не будзе. Мяне першую Берасцень звольніць, паглядзіш,— адказала Алена.

Марыя і сама не была ўпэўнена, ці застанецца яна на новай ферме, але пастаралася супакоіць Алену. Недзе ў душы яна і сама часам абуралася Аленінай бестурботнасцю і неахайнасцю ў працы. Тая магла запазніцца на работу, зрабіць абы-як або і зусім не прыйсці даіць кароў. Тады Марыя гукала даярак, прасіла памагчы ёй падаіць Аленіных каровак. Але перад старшынёй калгаса Алену абараняла. Было шкода жанчыну, у якой чацвёра дзяцей, а муж калека. Ды і працавалі разам недзе з сорак восьмага года. Паспыталі гора ўволю.

— Не звольніць,— сказала Марыя.— Права ў яго няма. А звольніць, дык на свае рукі знойдзеш мукі. Працы хапае.

Як бы супакоеная, Алена неахвоча падышла да каровы.

— Жызня во праляцела, а ці бачыла ты яе? — спыталася яна ў Марыі.— Уся жызня ў хляве пад каровай прайшла... Стой, каб ты здохла!— закрычала яна на карову.

— Пад каравай ці дзе яшчэ, а прайшла,— адгукнулася Марыя, адчуваючы, як нечага сціснулася ў грудзях сэрца, а вочы замуліла, як ад дыму.

— Адно, што дзеці. Каб не яны — і жыць не трэба...

— Арцёмка твой спагадлівы...

— Каб яго! — выгукнула Алена, але ў яе голасе не было крыўды або злосці на мужа, а хутчэй спагада.— Толькі, лічы, што мужчына ў хаце.

Нарэшце Алена пачала даіць.

У Марыі было поўнае вядро малака, і трэба было несці яго ў прыбудоўку. Яна звычна пайшла па праходзе ў самы канец хлява, яшчэ не адчуваючы змораnасці. Тая паявіцца недзе за сёмым разам. Цяпер ішлося лёгка.

«Няўжо мне пяцьдзесят? — раптам падумалася ёй.— Як бы і не чуваць гадоў. Некалі ж думалася, што пяцьдзесят — канец жызні. А во прычакала — і як бы не жыла на свеце. Ну, як адзін міг, праляцела жызня. Хоць, з другога боку, вунь колькі падзей адбылося. Як азірнешся, дык аж страшна». Але пра гады, пражытыя незаўважна, думалася без суму, нават лёгка. Можа, таму думкі пераскочылі на другое. На добры лад, дык трэба было б паклікаць у хату даярак, сясцёр з мужамі, пачаставаць. Усё ж пяцьдзесят гадоў, дата.

Марыя на імгненне ўявіла поўную хату людзей, гоман, весялосць і аж усміхнулася, але тут жа і напалохалася. Дзе ёй справіцца, калі часу вольнага няма ні хвілінкі! У людзей бульба пакопана, а яна дык і не бралася. Добра, што свёкар тупае ля хаты, а так хоць гаспадаркі выракайся.

Ды, зноў жа, пакліч даярак — трэба і брыгадзіра, і ўчотчыка, і заатэхніка — палову вёскі. Не, лепей ужо так. Абыдзецца. Не вялікая дата. Навыдумлялі гэтыя юбілеі. А калі падумаць, дык звычайны дзень, як усе. Ну, яшчэ каб быў Іван. Тады чаго ж, можна і зрабіць бы. Мужняя жонка, не саламяная ўдоўка.

І раптам Марыя зрабіла адкрыццё, што зусім не памятае Іванаў твар. Голас памятае, а твар, як пустое месца. Яна паспрабавала прыгадаць, узнавіць у памяці Іванаў твар і ніяк не магла. А па народнай прыкмеце дык гэта і зусім дрэнна. Кажуць, калі забыў чый твар,— значыць, таго чалавека няма на свеце.

Падумаўшы так, Марыя, аднак, не адчула шкадавання. Дзіва што, прайшло дзесяць гадоў. Ды і прыгадвала яна Івана як бы па прывычцы. Для сябе даўно было вырашана. Калі і вернецца, дык не сыходзіцца з ім. Няхай, як хоча, жыве.

Рашэнне гэтае прыходзіла спакваля, больш ноччу, калі ад злосці і бездапаможнасці накіпалі на вачах слёзы.

«Як далёка трэба хадзіць, каб выліць малако,— чамусьці падумалася ёй.— Хутчэй бы ў новую ферму, дзе і даёнак не будзе, і насіць іх не трэба».

І раптам яна адчула, што толькі пачала даіць, а ўжо стамілася.

«Значыць, старэю,— падумала Марыя.— А нягож, старэю. Пяцьдзесят жа».

## 2

Бяда абрынулася неспадзявана.

На самым пачатку вясны, нядружнай, з нечаканымі марозамі, завірухамі і такімі ж нечаканымі адлігамі. Іван Дабрэня спяшаўся з камандзіроўкі дамоў. Да цягніка заставалася хвілін сорак. Івану Дабрэню раілі пачакаць да заўтра, бо ўсё роўна не паспее, але тут паявіўся нейкі Максімка Бабарэнь, шафёр.

— Дасі на бутэльку — у самы цот дастаўлю,— сказаў ён, і Дабрэня згадзіўся.

Дарога, па якой Бабарэнь павёз Івана, ляжала напрасткі праз лес. Сапраўды, хвілін праз дваццаць машына выехала да ракі. Ад яе да станцыі было рукой падаць...

Лёд на рацэ ўжо набрыняў, нават дзе-нідзе падтаў ад берага — у чорных палонках віравала вада. Але наезджаная па лёдзе дарога трымала добра.

Бабарэнь вылез з машыны, прайшоўся па рацэ, пагрукаў ботам, выпрабоўваючы моц лёду.

— Праскочым,— сказаў ён і памалу ўзагнаў машыну на лёдавы прыпай.

Рака тут была нешырокая. Увачавідкі набліжаўся бераг. Іван Дабрэня падумаў: абавязкова трэба пачаставаць шафёра ў буфеце — што ні кажы, а выручыў,— як раптам убачыў наперадзе дзве чорныя трэшчыны, якія раскалолі наздраваты лёд. Ад іх імкліва, як згле-

дзець вокам, пабеглі меншыя, дробныя і кароткія. Нешта трэснула, як бы хто разбіў шкляную пасудзіну. На лёд хлынула вада.

— Скачы! — крыкнуў Бабарэнь.

Машына завальвалася на левы бок, а яе перад як бы ўзнімаўся над ракою.

Іван хацеў скочыць, але не мог. Нешта з усяе сілы цягнула яго, паднімала над ракой. У тое ж імгненне ён апынуўся ў вадзе. Спачатку ў яго заняло дух, потым ён адчуў, як закалола ў галаву, і зразумеў, што тоне. Ён пачаў хапацца за ваду, крыгі і на дзіва лёгка цяпер выбраўся з кабіны.

Да крыві абдзіраючы пальцы, ён хапаўся за коўзкія крыгі, спрабаваў выбрацца з ледзяной вады. Нешта ўсё яшчэ цягнула яго ўніз. Потым адпусціла, але Іван перастаў адчуваць ногі. Здавалася, іх адарвала і пацягнула пад лёд.

Далей ужо нічога не памятаў.

Ачомаўся ён у незнаёмым пакоі. Высока над ім бялела столь. Іван павярнуў галаву, убачыў аднолькавыя жалезныя ложкі — зразумеў, што ляжыць у бальніцы. Памацаў ногі — яны былі. Узрадаваўся — усё абышлося. Ды, відаць, радавацца было рана. Пасля запалення лёгкіх адолелі хваробы. Адна цяжэй за другую. Думаў, з бальніцы дарога на могілкі. Аж выжыў, ачуняў і недзе на прыканцы жніўня выпісаўся дадому.

Яно і ўсё было б добра, ды непакоіла, нават трывожыла жонка. За доўгія месяцы хваробы яна пабывала ў яго двойчы. Першы раз пабедавала, паплакала, паабяцала прыязджаць кожную нядзелю. Потым не наведвалася з месяц. А калі зайшла ў палату, дык зноў нечага залілася слязьмі.

З таго часу не паяўлялася. Грошы, праўда, прысылала. І сякія-такія падарункі.

Усё гэта здзіўляла, непакоіла.

Дамоў Іван прыехаў раніцай. Ад вакзала прайшоўся да моста праз Дзвіну, пастаяў на ім, пазіраючы ў імклівую плынь ракі. Пад мостам было глыбакавата. Затое ад берага ўразаліся ў раку пясчаныя водмелі. На адной з іх, там, дзе Віцьба ўпадае ў Дзвіну, стаяла легкавая машына. Два мужчыны ў аднолькавых капелюшах, з закасанымі да каленяў штанінамі — няйначай. прыватнікі — мылі яе, абдаючы вадой з вядра.

Івану падумалася, што, калі ён прыехаў сюды дзесяць гадоў назад, Дзвіна была больш паўнаводная. І яму чамусьці стала маркотна.

На пляцы Волі Іван сеў на трамвай. Ехаць трэба было няшмат — усяго тры прыпынкі. Трамвай марудна поўз угору, потым крута павярнуў, выбег на плошчу. Адсюль ужо відаць быў дом, у якім Іван пражыў апошнія дзесяць гадоў.

«Канец усім пакутам», — весела падумаў ён.

Яму доўга не адчынялі. Мабыць, жонка моцна спала.

Іван грукнуў у дзверы кулаком раз, другі, трэці. За імі пачуліся крокі. Чыйсьці незадаволены голас спытаўся:

— Хто там?

Іван спалохана зірнуў на нумар. Не, памылкі не было. Гэты самы нумар ён прыбіваў перад новым годам. Кватэра ягоная.

— Адчыніце, свае,— сказаў ён асіплым ад хвалявання голасам.

Па той бок забразгаў ланцужок, потым ляснуў адзін, другі замок. Дзверы адчыніліся. На парозе стаяў высокі стары ў сініх падштаніках, у такой жа сіняй, з начосам, кашулі.

— А дзе ж Алімпіяда Чарушына?— спытаўся Іван.

Стары паднёс далонь да вуха.

— Ты мацней крычы,— папрасіў ён.— Я не дужа чую.

— Чарушына дзе? — крыкнуў Іван.

— А ты хто ёй будзеш? — спытаўся дзед.

«Бач ты, следчы... пракурор глухі,— узлаваўся Іван.— Ні чорта не чуе, а пытаецца».

— Мне, дзед, інтэрв'ю няма калі даваць! Куды Алімпіяда перасялілася?

Ён так паглядзеў на дзеда, што ў таго, і праўда, адпала ахвота пытацца.

— Чаго ты крычыш? Чаго? Так і сказаў бы, што былую гаспадыню шукаеш. А то крычыць. Папрывыкалі: ледзь што — крычыць...

— Я з цябе, дзед, душу зараз вытрасу і на балкон павешу сушыць! — прыгразіў Іван.

— Дык я ж і кажу табе, што памяняліся мы фацерамі. А ты слова не дасі сказаць. Дай божа памяць, пе-

рад Пятром памяняліся. У нас тут сын з нявесткай атажом вышэй. Дык яно зручна.

— Ты мне, дзед, байкі не расказвай. Коратка і ясна кажы: дзе цяпер Чарушына жыве?

Дзед на ўсякі выпадак адступіў на крок у кватэру.

— Па Цаглянаму завулку тры, кватэра другая. У маём, значыць, доме.

«Божа, дзе ж гэта? — стараўся прыгадаць Іван.— Чаму было мяняць цэнтр горада на ўскраіну? Што адбылося?»

Ехаць давялося ў другі канец горада, аж за Віцьбу, а потым ісці па пясчаных, з драўлянымі тратуарамі завулках.

Цагляны завулак упіраўся ў глухую загародку, за якой пачынаўся чарапічны завод. Аднапавярховы дом пад нумарам тры з прыбудоўкамі, надбудоўкамі і верандамі стаяў наўкось. Ды і ўсе дамы — здаецца, адзінаццаць — стаялі абы-як: хто выстаўляў на завулак глухую сцяну, хто адбягаўся ў глыб агарода, прыкрываўся ад вуліцы дагледжаным вішаннікам, а хто, нібы напаказ, вылазіў на самы тратуар.

Іван спыніўся перад домам, здагадаўся, што ў другую кватэру трэба заходзіць не з завулка, а з тупічка.

На двор ён заходзіў з затоеным страхам. Ад брамкі да ганка вяла пасыпаная цёртай чырвонай цэглай сцежка. Паўз яе цвілі астры. Белыя, чырвоныя, сінія. Справа, за хлеўчуком, буяў агарод. Чырванелі памідоры, зеланеў сакавіты агурэчнік з жоўтымі кветкамі, бялелі не дужа яшчэ завітыя качаны капусты.

«Маладзец, Алімпіяда,— раптам павесялеў Дабрэня, бо зразумеў, якая выгода жыць тут: і ў горадзе, і ў прыватным доме.— Не баба, а міністр гандлю».

Ён зайшоў на веранду з пафарбаванай падлогай, пакратаў вялізную медную ручку.

Дзверы былі замкнуты. Тады ён пастукаў. І адразу пачуў голас Алімпіяды.

— Каго там у такую рань прыгнала?..

Яна ўзнікла на парозе ў доўгім квяцістым халаце, з мяккім ручніком на шыі.

Алімпіяда заўсёды была прыгожая: і рост, і пастава, і твар — усё як падагнана, вытачана, адшліфавана. Але цяпер яна была прыгожая як ніколі. У Івана аж перахапіла дыханне. Ён зрабіў крок насустрач.

— Ну, здарова,— і працягнуў рукі, каб абняць.

Жонка неяк разгублена, нават спалохана адступіла. Ён зайшоў у пакой, і адразу ж кінуліся на вочы велюравы капялюш, што вісеў на вешалцы, і мужчынскія чаравікі пад ёю. Яму стала горача і мутарна, уваччу пацямнела.

Не памятаючы сябе, Іван зняў капялюш, кінуў ім у Алімпіяду. Ён хацеў быў кінуць яшчэ і чаравікамі, але адчуў, як яго нехта згроб ззаду, балюча заламаў правую руку. Не ўтрымаўшыся, Іван упаў на калена і тады ўбачыў за сабой Пятра Цялежку — саслужыўца і нават сябра.

— А капялюшык, між іншым, раю падняць і павесіць,— сказаў Цялежка і адпусціў руку.

Іван падняў, павесіў капялюш.

— Знюхаліся? — спытаўся ён.

— Ну ты, тпру ты,— азваўся Цялежка.— Між іншым, інтэлектуальныя людзі капелюшамі не кідаюцца...

— Пайшоў ты...

— Астынь,— зарагатаў Цялежка.— Ды заходзь. Пасядзім. Пагаворым. Сёння як-ніяк субота. Так сказаць, дадатковы выхадны...

— Праходзь, Іван, і не шалей,— падала голас Алімпіяда.

— Чорт з вамі, зайду,— з выклікам сказаў Іван.— Ёсць жа, нарэшце, і ў мяне нейкае права.

Цялежка ляпнуў рукой па плячы.

— Во гэта па-нашаму... Ліпа, падай чаго паснедаць...

Напачатку Івану здалося, што Цялежка апынуўся ў Алімпіяды хоць і не выпадкова, але і не ў той якасці, у якой ён паказваў сябе цяпер, калі загадаў падаваць снедаць. Ды, відаць, памыліўся.

Алімпіядзе Іван ніколі не давяраў. Яшчэ тады, калі шныпарыў па камандзіроўках ад калгаса, заязджаў да яе і не раз страчаў там такіх, як і сам, прыезджых. Ды і пасля ўсяго бывала. Зрэшты, Алімпіяда не была распуснай, разбэшчанай жанчынай. Практычнай — так. Без вялікіх прынцыпаў — таксама. Але і сам ён, Іван Дабрэня, іх не меў. Лішні цяжар, якім не вельмі карыстаешся. Ды — і ці варта патрабаваць ад жанчыны, калі добра ведаў, хто яна такая.

І ўсё ж тое, што Пятро Цялежка загадаў ёй падаваць снедаць, здзівіла і нават абурыла яго.

У вялікім пакоі з вокнамі на ўсход — светлым ад яркага сонца — нягучна іграў стэрэафанічны прыёмнік.

Цялежка выключыў яго, сеў на канапу.

«Падобна на тое, што ён тут не першы дзень жыве»,— падумаў Іван, і яму зрабілася смешна, бо ўявіў, як заўтра Пятро будзе перавозіць свае рэчы.

— Сядай,— сказаў Пятро.— Пакуль Ліпа снеданне падасць, перакінемся навінамі.

— Давай, кідайся,— адказаў Іван і сеў у крэсла.— Наогул, трэба было б табе морду набіць. Баб мала, ці што?

Цяляжка закурыў.

— Ты ў Лобава рэвізію праводзіў?

— Не. Але бываў у яго.

— Гарнітурчык ад яго? — ужо зусім нахабна спытаўся Цялежка.

— Слухай, што адбылося? — спытаўся Іван, бо зразумеў, што абы-так Пятро не ўсчынаў бы гаворку.

— А тое, што арыштавалі Лобава. Злодзей і авантурыст.

— Ну і што? — Іван не мог зразумець, якое ён меў дачыненне да Лобава. А калі б і меў. Не ён жа, Іван Дабрэня, ствараў Лобаву аўтарытэт.

— Гарнітур мы прадалі,— спакваля жаваў словы Цялежка.— Лобаў гэты меткі пакідаў. Па іх цяпер і шукаюць тых, хто яго падтрымліваў.

— Глупства.

— Хацеў бы, каб было так.

Іван не паспеў адказаць, бо паявілася Алімпіяда.

— Ідзіце снедаць,— сказала яна і, прапускаючы паўз сябе Івана, як бы пашкадавала яго: — Пасівеў ты і згорбіўся.

Пасля другой чаркі Іван адчуў сябе вольна і незалежна.

— Вось што,— пачаў ён, аблегшы на стол,— трэба і сумленне мець. Я па бальніцах валяюся, а вы тут любошчы строіце. Мне зараз урачы спакой прыпісалі. Каб, значыць, без нервеннасці і ўсё такое абыходзілася.

Івану вельмі хацелася паназаляцца, паздзекавацца з Цялежкі, а потым, калі ён сыдзе, адплаціць Алімпія-

дзе. Чым, як? — ён яшчэ не ведаў, але быў упэўнены, што адплоціць.

— На цябе, Пятро, я не вельмі крыўдую, хоць ты і сволач. А з Алімпіядай асобная гаворка будзе.

— А чаму, зараз і пагаворым,— спакойна сказала Алімпіяда.— Ты па якому праву мной распараджаешся? Хто ты мне? Муж? Сват? Брат? Скажы, міленькі мой, дзякуй, што дасюль цябе трымала.

— Чакай...

— Дык жа чакаць няма калі,— цвёрда і злосна загаварыла Алімпіяда.— Мне ўжо сорак. Маю ж я, нарэшце, законнае права мужняй жонкай пабыць, ці, можа, не дазволіш? Можа, цяпер міласць праявіш: «Пойдзем, Ліпа, распішамся». Дык, міленькі мой, я не хачу цяпер у загс ісці. Навошта ты мне, стары, хворы, ды яшчэ невядома як будзе, калі Лобаў на цябе следчаму пакажа.

— Ліпа, перастань,— паспрабаваў угаварыць яе Пятро.

Але Алімпіяда разышлася не на жарт. Яна паднялася, дастала з сумачкі пашпарт, кінула яго на стол.

— Паглядзі, паглядзі, каб ніякага сумнення не было. Алімпіяда тая ж, ды прозвішча іншае.

Іван разгарнуў пашпарт, убачыў, што сапраўды Алімпіяда памяняла прозвішча, і цяпер ужо зразумеў, што канчаткова выйшаў у тыраж. Яму стала да слёз крыўдна і балюча. Здрадзіць у такі час, калі яму асабліва патрэбна жаночая ласка, спакой і догляд!

Зрэшты, Іван ніколі не давяраў жанчынам. За свой мужчынскі багаты на прыгоды век ён усяго нагледзеўся і па гэтых уражаннях строіў высновы пра «евін род», як ён любіў казаць. Увесь ён — гэты род — здаваўся яму хлуслівым, двудушным, сварлівым, прагным на грошы, транты, пачастункі, а таму лёгкі на самыя розныя спакусы. Але было ў ім і такое, без чаго нельга жыць мужчыне — няхай сабе і прытворнае, але рэдкае дараванне прыносіць ласку і асалоду. Яно, як той казачны бальзам, вылечвае ад жыццёвых, паўсядзённых перагрузак. Дзеля гэтага варта было жыць.

— Што ж, выходзіць, трэба забраць свае рэчы ды кватэру шукаць? — з іроніяй у голасе, каб не выдаваць разгубленасці, спытаў ён.

Алімпіяда пераглянулася з Пятром, паківала галавой, як бы спачуваючы Івану.

— Пра якія ты рэчы гаворыш? — высока ўзняўшы бровы, спыталася Алімпіяда.— Сам бачыш, тут нічога твайго няма. Грошы я табе спраўна высылала.

— Рублёў чатырыста яшчэ засталося... ад гарнітура. Я не хачу твайго,— як бы жадаючы закончыць непрыемную размову, сказаў Цялежка.

Іван зразумеў, што тут усё і даўно вырашана, і спрачацца няма сэнсу. Цялежка недарма прыгадаў Лобава. Ледзь што — прыплюсуюць да таго аферыста і злодзея.

Напэўна, такое становішча кожнага паставіла б у тупік. Іван Дабрэня зусім разгубіўся. Здавалася, што двое знаёмых сустрэлі яго пасярод белага дня, абрабавалі да ніткі ды яшчэ запрасілі паабедаць з імі.

Ён прайшоўся па пакоі, пастаяў ля акна, як бы хацеў сабрацца з думкамі.

— Я табе, Ваня, па-шчырасці дам параду,— загаварыла Алімпіяда.— Вяртайся ты да жонкі. Выгляд у цябе хваравіты. А табе цяпер добрае харчаванне трэба. Знянацку прыстанеш да якой жанчыны — зусім абярэ. Жонка цябе прыме.

Іван ведаў, што Марыя прыме яго, як было ўжо не раз. Двойчы ён вяртаўся з доўгіх камандзіровак у свае Дудакі. Двойчы Марыя даравала яму здраду. Дык, вядома, што даруе і ў трэці.

Падказанае Алімпіядай выйсце, аднак, было не вельмі па душы. У тыя разы, калі Іван вяртаўся з вандровак у Дудакі, дзеці былі малыя. Цяпер нават самы меншы Вася, які паявіўся пасля апошняга яго прыезду, вырас. А дочкі дык і зусім дарослыя. Іх, а не Марыі чамусьці было боязна і сорамна.

Іван доўга бадзяўся па знаёмых, абрыдзеў ім і сабе. Вось тады Алімпіядзіна прапанова падалася не такой ужо і дзікай.

Наадварот, яна ўсё мацней авалодвала Іванам. І чым больш неўладкаваным, бессэнсоўным станавілася яго жыццё ў горадзе, тым больш паяўлялася жаданне вярнуцца ў Дудакі.

Нарэшце, калі ўжо ад выданых Алімпіядай чатырохсот рублёў засталася палавіна, Іван спакаваў у славуты, абклееныя малюнкамі чамадан няхітры свой

скарб, сеў на рэйсавы аўтобус, які павінен быў даставіць яго да павароткі на Дудакі.

Была нядзеля. Ярка, зусім не па-асенняму свяціла сонца. Лёгкі, празрысты і, здавалася, ружовы туман памалу раставаў у вяршалінах лесу. І гэтая празрыстая, звонкая яснасць, і асенняя цішыня лесу, і спакойныя, някідкія фарбы, што панавалі ў прыродзе, неяк адразу запаланілі Івана.

Як толькі аўтобус адышоўся, ён перабраўся цераз канаву, не заглыбляючыся ў лес, знайшоў сухі, парослы чарнічнікам, грудок, лёг на яго.

Адсюль была добра відаць дарога на Дудакі — насупраць, па той бок і таксама на пагорку, каб угледзець з шашы, на двух стаяках быў прыбіты фанерны шчыт. На ім па белым фоне чорнымі літарамі напісана: «Жывёлагадоўчы комплекс «Крутыя Горкі». Ніжэй чырвоная стрэлка і драбнейшым шрыфтам: «24 км».

Іван Дабрэня спадзяваўся, што нехта абавязкова паедзе ў гэтыя Крутыя Горкі. Але ён ляжаў ужо з гадзіну, а з шашы сюды ніхто не зварочваў. Напачатку Іван падхопліваўся на кожнае шастанне шын там, на шашы. Потым прывык...

Сонца паднялося над лесам высакавата. Ад угрэтай зямлі заструменіліся вострыя лясныя пахі. Іх не адганяў нават цыгарэтны дым.

«Чорта лысага тут дачакаешся», — падумаў Іван, і яму раптам стала сумна: куды, у якую глухамань ён едзе? Не дай божа захварэеш, дык і ўрача не дачакаешся. А пры яго здароўі дык трэба ўвесь час трымацца ўрачоў. Але Дабрэня меў адну важную якасць. Калі ён нешта рашыў, дык ужо не любіў мяняць рашэння. І ён адагнаў маркотныя думкі.

Аднак нешта трэба было рабіць. Не сядзець жа тут да вечара. Ён падняўся, атрос прыліплую да штаноў іглiцу і тут жа пачуў, як зарыпелі тармазы. Калі ён азірнуўся, то ўбачыў, што з шашы, на ўсім хаду, паварочвае сюды светлая «Волга».

Іван рынуўся з пагорка ўніз, наперарэз машыне. З разгону не ўтрымаўся. Добра, што шафёр затармазіў — быць бы яму пад коламі. А так паваліўся грудзьмі на капот. Стараючыся ўтрымацца, хапаўся рукамі за коўзкую, паліраваную паверхню.

Праз ветравое шкло на яго глядзелі люстэркавыя кругі акулярaў. У іх ён раптам убачыў два свае выразныя адбіткі.

«Баба... прыватніца,— падумаў ён,— не возьме...»

Але ад такой практычнай думкі, што прамільгнула ў галаве, у Івана толькі дадалося нахабства. Ён адчыніў дзверцы, састроіў на твары прываблівую ўсмешку.

— Можа, падвязеце адзінокага вандроўніка?—спытаў ён.

— Сядайце,— зусім нечакана пагадзілася жанчына.

Іван аж знямеў — такой лёгкай паказалася перамога.

Ён не па гадах лёгка ўзбег на пагорак, схапіў абклееены малюнкамі чамаданчык, закінуў яго на задняе сядзенне.

— Дзверцы мацней зачыніце,— сказала жанчына.

Жанчына з першага позірку здалася яму маладой. Светлыя, дагледжаныя валасы, коратка падстрыжаныя, тонкіх абрысаў твар з залацістым пушком на скронях, высокія дзявочыя грудзі пад белаю кофтачкай, але як толькі ён глянуў на рукі, то адразу ж згледзеў, што ніякая яна не маладая, бадай пад пяцьдзесят, а можа, і за паўсотню. Значыць, у самы раз для яго.

Іван ведаў такіх жанчын у гадах, адзінокіх, якія добра адчулі гэтую сваю адзіноту. Можа, і гэтая адзінокая. Можа, ёй было сумна ехаць адной? Ну тады...

— Свая машына ці ўкалваеш? — спытаўся ён.

Як і не раз бывала, яму захацелася ўразіць гэтую жанчыну. Здавалася, толькі зачапі яе, дык яна сама пойдзе насустрач. А там хто ведае, куды можа завесці гамонка.

— Нібы і не чужая,— адказала жанчына.

Іван убачыў, што яе вусны кранула ўсмешка. Пэўна, пасміхаецца, што ён пад'язджае да яе, нібы хлапчук-падлетак.

— Гэта парадак,— выгукнуў ён.— Чужая кашуля не грэе. Сябе вазіць — чыстае задавальненне.

Ён выхапіў цыгарэту з нагруднай кішэні нейлонавай на замках-маланках курткі.

— Частуйся...

— У мяне не кураць...

— Я акенца адсуну — выдзьме,— сказаў ён.— А ты, відаць, да мужчынскага духу непрывычная.

Траур па мужу носіш ці, можа, з прынцыпу нашым братам грэбуеш?

— Я зараз спыню машыну,— задужа спакойна, нават не павярнуўшы галавы, сказала жанчына, і гэта спалохала Івана.

«Высадзіць сярод дарогі,— падумаў ён.— Кукуй тады».

— Даруй, канечне,— адступіў ён, але не мог стрымацца, каб не падкалоць жанчыну.— А ты па грыбы ці па якой іншай патрэбе едзеш?

— Па іншай,— абыякава згадзілася жанчына.— А вы да жонкі вяртаецеся?

— Да яе,— не хочучы таго, прызнаўся Іван.— А ты... вы, як здагадаліся? Нешта не пазнаю вас...

— Я вас дык адразу пазнала.

Іван адчуваў сябе і зусім ужо няёмка. Трэба ж было распусціць язык. Але ён ніяк не мог успомніць, дзе і калі сустракаўся з гэтай жанчынай,— перашкаджалі акуляры.

— Вежнявец я,— сказала жанчына.— Ці, можа, не памятаеце?

## 3

Марыя, як было заўсёды, першая падаіла кароў, памыла пад кранам гумовыя боты, рукі, выцерлася сухім, каляным ручніком.

— Колькі там? — пацікавілася яна, падышоўшы да Восіпа.

Той, не адрываючыся ад сшытка, назваў лічбу.

— Калі так пойдзе, дык сёлета першае месца ў цябе ў кішэні,— сказаў ён.

— Было б, каб не комплекс,— са шкадаваннем у голасе адгукнулася Марыя.

Колькі гадоў яна ішла да гэтага першага месца. Трэцяе бывала, а вось першага ніколі. Сёлета першае месца засвяціла з самай вясны. І на табе — комплекс. Усё па-новаму, усё не так, як было, і зусім невядома, чым кончыцца.

Зрэшты, Марыя не была зайздроснай. І ўсё ж, калі кожны дзень чалавеку напамінаць пра першае месца, дык калі-небудзь паявіцца ахвота падужацца і нават перамагчы. Але пабываць першай у спісе Марыі най-

больш хацелася з-за сакратара райкома партыі Вежнявец. Марыі здавалася, што яна падводзіць сакратара райкома, якая так шмат рабіла і робіць дзеля яе.

— Ну, я пайшла,— сказала яна Восіпу, быццам ён меў права адпусціць або затрымаць яе.

— Ідзі,— пагадзіўся той.— Дык, можа, усё ж на чарку паклічаш?..

Марыя не адказала, выйшла з фермы на вузкую, пратаптаную ёю сцежку. Нават заплюшчыўшы вочы, яна магла прайсці гэтай сцежкай да самай хаты. У слоту і маразы, у завіруху і спёку, вясной і летам, увосень і зімою хадзіла яна гэтым шляхам на ферму. Дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам...

Трыццаць гадоў!..

Марыя ніколі не лічыла гэтыя гады. І ўсё ж ёй часам здавалася, што трыццаць гадоў як бы складаюць адзін бясконца доўгі дзень. Аж рабілася не па сабе: выраслі, выгадаваліся дзеці, сама састарылася, прычакала ўнукаў, а ўжо наконт таго, колькі змен адбылося ў калгасе, дык і казаць не трэба — і ўсё за адзін дзень, і ўсё па адной сцежцы...

Марыя і не заўважыла, як апынулася перад веснiцамі. Адчыніла іх, павесіла на калок даёнку.

З прыбудоўкі, напалову закладзенай сенам, выйшаў свёкар Кірыла. Накінуты на плечы кажух і насунуты на галаву малахай рабілі свёкра падобным на чачэнца. Не хапала хіба газыроў.

— Бульбу разараў, а хто выбіраць будзе? — сказаў ён.— Табе наказвалі комплексу ісці прымаць.

— А Ліда?

— У Мінск сабралася...

Марыя, ні слова не сказаўшы, пайшла ў хату. За сталом сядзела ўнучка Таня — Надзіна дачка. Таня чэрпала лыжкай манную кашу, размазвала па стале. Ніхто за ёй не глядзеў. Сын Вася, унурыўшыся ў кнігу, мабыць, зусім забыўся на пляменніцу, а Ліда была занятая. Яна складала ў чамадан рэчы.

— Ты куды сабралася? — ледзьве стрымліваючы сябе, спакойна спыталася Марыя.

— Быццам не ведаеш,— нават не павярнуўшы галавы, адгукнулася Ліда.— У мяне спаборніцтвы.

— Накормяць яны цябе... А бульбу хто капаць будзе?.. Дзед вунь наараў... Не дай бог дождж ці мароз...

— Не магу ж я з-за вашай бульбы на спаборніцтвы не ехаць.

Марыя ўбачыла, як Таня зачэрпнула поўную лыжку кашы, вывернула кату на галаву.

— Дзіця пакарміць у вас часу няма,— кінулася яна да ўнучкі.— Еш ты, гора маё...

У хату нячутна зайшоў свёкар, быццам хацеў пабачыць, чым кончыцца сварка між дачкой і маці, сеў на лаўку ў парозе.

Ліда не зважала на матчыны косыя позіркі.

— Я табе сказала, што не паедзеш,— пазіраючы на Лідзіны зборы, не дужа ўпэўнена сказала Марыя.

— Паеду...

— А я неста знаю,— раптам сказала Таня.

Марыя зачэрпала лыжку кашы, сунула ў рот Тані. Тая замоўкла, толькі самотна глянула на бабулю.

— Ні сумлення, ні сораму,— кінула Марыя дачцэ. — У мяне рукі распухлі. А табе ўсё гуляць бы...

— Чаго вы да яе прысталі? — адгукнуўся Вася. — Яна сваю дарогу шукае.

У Марыі аж пацямнела ўваччу ад крыўды.

На дзяцей ёй не дужа пашчасціла. Так лічыла Марыя.

Старэйшая Надзя раптам нечага задумала падавацца ў артысткі. Як ні адгаворвала яе Марыя, як ні ўпрошвала — нічога не памагло. Выскачыла замуж за нейкага барадатага, у лапленых штанах рэжысёра, нарадзіла дачку і разышлася. Ездзіць цяпер па свеце, пяе, выкручваецца, як скурат на агні. Перад людзьмі сорамна.

Спадзявалася на Ліду. Думала, што гэта знойдзе сабе нешта трывалае, моцнае, на ўсё жыццё. Дзе там!.. Як хто сурочыў.. І ў горад не едзе, і ў калгасе абы дзень адбыць. Затое хлебам не кармі — пусці на спартыўныя спаборніцтвы. Зімой на лыжах, улетку — плавае, скача ў ваду. Так і чакай, прынясе калі ў падале, як Надзя.

А цяпер во гэты недаростак голас падае: «сваю дарогу шукае...» Шукаюць за матчынай спінай...

— А я неста знаю,— зноў сказала Таня.— Лідка з Петрацком цылуваліся...

— Ах ты! — замахнулася на малую Ліда.

— Не чапай дзіця,— прыкрыкнула Марыя.

— А чаго яна? Распусцілася...

— Сама распусцілася. Ты вось што, спыні зборы, пакуль я вяроўчыну не ўзяла.

Марыю разбірала злосць, крыўда і ўласная бездапаможнасць. Ведала: як ні крычы, што ні рабі, а Ліда паедзе на свае спаборніцтвы.

— Вы толькі гэта і ўмееце,— адказала Ліда.— За каровамі свету не бачыце. Дык таму і нас хочаце абы-куды выправіць...

Дзед Кірыла не мог змоўчаць, хоць ведаў, яму лепей бы памаўчаць.

— Ты як з маці гаворыш? — спытаў ён.— Бач ты, выгулялася. А што маці з работы прыйшла змораная, ёй клопату няма.

— Табе, дзед, лепей бы памаўчаць,— закрычала Ліда.— Скажы дзякуй, што цябе прытулілі.

Дзед Кірыла плюнуў, грукнуў дзвярыма. Марыі было сорамна за дачку.

— Ты чаму дзеда пакрыўдзіла? — наляцела яна на Ліду.— Цябе пояць, кормяць, апранаюць, а ты адплочваеш. Не паедзеш, і ўсё тут.

Марыя падбегла, зачыніла вечка чамадана, паставіла каля печы.

Апошнія словы пакрыўдзілі Ліду. Яна села на чамадан, уткнула галаву ў голыя калені.

— Ну і плач,— бязлітасна сказала Марыя, хоць ёй было і шкада дачкі.

У гэты час у хаце і паявіўся старшыня калгаса Пятро Рыгоравіч Берасцень.

— Ты чаго сырасць разводзіш? — з парога спытаўся ў Ліды.

— Раз'ездзілася,— замест Ліды адказала Марыя.— Бульба не выкапана, сена не перавезена. А яна на спаборніцтвы. Ёй скакаць хочацца...

— Хай бы з'ездзіла,— на здзіўленне Марыі, сказаў Берасцень.— Чэсць раёна і ўсё такое...

— А гэта ты бачыў? — Марыя працягнула рукі. Яны былі распухлыя ў суставах, з вузламі тоўстых ад запалення вен.— Я на гэтай раздойцы зусім угроблюся. А тут бульбу капаць.

Берасцень прайшоўся па хаце, паляпаў Ліду па плячы: «перастань ты», папалохаў Таню «козлікамі», толькі пасля гэтага сказаў Марыі:

— Цярпець не доўга засталося. Сёння комплекс прымаем. А бульбу вебераш,— і спытаў у Ліды: — Ты на колькі едзеш?

— На тры дні...

Берасцень абняў Марыю за плечы.

— Бачыш, на тры дні... Не прападзе бульба. А хочаш, цімураўцаў падкінем...

— Хай едзе,— згадзілася Марыя.— Ды і без цімураўцаў абыдуся.

Берасцень падштурхнуў Ліду: не затрымлівайся, а то маці і перадумаць можа.

Ліда схапіла чамадан, выбегла за дзверы. Берасцень зарагатаў:

— Як на кросе пабегла...

— Распускаеш ты маладых, старшыня,— сказала Марыя.

— Моладзь — наша будучыня,— прывычна выгукнуў Берасцень і раптам прызнаўся: — Усё роўна не ўтрымаеш у калгасе. Дык хай хоць дрэнна не ўспамінаюць.

— Нас некалі ўтрымлівалі... Забыўся?..

— Час другі быў... Ды і ты збірайся... Вежнявец ужо выехала. Ды ордэны не забудзь начапіць. Усё-такі комплекс прымаем.

— Я зараз,— паабяцала Марыя.— Вася, вазьмі Таню, тварык памый ды пераапрані яе.

Хвілін праз пятнаццаць — дваццаць Марыя «ў поўным парадзе»: пры ордэнах і медалях, у цёмным, строгага крою касцюме, у белай вязанай хустцы, у чорных лакіраваных чаравіках сядзела побач з Берасценем у новым «газіку».

Жывёлагадоўчы комплекс: дом жывёлавода, хлявы, сенажныя вежы, завод па выпрацоўцы грануляваных кармоў — раскінуўся між двух пагоркаў. Да яго вялі дзве дарогі: адна прамавала праз вароты на гаспадарчы двор, другая, як бы ўрачыстая, абсаджаная калінаю, падбягала да лесвіцы светлага будынка — дома жывёлавода.

На высокім ганку дома ўжо сабраліся члены прыёмачнай камісіі калгаса. Марыя яшчэ здалёк убачыла швагра, мужа малодшай сястры Насці Аляксея Крывіцкага. Ён стаяў трохі прыгорблены, хударлявы, падперазаны шырокай папругай па гімнасцёрцы, смактаў

кароценькую люльку. Побач з ім гаманілі, размахвалі рукамі загадчык комплекса Максім Дудак і старшыня народнага кантролю Дзяніс Вежнявец. Часам яны звярталіся з нейкімі, мабыць, пытаннямі да камсамольскага сакратара Тамары Гадлеўскай, дзяўчыны гадоў пад трыццаць, якая невядома чаму несла гэтую грамадскую нагрузку.

— Прыгожа як! — сказаў Берасцень і загадаў шафёру спыніцца на пляцоўцы, выкладзенай шэрымі плітамі.

Адсюль, ды і не толькі адсюль, комплекс сапраўды быў прыгожы. На высокім блакітным небе бялелі тры вежы, падобныя ці то на мінарэты, ці то на вежы астранамічнай абсерваторыі. Прыгожа і велічна выглядаў дом жывёлавода. Пярэдняя і амаль уся задняя яго сцены былі з тоўстага шкла, а дзве другія — з шэрага бетону. Да дома вяла высокая палогая лесвіца.

Знізу, праз шкло сцен, відаць быў узгорак, парослы бярозамі. Справа, за варотамі, за невысокай акуратнай агароджай, стаялі хлявы, аднолькавыя і нейкія лёгкія. А за імі быў завод грануляванага корму — пад паветкай стаялі машыны, аж пад самай столлю ляжаў закрыты транспарцёр, відаць былі такія ж белыя, як і сенажныя вежы, прыёмнікі-элеватары.

Усё гэта надзвычай удала ўпісвалася ў Крутагорскі пейзаж — аж нельга адвесці вачэй.

Берасцень узбег на ганак, пачаў вітацца за руку, не перастаючы захапляцца комплексам.

— Ну як? Цуд! Механізацыя! Горад! Цяпер нас за руб дваццаць не возьмеш!.. А ты чаго ўхмыляешся? — запытаўся ён у парторга.

Крывіцкі заклаў рукі за рэмень, прыціснуў далоні да бакоў.

— Прыгадаў, як ты ад гэтага комплексу адбіваўся. А цяпер нешта дужа захапляешся. Крывіцкі пыхнуў люлечкай, павітаўся з Марыяй.

— Нешта ты не дужа выглядаеш,— сказаў ён. — Зайшла б калі... Ды во, ледзь не забыўся: з узнагародай цябе,— і ён моцна паціснуў руку.

Крывіцкі не толькі быў парторгам калгаса, але загадваў Крутагорскім медпунктам.

— Не ўжо,— адказала Марыя,— хадзіць па бальніцах часу няма. А за віншаванне дзякуй...

Берасцень дачакаўся, пакуль Марыя перакінецца словамі са шваграм, узяў Крывіцкага за гузік на гімнасцёрцы.

— А ты думаеш, у мяне цяпер душа на месцы? Ага, угадаў!.. Восемсот кароў — гэта не жартачкі. А што, калі наляціць бура, парве правады? Ты ўяўляеш? Ад гною захлынемся! А карміць чым станем? Даіць як?

З-за павароту, адтуль, дзе нізіна раптам уздыблівалася зялёнымі ўзгоркамі, вынырнула светлая «Волга».

— Глядзіце, ці не Вежнявец? — заўважыў «Волгу» старшыня камітэта народнага кантролю.

— Яна,— пацвердзіў Берасцень і першы пайшоў па шырокіх сходках.

За «Волгай» на перакат выскачылі машыны другіх членаў прыёмачна-здатачнай камісіі: «рафік» з кіраўніцтвам перасоўнай механізаванай калоны, «газік» ветэрынарнага нагляду і чырвоны «Масквіч» з прадстаўнікамі пажарнай аховы.

Зрабіўшы круты разварот, «Волга» спынілася кола ў кола з «газікам» Берасценя. Да яе, як на тэхаглядзе, таксама кола ў кола прыткнуліся астатнія машыны.

Дзве камісіі сустрэліся на паўдарозе. Усе тут былі даўно знаёмыя, таму ніхто і нікога не знаёміў, віталіся, паціскалі рукі, перакідваліся словамі.

Калі першае ўзбуджэнне прайшло, начальнік перасоўнай калоны, кругленькі, чырванашчокі чалавек па прозвішчу Клетны, спытаўся ў Вежнявец:

— Любоў Мікалаеўна, можа, пачнём?

Марыя ўвесь час стаяла ўбаку, не адважваючыся падысці да Вежнявец. Тая сама заўважыла яе.

— Вы ідзіце, а я даганю,— сказала яна Клетнаму і пайшла да Марыі.

— Што ж ты ўбаку стаіш? — сказала яна, абдымаючы Марыю.— Віншую цябе, Маша, і з пяцідзесяцігоддзем, і з узнагародай. Як тваё здароўе? Мы ўжо з паўгода не бачыліся...

— Нішто. Рукі толькі баляць.

Марыя адчувала, што Вежнявец не так сабе затрымала яе, не так сабе спытала пра здароўе. Нешта хавалася за гэтым спачувальным тонам.

— Табе на курорт трэба... у Сочы,— задумліва сказала Вежнявец.

— Пра што ты гаворыш? — усміхнулася Марыя. — Сям'я, гаспадарка, праца.

— Чакай, запусцім комплекс, я табе дня не дам, адразу ў санаторый адпраўлю,— паабяцала Вежнявец.

— А чаму ты, Люба, пра санаторый загаварыла? — пазіраючы на Вежнявец, спытала Марыя.— Па вачах бачу, нешта хочаш сказаць, ды быццам і не адважваешся.

— Іван твой прыехаў, падвозіла,— як выцяла Вежнявец.

— Іван? — спалохана, але і неяк узрадавана перапытала Марыя.— Адкуль ён, чаго?..

— Казаў, што едзе на папялішча дом з абгарэлага бярвення будаваць,— з несхаванай іроніяй у голасе сказала Вежнявец.

— На папялішчы новыя дамы будуюць,— неяк неахвотна азвалася Марыя.

— Ты, можа, ідзі дамоў,— параіла Вежнявец.— Мы без цябе абыдземся.

— Ды ўжо ж лепей пайсці. Вася там адзін, ды свёкар. Трэба ісці.

— Чакай. Садзіся ў машыну. Няхай падкінуць,— спыніла яе Вежнявец.— Хлопцы, падкіньце Марыю Кузьмінічну ў вёску,— гукнула яна шафёрам.

## 4

Азірнуўшыся па баках, Іван Дабрэня павярнуў за лазеньку ў агародзе. У барознах бялела бульба. Іван пайшоў на двор па сцежцы між град.

З-пад прыбудоўкі, забразгаўшы ланцугом, вылез сабака. Весела забрахаў і тут жа змоўк, усунуў галаву ў вялізны чыгун.

Іван зняў кепку, выцер падкладкай твар, які раптам пачаў пацець. Усю дарогу, аж да расставання з Вежнявец на перакаце, ён храбрыўся — і раптам спалохаўся. Было да жудасці страшна ступіць на парог хаты, якую сам будаваў. Быццам там, за дзвярыма, таілася нейкая бяда.

«Няўжо нікога няма? — падумаў ён, прыслухоўваючыся да цішыні, што панавала тут.— Гэта ўжо і зусім недарэчы. Няхай бы адразу...»

Угнуўшы галаву ў плечы, ён пайшоў у сені, як насустрач свайму лёсу.

— Ногі вытры, ногі,— спыніў яго нечы патрабавальны голас.

Іван азірнуўся. Каля дзвярэй хлева з пілкай-далёўкай у руцэ стаяў яго бацька Кірыла Дабрэня.

— Бацька?! — здзівіўся Іван.— А ты чаму тут?

Мабыць, стары таксама не спадзяваўся ўбачыць сына, таму і не пазнаў яго на першым часе. Але як толькі пачуў Іванаў голас, адразу пасуровеў, а загаварыў ужо і зусім злосна:

— Я дык ведаю чаму. А вось ты, сабачы сын, чаго тута брындаеш?!

Ад бацькі Іван Дабрэня іншай сустрэчы і не чакаў.

— Ты, бацька, не сварыся,— сказаў Іван,— не маленькі, сам разбяруся.

— Сам. Усё сам,— буркнуў бацька і раптам, на здзіўленне Івана, памяняў гнеў на міласць: — Ну, здароў, сынок. Што, відаць, на гарадскіх харчах ды з маладой жонкай не дужа?..

Гэтая нечаканая перамена з бацькам збіла Івана з панталыку. Аж з таго часу, як ён выпісаўся з бальніцы, жыццё падсоўвала дзіўныя сюрпрызы.

— Якая там жонка,— махнуў рукой Іван.— Во вярнуўся дахаты...

Бацька паківаў крывым, нягнуткім пальцам перад носам у Івана.

— Дужа ты пакрыўдзіў Марыю. І ці даруе, не ведаю.

— А яна дома?

— Ды не... Комплексы пайшла прымаць. Гэта, бачыш ты, па-старому хверма, а па-новаму комплексы. Значыцца, калі малако — дык малако, а мяса — дык мяса. Механізмы, прасцей кажучы. Таму і комплексы. Усё разам выходзіць: аляктрычаства, машыны і ўсякая прочая тэхніка. Ды ты праходзь.

Яны зайшлі ў сені. Увагу Івана прыкавалі нейкія дзіўныя гукі. Нехта абы-як біў у бубен. Гучна і весела пасля ўдару пазвоньвалі званочкі. Бацька ўсміхнуўся, растлумачыў здзіўленаму сыну.

— Гэта, бачыш ты, Танька на тваім бубне трэніруецца.

— Якая Танька?

— Ды, выходзіць, унучка твая. Надзежды, значыцца, дачка...

Іван рыўком адчыніў дзверы. Яму хацелася хутчэй убачыць гэтую таямнічую ўнучку, якая іграла на ягоным бубне.

На дыванку пасярод падлогі сядзела беленькая дзяўчынка ў квяцістым сарафанчыку і біла з-за вуха па бубне. Угледзеўшы чужога чалавека, яна борздзенька падскочыла з падлогі, кінулася да хлопца, які за сталом чытаў кнігу.

Унучка была падобна на Надзею. Івану раптам прыгадалася, як многа гадоў назад ён прыехаў з заробкаў дамоў, адчыніў хату і ўбачыў, што Надзя сядзіць на ложку, б'е па бубне лыжкай. Яна тады была якраз такая, як цяпер Таня.

Падабенства Тані з Надзеяй уразіла яго. Быццам не было цэлага жыцця.

Іван засунуў чамадан пад лаўку.

— Ну, дзень добры, дзеці,— сказаў ён бадзёрым голасам.

Яму ніхто не адказаў.

Дзед Кірыла падштурхнуў хлопца.

— Ты, Вася, чаго не вітаешся? Бацька ж прыехаў...

— Мог і не прыязджаць,— гучна сказаў Вася і загарнуў кнігу.

— Бач ты яго! — сумеўся дзед.

Іван з цікавасцю і нейкім непаразуменнем глядзеў на сына. Не верылася, што гэта той смаркаты, хваравіты хлапчук. Ён быў яму як чужы.

Іван бачыў жорсткія сынавы вочы, што пазіралі на яго спадылба, і яму рабілася няўтульна. І ў той жа час чамусьці вельмі хацелася памірыцца.

— Ты, сынок, дарэмна так,— пачаў ён дрыготкім, як трапятанне асінавага ліста, голасам.— Мы з мамай разбяромся. Табе цяжка ўсё зразумець.

— А над мамай больш не дадзім здзекавацца,— секанўў Вася.

— Чакай, хто ж над ёй здзекаваўся? — спрабаваў знайсці падход да сына Іван.

— Я — не маленькі. І няма чаго са мной, як з дашкольнікам, гаварыць.

— Ты памаўчаў бы,— сыкнуў на Васю дзед.— Усё ўжо і за матку вырашыў. За сябе гавары...

— І вы не заступайцеся за сына,— цвёрда, па-даросламу адказаў Вася.— Не мы яго з дому выпраўлялі. Хай ідзе туды, адкуль прыйшоў...

У голасе, у тым, як Вася трымаў сябе, адчувалася такая сіла, упартасць, што Іван не проста здзівіўся, але быў уражаны і раптам зразумеў, што, бадай, дарэмна ехаў сюды. І ў той жа час яму было прыемна бачыць іменна вось такога сына.

— Малайчына,— шчыра сказаў ён.— Правільна...

— А я ў вашай пахвале не маю патрэбы,— адрэзаў сын.— І наогул, чаго вы паявіліся? Каму вы патрэбны?

У сенцах нешта бразнула, дзверы адчыніліся. На парозе стаяла Марыя. Мабыць, яна зразумела, што тут адбылося, бо, не павітаўшыся нават, прайшла к сталу, узяла ўнучку на рукі, пагладзіла сына па галаве. Толькі пасля гэтага павярнулася тварам да Івана.

— Аблез ты як! — сказала яна.

Ад гэтых яе слоў, у якіх пачулася спагада, Івану стала шкада сябе. Ён адчуў, як замулела, запякло ў вачах, палез у кішэню па насоўку, успомніў, што яна брудная, правёў кулаком спачатку па адным, потым па другім воку.

— Дык жа не дома,— і раптам прызнаўся: — Вярнуўся я, Маша. Назусім...

Марыя прытуліла ўнучку да грудзей, адказала не адразу:

— Спытаць бы спачатку трэба, ці прыму,— сказала яна.

— І пераначаваць не дазволіш? — спытаў Іван.

— Яно не варта было б. Але ж чужому ў начлезе адмовіць грэх. А ты быццам і не зусім чужы. Толькі хачу, Ваня, табе адразу сказаць, каб не спадзяваўся. Не хочацца пад старасць усё спачатку пачынаць.

— Ды я, каб мне на гэтым месцы праваліцца, надумаў назаўсёды асесці ў вёсцы. Хопіць, наездзіўся. Хочацца да сталага берага прычаліць.

Марыя насмешліва глянула на яго:

— Да берага, і праўда, час прыстаць. Толькі не ў маёй хаце.

## 5

Вёска Крутыя Горкі раней мела другую назву — Дудакі. У самы прыпар перабудоў і перайменаванняў — на прыканцы пяцідзесятых гадоў — Дудакі сталі Крутымі Горкамі.

Стаялі Крутыя Горкі на скрыжаванні трох раёнаў, пэўна, таму за пасляваенны час перабывалі ў кожным з іх. Раённае начальства, як толькі выпадала нагода, старалася спіхнуць суседу калгас, які безнадзейна пасвіўся ў адсталых. Потым, недзе пасля шэсцьдзесят чацвёртага года, крута пайшоў угору. Звязвалі гэта з прыездам у раён Любові Мікалаеўны Вежнявец.

Любоў Мікалаеўна любіла свой Астрошыцкі раён, уздоўж і ўпоперак выхадзіла яго спачатку як сувязная партызанскага атрада, потым як камсамольскі работнік. Тройчы яна выязджала з раёна — думалася, назаўсёды — і зноў вярталася сюды.

Апошні раз яе везлі ў Астрошыцу на раённую партыйную канферэнцыю. Яна разумела: цяпер да скону дзён. Гэта і засмучала і шчыра радавала.

Ні бацькоў, ні сваякоў у Крутых Горках у Вежнявец к гэтаму часу ўжо не было. Стрыечны брат з сям'ёю з'ехаў на цаліну неяк адразу, як пачалося яе асваенне. Але яе ведалі не толькі ў Крутых Горках, адкуль яна была родам, а ва ўсіх калгасах раёна. Гэта радавала. Не трэба прывыкаць да людзей, а ім да яе. Засмучала іншае. Раён адсталы. Кожны старшыня, вядома, захоча вывесці свой калгас хоць крыху наперад. Таму і будзе выкарыстоўваць сваё знаёмства з ёю, Вежнявец, дамагацца нейкіх толькі яму аднаму прызначаных прывілей. А ці здолее яна ўстаяць супраць гэтага націску? Ці знойдзе меру разумнай аб'ектыўнасці?

Яе задумлівасць упаўнаважаны абкома партыі зразумеў па-свойму.

— Я, Вежнявец, разумею,— абапёршыся аб спінку сядзення, сказаў ён,— калі са сталіцы ў раён вязуць, ды яшчэ ў глухі,— натхнення вялікага няма. Але і нам паспачуваць трэба. Астрошыцы, нібы яблыка-лясоўка: адзін успамін прымушае моршчыцца.

— Дарэмна вы, Іван Фёдаравіч,— азвалася Вежнявец.— Я зусім не пра гэта думаю.

Ён зноў не зразумеў яе.

— А-а-а-а, гэта добра. Але не перажывай, паможам. Табе ў першую чаргу — і насенне, і ўгнаенне, і тэхніку. А як жа, разумеем...

Вежнявец не магла стрымаць усмешкі. Па вопыту ведала, што гэта толькі напачатку абяцаюць, потым забудуцца. Як кажуць, кось-кось, пакуль у аглоблі, а пасля...

— Ты чаго ўсміхаешся? — узлаваўся Іван Фёдаравіч.— Хоць разумею... Яно і праўда, на свае сілы найлепш спадзявайся, на людзей. Толькі не давай сабе на шыю садзіцца. Тут гэта асабліва ўмеюць.

— Беднасць прывучыла,— як адсекла Вежнявец.

Але ў Крутыя Горкі яна месяцы два баялася паказацца. Думала, закідаюць яе просьбамі і не выкруцішся. А ўсё аказалася не так, як чакала. Толькі пасля зразумела, што крутагорцы пасаромеліся ў першы дзень яе прыезду на радзіму адольваць просьбамі. А пасля неяк і само сабой усё адладзілася.

Любоў Мікалаеўна старалася ва ўсім вытрымліваць справядлівую аб'ектыўнасць, але як ні кажы, а да Крутых Горак засталася ў яе своеасаблівая душэўная прыхільнасць.

Яна, як магла, дапамагала калгасу, але затое і патрабавала ад яго кіраўніцтва больш, як ад астатніх.

Калі гады два назад у раёне павялася гаворка пра будаўніцтва комплексаў і стварэнне тэрытарыяльных міжгаспадарчых вытворчых аб'яднанняў, Вежнявец настаяла, каб Крутыя Горкі ўвайшлі ў такое аб'яднанне.

Тэрытарыяльнае аб'яднанне складалася з пяці калгасаў і трох саўгасаў, якія пралягалі ланцужком праз увесь раён ад Астрошыцы да Крутых Горак. Кожная гаспадарка мела галіновую спецыялізацыю. Адна гадавала свіней на адкорм, другая давала малако, трэцяя гадавала цялят. Ну і, вядома, адпаведна саджалі бульбу, сеялі збожжавыя, травы.

Крутыя Горкі павінны былі вырошчваць травы, забяспечваць насеннем іншыя гаспадаркі, вырабляць грануляваны корм і для сябе і для суседзяў. А аснову клопатаў калгаса складаў малочны комплекс з аўтаматычнай лініяй расфасоўкі малака.

Яго і прымала спецыяльная камісія.

Любоў Мікалаеўна не аднойчы прыязджала на комплекс, але яшчэ ніколі ён так яе не ўражваў, як сёння.

Яна прыслухоўвалася да размоў, да шчырых захапленняў, і ёй прыгадваўся даўні выпадак, які чамусьці ўрэзаўся ў памяць.

Дудакі жылі тады ў зямлянках. А шаснаццаці трафейным каровам неяк зляпілі хлявок. І таму, што каровы былі з Нямеччыны, і таму, што стаялі яны ў хляве, а людзі шыліся ў зямлю, кароў гэтых ненавідзелі, быццам яны былі вінаваты ў горы людзей. І ніяк нельга было ўпрасіць жанчын, каб даглядалі і даілі кароў. Даводзілася ісці ў хлеў Любінай маці, якая працавала тады і старшынёй калгаса, і брыгадзірам, і рахункаводам. Калі ў Любы не было вялікіх спраў у сельсавеце, яна памагала маці. У астатнія дні прыахвоцілася да справы Кузьмова Марыя. У тыя дні і здружылася Люба з Марыяй. На ўсё жыццё.

Хлеў той стаяў пры лесе. Вартаваў яго глухаваты дзед Арцюх — лез на гару, зашываўся ў сена, ды і спаў, пакуль Любіна маці не будзіла яго.

Неяк Люба з Марыяй падаілі кароў — маці якраз занядужыла,— сабраліся несці бітон малака ў вёску. І раптам пачулі, як за Міхеевай выспай выюць ваўкі. Ім адгукаліся другія, аднекуль з-пад Выгарэлага балота.

— Парэжуць яны нашых каровак,— сказала Марыя.

— А ўжо як піць даць парэжуць,— падтрымаў яе дзед.— А і лепей бы. Не трэба хадзіць вартаваць. Ды і вам спакайней.

Усю дарогу да вёскі яны чулі, як выюць ваўкі, і нібы ўсё бліжэй і бліжэй да хлява.

— Аднясём малако ды вернемся,— падала думку Марыя.— Шкода каровак.

Калі, павячэраўшы, яны выйшлі з зямлянкі, ваўкі ўжо не вылі. Добра, што Любіна маці параіла ім накруціць на кіі пакулля ды абліць яго газай.

Крокаў за пяцьдзесят яны ўбачылі ў цемры агеньчыкі і адразу ж пачулі, як мычаць у хляве каровы.

— Ваўкі,— шапнула Марыя.— Глянь. Божа мой...

На заснежанай роўнядзі вакол хлява сядзелі ваўкі.

Потым яны ўбачылі, што два з іх дзяруць саламяную страху, а яшчэ два падкопваюцца пад хлеў.

Відовішча гэта выклікала жах.

— Давай запалкі,— напаўголасу сказала Люба.

Марыя чыркнула запалкай. Пакулле ўспыхнула чырвоным святлом. І адразу ўсё навокал патанула ў цемры. Потым Люба ўбачыла, як ваўкі адбегліся і зноў селі на снег.

Яны запалілі другую паходню. І пайшлі да хлява.

— Ату іх, ату, ату,— што ёсць моцы крычалі яны, каб напалохаць ваўкоў.

А тыя быццам чакалі, пакуль згараць паходні.

Мабыць, пачуўшы іх галасы, з хлява выйшаў Арцюх.

— Каго вы ганяеце? — спытаўся ён і, убачыўшы ваўкоў, пачаў адступаць у хлеў.

— Дзед, цягні салому,— крыкнула Марыя.— Хутчэй цягні, бо паходні дагараюць.

Дзед выцяг ахапку сена. Марыя падпаліла яго.

Ваўкі яшчэ крыху адбегліся. Тады яны ўтраіх пачалі насіць салому, сена, голле, падпальваць яго, адціскаючы ваўкоў далей ад хлява.

Нехта з вяскоўцаў убачыў кастры, падняў усе Дудакі. Ваўкоў на той раз адбілі.

А праз месяц яны напалі зноў. Калі раніцой Люба з Марыяй прыйшлі ў хлеў, пятнаццаць кароў былі парэзаны ваўкамі. Засталося толькі рабенькае цяля.

З яго пачалася калгасная ферма. А цяпер восемсот кароў у комплексе!..

«Ды толькі справа не ў адных каровах,— падумала Вежнявец.— Не, не ў іх».

— Цяпер і да нас можна ездзіць вучыцца,— перапыніў яе думкі голас Берасценя.— А як жа. Хопіць. І мы не лыкам шытыя.

— Не задзірай нос, Пятро, пад ногі глядзі,— насмешліва азваўся Крывіцкі.

Яны ішлі крыху паперадзе Вежнявец: шырокі ў плячах Берасцень і хударлявы, нават нямоглы Крывіцкі.

— Любоў Мікалаеўна,— крута павярнуўся да Вежнявец Берасцень,— ці чуеце вы, куды мяне парторг скіроўвае? А мне надакучыла з апушчанай галавой хадзіць.

— Усё ты перакруціш, перайначыш,— пакрыўдзіўся Крывіцкі.

Яны часта браліся за чубы — парторг са старшынёй,— і Вежнявец ужо хацела неяк памірыць іх, як ад пажарнага шчыта Берасценя гукнуў начальнік пажарнай аховы капітан Рыжухін.

Уся камісія, што шыбавала аглядаць кароўнікі, спынілася, збілася ў цесны гурт. Нізенькі Рыжухін трымаў у руках вогнетушыцель над галавой, як трымаюць малое дзіця, калі хочуць пагушкаць яго.

— Ты ў каго вогнетушыцелі купляў? — падыходзячы да камісіі, спытаўся Рыжухін.

— Сакрэт фірмы,— выгукнуў Берасцень і зарагатаў.

— Яно і відаць,— азваўся Рыжухін.— Эканоміш?..

Ягоныя словы абразілі Берасценя. Ён пабарвовеў.

— На запалках не эканомлю.

— Яно і відаць,— спакойна зазначыў Рыжухін, перавярнуў вогнетушыцель, з усяе сілы ўдарыў рыльцам аб асфальтаваную дарожку, вогнетушыцель зашыпеў, булькнуў, пырснуў мутнай пенай і заціх, нібы выдыхся.

— На такія прылады я акт не падпішу...

— Ну і не падпісвай,— выгукнуў Берасцень.— Краіна малако чакае. А ты з вогнетушыцелямі лезеш...

— Акт я не падпішу,— упарта паўтарыў Рыжухін.— Бусакі нават не прыбіты.

— Дык прыб'ём і вогнетушыцелі зарадзім,— на выручку старшыні прыйшоў Максім Дудак.

— Тады і падпішу,— стаяў на сваім Рыжухін.

— І не падпісвай,— агрызнуўся Берасцень і пайшоў.

Пачалася прывычная працэдура здачы і прыёмкі аб'екта, якая заўсёды багата вялікімі і малымі канфліктамі.

## 6

З выпадку заканчэння работ на комплексе Берасцень даваў абед. У зале пасяджэнняў праўлення быў накрыты стол чалавек на трыццаць.

Берасцень заглянуў у залу, паклікаў загадчыцу

клуба Веру Дудак, якая завіхалася ля стала, раскладвала закуску.

— Во што, Вера. Сядзеш поруч з Рыжухіным. Улагодзь гэту зануду, каб акт падпісаў.

— Пётр Рыгоравіч...

— Сорак пяць гадоў Пётр Рыгоравіч. Заданне ясна?.. Гарэлкі ён не п'е. Толькі наліўку. Вазьмі раціфіката ў Галі. Зразумела?..

І, не дачакаўшыся адказу, Берасцень выбег у калідор. Там купкамі стаялі члены камісіі і тыя, хто быў запрошаны на абед ад калгаса. Курылі, размаўлялі.

Берасцень пашыбаваў у кабінет, дзе яго чакала Вежнявец.

— Да мяне нікога не пускаць,— кінуў ён на хаду дзяжурнай пульта кіравання, што размяшчаўся ў прыёмнай.

Вежнявец сядзела за доўгім сталом, нешта запісвала ў блакнот.

— Сядай, пагаварыць трэба,— сказала яна, не ўзнімаючы галавы.

Берасцень сеў насупраць, стараўся ўгадаць, пра што хоча гаварыць сакратар. Па яе засяроджаным твары бачыў — размова будзе сур'ёзная.

— Я павінен яшчэ раз падзякаваць табе, Любоў Мікалаеўна,— не дачакаўшыся, пакуль загаворыць Вежнявец, пачаў Берасцень.— Напачатку, дык я не вельмі верыў і ў комплексы, і ў гэтыя аб'яднанні. А цяпер бачу — разумна. Ну, што б я рабіў далей?! Людзей мала, ды і тыя, што ёсць, хочуць працаваць менш, а грошай атрымліваць больш. А прадукцыю даваць трэба.

Вежнявец дапытліва паглядзела на яго.

— Ну-ну, кажы далей.

— А я ўжо сказаў.

— Калі я цябе правільна разумею, дык тэхнічную рэвалюцыю ў вёсцы ты ўяўляеш задужа аднабакова.

— Чаму? — здзівіўся Берасцень.— Тэхнічная рэвалюцыя гэта максімум аддачы пры мінімуме выдаткаў.

— А ты разумееш, Пятро Рыгоравіч, што і комплексы, і міжгаспадарчыя аб'яднанні ствараюцца ў рэшце рэшт для людзей, для іх дабрабыту і шчаслівага жыцця?

— Само сабой...— згадзіўся Берасцень.— А чаму ты мне палітграмату чытаеш?

— Нездагадлівы стаў,— усміхнулася Вежнявец.— У цябе колькі даярак працавала?

— Ну, трыццаць.

— А без ну?..

— Дакладна трыццаць дзве з паловай...

— Каго ж ты за палову лічыш?

— Ліпскую...

— Алену?..

— Яе...

— А колькі застанецца?

— Ды я ніводнай не пакінуў бы. Аператар — гэта тэхнік,— і, злавіўшы незадаволены позірк Любові Мікалаеўны, адступіў.— Шэсць пакіну. Трох вазьму з адукацыяй.

Вежнявец паднялася з крэсла, прайшлася па кабінеце.

— Куды ж астатнія пойдуць працаваць? — спыталася яна, спыніўшыся перад Берасценем.

— Куды, куды? Знойдзем працу.

— Выходзіць, комплекс гатоў, а пра людзей не падумалі.

Берасцень таксама ўскочыў з крэсла.

— У мяне і без таго спраў — во,— ён перасеў за стол, адчыніў шуфляду, выклаў на стол стос папер.— Во колькі іх, дырэктыў, рашэнняў, пастаноў. І ўсе тэрміновыя. Так што не ствары ты, калі ласка, новых праблем.

— А ты не хавайся ад іх,— Любоў Мікалаеўна прысела на крэсла ля стала.— У цябе даярка колькі зарабляла ў месяц?

Яна добра ведала, колькі зараблялі даяркі не толькі ў Крутых Горках, ва ўсіх калгасах, але хацела пачуць гэта ад старшыні, каб ён зразумеў, што праблема тут, сапраўды ёсць.

— У сярэднім да паўтараста.

— На полі такіх грошай не заробіш. А ў даярак сем'і, дзеці. Хоць бы ў той жа Ліпскай.

— Яна першая пад скарачэнне пападзе,— зацята аб'явіў Берасцень.

— У яе ж чацвёра дзяцей... Муж інвалід...

— Ха, інвалід,— узвіўся Берасцень.— Дзяцей пяцёра. Тут ён не інвалід. Ды ты што, Любоў Мікалаеўна?.. На заводзе ўвялі аўтаматычную лінію — нату-

ральна скарачэнне. Дапамогу ў зубы — і будзь здаровы. А ты мне яшчэ адзін клопат на плечы ўзвальваеш. Ліпская — самая завадатарка. Ад яе працы, як ад казла малака,— не дачакаешся. То дзеці захварэлі, то сама. А ледзь што — скардзіцца, заступнічкаў шукае, сяценькіх, як мой Крывіцкі. Гэтага не кранай, таго не чапай. А мне планы выконваць трэба. Прадукцыю краіне даваць. Не, Ліпскую я першую зволю.

Вежнявец ведала пра варожасць між старшынёй і даяркай. Пачалася яна даўно, калі Берасцень яшчэ хадзіў у брыгадзірах. І тое, што старшыня калгаса дасюль носіць крыўду на жанчыну, няхай тады і вінаватую перад ім, засмуціла Любоў Мікалаеўну. Ёй захацелася накрычаць на Берасценя, прысароміць яго, але яна ведала зацяты старшынёў характар. Крыкам нічога не дажожашся. Наадварот, нашкодзіш жанчыне.

— А я вось слухаю цябе ды прыгадваю, як гадоў дваццаць пяць назад мы Ліпскую па камсамольскай пуцёўцы на ферму пасылалі. Можа, і не помніш. Прыехала я ў Крутыя Горкі, а каровы не доеныя. Адна Марыя і даярка і пастух. Ніхто не хацеў на гэтую цяжкую працу ісці. На працадзень тады і па дзвесце грамаў не выходзіла. Марыя мне і падказала, каб з Аленай пагаварыла. Хоць яна і не камсамолка была — пайшла. І ў камсамол яе адразу прынялі. Як на фронце, перад боем. А ты...

— Папрацавала б ты з ёй. А мне моладзь патрэбна.

— Марыя таксама не маладая.

— Дабрэню пакідаю,— ажывіўся Берасцень, узрадаваны канцу непрыемнай размовы.— Яна перадавая. Нас бы не зразумелі.

Вежнявец паківала галавой.

— Усё ты нейкімі сваімі меркамі мераеш,— з дакорам сказала яна.— Дарэчы, муж яе, Іван, вярнуўся...

— Ну-у?! — як бы чаго спалохаўшыся, сказаў Берасцень.

## 7

Івану паслалі на ложку, які трымалі для прыезджых, хоць на ім любілі спаць усе.

Пасля гарадскога тлуму і віднаты ў сенях было нязвычна ціха і цёмна.

Івану не спалася. Доўгая, пакутлівая размова з жонкай так і не прывяла да згоды. «Жыць — пажыві, а, каб сысціся зноўку, на тое не спадзявайся. І гады не тыя, і я быццам ужо не тая. Пажыві, пакуль якое прыстанішча знойдзеш. А то вяртайся ў горад. Баб там многа, падбяруць». Пасля гэтых жончыных слоў яму захацелася на злосць ёй узяць чамадан, сысці назаўсёды. Але нешта ўтрымала яго. І цяпер, лежачы на ложку, ён зноў прыгадваў жорсткія жончыны словы, але ўжо без той крыўды, што была апякла ўдзень.

Ён глядзеў у чарнату падстрэшша, дзе віселі пучкі кропу і вязанкі цыбулі. І хоць нічога не бачыў, затое добра чуў кволы пах кропу і рэзкі, саладкаваты пах цыбулі. Яшчэ пахла бялізнай, добра выпаласканай у рэчцы і высушанай на ветры.

Недзе на вёсцы забрахаў сабака. Яму адгукнуўся другі, трэці. Відаць, праводзілі нейкага запозненага гуляку. Потым зусім нечакана, як бы над самым вухам, пранізліва і няўмела закрычаў малады певень. Іван павярнуўся на бок і тут жа пачуў, як ледзь чутна рыпнулі дзверы.

«Маша!» — узрадаваўся ён і аж падняўся на ложку.

— Не спіш?

Іван пазнаў бацькаў голас, і як бы абарвалася ўся надзея на прымірэнне з жонкай.

— Непрывычна. Цішыня такая...

— Выйдзем, перакурым. Мне во таксама не спіцца.

Іван нацягнуў штаны, накінуў наапашку куртку. Яны выйшлі на двор. Забразгаўшы ланцугом, да іх падбег сабака, тыцнуўся мордай у бацькаў кажух.

Бацька прысеў на калоду.

— Садзіся,— сказаў ён Івану.— Ты што курыш?

— Цыгарэты...

— А-а-а, трухляціна. У мяне самасад.

Ён дастаў кавалак газеты, насыпаў цёртага тытуню.

— Жыць як думаеш? — спытаўся бацька, слінячы языком край самакруткі.

— Сам бачыш, як выйшла,— неахвотна азваўся Іван.

— Не сляпы... А хто вінаваты?

— Ну, сам,— ужо са злосцю адказаў Іван.

— То-та ж...

Яны замоўклі надоўга. Бацька курыў, нізка ўгнуўшы галаву, заціснуўшы самакрутку ў жменю. Іван глядзеў у неба, дзе ярка гарэла Палярная зорка.

— Я во што хачу табе сказаць,— парушыў маўчанне бацька.— Можаш слухаць, а можаш вушы заткнуць, як ты іх не раз затыкаў. Свет — ён вялікі, а толькі, сынок, свая хата пад старасць ой як патрэбна. І сям'я зноў жа. Маша, яна добрая, адыдзе... А ты не кідайся болей па свеце. Канечне, людзі мае костачкі прысыплюць. А толькі і мне ахвота хоць перад смерцю цябе чалавекам пабачыць. Памру я, не доўга мне жыць. Хоць бы памёр з радасцю.

Бацькаў голас закволіўся, перасеў, і Івану раптам стала шкада старога.

— Ну, што ты, тата. Чаго пра смерць загаварыў?..

— А ўжо ж і загаварыў. Знаеш, як бы радаваўся, каб вы сышліся. А можа, і пажыў бы... Чаму ж...

— Дык хіба я... З дарагой душой, а яна не хоча...

— Выцерпець надаць. Яна вунь колькі цярпела. Веры ў яе няма, во што. Нада, каб паверыла. Пажыві ў каго, вачэй не назаляй — даруе. Паглядзіш, даруе.

Іван кінуў цыгарэту пад ногі, растаптаў яе голай пяткай.

— Хто мяне на кватэру возьме? Хіба зноў якая ўдава. Дык жа не за так.

— Да Каці схадзі,— крыху памаўчаўшы, параіў бацька, але было відаць, што ён усё прадумаў даўно.— Хата — палац. Не можа быць, каб не пусціла, хоць яны з Маняй і не дужа ў ладах жывуць. А ўсё ж свая. І да цябе добра ставілася.

Калі Іван апошні раз уцякаў з Крутых Горак, Каці ў вёсцы не было.

— Яна хіба тут?

— У сельмагу... Загадчыца,— адказаў бацька.

— Вунь што! — здзівіўся Іван і падняўся.— Пойдзем спаць, нагам золка.

— Адвык ты ад вясковага жыцця,— як бы папікнуў яго бацька.

Праз сон Іван чуў, як нехта асцярожна, ціха хадзіў па сенях, але не мог прачнуцца. Потым усё сціхла. Ад гэтай цішыні ён і прахапіўся.

Сонца стаяла высока. І ўсюды на траве, на страсе густа ляжала раса. Было свежа, але не холадна. Іван памыўся на панадворку, зайшоў у хату. Унучка Таня гуляла з лялькай на ложку, а бацька віў з пакулля вяроўку.

— Садзіся, паснедай,— сказаў ён і замітусіўся па хаце.— Маша бліноў напякла, яечню, ды, мусіць, перасохла ўжо. Не хацеў цябе будзіць.

Іван паклікаў Таню на рукі, і яна на дзіва ахвотна пайшла да яго.

— Ты хто? Дзед? — шапялявячы, спыталася яна.

— Дзед,— азваўся Іван, чамусьці адчуваючы сябе няёмка.

— А чый ты дзед? Бабін? — дапытвалася Таня.

— І твой і бабін.

Івану было непрывычна трымаць дзіця на руках, а яшчэ больш прыгнятала, што ён не ведаў, як і пра што гаварыць з унучкай.

— Я табе ляльку куплю. Вялікую, белавалосую,— паабяцаў ён.

— Дзесяць купі,— заявіла ўнучка.

— Хопіць адной.

— Не, дзесяць.

— Навошта яны табе?

— У мяне яслі будуць.

— Колькі яна ў тыя яслі хадзіла, а запомніла,— сказаў бацька, расстаўляючы на стале снеданне.— Сядай во.

— І я з табой,— заявіла Таня.

...Да сельмага трэба было прайсці ледзь не праз усю вёску. Іван хацеў пайсці па вуліцы, ды раптам спалохаўся. Не хацелася сустракацца з людзьмі. Пачнуць распытваць, а што казаць, калі і самому нічога не ясна.

У сельмагу, лічы, нікога не было. Прадаўшчыца і касірка, маладая размаляваная дзяўчына, сядзелі на падаконніку, а ў зале ля стэнда з абуткам нейкая бабуля мерала боцікі.

Іван састроіў на твары прывычную ўсмешку, хоць на сэрцы было неспакойна. Прадаўшчыцу ён ведаў — Максіма Дудака дачка. Хоць бы яна яго не пазнала.

— Катэгарычна вітаю доблесных працаўнікоў

прылаўка,— як бы не сваім, аж брыдкім самому голасам выгукнуў ён.— Гандлюем?..

Прадаўшчыца, мусіць, зразумела, што знаходзіцца не на сваім месцы. Яе збянтэжыла і нейлонавая на замках-маланках куртка, і тое, што чалавек быў чужы.

— Што жадаеце купіць? — спыталася яна.

— Кацярына Кузьмічна ў сябе?

— У сябе. Калі ласка, во сюды,— паказала яна на схаваныя драпіроўкай дзверы.

Іван пайшоў за драпіроўку. Бабуля, што прымярала боцікі, падбегла да прадаўшчыцы.

— Антаніна, а Антаніна,— зашаптала яна.— Далібог, гэта Іван Дабрэня. Толькі ж нешта дужа пастарэў. Аж не пазнаць.

У цемнаватым калідорчыку Іван убачыў абабітыя дэрмацінам дзверы. Пастукаў.

— Заходзьце,— дазволілі яму.

Каця сядзела за сталом і, па ўсяму было відаць, сварылася на рыжую, рабаватую дзяўчыну ў сінім халаце. Абедзве былі ўзрушаныя, чырвоныя.

— Вам што трэба? — злосна спыталася Каця і асеклася.— Можаш ісці, пасля пагаворым,— сказала яна рыжай, і тая выбегла ў калідор.

Іван ледзьве пазнаваў Кацю. За гэтыя гады яна раздабрэла, памужнела, ператварылася ў салідную і нейкую непрыступную жанчыну. Іван памятаў яе чарнявенькай, худзенькай, а за сталом сядзела ружовашчокая, з высокай белай прычоскай маладзіца.

— Дзень добры, Каця, пазнала? — спытаў ён, адчуваючы незразумелы страх перад швагеркай.

Каця паднялася з крэсла, абцягнула прыгожую шарсцяную кофту, падала руку.

— Не чакала цябе так рана пабачыць. Вярнуўся ў пенаты?..

У яе гаворцы было нешта новае, халоднае.

— Чула, значыць?

— У нас так: кашляне хто на адным баку вёскі — на другім чуюць. Сядай.

Іван сеў на краёк крэсла.

— А я цябе не пазнаў бы, каб дзе сустрэліся...

— Клопатаў шмат. Ды нешта і сэрца баліць,— не зразумела Каця ягонага кампліменту.— І ты паблажэў.

— Хварэў доўга. Думаў, канцы аддам...

— Ты пачакай. Я зараз вярнуся,— сказала Каця і выйшла.

Застаўшыся сам-насам, Іван азірнуўся. У такіх кабінетах, на задворках гандлёвых устаноў, яму даводзілася быць не раз. І гэта неяк адразу зняло ўсю яго збянтэжанасць. Стала лёгка і проста.

Кацярына паявілася не адна. За ёю ў пакой уціснулася мажная дзяўчына з круглым падносам у руках. Відаць, да гэтага занятку яна прывыкла. Моўчкі, нават не зірнуўшы на Івана, паставіла на стол закуску, расклала відэльцы, нажы, паставіла талеркі, чаркі. І гэтак жа моўчкі выйшла.

— Вышкаленая,— зазначыў Іван.

— Іначай і нельга. Справа гандлёвая,— адказала Каця, адмыкаючы сейф.— Ты што п'еш?

— Мая душка — не перабірушка: і мёд п'е,— пажартаваў Іван.

Кацярына дастала пачатую ўжо бутэльку. Наліла ў чаркі.

— За твой прыезд, Іван,— сказала яна і неяк спачувальна глянула на яго.

— Ды во і не ведаю, за прыезд ці за ад'езд,— з самотай у голасе адказаў Іван.

— Ну, выпі...

Нейкі час яны закусвалі моўчкі. Кацярына спадылба кідала на Івана цікаўныя позіркі, мабыць, спрабавала здагадацца, чаго ён прыйшоў да яе. Не так жа сабе...

А Іван цягнуў. Было боязна пачаць гаворку, бо цяпер і яму самому ягоная просьба здавалася неразумнай, дзікай.

Кацярына наліла яшчэ. Прыгладзіла далонямі валасы на скронях.

— Я прапушчу, а ты выпі...

Яна адкінулася на спінку крэсла і, цяпер ужо не хаваючы вачэй, глядзела на Івана.

— Добра жывеш,— каб не маўчаць, сказаў ён, чамусьці бянтэжачыся пад яе позіркам.

— Якое там добра! Клопатаў шмат. Ну, а як ты? Не памірыліся?

— Я з мілай душой...

— Наракаць няма на каго...

— Разумею,— пагадзіўся Іван.— Сам сабе нашкодзіў.

— Ды і яна вінаватая не менш за цябе,— раптам сказала Каця, становячыся на ягоны бок.

Іван аж перастаў есці. Што-што, а такога ад Каці не чакаў.

— Ды як табе сказаць...

— З цябе віны не складаю,— як бы не пачуўшы Івана, прадаўжала Каця.— Ты таксама добранькі. Але і Марыю не хвалю. Убілася ў кароўскі хлеў і нічога, апроч яго, не бачыць. Днюе і начуе ў ім. А яно колькі ні рабі — радасць адна. Пахваляць, у газеце напішуць: перадавічка, ударніца, маяк. А што з таго, што напішуць? Якая карысць? Не, ты скажы...

— Дык яна ж не дзеля таго рабіла, каб пісалі,— не вельмі ўпэўнена запярэчыў Іван.

Кацярыніны словы закранулі яго за жывое. Ён адразу зразумеў, куды скіроўвае гаворку швагерка. Калі добра ўдумацца, дык, можа, і праўда, што ён уцякаў вось ад гэтай жончынай апантанасці да калгаснай работы. Ні паснедаць у час, ні павячэраць. Усё самому трэба было рабіць, бо ў жонкі часу няма. А з хлява вернецца зморaная, абы да ложка дацягнуцца. Якое ж яно сямейнае жыццё!..

Івану стала шкада сябе. Ён наліў чарку, выпіў.

— Ты разумееш. А яна не хоча разумець,— прачула прызнаўся ён.

— А тут і разумець няма чаго,— сказала Кацярына.— Калгасную работу ніколі не пераробіш. І падзяка адна. Во ўвялі комплекс — ідзіце даяркі куды хочаце. Во і падзяка. Не, Марыя пра сябе не дбала. А што выйшла? Мужа страціла. Дочкі вунь непрыгледжаныя раслі. Ім бы вучыцца. Дык дзе там! Дзякуй богу, што хоць Надзя за горад зачапілася. А Ліду вунь хоча на ферме пакінуць. Крывіцкага слухае. Дзе ж той розум?

— А што я ёй не казаў: кідай работу? А яна, бывала, і слухаць не хоча: «Камусьці ж трэба кароў даіць».

— Во-во, усё на сябе брала.

Нехта асцярожненька пастукаў. Кацярына дазволіла ўвайсці. Дзверы прачыніліся, у іх прасунулася галава той самай дзяўчыны, што стаяла за прылаўкам.

— Кацярына Кузьмічна, вас просіць...

Мабыць, дзяўчына не ведала, гаварыць ці не пры чужым чалавеку, хто просіць загадчыцу. Яна так і не закончыла фразу.

— Скажы, што я занятая,— адрэзала Кацярына.

— Дык гэта ж... Ну, ведаеце, тая самая... з Мінска...

Кацярына падхапілася з месца.

— Пачакай мяне,— сказала яна Івану і выйшла. Вярнулася яна хвілін праз дваццаць. Івану ўжо надакучыла чакаць.

— Знаёмая адна прыязджала,— растлумачыла яна.— У нас так: табе нехта памагае, ты яму. Тавар у нас дэфіцытны бывае. Чаму ж не зрабіць чалавеку добрае...

«Мусіць жа, не за дарма ты памагаеш»,— падумаў Іван, а ўголас сказаў:

— Я да цябе, Каця, з просьбай. Мне б з тыдзень-другі дзе пажыць. Хоць Маша і не гоніць, а як бы і чужы...

Кацярына наліла яшчэ па чарцы.

— Давай вып'ем,— яна першая выпіла, узяла скрылёк каўбасы.— Задаў ты мне задачу, Іван.

— Я шмат месца не займу,— няўпэўнена адказаў Іван.

— Не ў тым дзела. З Марыяй у мяне не ладзіцца. А тут ты. Зусім пасварымся. Можа, ты да Крывіцкіх схадзіў бы?

Дабрэню стала крыўдна. Пратырчэў тут чорт ведае колькі часу, а карысці ніякай.

— Ну, я пайду тады,— сказаў ён.— Бывай...

Калі ён адчыніў дзверы, Каця спыніла яго:

— Ты, Іван, не крыўдуй. Я з мужам перагавару. Калі не будзе дзе жыць, дык прыходзь. Мой Леанід памятае цябе...

## 8

Сястру Марыі Насцю Крывіцкую тэрмінова выклікалі ў раён. Было гэта не ўпершыню.

Вызначалася Насця сваёй адметнай весялосцю і неўтаймаванай энергіяй. Яшчэ дзяўчынкай пайшла працаваць прычэпшчыцай да вечна хмурага і вечна п'янаватага Барыса Дудака, нейкага стрыечнага дзядзькі. У яго і навучылася вадзіць трактар. Тады ж яе

заўважылі ў раёне. І за працу і за добра падвешаны язык.

Спачатку паездкі па нарадах выклікалі ў яе адчуванне нейкай вінаватасці перад таварышамі-трактарыстамі, потым прывыкла да ўсяго: і да нарад, і да сярэдняга заробку, які сумленна выпісвалі ёй.

І ўсё ж, вяртаючыся з далёкіх ці блізкіх паездак, яна з асалодай у душы садзілася на трактар, працавала да стомы, выганяла норму адседжаных на нарадзе дзён.

Выклік у раён не здзівіў яе. Зноў трэба кудысьці ехаць, выступаць.

Па знаёмай з ружаватага бетону лесвіцы яна паднялася на другі паверх, дзе сядзелі сакратары райкома партыі. Павіталася з немаладой ужо сакратаркай, спыталася, чаго яе кліча Вежнявец.

— Там даведаешся,— кіўнула на абабітыя карычневым дэрмацінам дзверы сакратарка.

У Вежнявец сядзеў старшыня выканкома Арцюшка.

— Ну во і Насця,— выгукнуў ён і падняўся, пайшоў насустрач.— Усё харашэеш... І як цябе Крывіцкі адпускае, розуму не дабяру. Я цябе з вачэй не спускаў бы.

Арцюшка пацiснуў Насціну маленькую, цвёрдую, як выдубленую, руку.

— А вы, Віктар Максімавіч, дужа на жанчын не глядзіце, а то які-небудзь паказчык па раёну прагледзіце,— бойка адказала Насця.

— Ну што, Арцюшка, схапіў? — засмяялася Вежнявец. Яна абняла Насцю, пасадзіла ў мяккае крэсла.— Во што, Насця. Трэба ў Мінск ехаць. Неадкладна. З Віктарам Максімавічам паедзеш.

— А чаго так тэрмінова? — крыху разгублена спыталася Насця.

— Сёння на трактарным мітынг будзе. Мільённы сыдзе з канвеера. Табе выступіць даручана.

— Бачыш, які табе гонар выпаў,— азваўся Арцюшка.

— Што ж вы так нечакана?.. Я во як стаю прыехала.

— Нічога, абыдзецца,— сказаў Арцюшка.

...Гадзіны праз дзве яны ўз'ехалі на пляц перад заводакіраўніцтвам. Тут ужо стаяла шмат машын, а

за варотамі завода віраваў людскі натоўп. Цесна і тлумна было і ў заводакіраўніцтве. Арцюшка з Насцяй зайшлі ў партком, каб паведаміць, што прыехалі. Намеснік сакратара парткома, невысокая, зграбная жанчына ў строгім гарнітуры, накіравала іх у кабінет дырэктара, дзе збіраліся тыя, хто павінен быў знаходзіцца на трыбуне ў часе мітынгу.

Было мнагалюдна. Людзі сядзелі на крэслах, стаялі купкамі сярод кабінета. Між іх было некалькі чалавек, якіх Насця ведала па рэспубліканскіх нарадах — сакратар ЦК партыі, старшыня Саўміна, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета, сакратар абкома, старшыня прэзідыума Савета прафсаюзаў,— але Насця ўпершыню бачыла іх вось так блізка, а не так, як звычайна з залы.

Не паспеў Арцюшка пазнаёміць яе з кіраўніцтвам, як хтосьці падаў голас, што шаноўных гасцей просяць прайсці на галоўны канвеер, і ўсе пачалі выходзіць з кабінета. Галоўны канвеер завода быў расквечаны сцягамі, лозунгамі і транспарантамі. У яркіх промнях юпітэраў і сіняватых успышак бліцаў ад пачатку канвеера пачынаў рухацца мільённы трактар.

Як і ўсіх, хто прысутнічаў у вялізным цэху, Насцю ахапіла ўрачыстае хваляванне. Яна ішла ў натоўпе людзей, захопленая гэтым нязведаным яшчэ пачуццём гордасці.

Трактар яшчэ не быў трактарам — па канвееры рухаўся жалезны каркас, які ўсё абрастаў дэталямі. Насця ўпершыню назірала, як увачавідкі ствараецца трактар, які яна, здаецца, ведала назубок. Гэта захапляла яе.

Яна неяк і не заўважыла, як кіраўніцтва дадало кроку, скіравалася да выхада. Давялося даганяць усіх. Нехта з рабочых, што стаялі ўздоўж сцен, падаў ёй кветкі. Так яна і выйшла з букетам кветак за шырокія вароты канвеера.

Там, за варотамі, гуў натоўп. Уся плошча была запруджана людзьмі. А ў канцы яе ўзвышалася трыбуна, абцягнутая чырвонай тканінай.

Па вузкай і не зусім зручнай лесвіцы, якія бываюць у кожнай часовай трыбуне, падымаліся па адным. Насця ўзнялася на трыбуну апошняя. Але яе падштурхнулі, падтрымалі пад руку і зноў падштурх-

нулі, пакуль яна не апынулася ў цэнтры, адразу ж за спіной дырэктара завода.

Напружанне ўсё нарастала. Нават натоўп перастаў гусці, прыціх. Тады з варот цэха мітуслівай чарадой выбеглі фотакарэспандэнты. Яны ўзнімалі над галавой фотаапараты, скіроўвалі аб'ектывы ў бок цэха. Ярка нават пры сонечным святле ўспыхвалі бліцы.

Нарэшце з варот, у кветках і зеляніне, выехаў чырвоны трактар.

— Ура! Мільённаму — ура! — крыкнуў хтосьці побач з Насцяй, і ўся плошча раптам запляскала ў далоні, адзіным дыханнем пранеслася над ёю магутнае «ўра».

Насця таксама пачала крычаць «ура», аднак не чуючы свайго голасу. Але яна бачыла трактар, які неяк зухавата ўзбег на эстакаду перад трыбунай. З яго кабіны на памост вылез малады белавалосы хлопец.

— Наш лепшы выпрабавальнік, Сяргей Палуян,— пачула Насця голас дырэктара.

І зноў натоўп выбухнуў, запляскаў у далоні.

Хтосьці, не вядомы Насці, адкрыў мітынг. Над прыціхлым натоўпам важка і ўсхвалявана прагучала: «Таварышы!», рэхам адгукнулася і паўтарылася ў шматлікіх дынаміках, што былі ўстаноўлены на ўсёй тэрыторыі завода.

— Таварышы! — паўтарыў гэты невядомы.— Мара Уладзіміра Ільіча Леніна аб пераўтварэнні, механізацыі і электрыфікацыі краіны, якая штодзённа і штогадзінна ажыццяўляецца нашай партыяй і ўрадам, выразна ўвасабляецца ў гэтым мільённым трактары.

Яму не далі закончыць. Апошнія словы патанулі ў такой буры авацый, воклічаў, якую, здаецца, нельга было ўтаймаваць.

Да Насці прыціснуўся Арцюшка, шапнуў на вуха:

— А галоўнага, Насценька, ты не ведаеш. Але і не скажу — сюрпрыз.

Ён пацісну́ў яе руку. Насця так і не надала ягоным словам значэння. Таму, калі дырэктар завода, пасля віншавання рабочых, пасля некалькіх урачыстых слоў, якія звычайна гавораццa ў такіх выпадках, сказаў: «Шматтысячны калектыў завода перадае мільённы трактар у надзейныя рукі», яна адразу не магла ўцяміць, што дырэктар ужо звяртаецца непасрэдна да яе.

— У рукі выдатнай трактарысткі рэспублікі Настассі Кузьмінічны Крывіцкай,— выгукнуў ён і першы заапладзіраваў, павярнуўся, паціснуў Насці руку.

Яна зрабіла крок наперад да дзесяткаў мікрафонаў, што паўкругам былі выстраены на трыбуне.

— За трактар, таварышы, дзякуй! Вялікі дзякуй! — выгукнула яна ў мікрафоны...

Ёй доўга давялося чакаць, пакуль аціхне авацыя і бурныя воклічы.

Калі яна пачынала гаварыць, дык яшчэ не ведала, што скажа людзям. У грудзях усё трымцела, і ад гэтага трымцення перасыхала ў роце. Але за час доўгіх воплескаў Насця адчула прывычную ўпэўненасць.

— Мінула якіх пяцьдзесят гадоў,— трохі загучна, быццам баялася, што яе не пачуюць, пачала яна,— з таго часу, як Уладзімір Ільіч марыў пра сто тысяч трактараў для Расіі. І вось сёння я, простая сялянская жанчына, прымаю мільённы трактар. Гэта, таварышы, не мара. Гэта — рэальнасць нашага жыцця.

І зноў над плошчай пранёсся шквал апладысментаў. А калі ён аціх, Насця зухавата абвяла вачыма натоўп, тых, хто знаходзіўся на трыбуне. Яе позірк спыніўся на дырэктару завода.

— Вось побач са мной стаіць дырэктар завода. Ён з патомных рабочых. Такім чынам, бесперастанна мацнее саюз сярпа і молата. У гэтым і ёсць зарука нашай сілы і магутнасці, нашай будучыні.

Ёй проста не давалі гаварыць, і яна ганарылася гэтым.

Яна падняла руку — і натоўп адразу сціх, з захапленнем чакаў, што яшчэ скажа гэтая прыгожая, з гарэзлівымі вачыма жанчына. Насця разумела, што цяпер нешта трэба сказаць вельмі простае, задушэўнае. І ўжо зусім іншым голасам, нібы яна была ў сваім калгасе, сказала:

— У нас так кажуць: давяраць давярай, але, пакуль сам не праверыш — не хвалі. Я вось хвалю ваш мільённы, а можа, ён у вас і не працуе? Можа, ён які тыгр папяровы?

І гэты яе жарт з намёкам зноў прыйшоўся людзям даспадобы.

Пакуль натоўп рагатаў і апладзіраваў, Насця збегла з трыбуны на эстакаду, дзе стаяў трактар. Тэле- і кінакамеры памкнуліся за ёю.

— Дазволь паспрабаваць, як ён працуе,— гучна, у мікрафон сказала Насця Сяргею Палуяну.

Натоўп як бы замёр.

Насця забралася ў кабіну. У рэпрадуктарах раптам пачулася, як з першага абароту чыхнуў, загуў трактар. І адразу ж — вясёлы Насцін голас:

— Машына выдатная.

## 9

Прамову Насці Крывіцкай, як і ўвесь мітынг, перадавалі па радыё і тэлебачанні. Аляксею Віктаравічу вельмі хацелася пабачыць жонку па тэлевізары, але трэба было ісці ў медпункт.

Ён узяў транзістарны прыёмнік і, пакуль не было хворых, уключыў яго, слухаў музыку. Якраз тады, як пачалі перадаваць мітынг, у медпункт заявілася Варвара Максімаўна — старая гадоў пад дзевяноста, але яшчэ моцная, як і ўся парода Гадлеўскіх.

Аляксей Віктаравіч выключыў прыёмнік, так і не пачуўшы жонкі. Бабуля гэтая прыходзіла ў медпункт два разы на тыдзень. І не таму, што хварэла — здароўе у яе было дай божа,— а таму, што любіла, як яна сама казала, «пагутарыць з разумным чалавекам».

Заходзіла яна заўсёды, як бы саромеючыся, што адымае ў чалавека час, але вельмі хутка асвойвалася і тады ўжо, калі не было іншых хворых, магла «прагутарыць» увесь дзень.

Аляксей Віктаравіч паслухаў сэрца, змераў ціск.

— Ціск у вас, Варвара Максімаўна, шчыра скажу, выдатны,— сказаў ён, як гаварыў не раз.

Ён ведаў, што вось зараз і пачуюцца размова, скаргі, успаміны — таму наладзіўся на доўгую гамонку. Хворых не прадбачылася.

— Гэта ж, напрыклад, колькі? — пацікавілася бабуля.

— Дзевяноста на сто пяцьдзесят,— адказаў Аляксей Віктаравіч.

— Ну? Бач ты! Насупроць мінулага верхняе аж на дзесяць паднялося.

Яна па-дзіцячаму шчыра аднолькава дзівілася, калі ціск змяншаўся або павялічваўся. Гэта было як зачэпка да размовы.

Стрымліваючы ўсмешку, Аляксей Віктаравіч заўважыў, што Варвара Максімаўна, магчыма, чаго-небудзь пахвалявалася.

— Во, яшчэ што,— выгукнула бабуля.— Чаго мне хвалявацца? Пенсію ў час прыносяць. Людзі не крыўдзяць. Толькі ў галаве нешта робіцца. Спачатку, нібы вецер у коміне, як загудзе: гу-гу-гу-гу, а пасля як званы: бом-бом-бом. Наслухаешся за ноч, дык раніцай у бальніцу пабяжыш. Ты ўжо даруй, Лёшачка, што час у цябе адымаю. Яно і памерці б можна, але ж і паглядзець хочацца, як яно далей будзе. Можа, ты што новае маеш ад гэтага галаўнога шуму? Дык не палянуйся ўжо, выпішы.

Аляксей Віктаравіч пачаў выпісваць рэцэпт, як рабіў гэта кожны месяц. А Варвара Максімаўна працягвала апавядаць.

— Сын вось піша. Прыхворваць пачаў.

— Гэта ж які? — не адрываючыся ад рэцэпта, пацікавіўся Аляксей.— Мікола?

Сыноў яе Аляксей ведаў. З малодшым Міколам быў у партызанах. Разам пайшлі яны пасля вайны вучыцца — ён у медыцынскае вучылішча, Мікола ў педтэхнікум. Потым Мікола завочна скончыў інстытут і зараз працаваў на Піншчыне дырэктарам. У час канікулаў Мікола прыязджаў да маці. Яны сустракаліся кожны год.

— Ды не, Мікола па мне,— як бы пакрыўджана азвалася Варвара Максімаўна.— Ён здаровы. Захар піша. Ён заўсёды хліпкі быў.

Захар Гадлеўскі яшчэ да вайны паступіў у ваеннае вучылішча. З вайны выйшаў падпалкоўнікам.

— Сэрца, піша, пабольвае. Работа ў яго нервовая. Ён жа пры ракетах. Ты, можа, і не бачыў, а я наглядзелася на іх. Вялізныя такія. Выпусціш яе, дурную, а яна і шмякне, куды не трэба. Ну і хвалюецца.

Варвара Максімаўна доўга расказвала пра тое, што Крывіцкі ведаў не горш за яе, але слухаць яе было і цікава і прыемна.

— Ты, Лёшачка, выпішы яму чаго-небудзь,— раптам папрасіла яна.

— Дык жа ў яго там прафесары, акадэмікі,— усміхнуўся ён.

Варвара Максімаўна махнула рукой:

— Што яны разумеюць, твае прафесары!.. Была я ў аднаго. Сеў гэтак во, абапёрся на руку, а другі яму нешта расказвае, расказвае, спяшаецца, быццам у мяне часу няма. «Ты, кажу, чалавеча, не лапачы так хутка, а то я нічога не запомню». А прафесар мне: «А табе, кажа, бабка, і запамінаць нічога не варта». Вот не паверыш, але ціску той прафесар нават не змерыў. Які ж з яго лекар...

Аляксей з усмешкай паглядзеў на разгневаную Варвару Максімаўну. Пра гэтага прафесара ён чуў не ўпершыню, але кожны раз з нейкімі новымі падрабязнасцямі.

«Зараз пачне расказваць, як прафесар ёй выпісваў лякарства»,— падумаў ён, але нехта пастукаў у дзверы.

— Заходзьце,— дазволіў Аляксей Віктаравіч і вельмі здзівіўся, калі ўбачыў на парозе Івана Дабрэню. Той таксама разгубіўся, але з другой прычыны: не спадзяваўся пабачыць хворую на прыёме. Але Варвара Максімаўна па-свойму адрэагавала на сустрэчу сваякоў.

— Заходзь, заходзь, чалавеча,— запрасіла яна Івана.— Я ўжо адлячылася і нагаварылася ўволю.

...Застаўшыся ўдвух, яны доўга маўчалі, не ведаючы, з чаго пачаць размову.

Быў час, калі Крывіцкага і Дабрэню звязвала моцнае сяброўства — здавалася, вадой не разальеш. Яны і жаніліся на сёстрах, каб жонкі не перашкаджалі іх дружбе. Але з часам між імі вырас нябачны плот зацятага неразумення. Спачатку адзін на адзін, потым пры сваяках, а пасля і пры ўсім народзе схопліваліся яны ў бязлітасных, жорсткіх сварках. У кожнага была свая праўда, якой яны трымаліся з зайздроснай упартасцю. Але зараз гэтая ўпартасць і цягнула іх аднаго да другога. Цягнула непрыкметна, насуперак ім самім. Крывіцкі ўжо чуў, што Дабрэня вельмі пастарэў, але ён і ўявіць не мог, як той змяніўся. І гэты хваравіты выгляд Івана, і яго паношаная куртка з замкамі-маланкамі, і нейкая рабенькая з бліскучым брыльком кепачка, і ўся прыгорбленая Іванава постаць — усё вы-

клікала ў Крывіцкага балючае шкадаванне. Але побач з гэтым пачуццём жыло і другое — адчуванне сваёй перавагі і ягонай, Іванавай, неправаты, з-за якой той і церпіць зараз пакуту.

— Пагаварыць вось зайшоў з табою,— сказаў Дабрэня, стараючыся не глядзець на Крывіцкага.

У голасе Івана чулася прымірэнне. І Крывіцкі злавіў гэта, але наперакор сабе, адказаў рэзка:

— Пагаварыць — можна. Але гэта як ваду ў ступе таўчы. Ваўка, кажуць, як ні кармі — усё ў лес глядзіць...

— Значыць, дарэмна ішоў, спадзяваўся,— з крыўдай у голасе сказаў Дабрэня.

— Спачування ў мяне не шукай,— адрэзаў Крывіцкі.— Сам вінаваты...

— А я нікога і не вінавачу,— згадзіўся Дабрэня і гэтым абяззброіў Крывіцкага.

— Ну, тады іншая справа,— памякчэў Крывіцкі.— Не люблю, калі людзі з хворай галавы на здаровую перакладаюць.

Ён зняў халат, павесіў на калок за шырмай. Цераз шырму глянуў на Івана і зноў адчуў, як у грудзях затрымцела спачуванне.

— Давай зойдзем да мяне. Пасядзім, паталкуем...

— Дык жа ў цябе прыём...

— А ўжо нікога не будзе,— адказаў Крывіцкі.

Хата Крывіцкага стаяла непадалёк ад медпункта, у садзе, які яны некалі садзілі з Іванам. Сад разросся, заглушыў агарод. Паміж дрэў жаўцеў доўгім цурыбаллем бульбоўнік.

Аляксей завёў Дабрэню ў залу, пачаў збіраць на стол.

— Колькі мы з табою не бачыліся? — спытаўся ён.— Гадоў дзесяць?

— Даўно...

— Уцякаў ты, калі гарэлкі хапала, а хлеба не было. Даўно...

Нагадак гэты, як нажом, паласнуў па сэрцы Дабрэню, але ён стрымаўся.

Яго заўсёды ўражвала і злавала непераборлівае ўменне Крывіцкага гаварыць чалавеку тое, што той хацеў бы забыць. Калі Дабрэня ішоў да Крывіцкага, ён неяк не падумаў пра гэтую рысу характару Аляксея.

Тым больш яна ўразіла яго, хоць ён, Дабрэня, разумеў, што гаворка не абяцае вялікай прыемнасці.

«Калі ён і возьме на кватэру, дык жа спакою не дасць сваімі размовамі»,— падумаў Дабрэня і тут жа вырашыў, што нізавошта не застанецца жыць у Крывіцкіх, калі нават той сам яго запросіць.

— Во ты як бы папракаеш мяне,— сказаў Дабрэня.— Быццам я не працаваў усе гэтыя гады. А я ўкалваў — дай божа...

— Ведаем, як ты ўкалваў,— перапыніў яго Крывіцкі.— Гнаўся за доўгім рублём ды за лёгкім жыццём... І такіх, як ты, не папракаць трэба.

— Знішчаць,— зарагатаўшы, падказаў Іван.

— Не... Навошта знішчаць? Пагарджаць такімі трэба. Хоць прызнаюся шчыра, такіх, як ты, пагардай не спалохаеш. Пагарда сумленнаму страшная...

Крывіцкі задзіраўся на спрэчку, як не раз ужо было з таго часу, калі Дабрэня першы раз пайшоў з калгаса на заробкі. Тады Іван то жартам, то ўсур'ёз адстойваў сваю пазіцыю, не даваў сваяку лішне ўссядацца на яго. Цяпер спрачацца не хацелася. Было б добра пасядзець, пагаварыць, паўспамінаць партызанскую даўніну. Але задзірлівы тон Крывіцкага распальваў яго. Не хацелася вельмі заставацца ў даўгу.

— Майго сумлення не чапай,— ужо зацята сказаў Дабрэня.— Я сам сабе суддзя — справядлівы і бязлітасны. Таму і вярнуўся. Не ў калгас, а ў сям'ю.

Не жадаючы таго, Дабрэня сам абвастраў гаворку.

— А сям'і ты навошта? — прыжмурыўшы вочы, спытаўся Крывіцкі.— Бач яго! Сам сабе суддзя знайшоўся. Спачатку кінуў-рынуў усё, а цяпер вярнуўся — прымай жонка. Ды на месцы Марыі я цябе на парог не пусціў бы.

Дабрэня зразумеў, што дарэмна ляпнуў пра сям'ю. Тут, як кажуць, змякчаючых віну абставін няма. Калі родны сын супраць, дык чаго чакаць ад чужых...

— Перад Марыяй і дзецьмі я, сапраўды, вінаваты,— прызнаўся ён.— Закруціла, як трэску ў віры... Але зноў жа таму і вярнуўся, каб віну сваю загладзіць. Ды, можа, і ў час вярнуўся, калі Марыі падтрымка патрэбна.

— Гэта ж чаму ёй падтрымка твая спатрэбіцца? — з несхаванай іроніяй спытаўся Крывіцкі.

— А таму, што заробкаў такіх ужо не будзе. А дзецям дай ды дай.

— Быў ты нахабны, а цяпер на цябе і пячаткі недзе паставіць,— абурыўся Крывіцкі.— Ды Марыю ніхто ў крыўду не дасць. Яна чалавек заслужаны. Ты гэта хоць разумееш?

— Выходзіць, я дарэмна ехаў?

— Чаму, калі Марыя ды дзеці прымуць, даруюць, лічы, правільна робіш. Але ў мяне ад гэтага павагі да цябе не прыбавіцца.

— Зачарсцвеў ты, як леташні сухар,— самотна азваўся Іван.

— З вамі зачарсцвееш,— панура, але цвёрда адказаў Крывіцкі.— Такіх, як ты, за трыццаць гадоў лічы з тысячу збегла. Ім, бачыш, чагосьці ў калгасе не хапала. Культуры... размаху... перспектывы... жаніхоў... А хлеб, бульбу, мяса даваць трэба? Тэмпы нарошчваць трэба?

— Чакай, чакай,— перабіў яго Дабрэня.— А горад як бы рос, каб з вёскі людзі не папаўнялі яго?

— Ты мяне не перапыняй. Я ведаю, што кажу,— не вельмі ўпэўнена сказаў Крывіцкі.

Ён ведаў, што ў сваёй запальчывасці не дужа справядлівы, але быў перакананы — за ім стаіць вялікая жыццёвая праўда. Хлеб, сапраўды, сам не расце. Малако само не паяўляецца...

— Загаманіліся мы з табой,— ужо зусім памяркоўна пачаў ён,— сядай за стол.

Ён наліў чаркі, як бы запрашаючы Івана не ўзнімаць больш цяжкой, непрыемнай гаворкі. Але Дабрэня не прыняў ягонага перамір'я.

— Горла твая гарэлка дзярэ,— сказаў ён і падняўся з-за стала.— Фармулёвачкі ты навучыўся даваць. А з вёскі, між іншым, не так сабе беглі. Працадзень быў пусты.

— І ў цябе? — рэзка спытаўся Крывіцкі.

— Я не пра сябе. Я пра тую тысячу, якую ты назваў. Табе, вядома, усё проста бачыцца. Ты ў медпункце тырчэў.

— Я шаснаццаты раз парторгам выбраны,— як бы выкрасаючы кожнае слова, сказаў Крывіцкі.— Чакай, ведаю, што скажаш... Але я не толькі сходы праводзіў. Было, за плуг, за касу браўся. А мог бы ў медпункце

тырчэць, як ты кажаш. Не, Іван, бачу я, што жыццё цябе не дужа навучыла. Увесь ты, як гнілы гарбуз, з пахам.

Крывіцкі бачыў, як бялее Іванаў твар, а павека на левым воку нервова торгаецца, але яму ўжо не было шкада Дабрэню.

Толькі тады, як Іван, грымнуўшы дзвярыма, выбег на вуліцу, Крывіцкі ўголас падумаў: «Дарэмна я з ім так,— і тут жа грукнуў кулаком па падаконніку.— Ну не, не дарэмна. Ён мяне чэрствым называе. Хай! А хіба без цвёрдасці ўзняліся б калгасы?»

Іван Дабрэня таксама папракаў сябе і за тое, што пайшоў да Крывіцкага, і за тое, што ўлез у непрыемную гамонку.

Ён шпарка крочыў па вуліцы, нікога не заўважаючы, прыгадваў нядаўнюю размову з Крывіцкім. Цяпер у галаве паяўляліся іншыя, яму здавалася, больш трапныя адказы Крывіцкаму. «Не ў словах справа, у сутнасці,— падумалася яму.— Толькі ў чым сутнасць? Жыць жа недзе трэба, бо ехаць мне ў горад цяпер не выпадае. А жыць няма дзе. Во ў чым сутнасць».

Ён і сам здзівіўся, да якой простай высновы прыйшоў. Аж спыніўся пасярод вуліцы. І адразу пачуў, як нехта гукнуў яго:

— Кірылавіч, Іван, ходзь сюды, пагаворым.

За невысокім пахілым плотам у засені сядзеў Арцёмка Ліпскі. Арцёмка Ліпскі ў Крутыя Горкі прыблудзіўся на самым прыканцы пяцідзесятых гадоў. Тады, кіламетры за тры ад вёскі, у лесе, пабудавалі смалакурню. Неўзабаве высветлілася, што смалу курыць няма з чаго. Прадпрыемства гэта закрылі, а каб хто не расцягнуў будову, паставілі вартаўніка — Арцёмку Ліпскага.

З год, а можа, і болей жыў Арцёмка ў лесе. Два разы на месяц выбіраўся з чашчобы ў вёску, набываў які харч ды зноў знікаў, як тая лясная здань. Быў ён непаглядны, шчуплы, руды, аж чырвоны, як медны таз, а да ўсяго кульгавы; левая нага нашмат карацей і падкурчана ў калене. Хадзіў Арцёмка на дзеравяшцы, якую прывязваў да калена скуранымі раменьчыкамі. А калі не было куды далёка ісці — скакаў, як той верабей, на мыліцы.

Потым хтосьці падлічыў, што смалакурня з'ядае болей грошай, чым каштуе сама. Смалакурню спісалі. Арцёмку зволілі па скарачэнню штатаў. Дзявацца яму не было куды, атабарыўся ён вартаўніком у калгасным жывёлагадоўчым лагеры. Жыў там бабылём на сваю інвалідную пенсію. Пад зіму вартаваў кароў на ферме. Пакуль было цёпла, спаў у сене. А як цісканулі халады, упрасіў Алену, каб узяла кватарантам.

Алене было тады за трыццаць. У такія гады мужыкоў не выбіраюць, ды і выбіраць не было каго. Прыцёрліся адно да аднаго, прывыклі, а там і дзеці пайшлі, як грыбы ў дажджлівую восень, адзін за адным — пяцёра.

Іван адчыніў брамку, зайшоў на двор. Сярод двара за сталом з дзвюх дошак, прыбітых да чатырох слупкоў, сядзеў Арцёмка, гуляў сам з сабою ў даміно.

— Сядай,— паціснуўшы руку, сказаў ён Дабрэню,— аднаму гуляць, як ката за хвост цягаць,— ніякай радасці.

Іван прысеў, абыякава ўзяў костачкі.

— Як жыццё-быццё? — дзеля прыліку спытаўся ён.

— Я, браце, яго і не заўважаю,— весела выгукнуў Арцёмка і ляснуў костачкай па стале.— Жыццё, што кола — то наверсе, то падыспадам. А ты, бачу, нешта ўзрушаны. Ідзеш па вуліцы, рукамі махаеш.

— Тут замахаеш... Жыць няма дзе. Можа, ты на кватэру возьмеш?

Дабрэня жартаваў, бо ў Ліпскага і хата — не разгонішся, і сям'я — дай божа. На яго здзіўленне, Арцёмка ўспрыняў жарт усур'ёз.

— А чаму! Я не супраць. Бутэльку паставіш — Алену ўгаворым. Што, браце, жонка заўпарцілася?

— Нораў паказвае...

— Жаніся на другой,— падміргнуў Ліпскі.

— Не для таго ехаў.

— Значыцца, да апошняй рыскі дайшоў?..

— Вінаваты і віну прызнаў. Ды вось не зразумелі...

— Калі баба заўпарціцца — адступі. Гэта ты правільна зрабіў. Бабе час патрэбны. Наш брат, той без аглядкі галавой у вір кідаецца. Баба спачатку абмазгуе ўсё... Ёй упэўніцца трэба, уладу над табой адчуць.

— Гэта праўда,— пагадзіўся Дабрэня.— Паспытаў такога...

Яму ўпершыню за гэтыя суткі прыгадалася Алімпіяда. Во хто ўмела прыбраць да рук!

Арцёмка зарагатаў, шырока раскрываючы рот.

— Паспытаў, кажаш?..— праз смех вымавіў ён і ўжо сур'ёзна дадаў: — Гэта і мне вядома.

Ён раптам падхапіўся з месца, паскакаў на мыліцы ў сенцы. Пазіраючы на яго нязграбную постаць, Іван скептычна ўсміхнуўся. «Адкуль табе вядома? Што ты мог паспытаць? А таксама брэша...»

З сянец Арцёмка вярнуўся, несучы бутэльку, заткнутую сенам.

— То не гарэлка, а мікстура. Але з выпадку твайго прыходу і за алкагольны напітак сыдзе. Зараз, я толькі гурочкаў прынясу.

І ён тым жа манерам, падскокваючы на мыліцы, пакульгаў у грады. Дабрэня са двара бачыў, як мітусіцца ў агародзе Арцёмка, і нейкае невыразнае адчуванне сваёй непатрэбнасці варухнулася ў ім. Ён не паспеў асэнсаваць гэтае самотнае адчуванне, як рыпнула брамка і на двор увалілася Алена Ліпская.

Яна павесіла даёнку на калок, шырока расстаўляючы тоўстыя ногі, падышла да Івана, падала руку.

— Пастарэў ты...

— Ды і ты не памаладзела,— азваўся Іван.

Алена заўсёды была прыземістая, шыракаватая ў плячах і клубах. Цяпер яна яшчэ больш раздалася, а твар стаў круглы, атлусты. Але, як і даўней, па-маладому зіркалі вочы.

— У час паспела,— усміхнулася яна, ківаючы галавой на бутэльку.

З агуркамі ў прыполе, з вялізнай чорнай рэдзькай пад пахай, да стала прычыкільгікаў Арцёмка.

— Сядай з намі,— сказаў ён жонцы.— Вып'ем у гонар госця...

Алена прысела побач з Іванам, першая падняла кубак з настойкай.

— За тваё вяртанне,— сказала яна Івану.— Машы ты дужа патрэбны.

Дабрэня ледзь не папярхнуўся. «Патрэбны, а ў хату не пускае». Але ад Аленіных няхітрых слоў яму стала хораша і цёпла.

— Дзякуй табе... Мне зараз хоць у пятлю галавой...

— Перамелецца — мука будзе,— падбадзёрыў Арцёмка і звярнуўся да жонкі: — Кірылавіч на начлег просіцца, па прычыне жаночай несазнацельнасці.

— Месца знойдзецца,— азвалася Алена.

— І яшчэ раз дзякуй,— расчуліўся Дабрэня.

Яны дапілі настойку, але з-за стала не падымаліся. Гаварылі пра справы, якія для іх мелі вялікі сэнс. Алена не прамінула паскардзіцца на свой незайздросны лёс.

— Ты во скажы, Кірылавіч, хіба ж то справядліва? Дваццаць гадоў з гакам тэроў даіла, а цяпер не патрэбна. Комплекс нас заменіць. А мне да пенсіі — уга колькі! Ды і дзяцей пяцёра.

Арцёмка падскочыў на лаўцы, мыліца з грукатам упала на зямлю.

— Тут нічога не папішаш,— глыбакадумна заўважыў ён.— Тэхнічная рэвалюцыя... Жыццё, яно сваё дыктуе.

— Памаўчаў бы,— сказала Алена.— Жыць як будзем?

— Не прападзём. Як казаў некалі адзін мой начальнік: на Мацея зіма пацее.

І ён весела зарагатаў, але тут жа змоўк, пабачыўшы строгі жончын позірк.

— От кажуць, машына чалавека ад цяжкай працы вызваляе. Факт, вызваляе. Але ж і ад заробку таксама.— Арцёмка яўна наладзіўся на філасофскі лад.— Ну, дапусцім, чалавек заўжды на цяжкую працу наракаў. Кожнаму хочацца і лягчэй працаваць, і больш грошай зарабляць. А толькі, я так скажу, дзела не ў тым, каб палегчыць чалавеку працу, а каб больш прадуктаў даваць. Праца, яна ніколі не цяжкая, калі за яе добра плоцяць. Во дзе сакрэт.

— Развёў анцімонію,— адмахнулася Алена.— Я не чаго-небудзь хачу, а сталай работы. На палявых хіба нешта заробіш?..

Іван Дабрэня адчуў, як зноў падкаціўся пад сэрца халадок няўпэўненасці і нейкай трывогі.

— Я думаў, што ў вас ніякіх праблем. Аж іх тут вунь колькі!..— сказаў ён.

— Ха! Дзе іх няма? — выгукнуў Арцёмка.

## 10

Крывіцкія дзяцей не мелі. І неяк так сталася, што ўся Насціна мацярынская нерастрачаная любоў скіравалася на дачок Марыі. У іх Насця бачыла сябе, а таму не хацела, каб яны паспыталі ў маладосці тое, што паспытала яна, Насця.

Калі на свет паявілася Надзя, а Іван на той час зарабляў грошы і хлеб недзе ў Адэскай вобласці, Насця ўзялася даглядаць пляменніцу. Апекавала яе і пасля. Песціла ў сэрцы спадзяванне, што дзяўчына стане ўрачом, як і яе, Насцін, муж Аляксей.

Аляксей Віктаравіч дакараў жонку, што яна разбэшчвае дзяўчынку.

— Ты яшчэ дачакаешся,— казаў ён Насці,— калі Надзя выкіне каленца. А ўсё з-за таго, што ты ёй патураеш. Маладым строгасць патрэбна. Іначай чалавека з яго не чакай...

Надзя сапраўды выкінула «каленца». Увосень з дапамогай Насці паступіла ў медыцынскі інстытут, а вясной выскачыла замуж за нейкага рэжысёра філармоніі, кінула інстытут, стала спявачкай.

Цяпер Насціна любоў скіравалася на Ліду. А каб не здарылася таго, што з Надзяй, Насця надумала сама знайсці пляменніцы належнага чалавека.

Сярожа Палуян — той самы выпрабавальнік трактароў, што выводзіў мільённы,— падаўся Насці якраз тым чалавекам, пра якога яна марыла як пра будучага мужа Ліды.

Быў Сярожа прывабны, сур'ёзны, удумлівы, з добрай спецыяльнасцю ў руках, меў сваю машыну і кватэру, а галоўнае халасты. Так што Насця з таго часу, як прыняла трактар, не спяшаючыся, павяла на Палуяна атаку.

Мела Насця зайздросны характар — скараць людзей, падпарадкоўваць іх сабе. Калі яна папрасіла Сяргея падвезці яе да воднага басейна, той, хоць і не хацеў, вымушаны быў паслухаць госцю.

«Жыгулі» спыніліся ля вялікага будынка.

— Во дзякуй, што давёз,— сказала Насця.— Адна я ніколі не знайшла б...

Яна толькі рабіла выгляд, што не можа адчыніць дзверцы.

Сярожа вылез, дапамог Насці выбрацца з машыны.

— Ну, жадаю знайсці пляменніцу,— сказаў ён.

— А куды ж цяпер? — хітравала Насця.— І ці знайду той басейн? Ды і ці прапусцяць вясковую жанчыну.

Сяргей паглядзеў на яе, падумаў:

«Во яшчэ навязалася на маю галаву» — але, памятаючы наказ парторга не пакідаць госцю адну, замкнуў машыну.

Яны зайшлі ў высокую залу з белымі кафельнымі сценамі. У люстэркавай чысціні сцен адбівалася блакітная вада басейна. Здавалася нават, што сцены не белыя, а блакітныя. А ў вадзе басейна адлюстроўваліся белыя сцены. Таму здавалася, што басейн выкладзены белымі плітамі. Справа, у канцы басейна, мкнула ўверх вышка для скачкоў. Калі яны зайшлі ў басейн, з яе адтуль, з недасягальнай вышыні, кінулася ўніз дзяўчына ў чырвоным купальніку. Яна — перакулілася ў паветры, выпрамілася і грацыёзна знікла ў блакітнай вадзе. Зала выбухнула апладысментамі.

Насця тым часам шукала вачыма Ліду. Яе не было відаць.

— Можа, яна не тут? — усумніўся Сяргей.

— Не, тут. Ды вось нешта не бачу,— адказала Насця.

Сяргей пасадзіў Насцю на лаўку.

— Як яе прозвішча? — спытаўся ён.

— Дабрэня... Ліда...

— Вы пачакайце, а я пашукаю. Можа, яна ў раздзявалцы...

Сяргей пачаў прабірацца на той канец залы.

У пакоі адпачынку было шматлюдна і шумна. Сяргей спыніўся на парозе, не ведаючы, ў каго спытаць пра Дабрэню. Усе былі заняты. Нейкі сівы ўжо мужчына паказваў, як трэба ўваходзіць у ваду. Мабыць, спартыўны каментатар браў інтэрв'ю ў высокага хлопца з ручніком на шыі.

Сяргей нясмела падышоў да каментатара. Павінен жа ён ведаць спартсменаў...

— Ліду Дабрэню не бачылі? — спытаўся ён.

Каментатар абурыўся:

— Чорт вас тут носіць. Плёнку сапсавалі...

— Даруйце, але мне патрэбна Дабрэня.

— Я вам не даведачнае бюро,— адсек каментатар.

Сяргей убачыў непадалёк высокую, у паласатым купальніку дзяўчыну, якая размаўляла з сівой, невысокай бабуляй у спартыўным сінім касцюме.

Састроіўшы на твары ветлівую ўсмешку, Сяргей падышоў да іх.

— Вы часам не Ліда? — спытаўся ён у дзяўчыны.

— Ліда, а што? — спалохана прызналася тая.

Затое бабуля змерала позіркам Сяргея з галавы да ног, басавітым голасам спыталася:

— Вам яшчэ якая Ліда патрэбна?

— Дабрэня,— падміргнуўшы дзяўчыне, адказаў Сяргей.

— Ну і шукайце сваю Дабрэню,— злосна адказала бабуля.— І наогул, што вы тут робіце? Староннім уваход забаронены.

— А я не старонні,— адказаў Сяргей.

Ён кідаўся ад адной дзяўчыны да другой, але Ліды сярод іх не знаходзіў. Больш таго, Дабрэню ніхто не ведаў. Дзяўчаты здзіўлена перапытвалі адна ў адной: «Ты не чула, ёсць у нас такая, Дабрэня?.. Я таксама не чула...»

Сяргей ужо хацеў ісці адсюль, як яго спыніў нейкі хлопец.

— Ты каго шукаеш? — спытаўся ён.

— Дабрэню... Ліду...

— Чакай...

Хлопец склаў рупарам далоні, пратрубіў, як у мегафон:

— Лі-і-іда-а-а! Дабрэня!..

Але і зноў Ліда не адгукнулася.

— Бачыш — няма,— усміхнуўся хлопец.— А яна з якога таварыства?

— З калгаса яна...

Хлопец свіснуў:

— Што ж ты адразу не сказаў? «Ураджай» не ўдзельнічае.

Разгублены, збянтэжаны Сяргей вярнуўся да Насці. Быў ён злосны і на сябе, і на Насцю, і на парторга, які падбухторыў яго везці гэтую бесталковую цётку.

— Няма яе тут,— сказаў ён.— І наогул калгаснікі ў спаборніцтвах не ўдзельнічаюць.

— Як жа не ўдзельнічаюць, калі Ліда мне сама казала, што выступае тут?

— Не іголка ж яна,— азваўся Сяргей.— Так што, калі хачаце, завязу вас у гасцініцу.

Насця таксама была крыху здзіўлена. Яна азірнулася і тут жа ўбачыла Ліду.

— Дык вось жа яна,— радасна выгукнула Насця.— А ты кажаш, іголка.

Між лавак да іх ішла тая самая дзяўчына, што размаўляла з бабуляй-трэнерам. Толькі цяпер яна была ў світэры, у шырокіх модных штанах.

Ад здзіўлення і ад таго, што дзяўчына выглядала надзвычай прыгожай, Сяргей як бы анямеў. А Ліда ўсміхалася, бо зразумела, чаго яе шукаў гэты хлопец.

— Чаго ж вы хаваліся? — калі прайшла збянтэжанасць, спытаўся Сяргей.

— Дык жа я незаконная,— адказала Ліда.— Я за «Працоўныя рэзервы» выступаю.

Насця спадылба назірала за імі. Бачыла, што Ліда спадабалася Сяргею.

## 11

Бабіна лета прала серабрыстае павучынне. Было яго шмат. Яно чаплялася за рэдзенькія кусты на ўзлеску, слалася белым вэлюмам па ржышчы і поплаве, лятала ў паветры, казытліва апускалася на твары.

Стаяла сонечнае надвор'е; з раніцы халаднаватае паветра застывала ў маўклівай нерухомасці, быццам баялася атрэсці чырвань і жаўцізну дрэў, ды так і трывала да самага вечара, да яркага, вясёлага заходу сонца. Толькі пазней, калі пачынала ўжо змяркацца, з лесу як бы неахвоча поўз густы белаваты туман. Ён атуляў нізіны і ўпадзіны між узгоркаў, дасягаў часам вёскі, залазіў у агароды і двары.

Зорныя ночы былі золкія, але мароз затрымаўся. Толькі на балоце пад самую раніцу шэрхла каляная трава, здавалася, ападаў на яе белым парашком туман.

Быў час, калі Берасцень ненавідзеў гэтую пару восені. Як павучынне, чапляліся тады да старшынь калгасаў згрызоты, штодзённыя непрыемнасці, накачкі і вымовы. Цяпер бабіна лета цешыла яго і не толькі сваёй прыгажосцю, а тымі справамі, што ўжо зроблены, і

тымі, што яшчэ трэба зрабіць і абавязкова будуць зроблены. Заставалася яшчэ дакапаць і перааараць бульбу, прыбраць лён са сцелішча — сеялі яго няшмат,— ды выбраць гародніну. Работы набіралася, праўда, не так ужо і мала. Але была ўпэўненасць, што ўсё адужыцца да дажджоў, калі сабака і той не хоча вылазіць з будкі.

Спраўнасць па гаспадарцы выклікала ў Берасценя замілаванасць. Ён узагнаў свой «газік» на самы верх Антонавай гары, вылез з яго і застыў у маўклівым любаванні знаёмымі з дзяцінства краявідамі.

З гары былі відаць не толькі Крутыя Горкі, але і яшчэ дзве брыгады калгаса, а галоўнае палі: узаранае ржышча, яркая зяляніна азімага кліна, рудая перакапаная зямля бульбянішча і пажоўклае канюшынішча.

Яшчэ маладым, гарачым хлопцам Берасцень аднойчы павёў гаворку пра спецыялізаваныя гаспадаркі. Павёў, можа, наіўна, без ведання справы, больш па інтуіцыі. Папала яму тады добра і не таму, што ён прапаноўваў нешта шкоднае, а таму, што не ўмеў, падцiснуўшы хвост, адступаць, прызнаваць, што памыліўся.

Потым ён і сам у гарачых буднях старшынскага жыцця прывык да знаёмага з дзяцінства калгаснага парадку. Нават і не заўважыў, як ягоныя маладыя думкі сталі явай. Спецыялізацыя?.. Зноў жа крыху пагарачыўся, ён выступіў супраць гэтай спецыялізацыі. Было шкада, аж балюча, расставацца са звычайнай, ужо наладжанай гаспадаркай, дзе ўсяго было патроху і ўсё патроху давала свой плён.

Але ён хутка ацаніў новыя павевы, з дапамогай Вежнявец дамогся, каб яго калгас уключылі ў міжгаспадарчае аб'яднанне.

Ён адшукаў вачыма комплекс — ды яго асабліва і не трэба было шукаць — і яшчэ палюбаваўся ім адсюль, з самага высокага месца. Прыгажосць і велічнасць комплексу выклікала ў ім гарачую хвалю, што аж распірала грудзі.

— Дажылі нарэшце да шчаслівых дзён,— уголас сказаў Берасцень.— Дажылі...

Ён сеў у «газік», па вузкай дарожцы, што вяла з гары, спусціўся ўніз, вырулiў на дарогу. Да Крутых

Горак заставалася кіламетры тры. Трэба было паспець пабываць на комплексе, у праўленні калгаса, каб аддаць распараджэнне на заўтрашні дзень.

У райкоме, дзе сабраўся савет тэрытарыяльнага аб'яднання, вырашылі неадкладна правесці перадачу жывёлы, згодна вызначаных планаў спецыялізацыі кожнай з гаспадарак. Заўтра ў Крутыя Горкі меліся прыгнаць кароў два бліжэйшыя калгасы, а з Крутых Горак забраць нецеляў і бычкоў, якіх трэба было адкармліваць на мяса.

Пасля нарады Берасцень затрымаўся ў раёне. Калі прыязджаў туды, спраў хапала, аж пакуль не пазакрываліся раённыя ўстановы.

«Газік» мякка каціўся па пыльнай дарозе. Берасцень у думках прыкідваў, што і як трэба зрабіць.

Неўзабаве ён дагнаў кароў і адразу зразумеў, што гоняць яму. Мабыць, старшыні калгасаў надумалі не адкладваць назаўтра, а перадаць кароў сёння.

Гэта крыху засмуціла Берасценя, бо парушала яго- ныя планы.

Пакуль прынялі кароў, пакуль падпісвалі акты, непрыкметна набег вечар. Берасцень запаліў настольную лямпу, сеў за стол, каб прагледзець дзённую пошту, а заадно напісаць некалькі дзелавых папер.

Ён пісаў, па-хлапчукоўску схіліўшы галаву набок, калі ў кабінет увайшоў Дабрэня. Пачуў толькі, як хтосьці, нібы жартуючы, спытаў:

— Можна ўвайсці?

— Зайшоў, дык няма чаго дазволу пытаць,— адказаў Берасцень, адсоўваючы лямпу. Яе святло перашкаджала бачыць, хто там зайшоў у такую познюю пару.— А-а-а, Дабрэня... Іван... Ну, заходзь, заходзь.

Яны доўга ціснулі рукі, з нехаванай цікавасцю разглядалі адзін аднаго. Звязвала іх даўняе знаёмства і сумесная праца, але вялікай дружбы між імі ніколі не было — мірнае суіснаванне, як любіў казаць Іван Дабрэня.

— Раздабрэў ты! Кіло сто будзеш! — усміхаючыся падкалоў Дабрэня Берасценя.

Той зарагатаў.

— Не дацягнуў, але ў перспектыве маю такі намер.

— А што — закон: усё, так сказаць, таўсцее...

— Ты во ў форме,— як бы пазайздросціў Дабрэню Берасцень.

І адразу наступіла няёмкае, надакучлівае маўчанне. Абодва дасталі кожны свой пачак цыгарэт, закурылі.

— Па справе, ці так? — спытаўся Берасцень.

— Вярнуўся во...

— Чуў... Ну і што рабіць надумаў?..

— Была б шыя — хамут знойдзецца,— ухіліўся Дабрэня.

— То праўда, толькі яны, хамуты, розныя,— адказаў Берасцень, адразу ж страціўшы цікавасць да Дабрэні.

А Іван ніяк не мог адважыцца выказаць сваю просьбу.

Калі Дабрэня ішоў у канцылярыю, яму думалася, што Берасцень сустрэне яго неяк інакш і тады нібы жартам можна было б папрасіць у яго дапамогі.

Цяпер жа пачынаць гаворку не мела ніякага сэнсу.

— Ну, я пайду,— сказаў Дабрэня, працягваючы сядзець за сталом.— Хацелася на цябе паглядзець... Даўно мы не бачыліся.

Ён губляў словы, як дзіравы мех зерне, не задумваючыся, на якую глебу яны ўпадуць.

— А ў цябе ўсё ўладзілася? — спытаўся Берасцень, як бы выклікаючы Дабрэню на шчырасць.

— Ды дзе там!..— выгукнуў Іван.— Не прымае Марыя, хоць плач. Можа б, ты з ёю, Пятро, пагаварыў? Закінуў бы слоўца...

З таго самага часу, як у кабінет зайшоў Дабрэня, Берасцень чакаў нейкай просьбы. Папраўдзе, дык ён наважыўся памагчы Дабрэню, калі просьба не будзе дужа складанай. Але тое, што ён пачуў, развесяліла яго. Берасцень адкінуўся на спінку крэсла, зарагатаў, аж, здалося, зазвінелі шыбы ў вокнах.

— Ну і насмяшыў! — нарэшце, праз слёзы і рогат, вымавіў ён.— Я што — сват? Чаму гэта я павінен за цябе хадайнічаць?

Гэты абразлівы смех Берасценя закрануў Дабрэню за жывое. Чаго смяяцца з чужога гора? І хоць ён не хацеў спрачацца са старшынёй, не здолеў стрымацца.

— Дужа табе смешна,— сказаў ён.— А да майго лёсу і ты дачыненне маеш.

— Я? — здзівіўся Берасцень і, перастаўшы рагатаць, весела, бесклапотна дадаў: — Ды я, калі хочаш ведаць, за ўсіх у адказе. А вось перад табой ні на во колькі не вінаваты.

— Забыўся? — з'едліва спытаўся Дабрэня.— А ці памятаеш ты, як мяне ў калгасе дражнілі: Іван Даставала?

— Ну і што?

— А нічога. Толькі, бывала, хлапчукі і тыя мяне дражнілі: Даставала, Даставала...

— Выходзіць, і ад жонкі таму збег? — усміхнуўся Берасцень.— Не хітры, Іван!.. Ты ад дзяцей збег. Салодкае жыццё шукаў.

— Не адзін шукаў...

— Гэта праўда...

— З тваёй дапамогай шукаў,— зацята сказаў Дабрэня, ні кроплі не звяртаючы ўвагі на кплівы тон Берасценя.

— Валі з хворай галавы на здаровую,— выгукнуў Берасцень.— Як жа гэта з маёй дапамогай? Я табе раіў сям'ю кідаць?.. Ці, можа, я не ўпрошваў цябе застацца ў калгасе?.. Дык якога ж ліха ты мяне вінаваціш?..

— І вінавачу,— упарта, пазіраючы на ногі, сказаў Дабрэня.— Бывала, дасі мне грошай: «Шуруй, Іван, даставай дэфіцыт...» Чаго я ні даставаў!.. Запчасткі, цэмент, шыфер, цэглу, цвікі, шкло, салярку, масла...

— Ну і даставаў...

— Дык не за так жа!.. Думаеш: паехаў на базу — прывёз?.. Дудкі!.. Без выпіўкі даставала круглы нуль. Рэстараны, кафэ, проста забягалаўкі... Жыццё, шчыра табе скажу, хоць турботнае, а лёгкае. Затое дамоў вярнуўся: дзеці плачуць, жонка каровамі пахне... А тыя бабы, што на збытах ды на базах сядзяць,— вясёлыя, ласкавыя і парфумай смярдзяць. Тут любая галава кругам пойдзе. Во і выходзіць, што не толькі я, а і ты вінаваты. Штурхаў мяне на такое жыццё...

— Даставалам цябе не я зрабіў,— разумеючы, куды хіліць размову Дабрэня, памяркоўна сказаў Берасцень.— Ты мне ў спадчыну дастаўся разам з пустымі засекамі і пазыкай у банку. Я не пра сябе думаў — пра калгас.

— Яно так,— пагадзіўся Дабрэня.— І ты не вінаваты і я. І няма чаго з мяне пацяшацца.

— А я не пацяшаюся. Думаеш, мне лёгка было? А толькі, Іван, дарэмна ты да мяне прыйшоў, дарэмна спагады шукаеш.

— Ну што ж, і на тым дзякуй,— адказаў Дабрэня.— Значыцца, месца мне ў Крутых Горках няма?

— Чаму? Работа знойдзецца. Толькі ж табе не пыльная трэба. А ў мяне цяпер такой няма.

— Пылу я не баюся,— адказаў Іван.— Здароўя нестае...

Дабрэня даўно зразумеў, што ні спагады, ні падтрымкі ён тут не атрымае, але нешта, можа, безвыходнае становішча, утрымлівала яго. Цяпер сядзець далей не выпадала. Ён падняўся, згорбіўшыся, пайшоў да дзвярэй, нават не развітаўшыся з Берасценем.

Ад непрыемнай гаворкі яму калола ў скроні, а вочы засцілала смуга. «Навошта я пайшоў да яго? Яму не да мяне. Яму ні да кога справы няма. Атлусцеў і заганарыўся. Ну і пражывём без цябе...» — злосна думаў Дабрэня. Але нават тады, калі ён адчыніў дзверы і выйшаў у прыёмную, усё яшчэ чакаў, што Берасцень пакліча яго.

Берасцень не азваўся.

Пякучая крыўда і невыказная жаласць агарнулі Дабрэню. Ён адчуў, як набеглі на вочы гарачыя слёзы, і засароме́ўся сваёй слабасці.

На вуліцы было зусім цёмна, хоць выкалі вока. Дабрэня пастаяў крыху, пакуль зрок не прывык да цемры. Калі пачаў адрозніваць няясныя абрысы дамоў, прысад, а між іх шэраватую вуліцу, памалу рушыў па ёй за вёску.

Яму было ўсё адно, куды ісці, каб хоць крыху ачомацца ад размовы з Берасценем, на якую ўскладаў нейкія спадзяванні.

За вёскай, у полі, было не так ужо і цёмна, бо ярка гарэлі зоркі ды і неба здавалася святлейшым.

Незаўважна для сябе ён выбіўся на дарогу, што вяла ў Грыбава.

Зразумеў гэта толькі тады, як узышоў на мост праз Калодню і сам здзівіўся, чаго яго занесла сюды.

Аднае балясіны на масце не хапала. Замест яе нехта прыбіў доўгую бярозавую жэрдку. Яна бялела ў начы бярostай, як абгрызеная костка.

Іван пастаяў над вадою, у якой адбіваліся зоркі. Было ціха і неяк жудасна аднаму.

Ён закурыў, хацеў быў павярнуць назад, але тут жа пайшоў далей у Грыбава. «Чаго я іду? — млява падумаў ён.— Не трэба было б... Ды цяпер усё роўна...»

За мостам дарога прамавала па імшарыне. У мокрую восень па ёй ні прайсці, ні праехаць. Тады ездзілі ў Грыбава праз Сухадолы — кіламетры на тры даўжэй. Цяпер жа стаяла сухмень і дарога толькі падавалася пад нагамі, як бы ўсланая спадыспаду пухам.

Гадоў за пяць да таго, як Іван прыстаў у прымы да Алімпіяды Чарушынай, здарылася з ім невялічкая прыгода.

Вясной, калі на лясных пясчаніках зажаўцеюць страчкі, а на схілах пагоркаў падымуцца сярод леташняй травы смарчкі, Іван Дабрэня напаткаў маладзіцу з Грыбава. Жанчына хадзіла па лесе, звонка гукала, быццам любавалася сваім голасам. Іван адгукнуўся ёй. Жанчына змоўкла, як, бывае, змаўкае зязюля, калі яе нехта патрывожыць. І тады Івану страшэнна захацелася пабачыць, хто гэта так гукаў у лесе. Ды і грыбоў ужо назбіраў поўны кошык. Ён пайшоў напрасткі па гушчары туды, адкуль далятаў жаночы голас. Густы хмызняк неяк нечакана расступіўся. За ім, як кінуць вокам, аж кудысьці ў неба, прасціраўся бярэзнік. У Івана аж запярэсціла ўваччу ад белі бярозавых ствалоў. Спачатку ён і не заўважыў маладзіцы, якая сядзела пад бярозаю на грудку. Можа, ён і павярнуў бы назад, каб жанчына не гукнула зноў. Раз і яшчэ раз... Было ў яе голасе нешта такое, што кранала да глыбіні душы. Калі яна гукнула яшчэ раз, Іван адгукнуўся:

— Ау-у-у!..

Маладзічка азірнулася, убачыла Івана.

— А я думала, лесавік адгукаецца,— усміхаючыся, сказала яна.

— Ну і лесавік,— спыніўшыся кроках у пяці, адказаў Іван.— Не баішся?

Маладзічка зухавата хмыкнула, паказваючы ўсім сваім выглядам, што ёй сам чорт не страшны.

Іван сеў насупраць, не зводзячы вачэй з яе круглявага, рабаватага твару.

— Ты адкуль такая смелая? — спытаўся ён.

— А табе навошта мой адрас? — усё з той жа чароўнай усмешкай спыталася яна.

— Можа, у госці запросіш, каб не блудзіў дужа?..

У Івана аж перасядаў голас ад хвалявання. Цягнула яго да гэтай маладзіцы, як цягне на згубу вір. Але развагі ён не губляў, нават паказваў усім сваім выглядам, што яна яму як бы і абыякава.

— Госць знайшоўся... А жонка што скажа?..

— Дык ты мяне ведаеш? — здзіўлена спытаўся ён. І неяк адразу паспакайнеў, быццам на яго лінулі халоднай вады.

Маладзіца зноў усміхнулася, зірнула спадылба чорнымі, глыбокімі вачыма, працяла Івана наскрозь.

— Я цябе даўно ведаю,— сказала яна.

— Ну?

— Не запрог, дык не нукай. Лепей бы паказаў, дзе грыбоў набраў? А то во хаджу з пустым кошыкам.

Іван падхапіўся, пачаў перасыпаць грыбы ў яе кошык. Ён рабіў, як у сне.

— Во дзякуй, во ўцешыў,— як бы з насмешкай, як бы пацвельваючыся з ягонай дагадлівасці, праспявала маладзіца.— А сам жа што?..

Яна, не спяшаючыся, паднялася з грудка, паправіла на галаве касынку. Іван глянуў на яе гнуткую постаць у белым світэры, адчуў, як пацямнела ўваччу, і, ужо забыўшыся на ўсе свае перасцярогі, абхапіў яе рукамі за талію.

...Потым Іван ляжаў, паклаўшы рукі пад галаву, блазнавата ўсміхаючыся, глядзеў праз тонкае бярозавае голле ў неба. Поруч з ім, паклаўшы галаву на ягоныя грудзі, ціха ўсхліпвала маладзіца. Іван няўцямна гладзіў яе па галаве, па жорсткіх, як дрот, валасах.

— Ну, чаго ты? — сказаў ён, каб толькі не маўчаць.— Дзіўныя вы, бабы...

Маладзіца ўзняла галаву, усміхнулася праз слёзы.

— Прыйдзеш да мяне... Добра?..

— Куды ж прыйсці, калі ты і назвацца не хочаш?

— У Грыбава. Я табе пакажу хату. Прыйдзеш?

Ён абняў яе, прытуліў да грудзей, чамусьці баючыся паабяцаць, што прыйдзе. Было ў гэтай лясной прыгодзе нешта незразумелае, таямнічае, што насцярожвала Івана.

— Баішся? — спыталася яна.— А ты не бойся. Я табе турбот не прынясу.

— Я не баюся... Усё неяк нечакана...

— Толькі папрашу цябе, днём не прыходзь. Не хачу, каб людзі ведалі...

Вышукваючы розныя прычыны, хаваючыся ад жонкі і вяскоўцаў, бегаў Іван у Грыбава. Падбіраўся да Аўгіннінай хаты гародамі, затаіўшы дыханне, асцярожненька стукаў у акно. Аўгіння тушыла святло, выходзіла на ганак, брала яго за руку, вяла ў хату.

Так было месяцы два. Недзе на пачатку ліпеня, у месячную кароткую летнюю ноч, Іван, як той злодзей, ледзь не на жываце прыпоўз на двор, асцярожненька выглянуў з-за вугла. І вельмі здзівіўся, пабачыўшы Аўгінню на ганку. Яна сядзела, як здань у месячным ззянні.

Іван ціха кашлянуў, каб не напалохаць маладзіцу. Яна хуценька паднялася, пайшла да яго, у цень ад хаты.

— Добра, што ты прыйшоў,— сказала яна.

— Дык абяцаў жа,— прытульваючы яе да грудзей, адказаў Іван.— Ніяк не мог вырвацца з дому. Ды і ночы цяпер месячныя. На пяць вёрст усё бачна.

Яна вызвалілася з ягоных абдымкаў, прысела на прызбу.

— Сядай,— і паказала на месца поруч з сабой.

Ён сеў, крыху ўражаны тым, што Аўгіння не кліча яго ў хату.

— Што гэта ты нейкая, як чужая? — спытаўся ён.

— А і не свая,— адказала яна.

«Ну во і пачалося,— падумаў Іван.— Спачатку: «Я табе турбот не прынясу», а пасля прэтэнзіі».

— Здарылася што?

— Пагаварыць хачу з табой,— разважліва сказала Аўгіння.— Ты от хадзіў да мяне і ні пра што не пытаўся. А сам, мусіць, думаў: распусная баба. Не, скажы, думаў?

— Кінь ты! — абняў ён яе за плечы.— Пачнеш шмат думаць — галава распухне.

— Ты, Ваня, не бойся... Я ўсё разумею. Цябе прыгнятаюць нашы сустрэчы.

— Выдумала!.. Каб прыгняталі, не хадзіў бы...

— Сёння ты апошні раз прыйшоў,— спакойна сказала Аўгіння.— Пасядзім, пагаворым і разыдземся.

Па-шчырасці, дык Іван узрадаваўся яе словам. Яму, і сапраўды надакучыла гэтая сувязь. Але ён няшчыра запярэчыў. Нешта насцярожвала яго, здавалася, Аўгіння ставіць хітрую пастку.

— Так ужо і апошні раз...

— Смешныя вы, мужчыны,— як бы са спачуваннем і з пагардай азвалася Аўгіння.— Нездагадлівыя, аж крыўдна за вас. Як ты думаеш, чаму ў нас усё во так павярнулася? Нябось спадзяешся, што я ў цябе па вушы закаханая?

— А што, не? — здзівіўся Іван.

— Троху было,— уздыхнула Аўгіння.— Без кахання я не пайшла б на такое.— Яна сама прытулілася да яго: — Прывыкла я за гэтыя месяцы да цябе. Аж боязна... Але рваць трэба. А то позна будзе. А ў цябе сям'я: жонка, дзеці.

— Чаго гэта ты ўспомніла сям'ю? — глуха азваўся Іван.— Яна ўсягды была.

Размова раздражняла яго: было ў ёй нешта загадкавае, непрыемнае.

— Была...

Аўгіння раптам заплакала, закрыўшы твар рукамі, упала галавой яму на калені. Ён сядзеў, разгублены і яе слязьмі, і ўсім тым, што адбывалася сёння між імі.

«Во, чорт, уліп,— падумаў ён, ужо здагадваючыся, чаму плача Аўгіння.— Цяпер, і праўда, клопату не абярэшся».

— Ты, можа, гэта самае?..

— А табе што? — праз слёзы спыталася яна.

«Уліп!» — прамільгнула ў галаве.

Іван падняў яе галаву з каленяў. Насцярожана, з бояззю глянуў у твар. Яна ўсміхнулася:

— Напалохаўся?.. Эх, ты! Нічога ты не зразумеў, Ваня. Ну, ідзі! Болей мы з табою не сустрэнемся.

У яго адлягло на сэрцы. «Праўда, канчаць гэтую валынку трэба,— падумаў ён.— Далей у лес — болей дроў. А дровы нам не патрэбны».

Ён падняўся і, чамусьці не адважваючыся вось так адразу пайсці, стаяў, пазіраючы на Аўгінню.

— Заблыталіся мы...— сказаў ён, не ведаючы, што можна сказаць у такія хвіліны.

— Дурненькі мой,— падхапілася з прызбы Аўгіння. Абняла, пацалавала яго ў шчокі, у лоб.— І нічога не заблыталіся. Ты ідзі, ідзі цяпер. Як бы нічога і не было. І не думай, і людзей не слухай. А калі часам успомніш, на тым дзякуй. Толькі сустракацца нам болей не варта.

Яна яшчэ раз пацалавала яго, на нейкае імгненне прытулілася галавой да грудзей і тут жа адштурхнула.

— Ідзі, а то адно расстройства...

Папраўдзе, дык ён тады нават абрадаваўся, што выбавіўся з лясной прыгоды, хоць яшчэ да самай зімы прыгадваў і чорныя бяздонныя вочы Аўгінні, і яе нястрымныя, гарачыя ласкі.

Потым памяць пакрылася халоднай лядовай скарынкай. Ды і нішто не нагадвала пра Аўгінню.

А напрадвесні наступнага года дакацілася да Крутых Горак чутка, што Аўгіння нарадзіла хлопчыка. У крутагорцаў не выклікала гэта ні вялікіх плётак, ні абгавораў. Навіна ўразіла бадай аднаго Івана. З тыдзень хадзіў ён сам не свой, адольвала цікавасць: ягоны сын ці чужы? Па часе падобна, што ягоны. Але ўпэўненасці не было. Іван гнаў ад сябе настырныя, надакучлівыя думкі, а яны вярталіся зноў. Не давалі спакою. Сам не разумеў, чаму яму трэба ведаць, ад каго нарадзіла Аўгіння? А калі і ад яго? Хіба што пераменіш?

І ўсё ж карцела пабачыць Аўгінню. Нібы чорт падбухторваў на спатканне. Разы тры Іван намерваўся пайсці ў Грыбава, але адвагі не хапала.

А тады і зусім нечакана сустрэў Аўгінню ў Астрошыцах.

Ён убачыў яе здаля, адчуў, як перахапіла дыханне. Яна ішла з сынам на руках, мабыць, нічога не заўважаючы, узіраючыся толькі ў сынаў тварык.

— Аўгінка,— паклікаў ён яе.

Яна адарвала позірк ад сына, убачыла яго і пачырванела. Ён і сам пачырванеў, збянтэжыўся.

— Куды ты?

— На кансультацыю прывезла,— сказала яна.— Якраз машына ішла, дык прывезла...

Аўгіння старанна адводзіла вочы.

— Што ж ты не сказала?..— адважыўся ён.

— Дык во і сам даведаўся... На цябе падобны. Глянь во...

Ён зазірнуў у зморшчаны тварык, але нічога на сябе падобнае не заўважыў.

— Сказала б... А то людзі плявузгаюць...

— А мне што? — запальчыва, як бы з крыўдай у голасе, адказала яна.— Пустым коласам у зямлю класціся не хачу. Таго людзі зразумець не могуць. Ну і няхай.

— Смелая ты...

— Да трыццаці трох асмелішся,— усміхнулася яна і раптам спахапілася: — Стаяць нам з табой не варта, а то і не ўгледзіш, як сарока на хвасце панясе.

— Я прыйшоў бы...— нясмела сказаў Іван.

— Не, не... не свабодны ты... не хачу я... Ну, бывай, Ваня.

З таго часу яны і не сустракаліся. Бачыцца бачыліся, а гаварыць не даводзілася.

І вось цяпер Дабрэню вяла ў Грыбава тая даўняя прыгода і нейкая неасэнсаваная патрэбнасць сустрэцца з Аўгінняй.

За імшарай Іван павярнуў направа, каб не ісці вуліцай, а, як бывала, па агародзе.

Над вёскай сям-там гарэлі на слупах ліхтары. Ярка свяцілі вокны ў хатах, хоць было даволі позна.

Дабрэня дайшоў да таго месца, дзе пачынаўся Аўгіннін агарод, павярнуў на яго і раптам спыніўся ў нерашучасці. На двор высейвалася з акна яркае, белаватае святло. Яно выхоплівала з цемры нешырокую стужку вытаптанай зямлі, шэрую сцяну хлява, да якой прыслонены стаяў матацыкл. Гэты матацыкл найбольш і збянтэжыў яго. Значыць, нехта ёсць. Не сама ж ездзіць!..

Ён хацеў быў павярнуць назад, але нешта ўтрымала яго, можа, рэўнасць, што варухнулася, як мядзведзь у бярлозе.

Асцярожна, каб не нарабіць шуму, ён, пракраўся на двор, нырнуў пад паветку. Адтуль, троху наўкось, добра відаць было асветленае акно. За ім стол. За сталом сядзеў хлопец, нешта пісаў, схіліўшы галаву.

Больш нічога не было відаць. Хіба толькі пад сінім абажурам лямпа, якая добра асвятляла хлопцаў твар.

Іван старанна ўглядаўся ў хлопца і не мог разгледзець яго як трэба. Нібы сухая, калючая плёнка засцілала вочы. Усё бачылася невыразна, як праз сіта.

Праз гэтае сіта ён убачыў, як хлопец прыўзняў галаву, засмяяўся і нешта сказаў.

Івана бы разанула па сэрцы. Гэтая ўсмешка яму была добра знаёмая — матчына ўсмешка. Але не толькі гэта ўразіла яго. Іван здагадаўся, што ў хаце нехта ёсць яшчэ. Напэўна, Аўгіння. Яму стала цяжка стаяць. Ногі зрабіліся як ватныя. І ён сеў на калоду, не спускаючы вачэй з асветленага акна.

Аднекуль, як на экране тэлевізара, паявілася Аўгіння. Яна таксама смяялася і нешта гаварыла, абняўшы сына за плечы.

Іван аж прыўзняўся, стараючыся разгледзець яе.

Тым часам хлопец ускочыў з крэсла, пасадзіў на яго маці, а сам адышоўся. Мусіць, ён нешта рабіў такое, што маці паглядала на яго, замілавана ўсміхаючыся. Неўзабаве ён паявіўся з талеркамі ў руцэ. Паставіў іх на стол. Маці нешта сказала яму, ён ухапіўся за галаву, і яны зноў пачалі смяяцца.

Нарэшце яны сталі вячэраць.

Цяпер Іван упэўніўся, што трэцяга ў хаце няма. Але перапыняць іх вячэру яму не хацелася. «Павінна ж яна выйсці на двор,— думаў ён, назіраючы, як вячэрае Аўгіння з сынам.— Дачакаюся тут, а то ўвалюся... ні званы, ні гаданы...»

Па вуліцы, разразаючы цемру святлом фар, ішла аўтамашына. Яна набліжалася сюды. І Дабрэню стала страшна. А што, калі яе муж?.. Можа, чакалі, чакалі яго, ды і селі за стол.

Машына, сапраўды, спынілася насупраць. Пачуліся мужчынскія галасы. Іван падхапіўся з калоды, прыціснуўся да сцяны.

«Папаўся»,— падумаў ён, пачуўшы, як рыпнула брамка.

Але цяпер ужо дзявацца не было куды, і ён стаяў, затаіўшы дыханне.

— Во, якраз пад вячэру трапілі,— прагучаў як побач мужчынскі голас.

— Угу!

Хтосьці з іх пастукаў у акно.

— Аўгіння, выйдзі на хвілінку.

«Не, здаецца, не муж. Так нехта»,— у Івана адлягло на сэрцы.

Рыпнулі, грукнулі аб сцяну дзверы. І адразу ж пачуўся знаёмы Аўгіннін голас.

— Што гэта вы, паўночнікі?..

— А ты, памаеш, не чакала. Шыфер прывезлі. Памаеш, гарэлку стаў...

— Патрэбен мне ваш шыфер...

— Ну, во, казаў табе,— пачуўся другі мужчынскі голас.

— Ты, памаеш, не дуры. Везлі ёй, памаеш, а яна ў кусты.

— Дык жа, нябось крадзены...

— Да ты што? — абурана выгукнуў мужчына.— Дзе гэта, памаеш, яго ўкрасці можна. Табе спецыяльна бралі.

— Дакумент жа ёсць,— азваўся маўклівы мужчына.— Чын чынам.

— І колькі вам? — спыталася Аўгіння.

— Па закону, памаеш,— павесялеў гаваркі.— Кошт тавару па дакументу. А нам, памаеш, па дзесятцы. Ну і бутэльку, само сабой.

— Абыдзецеся і без бутэлькі. Давай дакумент. Ваня, хадзі сюды.

Дабрэню здалося, што Аўгіння кліча яго. Ён аж падаўся наперад. Толькі пасля зразумеў, што Аўгіння клікала сына.

«Па мне назвала»,— падумаў ён.

— Дакумент правільны,— ломкім голасам сказаў Ваня.

— А я, памаеш, што казаў,— закрычаў гаваркі мужчына.— Куды згружаць будзем? Пад паветку?

«Цяпер ужо не выкручуся»,— падумаў Дабрэня.

Але Аўгіння выратавала яго:

— Вось сюды, пад страху складзіце.

Пакуль яны згружалі шыфер, пакуль Аўгіння разлічвалася з імі, Іван сядзеў у кутку, як мыш пад венікам. Яго то разбірала злосць на сябе, то станавілася смешна...

Нарэшце прадаўцы шыферу развіталіся. Іван выглянуў з-пад паветкі. Аўгіння зачыняла брамку. Ён ціха паклікаў яе. Яна спалохана крыкнула:

— Вой, хто гэта?..

— Не палохайся... Іван... Дабрэня.

Ён выйшаў з-пад паветкі, зірнуў у акно. Убачыў у хаце сына — асмялеў.

— Божа мой, адкуль ты?.. Чаго?..

Яна была ўсхваляваная, разгубленая. Стаяла, сашчапіўшы рукі на грудзях.

— Ды во, праведаць прыйшоў... як бывала...

Ён гаварыў напаўшэпт і ўсё паглядаў на акно, чамусьці баючыся, што хлопец выйдзе на двор.

— Здурэў ты... праз столькі гадоў...— таксама шэптам сказала Аўгіння.

— Не сцярпеў, во, праз ноч ішоў... Сына Іванам назвала, а я і не знаў.

Яму здалося, што Аўгіння як бы пахілілася да яго, і ён абняў яе за плечы. Але яна неяк спалохана вызвалілася з яго рук.

— Не трэба, Іван. Не маленькія мы. Ды і сын яшчэ ўбачыць...

— Ну і няхай... Не чужы я...

— Ма-ма! — гукнуў з хаты хлопец.

Іван адразу ж адскочыў ад яе на крок, зладзеявата прыслухаўся.

— Чаго табе? Зараз іду,— задужа гучна азвалася Аўгіння.— Ты ідзі, ідзі. Другім разам неяк...— напаўшэпт гаварыла яна, ледзь не сілком выпраўляючы Дабрэню за брамку.

Зачыніла. Прыхінулася спіной да брамкі. Чула, што Дабрэня стаіць па той бок.

— Іван, богам прашу, ідзі...— ціха, але настойліва папрасіла яна.

— Ды ўжо ж...— адгукнуўся ён.

## 12

Кіраўніцтва калгаса перайтрасала спісы даярак, меркавала і так і гэтак, каго скараціць, а каго пакінуць аператарамі. Вежнявец як у ваду глядзела: нават тыя даяркі, што калісьці не вельмі трымаліся працы на ферме, цяпер не хацелі трапляць пад скарачэнне.

Каб ніхто не перашкаджаў пераглядаць спісы, Берасцень замкнуў кабінет, паклаў ключ у кішэню. Папыхкваючы люлечкай, Крывіцкі пажартаваў:

— Салому забыліся ўзяць. Ты па селектару распарадзіся, каб прынеслі...

Заклапочаны навалам неадкладных спраў, Берасцень не зразумеў жарту.

— Спаць, можа, уздумаў, дык часу няма,— сказаў ён Крывіцкаму.— Сядайце, таварышы, ды па-дзелавому абмяркуем...

Праўленцы садзіліся на свае месцы, гучна соўгаючы крэслы.

— Салому бяруць не дзеля таго, каб спаць,— усміхаючыся, гаварыў Крывіцкі.

— А дзеля чаго ж?.. Вечна ты,— Берасцень незадаволена зыркнуў на парторга.

— Калі папу рымскага выбіраюць,— памалу цадзіў словы Крывіцкі,— дык кардыналаў замыкаюць, як ты нас. І есці ім не даюць. Адно пук саломы. Калі прыйдуць кардыналы да згоды, запальваюць салому. Убачаць дым з коміна, адмыкаюць іх.

— З табой ад голаду падохнеш, а да згоды не прыйдзеш,— зразумеўшы нарэшце розыгрыш, адказаў Берасцень.— Ды і не папу рымскага мы выбіраем. Так што без саломы абыдземся...

— Паглядзім,— сказаў Крывіцкі.

Лёгкая, як здавалася Берасценю, справа аказалася зусім не лёгкай. Кожны адстойваў свае кандыдатуры, кожны меў свой прынцып. Праўленне засядала амаль дзве гадзіны, пакуль нарэшце не прыйшлі да згоды. І то толькі таму, што Берасценю надакучыла слухаць спрэчкі. Ён узяў спіс, выкрасліў адных, дапісаў другіх і голасам, які не пакідаў надзей на далейшае пярэчанне абвясціў:

— Быць, як кажуць, па сяму...

Цяпер трэба было абвясціць рашэнне даяркам. Берасцень, спасылаючыся на сваю вялікую занятасць, хацеў спіхнуць гэтую справу на загадчыка комплексу Максіма Дудака, але той, пакрыўджаны, што не ўлічылі яго прапановы, наадрэз адмовіўся.

На ферму паехалі трох: Берасцень, Крывіцкі, Завідны. Прыехалі ў час. Даяркі, падаіўшы кароў, чакалі іх, гаманілі, разбіўшыся на групкі.

Берасцень першы выскачыў з «газіка», пайшоў да жанок, весела ўсміхаючыся. Вітаўся за руку. Кожнай з даярак знаходзіў некалькі слоў. Раней жанкі не за-

ставаліся ў даўгу, адказвалі хто жартам, хто сур'ёзна. Сёння даяркі маўчалі. Адна толькі Ліпская спыталася:

— Прысуд прывёз, старшыня... І не паскардзішся. Да бога — высока, да начальства — далёка.

Берасцень пастараўся не пачуць яе з'едлівых слоў. Папрасіў жанчын садзіцца, каб лепей было гаварыць.

Даяркі расселіся на траве паўкругам, моўчкі пазіралі на Берасценя, які стаяў, засунуўшы рукі ў кішэні.

— Пачнём, мабыць,— сказаў Берасцень, пазіраючы чамусьці на Марыю Дабрэню. Яму ніхто не адказаў.— Пабудавалі мы комплекс, і гэта вам вядома. А што такое комплекс, пакуль не ўсім ясна.

Ён зрабіў паўзу, каб прыцягнуць увагу жанок, але як толькі замоўк, нехта з даярак узбуджана выгукнуў:

— Не цягні ты, ведаем.

Яе падтрымалі другія.

— Каго пакідаеце?..

— А мы куды?..

— Бабачкі, на адпачынак, заслужаны.

— Ціха вы, дайце чалавека паслухаць...

— Слухай, калі цікава.

Берасцень цярпліва перачакаў гоман. Як бы нічога не здарылася, гнуў сваю лінію.

— Дык вось, таварышы, комплекс — гэта не проста вялікая ферма, а індустрыяльнае рашэнне нашай самай галоўнай праблемы — жывёлагадоўлі.

— Ну, гэта мы знаем! Граматныя! — выгукнула Алена Ліпская.

Яна сядзела, выцягнуўшы перад сабой ногі ў чорных гумавых ботах.

— А ты памаўчала б, можа, хоць сёння,— павысіў голас Берасцень і тут жа зразумеў, што зрабіў памылку.

Даяркі загулі, паўскоквалі з зямлі.

— Самі гэты комплекс чакалі...

— Аб'яўляй, хто застанецца...

— Плакаць не станем.

— Заплачаш...

— А-цю, хоць адпачнём...

— На курорце хіба...

— Хату толькі збіралася перанатрэсці — на табе.

Берасцень чуў толькі паасобныя выгукі тых, хто знаходзіўся бліжэй.

Стаяў неверагодны гоман. І Берасцень не ведаў, як супакоіць жанчын.

Ён дастаў спіс.

Як толькі даяркі пабачылі ў руках старшыні паперку, настала насцярожаная цішыня. Берасцень зачытаў прозвішчы. Чакаў, што даяркі зноў загамоняць. Але яны маўчалі. А ён стаяў, не ведаючы, што далей рабіць.

— Ну што, бабы, па хатах,— пачуўся чыйсьці голас.— Адваяваліся...

Даяркі зноў паўскоквалі, пачалі разбіраць даёнкі. Засталося толькі шасцёра тых, каго пакінулі на ферме. Яны збіліся ў гурт, вінавата пазіралі на тых, хто ішоў у вёску.

Трэба было нешта сказаць, але Берасцень не знаходзіў слоў.

За час, пакуль будавалі комплекс, Берасцень склаў у галаве план урачыстых провадаў даярак з фермы. Усё выйшла не так, як думалася. І ў тым, што здарылася, Берасцень адчуваў зараз сваю віну. Не дапяў розумам, спадзяваўся, што жанчыны ўзрадуюцца, калі іх вызваляць ад цяжкай працы. Вызвалілі, а яны незадаволены.

— Дык вось, таварышы,— парушыў ён маўклівасць,— сёння ўвечары пачнеце працаваць на «елачцы». Галоўнае, канечне, прывучыць кароў заходзіць у станок, на сваё месца. Астатняе асвоіце — не вялікая навука... Дзяўчаты з курсаў пакажуць. Ды вось і заатэхнік... Завідны. Калі што незразумела, звяртайцеся да яго.

Ён цадзіў словы, абы нешта гаварыць, абы пазбыцца непрыемнага адчування сваёй вінаватасці.

— Жадаю, значыць, поспехаў...

— Дзякуем,— адзінока прагучаў чыйсьці голас.

Ля машыны Берасцень затрымаўся, убачыў, што да яго ідзе Марыя.

— Можа, падвезці цябе? — спытаўся ён.

— Дайду, не спяшаюся... А ты, Рыгоравіч, не перажывай. Абыдзецца. Яно калі падумаць, дык нібы і радасць, але маркотна дужа. Рабілі, рабілі, а цяпер во разышліся... Як згубілі што...

## 13

Насці хацелася як наймацней здружыць, звесці Ліду з Сяргеем. Хлопец падабаўся ёй усё больш. Разважлівы, разумны, не які-небудзь там гарадскі хлюст, што і жыцця таго гарадскога паспытаў на капейку, а гонару трымае на рубель. Праўда, Сяргей здаваўся ёй залішне ціхмяным, не па-сучаснаму сарамлівым, але ў мужчыны гэта зусім і не загана. Яе Крывіцкі таксама, на першы погляд, неразгаворлівы, ціхі, а крэмень, любіць на сваім паставіць. Лідзе якраз такі і патрэбны. Ды нельга ж з рахунку скідаць і тое, што Сяргей не проста прыдатны жаніх, а яшчэ і гарадскі. Чаго Ліда прычакае ў вёсцы? Петрачка? Дык ён жа яшчэ і ў арміі не служыў. Пойдзе, а ці вернецца? Мала іх такіх чакала хлопцаў з арміі?

Было б гэта ў Крутых Горках, Насця ведала б, што рабіць. Там спадручней перапыніць хлопца, запрасіць у хату, пасадзіць за стол. Можна, зрэшты, вечарынку зладзіць. Вёска не тое, што горад. Заставалася адно — запрасіць Сяргея ў рэстаран.

Думка гэта ўсплыла неяк нечакана і напачатку выклікала сумненне. Але іншага выйсця не было.

— Яно б і павячэраць не шкодзіла,— здаля павяла гаворку Насця, пазіраючы, як Сяргей спрытна вядзе машыну ў імклівай плыні іншых машын.— З мяне як бы і належыць. Трактар палучыла новы. Абмыць трэба ж.

Сяргей моўчкі вёў машыну, быццам гаворана было не яму. І гэта не абразіла, а, наадварот, спадабалася Насці. Па вясковаму іх крутагорскаму звычаю так і павінен быў рабіць сталы чалавек. Толькі бессаромны, нахалюга адразу згадзіўся б пагуляць за чужы кошт.

— А і дапраўды,— крыху счакаўшы, павяла яна новую атаку,— не блага было б пасядзець на людзях. А жанчынам адным бы і няёмка. Што ж ты, Ліда, прасі, во, Сяргея. Каб не ён, дык і ці пабачылася б з табой, ці паглядзела на тваё ныранне.

Яна павярнулася тварам да Ліды, каб падбухторыць тую позіркам.

— Я не супраць,— весела адгукнулася Ліда.— Лічы, з раніцы не ела.

— Ну, во, дзякуй богу, нас двое, так што па боль-

шасці галасоў, як кажуць, трэці абавязаны слухацца,— выгукнула Насця.

— Машына ж у мяне,— азваўся Сяргей.— Ды неяк і нечакана.

— А ты не хвалюйся. Мы і самі во, можа, не дужа па-гарадскому апрануты... Машыну загоніш у гараж. Адтуль якое таксі возьмем.

— Другім бы разам...— супраціўляўся Сяргей, але Насця так насядала, што ён нарэшце згадзіўся.

Нягледзячы на будні дзень, рэстаран быў запоўнены да рэшты, так што Насці давялося ісці да адміністратара. Той быў сказаў, што нічога не можа параіць, але ўгледзеў на грудзях Насці ордэны і медалі, памякчэў, паклікаў немаладую жанчыну, загадаў пасадзіць, хоць бы і на прыстаўным стале.

Ім, сапраўды, паставілі стол з боку ад эстрады, але зручна — відаць уся зала.

Насці дасюль даводзілася бываць у рэстаране, калі выклікалі на нарады, але тыя разы ўсё было іначай. Найчасцей ім адводзілі пэўныя сталы, кармілі, праўда, на выбар, але на тыя грошы, што адпускаліся для ўдзельнікаў нарады. Цяпер яна сядзела тут, як і ўсе, і гэта троху бянтэжыла яе.

Афіцыянтка паклала на стол меню, пайшла. Ніхто не адважваўся браць выглянцаваную, з залацістым надпісам картку: Насця нечага пабойвалася, можа, таго, ці здолее выбраць па густу страву, Сяргею было няёмка — госць жа, хоць цвёрда наканаваў сабе, што расплочвацца будзе ён, а Ліда ўсё паглядала, як ля эстрады, на пятачку, скачуць пад джаз людзі. Яе так і падмывала пайсці самой у скокі, але Сяргей чамусьці не запрашаў, і Ліду пачынала разбіраць на яго злосць.

Нарэшце Насця ўзяла картку, разгарнула яе, з якую хвіліну спрабавала разабрацца ў напісаным.

— Бяры-тка ты, хлопча, каманду. Усё ж часцей за нас бываеш тут,— сказала яна, падсоўваючы Сяргею меню.

— Таксама не часта,— чырванеючы, адказаў Сяргей.— Неяк аднаго разу на вяселлі быў.

І тое, што Сяргей сказаў, вельмі спадабалася Насці. «У мяне вока намётанае,— падумала яна.— Я адразу ўбачыла — самастойны хлопец».

— Ну, то разам і выберам,— падхапіла Насця.— Давай, Ліда, памажы нам адужаць задачу.

Ліда толькі чмыхнула. І яны ўдваіх пачалі раіцца, што варта заказаць. Сяргей разы тры звяртаўся да Ліды, як яна паставіцца, калі яны возьмуць вось гэта, але тая зноў жа чмыхнула, падколвала хлопца аж да няёмкасці.

Нарэшце паявілася афіцыянтка, не зводзячы вачэй з Насціных узнагарод, спыталася як бы незадаволеным, а можа, абыякавым голасам:

— Дык што вам прынесці?

— Кажы ты ёй, Сярожа, а то, можа, я што і не так вымаўлю,— пакрыўджаная абыякавасцю афіцыянткі, сказала Насця.

Сяргей, спяшаючыся, назваў, што трэба прынесці. Афіцыянтка моўчкі запісвала ў маленькую кніжачку.

— А я вас недзе бачыла,— раптам сказала яна Насці.— Ды вось даўмецца не магу.

Ад яе гэтых простых, па-вясковаму слоў Насці стала хораша, як бы сустрэлася з блізкім чалавекам.

— Ды ўжо ж і не ведаю. Хіба вы таксама з Астрошыцкага раёна. Тады чаму ж?..

— А ці не вы на мітынгу выступалі?

— Ды як жа, я... А вы хіба глядзелі?

— Ну, то віншую. Я ўсё думала, каму гэта наш Пятровіч стол прыстаўны загадаў паставіць. Тут і так з ног збілася. Аж гэта вам. То іншая справа. З вёскі ў нас мала калі бываюць. Гэта ж не пры гасцініцы... Дык я зараз абслужу вас.

І яна, сапраўды, заспяшалася. А Ліда насмешліва паглядзела на Насцю.

— Ты, цётка, папулярная, як кіназорка,— сказала яна.

— Пазайздросціла,— адгукнулася Насця.— Лепей бы пайшлі патанцавалі. Хвацка іграюць, аж не ўседзець, хоць і не па-нашаму.

— Пойдзем? — спытаўся Сяргей, як бы набраўшыся смеласці.

— Дзякуй,— усміхнулася Ліда.— Добра, што цётка намякнула, а то ці здагадаўся б.

Сяргей збянтэжана заморгаў рудаватымі вейкамі, а Ліда гучна засмяялася.

— У кожнай Палашкі — свае замашкі. Думаеш, у Крутых Горках дык усе без'языкія?

Насці падабалася Лідзіна смеласць, уменне пакпіць, пажартаваць, але нешта і засмучала яе. Можа, баялася, што Лідзіна баявітасць напалохае Сяргея, або, яшчэ горш, той падумае, што дзяўчына несур'ёзная, кручаная. Яна пільна сачыла, як танцуе Ліда з Сяргеем. Нешта гаворыць яму, усміхаецца, а той сур'ёзна глядзіць на яе, як бы не разумее, што яму кажа Ліда.

Афіцыянтка прынесла заказ, расстаўляючы на стале талеркі, спыталася:

— Дачка ваша?

— Пляменніца...

— Прыгожая. У горадзе працуе?

— Ды не. У калгасе.

— Яно там цяпер лягчэй,— сказала афіцыянтка.

— А ўсё ж у горад цягне,— адказала Насця.

— А гэта ж хто? Жаніх?

— Пакуль не. З завода ён. Трактар мне перадаваў сёння...

Ёй вельмі захацелася пагаварыць з гэтай маладзічкай, параіцца, распытаць, якой яна думкі пра Сяргея, але аркестр перастаў іграць, і Ліда з Сяргеем ужо ішлі да стала.

— Ну, во цяпер і выпіць можна і закусіць,— сказала Насця, наліваючы чаркі.— Давайце першую чарку за знаёмства. Ты мне, Сярожа, як свой. Бывае ж такое: толькі пабачыў чалавека, а ўжо і палюбіў яго.

— Нешта вы, цётка, у радню набіваецеся,— падкалола яе Ліда.— А можа, Сяргей і не думае жаніцца.

Гэтая Лідзіна прамата аж здзівіла Насцю. «Ну і язык! — падумала яна.— Аж няёмка, аж сорамна. А ёй хоць бы што. Яшчэ выскаляецца. А ён вунь зусім чырвоны стаў. Вушы і тыя гараць».

— Гэта ўжо не мне рашаць. Вам самім,— знайшлася Насця.— А мне з вамі пасядзець дужа прыемна. Так што за знаёмства.— Яна выпіла чарку, папярхнулася і весела засмяялася: — П'яная буду... Ну і няхай...

Занятыя сабой, яны і не заўважылі адразу, як на эстраду выйшла спявачка ў доўгім чорным плацці, якое так і зіхацела нашытымі на яго блёсткамі. Насця першая ўбачыла спявачку.

Яна ледзьве не крыкнула ад радасці, што ўбачыла Надзю, але нешта стрымала яе. Насця ведала, што Надзя спявае ў філармоніі, і нават у адрозненне ад Марыі ганарылася гэтым. Але яна не чакала ўбачыць яе ў рэстаране. Ёй раптам падалося, што спяваць тут як бы і непрыстойна. Ды хто ведае, што падумае Сяргей.

Надзя тым часам узяла мікрафон, падышла на самы край эстрады, пачала шаптацца з кудлатым, вусатым музыкантам. Нешта трэба было рабіць. Неяк папярэдзіць Ліду. Насця пад сталом штурханула нагой Ліду. Тая няўцямна паглядзела на цётку. Насця вачыма паказала, каб тая азірнулася.

— Божа, гэта ж Надзя! — здзівілася Ліда.— Мая сястра,— растлумачыла яна Сяргею.

«У іх усё проста»,— падумала Насця і паспакайнела.

Надзя спявала, пазіраючы кудысьці паўзверх людзей, што танцавалі ўнізе. Яна не заўважала ні Насцю, ні Ліду. Толькі тады, як кончыла песню, азірнулася ў іх бок, можа, таму, што яны мацней за ўсіх пляскалі ў далоні. На яе твары адбілася здзіўленне, збянтэжанасць, але яна тут жа авалодала сабой, пачала новую песню.

Праспяваўшы нешта аж чатыры песні, яна схавалася за шырмай, нават не глянуўшы ў іх бок. Але неўзабаве выйшла ўжо праз дзверы ў звычайнай сукенцы, падышла да іх, вінавата ўсміхаючыся.

— Адкуль вы тут, во неспадзявана,— Надзя абняла Ліду, пацёрлася шчакой аб шчаку, абышла стол, абняла цётку.— Гляджу і вачам не веру.

Яна зірнула на Сяргея кароткім позіркам, мабыць, здагадаўшыся яшчэ раней, чаго гэты хлопец з імі, але не ведаючы, хто ён і якім чынам тут.

Надзя працягнула яму руку.

— Сяргей...

— Гэта ж ён сёння мне трактар перадаваў,— пачала тлумачыць Насця.— Ты, мабыць, і не ведаеш, а мне сёння трактар уручылі, мільённы. Таму і прыехала. А ты як жывеш? А то ўсё пра сябе ды пра сябе.

— Жыву... Паглядзелі б... Во давайце зараз і пойдзем. Тут недалёчка...

Чацвярых яны ішлі па аціхлых ужо вуліцах горада. Насця з Надзяй трохі паперадзе, Ліда з Сяргеем за

імі. Надзя, і сапраўды, жыла непадалёку, кварталы праз тры. Ля пад'езда Насця з Надзяй прыпыніліся, пачакалі Сяргея. Але той наадрэз адмовіўся ісці ў дом.

— Вам пагаварыць трэба, а я лішні. Ды і на працу заўтра трэба,— стаяў ён на сваім.

Як толькі Сяргей пайшоў, Насця не вытрымала, спыталася пра тое, што рупіла ёй:

— Ну як, Надзечка? Ты ж ужо гарадская! Які ён чалавек?

Надзя паглядзела на Ліду, убачыла нейкі невыразны смутак на яе твары.

— Здаецца, добры...

Яны падняліся на другі паверх, зайшлі ў кватэру.

— І мне здаецца, добры, самастойны. А яна во ўсё нечага пасміхаецца з яго,— кіўнула Насця на Ліду.

Тая стаяла, прыхінуўшыся галавой да вушака.

— Хопіць, можа, хопіць! — раптам закрычала Ліда.— Не лезьце мне ў душу, чуеце?

Яна кінулася да тахты, упала на яе тварам уніз.

— Што гэта з ёю? — здзівілася Насця.

## 14

Вярнуўшыся з Грыбава Іван не стаў будзіць гаспадароў, забраўся ў хлеў, лёг на сене. Апошняя надзея на сталае жыццё развеялася, як ранішні туман, але ад гэтага не паяснела. Наадварот, далейшы лёс уяўляўся цьмяна і невыразна. Раней дык хоць тлела кволенькае спадзяванне, што Марыя даруе яму. Цяпер і гэта здавалася неверагодным. Нешта змянілася, перайначылася ў Крутых Горках. Навошта ён Марыі, калі Берасцень, які, бывала, хапаўся за кожнага чалавека, абы той хоць што-небудзь мог рабіць у калгасе, нічога не прапанаваў, а як бы нават адмахнуўся?

Думаючы так, Дабрэня ўсё больш пераконваўся, што тут ён, як выкінуты на сметнік атопак.

«Ну, гэта мы яшчэ паглядзім,— не хацеў пагадзіцца Дабрэня.— З гарадской прапіскай не прападу. Уладжуся куды на базу экспедытарам — работа не бі ляжачага, а выгод многа». Але тут жа ўзнікла цвярозая развага. Трэба будзе шукаць кватэру, бегаць па сталоўках, мыць бялізну, бавіць вечары ў цесных каморках чужых дамоў. Можна, канечне, знайсці жанчыну.

Ці мала іх, адзінокіх, па гарадах? З радасцю пойдзе замуж, абы не жыць адной. І настане тое неакрэсленае, зыбкае суіснаванне, якое было ў яго з Алімпіядай Чарушынай. А гады не тыя, а галоўнае, не тое ўжо здароўе, ды і душа просіць спачыну.

Выходзіла так, што і ехаць яму няма куды, і тут заставацца няма сэнсу — хоць галавой у пятлю.

Заснуў ён толькі недзе пад раніцу, але моцна, як, бывае, засынаюць пасля цяжкай, надакучлівай працы.

Разбудзілі яго жаночыя галасы. Нават прысніўся нейкі дзікі сон: вялізны жаночы хор на цёмнай захламленай сцэне, якім ён спрабуе кіраваць.

На двары весела, дружна гаманілі жанчыны, аж не было зразумець, чаго яны сабраліся там. Дабрэня ляжаў, слухаў. Паказвацца не хацелася.

У лазе паявілася нястрыжаная, ускудлачаная галава Арцёмкі.

— Прачнуўся ўжо? А я трэці раз заглядаю; ну і даеш — спіш як пшаніцу прадаўшы.

Арцёмка сеў на сена, адставіўшы пакалечаную нагу.

— А я во сон згубіў. Прадзяру вочы на досвітку, як бы і рана падымацца, а сон не бярэ.

— А што ў цябе за зборышча? — пацікавіўся Дабрэня.

— Даяркі. Іх сёння падчыстую... так сказаць, на вольны хлеб.— Ён выглянуў з лаза, пракаменціраваў: — Гудуць... Незадаволены, як жа! Самастойнасці пазбавілі. Бабы, брат, цяпер у самай сіле. А што? На трактары — яны, на ферме — яны. Бабскае царства, дый годзе!

Арцёмка блазнавата зарагатаў, паваліўся жыватом на сена.

— Цяжкавата табе будзе,— паспачуваў яму Дабрэня.

— Пераб'ёмся,— весела выгукнуў Арцёмка.— Багацце — лішні клопат. Я табе так скажу: чалавеку ўсё мала. Колькі ты яму ні давай, а ўсё мала. З-за таго і разлады, недавольства. Чалавек, ён на працы пнецца, аж пуп трашчыць. А дзеля чаго? Вот вапрос. Мне такая праца, каб за грошы, ненавісная, як самы апошні вораг. Ты мне золатам плаці, а калі праца не па душы, калі я, апрача зморанасці, нічога не адчуваю, пайшла яна пад такую-разгэтакую.

— Таму ты і не робіш? — усміхнуўся Дабрэня.

Кульгавы Арцёмка нагадваў яму самога сябе гадоў дваццаць назад, з той, аднак, розніцай, што ён, Дабрэня, грошай не цураўся.

— Чаму не раблю? — выгукнуў Арцёмка.— Без работы няможна. Каб жыць самому і дзяржаву трымаць, трох гадзін працы во так хопіць, па завязку. Гэта не я выдумаў, у нейкай газеце чытаў.

Арцёмкава смешная гамонка развесяліла Дабрэню. Можа, і праўда, трэба жыць так, як ён. Ні пра што не дбаць. Як гоніць плынь, так і плыві.

— Значыцца, ты як птушка нябесная — ніякіх клопатаў?

— У мяне свая філасофія,— паважна зазначыў Арцёмка.— Я яшчэ тады, як смалакурню сцярог, прыдумаў яе. Спярша аж не паверыў сабе. Дражнюся: а што, калі б табе, Арцём Герасімавіч, вось зараз тысячу рублёў адвалілі? Жах! Увесь год можна нічога не рабіць. Ляжы сабе, падставіўшы сонцу пуза, загарай. Любата! Ды і зноў жа сваім розумам даходжу. Глупства ўсё. Ну, скажам, куплю я сабе касцюм, туфлі, гадзіннік на руку, акуляры дзеля важнасці. Ну і што? На ліха яны мне ў лесе.

— Пайшоў бы ў горад. Там рэстараны...

Арцёмка заматаў галавой.

— І рэстараны глупства. Ну, наясіся, нап'ешся. А далей што?

Дабрэню напачатку здалося, што ў словах Арцёмкі ён зачапіў для сябе нешта важнае, тое, што шукаў усё жыццё, з-за чаго куралесіў па свеце. Але той, як заяц, заблытаў след.

— Яно відаць, што ты сам да гэтага дадумаўся,— як бы абрываючы гаворку, зазначыў Дабрэня.— Не зразумець цябе, куды ты вядзеш: ці ў брод, ці ў прорву.

— А ты не перабівай,— загарачыўся Арцёмка.— Умей слухаць. А вяду я во да чаго. Значыць, будучай нашай жызні мяжа такая: ад кожнага па здольнасці, кожнаму па патрэбнасці. Так? І я за гэта. Добра!.. Але ж падумай, Кірылавіч, як яно выходзіць. Патрэбнасці нашы растуць?

Арцёмка, прыжмурыўшы вока, хітравата зірнуў на Дабрэню.

— Так, растуць,— адказаў Дабрэня.

— Во! А здольнасці? То-та ж. Стаяць здольнасці. Значыцца, нада патрэбнасці свае ўразаць. А ты кажаш...

— Нічога я не кажу...

Са двара, знізу, пачуўся голас Алены:

— Ну што ты там балабоніш, ну чаго?! Злазь, во дроў нарэж...

— Зараз,— высунуўшы галаву ў лаз, азваўся Арцёмка і павярнуўся да Івана.— Во, камандуе. Я, братка, часта думаю: ну чаго баб на генеральскія пасады не пушчаюць? Мусіць, толькі таму, што баяцца. Калі хоць адна паявіцца сярод генералаў — хана ім...

Арцёмка задам пачаў злазіць з хлява. За ім палез і Дабрэня.

З жанчын засталася толькі адна Хвядоса Дудака ўдава, Вольга. Белатварая, прыгожая.

— А-а-а, Кірылавіч! Во дзе ты ад баб хаваешся,— засмяялася яна, падаючы яму па-мужчынску загрубелую руку.— А дарэмна хаваешся. Нашы бабы не гарадскія. Тыя сушаць мужыка, а нашы адкармліваюць.

— Ну, а ты як жывеш? — каб змяніць яе гаворку, спытаўся Дабрэня.

— Як гарох пры дарозе: хто ідзе, скубяне, а ён толькі буяе.

— Не губляешся?

— Дык жа наша справа такая, адзінокая. За так не спагадаюць, а калі не за так, дык і спагадаюць, і аблаюць.

— Вярзеш ты нешта на сябе, маладзіца,— абурылася Алена.

— На сябе нагаварыць — не баліць, горай, як людзі граззю аблепяць...

Дабрэня памятаў Вольгу яшчэ малым дзеўчанём. А з яе нябожчыкам мужам Хвядосам дык нават ваяваў крыху. Праўда, у партызаны Хвядос прыйшоў не як усе: у канцы сорак трэцяга года свае ж, крутагорскія, хлопцы выцягнулі яго з «падполля».

Дудакоўская гэтая парода — дзве сям'і зусім і не сваякі астатнім Дудакам — славілася ў вёсцы сваёй скнарлівасцю і скрытнасцю. Стары Дудак Сідар, Хвядосаў бацька, па вясковай мянушцы Наздрак, адседзеў у пограбе ўсю тую вайну. Па прыкладу бацькі, Сідары-

ха засадзіла сына ў схovішча пад хатай, як толькі ў лесе аб'явіліся партызаны. Там і адседзеў Хвядос, лічы, паўтара года.

У партызанах на яго глядзелі, як на дзіва, як на нейкага іншапланецяніна. Ніхто з ім не хацеў хадзіць ні на шашу ў засаду, ні ў разведку, ні нават на аперацыю. Не абстраляны, не абвучаны, а ў тыле, дзе трэба вытрымка і смеласць,— гэта і зусім дрэнна. Прыбіўся Хвядос да партызанскага шпіталя ездавым. Разы два толькі, як бралі гарнізон ды яшчэ як выходзілі з блакады, удзельнічаў у баях.

Пасля партызанства прызвалі Хвядоса ў армію. І ўжо не ездавым. У першым баі, недзе за Беластокам, яго моцна параніла. Ачуняў ён толькі зімой сорак пятага. Зноў паслалі на фронт, у Нямеччыну. Адтуль ён і пераслаў бацькам пасылку — падаруначак, а з пасылкай кароценькі ліст з наказам: нічога з прысланага не кранаць. Сам вернецца, тады распарадзіцца.

Бацькі ўсё ж не выцерпелі, адкрылі цяжкаватую па вазе скрынку, здзівіліся з сынавай дурасці. Не мог чаго-небудзь людскага прыслаць, як бы насмешку ўчыніў. У скрынцы ляжала кілаграмаў, можа, з дзесяць нейкіх дзіўных цвічкоў, востранькіх, тоўсценькіх, але без галовак-плешак. Памеркавалі, падумалі і вырашылі: няхай ляжаць. Закінулі на гарышча; есці не просяць, няхай пачакаюць гаспадара.

А той зноў ужо ляжаў у шпіталі.

Вестак ад яго не было аж да саменькіх каляд.

Прывезла яго ў Крутыя Горкі шпітальная сястра. Калі ваенкамацкія сані спыніліся пасярод вёскі, ля Сідаравай хаты, да іх збегліся ледзьве не ўсе крутагорцы.

— Прыхваціла хлопца...

— Дзякуй богу, што такі вярнуўся.

— Сідар двух месяцаў не дачакаўся...

— Смерць не чакае...

Сярод тых, хто збегся да Сідаравай хаты і дзяліўся цяпер уражаннямі, стаяла і рабаватае дзяўчо Волька. Глядзела на ўсе вочы і не думала, што на казённых санях і казённых мыліцах прыехаў у вёску яе незайздросны лёс.

Неўзабаве Хвядос знік з Крутых Горак. Нехта з крутагорцаў, пабываўшы ў Мінску, расказваў, што ба-

чыў Хвядоса на таўкучцы. Той прадаваў патэфонныя іголкі. Маленькая кучка — дзесятка. І то было праўда. Але не ўся. Хвядос, што праўда, гандляваў тымі іголкамі, якія прыслаў з Нямеччыны, але яшчэ, як інвалід, трымаў рулетку — прымітыўную ў тыя гады гульню. На іголках ды на рулетцы пакрысе агорваў капітал, клаў на кніжку ў ашчадную касу. Так і дажыў да першай грашовай рэформы.

Тады яму пашанцавала. З вайны выйшаў жывы, нават добра, што паранены. Каб быў здаровы, давялося б працаваць у калгасе, а так інвалід, ніхто прыдрацца не смеў. На іголках зарабіў. Скумекаў, што паслаць дамоў. У рулетку шэнціла. Вядома, не так, з божай дапамогай, а таму, што прыдумаў хітрасць. Размаляваны круг заўсёды спыняўся там, дзе ляжала наймеией грошай. Але найбольш шанцавала з ашчаднай касай. Каб узяў грошы, дык згубіў бы вунь колькі, а так за адну ноч разбагацеў.

Хвядос вярнуўся ў вёску. Ператрос хату — паставіў новую падрубу, прыбудаваў трохсценак, а да яго цёплыя сенцы. Купіў карову, двух падсвінакаў, завёў курэй і гусей, якіх звяла маці. Стаў гаспадаром. Не хапала толькі гаспадыні.

Вольцы тады мінула пятнаццаць гадоў. Якраз закончыла сямігодку. Выглядала не брыдкай і з твару, а паставай дык і зусім хоць куды, нібы збіцень той — кругленькая, пухлаватая, як здобная плюшка.

У мясаед, не дачакаўшыся, пакуль Вольцы споўніцца хоць шаснаццаць, Хвядос прыйшоў у сваты. Ягоная маці ў той час ляжала пластом на печы.

Вольчынай маці і хацелася, каб дачка пажыла ў багацці,— дачок у яе было пяцёра, ды яшчэ сын,— але баялася, што ў сельсавеце не запішуць.

Хвядос паабяцаў усё ўладзіць. Ездзіў недзе, прывёз Вольцы новыя метрыкі. Стала яна на два гады старэй. Так што вяселле гулялі па закону.

Доўга гуляць, аднак, не было часу. Волька ўпрэглася ў працу. Спраўлялася і ў калгас збегаць, каб соткі не абрэзалі, і дома папрацаваць. Калі не хапала часу, прыходзілі сёстры — памагалі.

Хвядосава хата стаяла побач з калгаснымі свірнамі. Неяк, калі ўжо нарадзіўся хлопчык, што цяпер ад-

бывае службу на флоце, Хвядос прывёў у хату вартаўніка, чорнага цыганістага Масея.

— Волька, — гукнуў ён жонку, — падай чаго на стол ды прысядзь з намі. Мне ж, сама ведаеш, не можна піць, а падтрымаць госця трэба.

З таго часу Масей вартаваў калгасны свіран у Хвядосавай хаце. З вечара правяраў замкі на свірне ды клаўся спаць на ляжанцы. Раніцай зноў правяраў замкі.

А ў Хвядоса ноччу хапала нейкіх спраў. То ішоў гуляць у карты аж у другую вёску, то з'язджаў у райцэнтр, каб выбіць большую пенсію.

А вясной злавілі Хвядоса, калі ён, залезшы пад свіран «даіў» засек. У падлозе следчы з міліцыі выявіў аж пятнаццаць акуратна прасвідраваных дзірачак і такіх жа акуратна зробленых затычак.

Хвядосу адмералі поўнай мерай з канфіскацыяй маёмасці. Усё пайшло прахам: і грошы, і хлеб, і маёмасць. Волька засталася пры чатырох вуглах.

Жыць неяк трэба было. І яна жыла, як умела, не дужа думаючы над тым, што прыстойна, а што і не прыстойна. Мужыкі шкадавалі яе. Бабы ненавідзелі. Але з часам і яны звыкліся.

З турмы Хвядос вярнуўся зусім хворы. Гады чатыры пажыў ды памёр неяк неспадзявана ў самую касавіцу, перад тым пабіўшы жонку да непрытомнасці.

Волька засталася ўдавой, з сынам і дачкой, што нарадзілася пасля вяртання Хвядоса. Зажыла цяпер вольна. Пайшла даяркай. Зарабляла няблага.

Пазіраючы на крамяны, малады Вольчын твар, на яе гнуткую постаць, Дабрэня прыгадаў адзін даўні выпадак. Неяк Волька папрасіла яго забіць кабанчыка. Як і водзіцца ў такіх выпадках, у канцы работы насмажыла свежаніны, паставіла на стол бутэльку.

Падвыпіўшы, Іван памалу пад'язджаў да Волькі, як бы жартам абдымаў, пагладжваў яе па крутых плячах. Але як толькі намерыўся на большае, Волька схапіла чапялу, злосна зыркаючы чорнымі вачыма, папярэдзіла:

— Ты, Іван, не таго, рук не распускай дужа. Агрэю так, што на людзі не пакажашся.

«Праўда, мабыць, нагаворвае на сябе»,— падумаў ён, адчуваючы няёмкасць, што сам жа і падбіў яе на такую гаворку.

— Дык што ж цяпер рабіць маеш? — спытаўся ён, як бы спачуваючы Вольцы, што яе не пакінулі на ферме.

— Абыдуся,— весела выгукнула Волька.— Не сямёра абсела. На сябе зараблю. Сын напісаў, што застанецца на флоце. А дачка пасля васьмі пайшла на краўчыху вучыцца. А ты, Кірылавіч, пастарэў. Знаць, кідацца па свеце таксама не соладка? Як ні круціся, а дадому цягне.

Яна змяніла той жартаўлівы тон, што быў у яе напачатку, на даверлівы і спачувальны. Ён аж крануў Дабрэню.

— Хварэў я. Ды і па Крутых Горках засумаваў. Настальгіяй гэта называецца. Кажуць, што людзі нават паміраюць ад яе.

— Цяпер у нас, дзякуй богу, добра, жыць можна. Не тое, што некалі было. Палёгка людзям з усіх бакоў. І зарабіць даюць, і машыны ёсць. Ці паверыш, у раён ужо ніхто не хоча пешшу ісці. Давай машыну!.. Ды што ў раён. У сельсавет і то едуць.

— Індустрыялізацыя. Зліванне вёскі з горадам,— падхапіў Арцёмка.— Яшчэ і не тое будзе. Самі пераканаецеся.

— А што ўжо і можа быць? — спыталася Волька.— І так усё машыны робяць.

— Будзе,— паабяцаў Арцёмка.

Волька як бы і не пачула яго. Зноў звярнулася да Івана:

— А мы во надумалі адыходную згуляць. Разам рабілі, часу ўсё не было сабрацца, ды і ці будзе. Разыдземся па сваіх катухах. Дык хоць пасядзім увечары. Прыходзь, Кірылавіч.

— Дык жа вы, мусіць, сваёй, жаночай, кампаніяй збіраецеся? — пацікавіўся Дабрэня.

— Яно так. Але і ты адзінокі, як і мы. Так што прыходзь.

— Не выганіце — прыйду,— паабяцаў Дабрэня, хоць ісці не думаў.

Не хацелася трапляць на жаночыя языкі.

Не любіў гэтага Дабрэня.

## 15

Даўней складчыны былі ў модзе. На Міколу мужчыны збіраліся ў полі, на начлезе. Бралі хлеб, яйкі, сала, бульбу, цыбулю, гарэлку, нехта прыносіў патэльні, раскладалі касцёр ды і балявалі да раніцы. Жанчыны збіраліся на складчыну, закончыўшы жніво. Рабілі складчыны сямейныя, абрадавыя.

На складчыне кожны роўны, кожны прыходзіць са сваім — не трэба каму дзякаваць у канцы, хіба за хату, за тлум гаспадыні.

Але апошнім часам — як зажыліся — складчыны пакрысе забыліся. Цяпер кожны стараўся сам зрабіць госці, паклікаць тых, каго хацеў, каго выгадна было паклікаць, каб аддзячыць або наперад мець нейкія выгоды.

Даяркі ладзілі складчыну. Удзельнічаць у ёй згадзіліся не ўсе — хто не меў часу, а хто і не захацеў: сілком цягнуць нікога не збіраліся,— найбольш адзінокія маладзіцы.

Пасля абеду, як сонца пачало хіліцца на захад, высцілаючы на павуцінні серабрыстую, аж бліскучую сцежку, жанчыны пацягнуліся да Арцёмкавай хаты. Неслі ў кошыках хто што мог: салёныя гуркі, яйкі, сала, бляшанкі кансерваў, печанае і варанае — усё, на што была здольна і што магла прынесці жанчына.

Арцёмка з таго выпадку прывязаў да нагі кавялу, майстраваў стол, лаўкі. Кожную жанчыну ён сустракаў жартамі, прымаўкамі, весяліўся сам, весяліў жанок.

Даяркі складвалі прынесенае дзе хто мог, пыталіся, ці не трэба падмагнуць чым Алене. Але тая адмахвалася: управімся з Волькай.

Ярка, горача палала ў печы. На ўслоне пры ёй стаяла дзяжа з цестам, а на вуголлі пры агні на дзвюх патэльнях пякліся бліны. Алена ледзьве паспявала пераварочваць іх ды скідаць у грудок на ручнік.

У кутку на стале Волька разбірала апараныя качаны капусты — збіралася рабіць галубцы. Не слухаючы Аленіных пратэстаў, жанчыны чым-небудзь памагалі Вольцы, потым беглі дамоў. Да складчыны трэба зрабіць нешта па гаспадарцы, каб за сталом потым не рупіла, каб можна было спакойна, усмак пасядзець.

Як толькі чырвоны дыск сонца паволі скаціўся за небасхіл, а на небе ўспыхнула першая зорка, жанчыны, ужо апранутыя ў лепшае, зноў пакіравалі да Арцёмкавай хаты, несучы загорнутыя ў ражкі хустак ці схаваныя ў сумкі бутэлькі з выпіўкай.

У хату пакуль не заходзілі. На двары было цёпла і ціха, як не часта бывае ў бабіна лета. Здавалася, што ідзе ад зямлі млявая парнасць. Жанчыны сядзелі, каму дзе лепей: на бярвенні, за сталом на лавачках, дзе звычайна Арцёмка гуляў сам з сабою ў даміно, на ганку і невялікай прызбе пад акном.

Патроху гаманілі, нягучна, быццам баяліся кагосьці патрывожыць.

— А што ж Марыі нямашака? Ці, можа, не захацела з намі? — спытала ў жанок Аксіння, з сухім, як выветраным, тварам даярка.

— Дык і ці казалі ж ёй?..

— Нібы казалі.

— А як забыліся? Алена, а ці будзе Марыя?

— Волька, збегай ты па яе. Дальбог жа, не прыйдзе,— загаманіла Алена.— Во закруцілася і не схадзіла.

— А яна навошта? Засталася ж на ферме. А тут адстаўныя,— пачуўся з цемры голас.

— Як навошта? — абурылася Алена.— Ды старэй за яе нікога на ферме няма. Не, без Марыі за стол не сядзем. Збегай, Волечка.

Волька накінула хустку, выбегла за брамку.

Марыя, і сапраўды, не збіралася ісці на складчыну. Калі там яшчэ падоіш кароў, калі вернешся дамоў, дык ці варта ісці на шапачны разбор. Але насуперак таму, што чакала, даіць кароў у «елачцы» аказалася справай не такой складанай, як уяўлялася. Што праўда, дык з каровамі хапіла клопатаў. Не прывыклыя да «елачкі», яны ніяк не хацелі заходзіць у загародку. Але як толькі іх заганялі, дык ужо вялікай работы не было.

Марыя вярнулася дамоў раней, як чакала, і тады падумала, што трэба схадзіць, пасядзець з усімі — пакрыўдзяцца, ды і самую цягнула да гурту.

Яна склала ў Васеў партфель кольца крамнай каўбасы, кіло селядцоў, дзесятак яек, ладны кавалак вяндліны, а ў сетку-авоську паставіла трохлітровую бут-

лю з кампотам уласнага вырабу, дастала з патайнага месца бутэльку «Белавежскай», схаваную на крайні выпадак.

Свёкар моўчкі цікаваў за яе зборамі. Яму даўно не цярпелася загаварыць з нявесткай пра сына, але ён не адважваўся, баяўся распачаць гаворку не ў пару. Па засяроджаным твары нявесткі Кірыла ніяк не мог здагадацца, ці ў добрым яна настроі. Калі ў благім, дык лепей пачакаць.

Марыя пайшла за перагародку. Было чуваць, як яна адчыняе і зачыняе шафу, як шамаціць сукенкамі. Нарэшце яна выйшла на хату, паглядзелася ў люстэрка.

«Здаецца, у пару і пагаварыць»,— падумаў Кірыла. Ён разы два кашлянуў, каб Марыя звярнула на яго ўвагу.

— Куды ж ты сабралася? — пацікавіўся ён.

— Нашы фермаўскія складчыну спраўляюць,— адказала Марыя.

— А-а-а, ну то і добра. Схадзі. Усё дома ды дома. А жыцця таго колькі — ніхто не ведае, ніхто не здагадваецца.

Марыя зразумела, што свёкар не так сабе завёў гаворку, здагадалася, пра што ён скажа.

— Я доўга не забаўлюся,— сказала яна.— Не пайсці — нельга.

— Праўда, няёмка. Працавалі разам,— пагадзіўся свёкар.— А я во хацеў слаўцо адно закінуць. Ды ўжо і не ведаю, ці ў пару.

— Лепей, тата, заўтра...

— Ды яно і заўтра можна, пацерпіць, але ж і адклад не ў лад. Я пра Івана хацеў спытаць. Ці надумала што?

Як Марыя ні чакала гэтага пытання, як ні задавала яго сабе, прагучала яно на дзіва нечакана. Як стрэл у ціхі дзень.

Часам ёй здавалася, што нічога яна да Івана не мае. Можа, хай бы і сышліся. Быў ён для Марыі, як чужы, з кім трэба пачынаць новае жыццё. А калі чужы, дык якая ёй справа, што было ў яго дасюль? Важна, што будзе пасля. Але гэтак толькі здавалася. Жыла ў Марыі балючая, незагоеная рана. Ледзь кранешся — крываточыць. І ўжо ніякія тады хітрыя довады не памагалі.

«Зглуміў, збэсціў маладосць, усё жыццё, як на вецер пусціў, а цяпер вярнуўся. Грэй яго, бруднага, запаскуджанага, вываляндага ў чужых пасцелях. Ды каб жа толькі гэта. Уцякаў, калі хацеў, вяртаўся, калі хацеў. А я нібы і не чалавек, ануча, аб якую можна выцерці ногі».

— Што ж мне думаць? — як бы спытала яна ў свёкра.— Не я яго выганяла з хаты — сам пайшоў.

— Дык жа вярнуўся, раскаяны вярнуўся, як блудны сын...

— Адвыкла я ад яго, тата. І ўжо не прывыкну,— сказала Марыя.

— А мне як жа?

— Ён вам сын.

— Яно так. Толькі ты не рашай змаху. У жызні ўсё бывае. Даравадь трэба, па-чалавечы.

— Даравала...

Каб скончыць гаворку, яна ўзяла партфель, авоську, выйшла на двор і тут жа ўбачыла Вольку.

— А я па цябе. Прагналі бабы, кажуць, без Марыі не прыходзь.

Волька гаварыла як бы жартуючы, але раз яна пайшла сюды, у другі канец вёскі, дык жа не так сабе. Мусіць, чакаюць. Ад гэтай думкі Марыі стала неяк цяплей, так хораша, аж накіпелі слёзы.

— Дык жа я толькі з фермы. Пакуль пазаганяеш кароў у тую «елачку» — ахрыпнеш. Ведама, непрывучаныя.

— Глядзела я тую «елачку». Думала, хітрасць якая, аж звычайная загародка з канавай. Адно што добра, стой сабе на месцы, падключай бакалы ды адключай.

— Анягож, лягчэй, не тое што рукамі. А толькі, Волечка ты мая, усё роўна не тое што было. Не знаю, ці прывыкну.

У голасе Марыі было так шмат тугі, што Волька аж прыпынілася. Не магла зразумець, чаму смуткуе Марыя па цяжкай, ледзь не катаржнай рабоце.

— Канечне, пры машыне трэба пільнавацца. Яе не спыніш,— сказала яна, абы падтрымаць Марыю, не паказаўшы, што не разумее яе.

— Машына машынай,— глуха азвалася Марыя.— Не жывая яна, і ўсё. Каровак шкада. Бывала ж, па-

дыдзеш да кароўкі, пагладзіш па шыі, па баку, пагаворыш з ёю, а яна цябе лізне або матляне нецярпліва галавой ды і супакоіцца. Хвастом лішне не махае, каб цябе не патрывожыць. А цяпер стаіш у яме і бачыш тую кароўку спадыспаду, адно пуза ды заднія ногі. I рукой не дацягнешся. Паверыш, Волечка, у мяне аж сэрца зайшлося, аж слёзы набеглі, калі маіх каровак у тую «елачку» загналі. Пачулі яны мой голас, азіраюцца, галовамі круцяць, а я ў яме стаю. «Кароўкі мае, Красачка, Чарнушка, тут я, тут»,— кажу ім, голасам супакойваю, а яны як заравуць, ну скажы, як сіроткі. Кажу дзяўчатам — маладым гэтым, што з курсаў, Зосьцы Максімавай і Антаніне Пелагеінай: «Вы, дзяўчаткі, самі, а я ўскочу наверх, пагладжу каровак, а то яны і малака не дадуць». А тыя рагочуць, як малахольныя. Смешна ім. Вылецела я з той ямы, да адной, да другой, пагладзіла, пагаварыла з імі. А ў самой слёзы. Аж душаць. Злажу ўніз, а Зоська кажа: «Яны, цётка, вас лепей уласнай маці любяць». Смяюцца з мяне. «А што,— кажу,— і любяць. Я іх яшчэ цёлачкамі да сябе прывучала. Бывала, пайду на цялятнік, прыглядаюся. Усё прыкмячаю. Адабрала сабе трох. Яны мяне здаля пазнавалі. На другі год — дзвюх выбрала. А цяпер во як іх выбіраць будзеш, калі ўсё роўна толькі спадыспаду глядзіш на іх».

Марыя змоўкла. Так моўчкі і дайшлі да Арцёмкавай хаты.

Жанчыны яшчэ сядзелі на двары. Убачыўшы Марыю з Волькай, загаманілі.

— Зачакаліся ўжо...

— Духі падвяло, аж млосна.

— Марылечка, што ж ты ўжо і да нашага гурту не хочаш?..

— Зазналася...

— Ацю! Чаго там зазнавацца?

— Не кажы. Пры справе...

— Бабы, хопіць, можа, у хату пойдзем.

— I то праўда.

Даяркі, не спяшаючыся, ішлі праз сенцы ў хату, моршчыліся ад яркай віднаты. Арцёмка ўвінціў у патрон вялікую, на сто пяцьдзесят ват, лямпу, што затапляла хату сляпучым белым святлом. Сам ён быў апрануты ў белую кашулю, у чорны касцюм, стаяў, як

той бусел на ўзмежку, на покуце, выцягнуўшы доўгую худую шыю.

За стол садзіліся шумна. Ніхто не хацеў на покут, а таму жартаўліва спрачаліся, падштурхоўвалі адна адну, пасмейваліся.

— Адзічэлі на ферме, мужчыны баімся.

— Не мужчыны, а гаспадыні. Алена раўнучая.

— А няхай параўнуе...

— Арцёмка, не баішся?..

— Збаяўся хоць адзін...

— Папрывыкалі. Баб, як кур на птушніку...

Стоячы на покуце, Арцёмка весела ўсміхаўся, адказваў на жарт жартам.

— Дык жа не кожная курачка — чубатка...

— Глядзі ты яго...

— Алена, нічога не маеш, калі я ля твайго сяду?

— Садзіся. Нідзе не дзенецца.

— Во дзякуй, во ўдружыла.

Нарэшце жанчыны расселіся. Трохі, праўда, было цеснавата і не дужа прывычна — сабраліся вось так першы раз, і ніхто не ведаў, з чаго пачынаць. Непрыкметна і неяк адразу настала скаваная цішыня. Жанчыны сядзелі, апусціўшы рукі на калені, як бы чакалі нейкага запрашэння.

Так, можа, цягнулася хвіліны дзве, пакуль Алена не падала голас:

— Дык што ж мы сядзім, як тая пакрыўджаная сваццproperly на вяселлі? Арцём, налівай там. Бабачкі, налівайце! Стыне ж усё.

Яна падхапілася, садрала зубамі бляшаны каўпачок з бутэлькі, пачала наліваць. І тады па застоліцы загуляў, як свавольны вецер, гоман. Жанчыны закрывалі даланёй чаркі, бажыліся, што зусім і ў рот не бяруць, так хіба, дзеля прывету, адно каліўца, не болей. Але, як і водзіцца, канчалася гэта тым, што Алена налівала поўную, як вока, чарку.

Калі чаркі былі наліты, зноў, ненадоўга, усе прыціхлі, нечага чакаючы.

— Сказаць бы каму трэба,— падаў голас Арцёмка, і ўсе загаманілі, што, і праўда, варта было б сказаць, бо сабраліся ж зусім не дзеля таго, каб напіцца, як гэта павялося ў мужчын, не пры Арцёмку гэта будзь ска-

зана. Жанчыны падбухторвалі адна адну, пакуль не сышліся на тым, што павінна сказаць Марыя Дабрэня.

Тая паспрабавала аднеквацца, але жанчыны загаманілі, пачалі падбадзёрваць, прасіць, і Марыя здалася.

Яна ўзяла чарку дрыготкай рукой і ніяк не магла супакоіцца. Усё нутро трымцела нечуваным хваляваннем, ад якога было пуста ў галаве. Ад гэтага хвалявання Марыя баялася ўзняць вочы, глядзела ў сваю чарку, дзе памалу плёскалася, вылівалася на пальцы гарэлка. Але яна адчувала, што ўсе глядзяць на яе, і ад гэтага бянтэжылася ўтрая.

— Скажы пра нас, пра бабскую долю,— шапнула ёй Клаўдзя.

Марыя як бы ачнулася ад яе слоў, узняла вочы, і першай, каго ўбачыла, была Алена. Тая паглядзела на Марыю, падбадзёрваючы, нібы хацела сказаць: не бойся, тут жа ўсе свае.

— Не знаю, што і сказаць вам,— хрыплаватым голасам пачала яна.

— Тосту кажы, за што, значыць, выпіць хочаш,— падказаў Арцёмка.

На яго зашумелі:

— Не перашкаджай...

— Не табе слова далі.

— Ты не з даяркай, а пры даярцы жыў.

Арцёмка не рады, што сарвалася з языка, крыкнуў:

— Ціха! Чалавек гаворыць.

Марыя цярпліва дачакала, пакуль не сціх гоман.

— Дапраўды, не знаю, пра што сказаць,— вінавата ўсміхнулася яна.— Я ж не языком рабіла, а рукамі, во гэтымі. Іншы думае: што ім, тым даяркам? Грошай зарабляюць паболей за вучаных. А я думаю: брэшаце вы. Помню, бывала, дзень пры дні ходзіш, а ў канцы года прывязуць табе жыта мех ды скрыні дзве бульбы падмарожанай. І ўсё, яшчэ дзякуй скажы. А на работу хадзілі. Каровак шкада. Яны ж не вінаваты, што старшыня п'яніца быў. Во і рабілі. А цяпер, дзякуй богу, зарабляць пачалі.

— Толькі пачалі, як і кончылі,— уздыхнула Алена.

— Зайздросна стала некаму! — крыкнула Волька.

— З бабамі вечна так,— азвалася Клаўдзя.— Мужчыны вунь сабе пасад нарабілі.

— Кіньце вы, бабы, за кароўскае вымя трымацца,— падала голас рудая, рабаватая Верка, якая працавала на ферме з леташняга года...

Даяркі аж загулі:

— Ты яшчэ не паспела і патрымацца.

— Ёй што, мужык трактарыст.

— На чорта я рабіла б, каб мужык быў.

— Дайце Марыі сказаць...

— Ціха!..

— Гавары, Марыя...

— А я ўжо і сказала,— зноў усміхнулася Марыя.— Адвыклі ж мы ад прасніцы, ад кроснаў. Нічога. І ад вымя кароўскага адвыкнем. Чалавек усягды: да нечага прывыкае, ад нечага адвыкае. Во давайце за гэта і вып'ем.

Яна зухавата кульнула чарку, паморшчылася:

— А хай на яе — пякучая...

Неўзабаве за сталом стала весела і шумна.

— Волька, заспявай што,— перагінаючыся цераз стол, стараючыся перакрычаць астатніх, папрасіла Зінаіда.

— А паможаш?..

— Калі здолею. Даўно ж не спявала.

— А якую? Новых я і не ведаю...

— Ды хоць і старую...

Волька адкінулася на лаўцы, набрала поўныя грудзі паветра:

Тонкая сасонка
Ў бары зашумела,
Маладая дзяўчына
Замуж захацела...

Спачатку яна спявала адна, заплюшчыўшы вочы, нічога не заўважаючы, не чуючы, як аціхаў за сталом гоман. Яна слухала толькі свой голас ды чула яшчэ, як бярэ песня за сэрца:

Хіба ж ты, дзяўчына,
Век хлеба не ела,
Што так, маладая,
Замуж захацела?

Падхапіла Зінаіда песню. Іх галасы зліліся, як дзве ракі ў адну. Адзін быў звонкі, другі глухаваты, здавалася, ён хоча выбіцца на прастор, ды не можа.

Можа, ты падумай,
Каб не ашукацца,—
Будзе табе горай,
Як у роднай хатцы.
Будзеш не даеўшы,
Будзеш не даспаўшы,
Будзеш ты худая,
Будзе твар запаўшы.

Яны дапелі песню і яшчэ абедзве ў яе ўладзе як бы здзіўлена азіраліся і чамусьці сарамліва ўсміхаліся.

— Во, думала, і спяваць развучылася,— сказала Зінаіда,— аж глядзі ты.

— Цяпер часу хопіць, хоць у хор пішыся,— выгукнула Волька.

— А што, і запішамся...

— Хор адстаўных даярак...

— Цішэй вы. Дайце песню паслухаць.

— Марыя, Марыйка, заспявай ты...

Марыя, паружавелая ад выпітага, перастала махаць хусцінкай перад тварам.

— Выдумляеце... Я ніколі добра і не спявала,— аднеквалася яна.

— Чаго там! Спявала,— не пагадзілася Алена і, не чакаючы, пакуль Марыя пачне, завяла па-мужчынску нізкім голасам:

Ў чыстым полі, полі пад ракітай,
Дзе клубіцца па начах туман,
Там ляжыць ў зямлі сырой зарыты,
Там схаван чырвоны партызан...

Яна раптам перастала спяваць, яе твар перасмыкнуўся, як ад болю.

— А палягло ж іх, палягло, родненькіх, склалі свае галаванькі, і ніхто не ведае іх магілак. Адна зязюленька рана-ўранейку пракукуе над іхнімі костачкамі.

Алена выгаворвала кожнае слова з такім болем і крыўдаю, што ў жанок заблішчалі на вейках слёзы, і толькі ў яе адной вочы былі сухія, таму галашэнне яшчэ больш кранала сэрца.

Усе разумелі, што Алена галосіць і па тых, хто загінуў у апошнюю блакаду, але найболей па сваіх бацьку і братах, што невядома дзе пахаваны, бо хто іх хаваў у тую апошнюю страшную блакаду? Бывала, яшчэ гадоў тры пасля вайны пойдуць бабы на Астро-

шыцкае балота вясною па журавіны, ды і натрапяць на чалавечы чэрап, абмыты восеньскімі дажджамі, высушаны вясновым сіверам. Чый ён? Можа, таго, каго знаў, з кім не раз сустракаўся?

— А мае ж вы, татачка, родныя брацікі, адгукніцеся. Пайду я ў цёмны лес, паплачу па вас. Ці не пачуеце вы мяне, ці не адклікнецеся? Паскарджуся я вам на долю сваю горку...

Старэйшыя, слухаючы Алену, выціралі ражкамі хусцінак вочы. А маладзейшыя, што не памяталі вайны ці нарадзіліся пасля яе, адчувалі сябе неяк скавана, няёмка. Так бывае, калі сярод вясёлай бяседы раптам уносяць у дом нябожчыка. Алена гэтак жа нечакана, як пачала галасіць, замоўкла, азірнулася і быццам толькі цяпер убачыла, што сядзіць сярод жанчын.

— Дык што ж мы сядзім, а чаркі пустыя? Налівайце, жанчынкі,— як бы адчуваючы сябе вінаватай, зухавата выгукнула яна.

Але ўжо той настрой весялосці, што панаваў дасюль, прапаў. І хоць жанчыны налілі чаркі, нават выпілі, усё яшчэ былі пад уражаннем Аленінага галашэння. Яны перагаворваліся напаўголасу, прыгадвалі тых, што не вярнуліся з вайны, тое, што было тут, у Крутых Горках, з імі ў вайну.

— Дык што ж мы, як на хаўтурах? — выгукнула Волька.— Жывым жа жыць трэба. Арцёмка, бяры свой гармонік.

Старэйшая Арцёмкава дачка дастала са скрыні стары, пашарпаны гармонік. Быў ён непрыглядны, просты, з абабітымі кантамі, з выцвілым, некалі чырвоным у дробныя кветачкі, мехам. Але як толькі Арцёмка ўзяў гармонік у рукі, як толькі расцягнуў мяхі ды прайшоўся пальцамі па жаўтаватых, выслізганых гузічках, дык ніхто ўжо не звяртаў на яго выгляд увагі.

Арцёмка ўрэзаў на ім такую польку, што жанчыны не маглі ўседзець на месцы, паўскоквалі і, хоць было цесна, хоць не было як павярнуцца, кінуліся ў скокі.

## 16

Так сталася, што вечарынка ў Ліпскіх пазбавіла Дабрэню хоць і часовага, але надзейнага прытулку. Івану не хацелася трапляць даяркам на вочы, ведаў:

калі паявіцца сярод іх, то тыя не змоўчаць, возьмуцца за яго, як мурашкі за гадзюку.

Заставалася адно — пайсці да Кацярыны. Як ні кажы, а запрашала, хоць і ў крайнім выпадку, да сябе. Сёння і быў той крайні выпадак.

Кацярына жыла ледзь не на самым краі вёскі, там дзе будаваліся навасёлы, пад гарою, парослай маладым сасоннікам і бярэзнікам. Дом стаяў пры самай вуліцы, за плотам з новенькіх, яшчэ не пафарбаваных дошак. Здавалася, што стаіць ён на галу, бо дрэвы ў агародзе яшчэ не набралі сілы. Мабыць, таму дом выглядаў троху велікаватым.

Іван адчыніў брамку, ступіў на заасфальтаваную сцежку, што вяла да самага ганка, і тут жа, напалоханы, адступіў назад. На яго моўчкі імчаў здаровы рабы сабака. Раптам сабака стаў на заднія ногі, раз'юшана забрахаў, і тады Іван убачыў, што ён прывязаны на ланцуг.

Але прайсці па сцежцы ўсё роўна не было як, бо сабака якраз і стаяў на гэтай самай сцежцы. Ён то драпаў нагамі па асфальце, то ўзнімаўся на заднія лапы, ашчэрваючы зяпу. Яго душыў ашыйнік, і ад гэтага сабака шалеў яшчэ болей.

Ужо змяркалася, і ў хаце гарэў агонь. Але ніхто не выходзіў, быццам не чуў гэтага раз'юшанага брэху. Іван ужо хацеў быў павярнуць назад, як грукнулі дзверы і на ганку паявіўся Лёнька, Кацін муж.

— Хто там?.. Кароль, сюды, каб ты здох!..

Сабака, аднак, не звярнуў на голас ніякай увагі. Ён аж хрыпеў ад ярасці. Лёнька, не спяшаючыся, быццам цешачыся з сабачай адданасці, падышоў, узяўся за ланцуг.

— Пайшоў, пайшоў, Кароль. Ляж, ідзі ляж.

Цяпер сабака паслухаў. Ён лёг, не спускаючы вачэй з чужога.

— Вам каго? — спытаўся Лёнька, і Дабрэня зразумеў, што гаспадар, відаць, не пазнае яго.

— Гэта я, Іван,— назваўся ён і папікнуў: — Што ж ты, Лёня, сваіх не пазнаеш?

— Дапраўды, Іван, а я і не пазнаў. Каця гаварыла, што дужа змяніўся, але ж каб так. Далібог, сустрэў бы дзе ў горадзе, прайшоў бы міма і не паздароўкаўся.

Лёнька гаварыў як бы і шчыра, але Дабрэня адчуваў, што хлусіць, што ён пазнаў яго адразу, ды чамусьці не хацеў гэтага паказваць. Ён працягнуў Івану руку, паздароўкаўся.

— А я думаю, на каго там сабака брэша? Да нас рэдка хто заходзіць, ды яшчэ ў такую пару,— нейкай скорагаворкай сыпаў Лёнька, падштурхоўваючы Івана.— Смялей, смялей ідзі. Ён у нас вучаны. Шчанючком прынёс, а цяпер во які вымахаў, як цялё.

Праз цёмныя сені яны зайшлі ў хату. Дабрэня адразу ж адзначыў, што хата спланавана на гарадскі лад: невялічкі калідор, справа кухня, злева дзверы ў пакой, яшчэ адны дзверы — у залу. У калідорчыку стаяла вешалка з люстэркам.

Лёнька нечага таптаўся, не запрашаў прайсці.

— Разувайся ды бяры во тапкі. З двара пясок носіцца,— сказаў ён.

Івана аж кінула ў пот: і сюды дайшла гэтая гарадская завядзёнка, трэба разувацца, каб часам не наслядзіць, не запэцкаць дывана на падлозе, не падрапаць лакіраванага паркету. Зрэшты, усё гэта было б і не так важна, каб Іван надзеў чыстыя шкарпэткі. За гэтыя дні шкарпэткі закарэлі, паспрабуй здымі чаравікі.

Але і не разуцца было нельга. Лёнька падсунуў яму тапкі, чакаў. Іван зняў чаравікі. Толькі цяпер Лёнька запрасіў у залу, запаліў святло.

Зала была не дужа вялікая, ці, можа, гэта здавалася, бо ўся яна застаўлена мэбляй. З яе меўся ход у спальню. Праз адчыненыя дзверы Дабрэня прыкмеціў шырокі ложак з гарой падушак, як гэта вадзілася ў Крутых Горках здавён. Толькі гэтая гара падушак і выдавала, што жыхары хаты яшчэ не зусім адцураліся вясковых звычак. Усё астатняе выглядала па-гарадскому.

— Дык вярнуўся, выходзіць? — сеўшы ў крэсла ля газетнага століка, сказаў Лёнька.— Цяпер і ў нас жыць можна. Вядома, тэатраў ці рэстаранаў не маем, але без іх спакайней, распусты няма.

Івану страшэнна захацелася курыць, але ён баяўся дастаць цыгарэты. Уся гэтая абстаноўка, увесь шык паліраванай мэблі і вялізнага дывана на падлозе прыгняталі яго.

— А Каці хіба няма? — спытаўся ён.

Чамусьці думалася, што Каця ўнесла б у гэтую хатнюю халодную няўтульнасць сваяцкую цеплыню і сардэчнасць.

— Паехала ў Астрошыцы ды нешта затрымалася,— як бы шкадуючы, азваўся Лёнька.

— Можа, і не прыедзе? — пацікавіўся Іван.

— Можа, і не прыедзе,— пагадзіўся Лёнька, але тут жа запярэчыў сабе: — Не, павінна. Гаспадарка ж ёсць, як той казаў, хоць і не вялікая, а клопатаў шмат. Добра, што ў мяне работа такая, упраўляемся.

На сваё здзіўленне, Дабрэня толькі цяпер падумаў, што так і не пацікавіўся, кім і дзе ён працуе, Кацін муж. Але і запытаць цяпер не выпадала, здавалася, абразіць гэтым сваяка.

— Яно так...— абы сказаць нешта, прабубніў Дабрэня.— Не пасада ўпрыгожвае чалавека.

— Ды яно так. Пасада нам зусім недарэчы,— падхапіў Лёнька.— На цяперашніх пасадах адно што вымоў хапае. Здароўе даражэй за ўсё. Во, напрыклад, у мяне як выйшла. Быў я заўгарам. Запчастак няма, шафёраў няма — а з цябе пытаюць. А навошта мне такое? Я хачу сам па сабе.

— Самому па сабе спакайней,— азваўся Дабрэня.

Нешта перашкаджала яму, як гэта бывала заўсёды, захапіць ініцыятыву ў размове. Ад таго яшчэ больш расла скаванасць, а язык нібы прырос да паднябення.

— Яно, сапраўды, спакайней,— падхапіў Лёнька.— Але спакою, як той казаў, няма, хоць плач, нідзе няма. Ну от, скажам, я — пчаляр. Гаспадарка ў мяне — пяцьдзесят дзве калоды. Прыбытак даю, як той казаў, наяўнымі во,— ён паварушыў пальцамі, быццам лічыў грошы.— А ўсё роўна прыдзіраюцца.

«Выгаднае месцейка прыхапіў,— падумаў Дабрэня.— Мёд цяпер дарагі».

— Зайздросцяць, жывеш ты дай бог,— падказаў Дабрэня.

— Анягож,— пагадзіўся Лёнька,— і зайздросцяць, таму і прыдзіраюцца, што я незалежны. Я такі. Каму хочаш праўду-матку ў вочы рэжу.

Дабрэня ўсміхнуўся, падумаўшы, што наўрад каб Лёнька быў такі смелы.

Ён ведаў Лёньку яшчэ хлапчуком, залатушным, нямоглым, якога вечна крыўдзілі не толькі старэйшыя, але і малодшыя. А можа, цяпер і паявілася ў яго смеласць?

— Праўду-матку рэзаць у вочы бывае небяспечна,— сказаў ён як бы з іроніяй.

На яго здзіўленне, Лёнька адразу ж пагадзіўся з ім.

— Ды яшчэ як,— выгукнуў ён.— Як той казаў, маўчанне — золата. Паспрабуй я на каго вякнуць, дык і чакай, што напішуць, наплявузгаюць, аж рады не будзеш, што зачапіў.

Дабрэню пачынала надакучваць гэтая гульня ў паддаўкі; што б ён ні сказаў, Лёнька адразу ж пагаджаўся, нават пашыраў ягоную думку, нібы выказваў сваю.

«Мусіць, ён у Каці пад пятой. Цюхцяй быў, цюхцяём застаўся»,— падумаў Дабрэня і ўжо з колішняй нахрапістасцю сказаў:

— А я не так сабе завітаў, пераначаваць трэба. Каця, як прыехаў, запрашала...

Яму здавалася, што Лёнька адразу ж адгукнецца: начуй, маўляў, месца хопіць, але той раптам пачырванеў, аж загарэліся вушы, засоп, утупіў позірк у калені.

Дабрэня ўжо зразумеў, што ў начлезе яму будзе адмоўлена, і цяпер ён адчуў сябе вольна, незалежна. Яму захацелася на развітанне паздзекавацца з Лёнькі, абразіць яго, каб хоць у гэтым выйсці пераможцам, Злосці, аднак, на Лёньку не было.

— Ты чаго засоп, як барсук? Я ж на тваю нару не пасягаю.

— А не ў тым дзела, як той казаў,— не падымаючы галавы, загаварыў Лёнька.— Чужы чалавек у хаце — лішні клопат. Мы людзі трудавыя, а ты на адпачынку. Так што яно б па-сваяцку і трэба памагчы, але, як той казаў, табе вялікіх зручнасцяў не можам прадаставіць.

— А мне зручнасці, Лёня, не патрэбны,— смеючыся ў душы, сказаў Іван.— Мне куточак на тваёй фарбаванай падлозе ды падушку. Во і ўсе турботы.

Лёнька як бы сумеўся, але тут жа, нібы той вуж, выкруціўся.

— Як жа так на падлозе? Як той казаў, не старац жа ты нейкі — госць. А госць, як той казаў, патрабуе

ўвагі. На Каўказе, я там у арміі служыў, калі ты госць, цябе ў крыўду не дадуць, нават калі ты найзлейшы вораг, не пакрыўдзяць. Пасля, як з аула выйдзеш, забіць могуць, а ў доме — ніколі.

Ад яго дурнаватай хітрасці Дабрэню стала весела. Цяпер ён як бы з ахвотай пачаў удзельнічаць у гульні.

— Во, дзякуй, Лёня, а то я быў спалохаўся. Думаю сабе: разбагацеў, атлусцеў, дзе ўжо беднаму чалавеку паспагадае. А ты правільна кажаш, госцю трэба радавацца. Так што яшчэ раз дзякуй табе, што начлег па-сваяцку прапануеш. Я во тут на канапе і перасплю.

Дабрэня, не хаваючыся, блазнаваў, але Лёнька, здаецца, успрыняў усё ўсур'ёз. У яго аж выступіў на лбе пот. Лёнька выцер яго рукавом паношанай, аж на дзірках, кашулі і нейкі час сядзеў, апусціўшы вочы ад Іванавага нахабства.

— Канапы, як той казаў, не шкода,— загаварыў ён кволым голасам, нібы раптам адчуў страшэнную немагату,— ды вось Каці няма, а мне трэба на пасеку схадзіць. Усё ж на маіх плячах, за ўсё ў адказе. Так што пагуляй дзе, пакуль я прыйду. Я не забаўлюся. А можа, і Каця пад'едзе.

Ён падняўся, мабыць, баючыся, каб Дабрэня зноў не стаў прасіцца на начлег, выйшаў у прыхожую. За ім пайшоў туды і Дабрэня.

Лёнька адзеў стары плашч з капюшонам, насунуў на ногі разбітыя чаравікі.

— Дзеці, я пайду на пасеку,— гукнуў ён.

З пакоя выглянулі дзяўчынка гадоў дзесяці і меншы хлопчык. Яны здзіўлена пазіралі на чужога дзядзьку.

— Ну, зачыняйце дзверы ды нікога не пушчайце,— наказаў ім Лёнька і, выключыўшы святло, выйшаў у сені.

«Во табе і залатушны Лёнька,— падзівіўся Іван.— Такіх цяпер рэдка дзе і сустрэнеш. Хоць у музей выстаўляй, каб людзі дзівіліся».

Разам з прыкрасцю, што ўзнікла ад нядаўняй недарэчнай размовы, накіпала ў Івана злосць на Лёньку, яшчэ баязлівая, не вельмі асэнсаваная, але, па ўсяму, лютая: крані Івана — і ён узарвецца, як міна. І тут Лёнька зрабіў яшчэ адзін свой дурнавата-хітры ход. Ён раптам спыніўся пасярод двара, нібы толькі да яго

цяпер дайшло, што непрыстойна выстаўляць сваяка на ноч з хаты.

— А можа б, ты пасядзеў у хаце, пачакаў мяне? — спытаўся ён, быццам Іван сам напрасіўся пахадзіць па вуліцы, пачакаць, пакуль той вернецца з пасекі.

Спачатку Дабрэня аж не паверыў сваім вушам, здалося, што ён нешта недачуў, але Лёнька як бы нават стаў настойваць, каб ён пачакаў.

— Дапраўды, можа б, табе і лепей у хаце. Хоць на свежым паветры, як той казаў, вальней. Ды і ноч во якая.

Гэтага здзеку Іван не мог стрываць. Усё, што капілася ў ім, уся ўласная няўладжанасць, крыўда на сябе і на ўсіх вырвалася напаверх лютай лаянкай.

Намацюкаўшыся ад душы, ён выбег на вуліцу. Чуў, як Лёнька, нібы ў роспачы, сказаў:

— Дык жа хацелася, як найлепш...

Не разбіраючы дарогі, Дабрэня шыбаваў сярод вуліцы, лаяў ужо ў думках Лёньку. Было аж крыўдна, што не выказаў яму таго, што ўзнікала зараз у галаве. Разам з Лёнькам даставалася і Каці. Памяць аднаўляла цяпер тое, што было забылася. Выходзіла так, што і чакаць ад Каці іншага не было чаго. Колькі, бывала, ні дай ёй грошай, а яна ўсё крыўдзілася, што мала. Праўда, крыўдавала не на яго, Івана, а на Марыю. Ён толькі пасміхаўся, што Каця абзывае Марыю, нагаворвае на яе. Нават падтрымліваў сваячку. Вось цяпер і атрымаў падзяку.

Дабрэня і не заўважыў, як выйшаў на вясковы пляц, дзе стаяў той самы сельмаг, якім загадвала Каця. Ад сельмага, як толькі Дабрэня параўняўся з ім, аддзялілася чалавечая постаць са стрэльбай пад пахай. Іван зразумеў, што гэта вартаўнік, хоць, папраўдзе, дык не адразу разабраў, што ён вось гэтак трымае стрэльбу.

— Падаждзіце, можа, закурыць знойдзецца? — жаночым голасам спытаўся вартаўнік.

Дабрэня спыніўся. Захутаная да самых вачэй у хустку, апранутая ў доўгі кажух, жанчына-вартаўнік падышла да Івана і раптам сумелася, мабыць, ад таго, што прахожы быў ёй незнаёмы. Дабрэня дык адразу пазнаў жанчыну — Свірыда Дудака жонка, якую той прывёз аднекуль з Калымы гадоў дваццаць назад.

Тады казалі, што Свірыдава жонка сядзела ў лагерах, але за што сядзела, пэўна ніхто не ведаў, бо ад Свірыда ў добрым настроі нельга было выцягнуць і двух слоў, а ў Грушы, так звалі жанчыну, чамусьці ніхто не адважваўся спытацца, ці праўда тое, што пра яе кажуць.

Пасяліўся Свірыд ля самага балота на выселках, асабняком, быццам не хацеў быць на вачах у аднавяскоўцаў. Нават вокны глядзелі не на вёску, а на балота. Але зажыў спраўна, не горай, а бадай лепей за другіх.

Зноў жа шасталі па людзях чуткі, нібы з Калымы Свірыд прывёз золата. Але гэта і зусім ужо было неверагодна, бо золата недзе трэба прадаваць, ды і каму яно ў вёсцы патрэбна? Хіба на зубы. Тым часам Груша нарадзіла двое дзяцей — дзяўчынку і хлопчыка. І хоць вёска так і не прызнала чужынку, размовы памалу аціхлі.

А потым, перад самым ад'ездам Дабрэні з Крутых Горак, неяк зусім нечакана памёр Свірыд Дудак, пакінуўшы Грушу з двума дзецьмі на чужыне.

— Што-та я вас не знаю,— сказала Груша.— Гасціце ў каго?

— Не зусім,— адказаў Дабрэня, дастаючы пачак цыгарэт.

— А я, знаеце, не паспела. Магазін закрылі, а ў мяне дзве папяросы. Голас ваш знаёмы...

— Дабрэня я, Іван,— прызнаўся ён.

Груша прыкурыла ад запалкі. Пакуль Іван прыкурваў сам, Груша пільна ўглядалася ў твар, быццам хацела ўпэўніцца, ці сапраўды гэта той самы Дабрэня.

Тое, што памятала Груша і што наглуха забыўся Іван, не надаючы, можа, вялікага значэння свайму ўчынку, прыгадалася зараз Грушы выразна, быццам усё адбывалася ўчора.

Свірыд тады будаваўся: сам ездзіў у лес, сам часаў бярвенне, сам складаў хату — памочнікаў не наймаў. Яна памагала яму як магла. Таму на работу хадзіць не было калі, ды і вялікага сэнсу не мела. На працадзень атрымлівалі грамаў па трыста, і то па ведамасці, на самай справе давалі аванс, а далей разлічвацца не было чым.

Кожную раніцу старшыня хвілін дваццаць старанна біў у жалезную рэйку малатком на доўгім дзержаку, быццам выпрабоўваў цярпенне крутагорцаў. Потым, калі надакучвала званіць, гнаў па хатах двух брыгадзіраў.

Часам бег сам. Урываўся ў хаты, крычаў, гразіўся, а як нічога не дапамагала, хапаў вядро вады, заліваў агонь у печы.

На Свірыда ў яго даўно гарэў зуб — надыходзіла восень, а ў таго працадзён сорак, і то з-пад палкі. Вось тады аднаго разу і прыдумаў старшыня пакаранне Свірыду: перааараць агарод.

Раніцай ён падагнаў эмтэзсаўскі трактар, загадаў трактарысту: ары, ары ўсё — грады, бульбу, кусты парэчак... Вось тады і паявіўся Дабрэня, не даў гвалтаваць агарод, а Груша назаўсёды запомніла іх абаронцу.

— А я, знаеце, не чакала вас убачыць,— прызналася яна.— Чула, вы ўязджалі. Я, знаеце, як і даўней, не ваджу дружбы з вашымі.

У яе голасе, аднак, Іван не адчуў, што Груша цяжка пераносіць сваю адзіноту.

— Во і ў мяне так,— сказаў Іван.— Хаджу, як воўк, прыстанішча не знайду.

— Чаму ж гэта?

— Жонка не хоча прыняць, сваякі таксама.

Ён і сам не разумеў, чаму раптам загаварыў чужому чалавеку пра сваю адзіноту. Але спыніцца ўжо не мог. Хацелася паскардзіцца на свой лёс, на несправядлівасць жонкі, сваякоў.

— Так у вас і пераначаваць няма дзе? — заклапочана спыталася Груша...

— У Ліпскіх начую на сене, а сёння там даяркі складчыну гуляюць. Не хочацца на вочы лезці. Не любяць яны мяне.

— Знаеце што, ідзіце ка мне. Я адна цяпер. Дачка ў горадзе. Сын у арміі, у ваенным вучылішчы. Як жа вы без начлегу?

— Ды і не знаю,— як бы няўпэўнена, адказаў Іван, хоць добра ведаў, што прыме запрашэнне, на злосць Лёньку, Марыі, сабе.

— А чаго знаць? Я вас правяду.

— Ну, што ж,— адразу пагадзіўся Іван.

## 17

Увечары пазваніла Вежнявец: прыедуць па вопыт старшыні калгасаў са Смаленшчыны.

Берасцень паморшчыўся, але спрачацца не стаў: раз запланавалі, дык ужо не адменяць, хоць ты ляж паперак дарогі.

Па яго, Берасценя, разліках госці маглі паявіцца гадзін у адзінаццаць. Пакуль паснедаюць, пакуль даедуць, так што можна ўправіцца з неадкладнымі справамі, якіх з раніцы хапала нават занадта.

На раніцу Берасцень надумаў правесці нараду па селектары. Завядзёнка гэтая толькі што ўваходзіла ў практыку, таму здараліся розныя нечаканасці. А палове восьмай дыспетчар уключыла сувязь. Берасцень назваў тых, хто знаходзіўся на дыспетчарскім пункце: бухгалтара, заатэхніка, агранома, свайго намесніка і парторга Крывіцкага.

Папраўдзе, дык ён і сам адчуваў сябе ніякавата. За доўгія гады прывык кіраваць людзьмі непасрэдна. Гаварыць з тымі ж людзьмі па мікрафоне было нязвычна. Хацелася не проста чуць іхнія адказы, але бачыць іх саміх, іх твары, вочы, якія заўсёды гаварылі Берасценю больш, чым словы.

Часам пасля такіх нарад па селектары Берасцень садзіўся ў машыну, ехаў удакладняць тое, што гаварылася таму ці іншаму кіраўніку брыгады. У часе такіх паездак нярэдка высвятлялася, што брыгадзір быў не згодны са старшынёвымі ўказаннямі і рабіў усё па-свойму, а па селектары даваў згоду толькі таму, што не хацей, каб яго чулі іншыя.

Сёння Берасцень не меў часу праверыць, як выконваюцца ягоныя ўказанні. І ён адразу ж папярэдзіў аб гэтым брыгадзіраў.

Першым быў выклікаы Максім Дудак, загадчык жывёлагадоўчага комплексу.

Не паспеў Берасцень сказаць таму, што прыедуць госці, як яны, сапраўды, паявіліся ў канторы, пераблытаўшы ўсе ягоныя планы.

Гасцей прыехала дзевяць. Шэсць старшынь калгасаў, дзве даяркі і сакратар райкома партыі, малады, чарнявы, са значком сельскагаспадарчай акадэміі.

— Ранавата вы нешта,— падзівіўся Берасцень, але ў ягоным голасе чуліся і ноткі незадаволенасці.

Мабыць, сакратар райкома адчуў гэта.

— Надакучаюць экскурсіямі? — спачувальна спытаўся ён, аж Берасценю стала няёмка, што паказаў сваю негасціннасць.

— Пакуль што не. Вы першыя. Мы ж толькі ўвялі комплекс. Проста падзівіўся, як вы паспелі гэтак рана.

— Так гэта ж нашы жанчыны. Хочуць паглядзець, як дояць кароў. Во і падняліся рана і нам спаць не далі. Так што вінавацце іх. Яны і нам спакою не даюць: будуй ім комплекс, і ўсё. Ведаць нічога не хочуць.

— Што вы, Раман Ігнатавіч! Самі нам спаць не даеце. Думалі, хоць на экскурсіі выспімся. Дык дзе там! Да гадзіны ночы інструктаж праводзілі, а ў шэсць пад'ём сыгралі,— як бы і жартам выкрыла сакратара, відаць, смелая на язык даярка.

— Во, бачыце, якія ў мяне кадры,— зарагатаў сакратар.— Не дадуць схлусіць нават у гасцях.

— Ну, што ж, калі прыехалі, то трэба спяшацца, а то спознімся,— сказаў Берасцень і папрасіў дыспетчара: — Перадай Максіму, што госці прыехалі.

Гасцей адзелі ў белыя халаты, абулі ў тонкія поліэтыленавыя бахілы. Шкрэбаючы імі па высыпанай гравіем дарожцы, госці ішлі, азіраючыся на ўсе бакі. Адначасова слухалі Берасценя, які расказваў, як будаваўся комплекс, колькі каштаваў калгасу і калі ён пачне даваць чысты прыбытак.

Берасценю ўпершыню даводзілася расказваць пра комплекс, і хоць ён ведаў кожную лічбу, сёння ён і сам іх успрымаў па-новаму і як бы нанава асэнсоўваў усё, што было зроблена. Таму гаварыць было прыемна і радасна. Ён адчуваў, што захапіўся сам і захапіў гасцей сваім расказам, тымі перспектывамі, што адкрывалі перад калгасам комплекс і міжгаспадарчае аб'яднанне.

Так размаўляючы, яны і зайшлі ў даільнае аддзяленне. У «елачцы» два аператары — Марыя і маладая дзяўчына Вольга Вежнявец — сачылі за сігналамі на табло. Убачыўшы гасцей, яны павіталіся і тут жа пачалі здымаць бакалы даільнага апарата.

— Колькі кароў дояць? — спытаўся адзін з гасцей.

— Дзвесце дваццаць,— адказаў Берасцень.

— Мне б такую «елачку» — усе праблемы рашыў бы,— уздыхнуў круталобы мужчына — старшыня калгаса.

Аднекуль з бакавых дзвярэй паявіўся Максім Дудак. Здароўкаўся за руку, нечага вінавата азіраючыся на Берасценя.

— Вядзі, паказвай гаспадарку,— загадаў яму Берасцень.

Максім ледзьве ўпрасіў гасцей ісці далей. Правёў па хляве, дзе стаялі падоеныя ўжо каровы, адтуль скіраваў у светлы пакой з кафельнымі сценамі і падлогай. Тут стаяў аўтамат, які дазіраваў пастэрызаванае ўжо і ахалоджанае малако ў трохкутныя папяровыя пакеты.

Дзяўчына-аўтаматчыца адразу ж прапанавала гасцям малака, і яны, быццам ніколі не каштавалі яго, бралі з яе рук празрыстыя, белыя ад малака кубкі, прагна, пахвальваючы, пілі.

І Берасценю па-хлапчукоўску нясцерпна таксама захацелася малака. Ён узяў кубак, выпіў адным дыхам, хоць, папраўдзе, ніколі не піў нават сырадою.

Ён стаяў крыху воддаль, даўшы Максіму магчымасць адказваць на пытанні гасцей. Таму ён першы заўважыў Марыю, якая ішла сюды. Спачатку Берасцень падумаў, што гэта Максім загадаў ёй прыйсці сюды, але тут жа адчуў, што Марыя ідзе з нейкай іншай нагоды.

— А я да цябе,— сказала Марыя, падаючы яму згорнуты ў чатыры столкі ліст.

Не жадаючы таго, Берасцень узяў ліст, чамусьці доўга не мог разгарнуць яго. Дзьмухнуў раз-другі, толькі затым разгарнуў.

— Ты што? — здзіўлена спытаўся ён, як толькі зірнуў на напісанае, і, пабачыўшы, што нехта з гасцей азіраецца, гукнуў Максіму: — Правядзеш гасцей сам. У мяне, прабачце, справа неадкладная.

Праз вароты, што вялі на поле, яны выйшлі з хлява.

— Што ты надумала? — азірнуўшыся, ці не чуе іх хто, спытаўся Берасцень.— Ды ты разумееш, што ты надумала? Лепшая ў калгасе даярка. Ды што ў калгасе — у раёне! І на табе — заяву!

Марыя нагнулася, сарвала запознены рамонак, па-

чала адрываць пялёсткі, быццам гадала: любіць — не любіць.

— Інакш не магу,— упарта сказала яна.

— Не магу, не магу,— узлаваўся Берасцень.— Чаму не магу? Дасюль жа магла. Цяпер жа ў сто разоў лягчэй... А ты падумала, што ў раёне скажуць? Па галаве не пагладзяць.

Берасцень гаварыў першае, што прыходзіла ў галаву. Чаго-чаго, але таго, каб Марыя падала заяву з просьбай вызваліць яе ад работы, ён ніколі не чакаў.

Марыя абарвала ўсе пялёсткі, кінула цурыбалку пад ногі.

— Пра сваю галаву ты падумаў,— горка ўсміхнуўшыся, сказала яна.— А чужыя, думаеш, не галовы? У Алены вунь мужык інвалід, ды яшчэ пяцёра... Хай яна на маім месцы працуе. Ёй гэта болей, чым мне, патрэбна.

— Дык гэта ты з-за яе? — здзівіўся Берасцень.— А я чорт ведама што падумаў. Можа, падумаў, з Іванам памірылася, з-за яго...

Гэта недарэчнае, хоць і шчырае прызнанне балюча закранула Марыю. Выходзіла так, што ўсе гэтыя гады яна працавала на ферме толькі таму, што трэба было зарабляць дзецям на хлеб. Ну так жа, так падумаў Берасцень, калі кінуў ёй гэтыя крыўдныя словы.

— Пры чым тут Іван? — адчуваючы, як ціснe ў грудзях крыўда, спыталася яна, яшчэ спадзеючыся, што Берасцень растлумачыць свае словы неяк інакш, а не так, як падумалася ёй.

— Ну, як пры чым? Чалавек ён з галавой. У мяне вунь заўгара няма. Сто шэсцьдзесят рублёў — капейка! Навошта табе рабіць тады? Не ўпросіш, каб на бульбу выйшла.

Марыя адчула, як затуманілася ўваччу, і ўсё стала відаць, як праз сіта. Але слёз на шчоках не чула, здалося, яны так і засталіся шэрым туманам на вачах.

Каб Берасцень не пабачыў, што яна плача, бо як ты растлумачыш чалавеку, калі ён сам гэтага не разумее, Марыя памалу пайшла прэч.

— Марыя, ты чаго? — гукнуў яе Берасцень.— Пачакай! Во, дзівачка. Ну, чаго крыўдзіцца?

Але Марыя не адгукнулася.

...На вачах вянула бабіна лета—кароткая пара цёплых дзён перад асеннімі халадамі. Ціха і лянотна падала долу лісце, прыкрываючы пабурэлую траву і кволую, далікатную атаву каляровымі плямкамі.

Марыя ішла ў вёску нацяныкі, пакуль не выбралася на тую сцежку, што пратаптала за трыццаць гадоў. Спынілася на ёй у самотным роздуме, зноў і зноў прыгадваючы Берасценевы словы.

«Не, не толькі таму я працавала, што трэба было дзяцей карміць,— разважала яна амаль як не ўголас. — Хоць і з-за гэтага таксама. А хто ж бы іх накарміў? Але ж магла б знайсці і лягчэйшую работу. А вось жа не шукала. І не адна я. Алена таксама. А другія шукалі. І цяпер прыпяваючы жывуць. Дык, можа, і дарэмна распіналася на той працы, якая цяпер і не патрэбна стала? Жыла б, як усе. Можа б, дзе-небудзь у горадзе...»

Ёй прыгадалася, як год дваццаць назад, яшчэ калі была адна Надзя, Іван вярнуўся з чарговай паездкі, весела аб'явіў:

— Усё, канчаем вясковую жызню. Месца знайшоў у горадзе — экспедытарам на базе. І табе работа знойдзецца. Адзін знаёмы заўмаг абяцаў прадаўшчыцай узяць.

Ён сядзеў за сталом, трымаючы на каленях Надзю, і ўсё распісваў, як яны будуць жыць у горадзе. А яна спалохана слухала яго, бо ніяк не магла ўявіць тую гарадскую, як на паперцы, размаляваную жызню. Але найбольш палохала іншае. Марыя ведала: яна ніколі не адважыцца сказаць старшыні, што кідае даіць кароў. Нават ад адной толькі думкі ёй рабілася сорамна. На каго ж кінуць тых выпеляных ёю каровак, калі ніхто не хоча ісці на ферму?

Дні тры вялася тады ў хаце баталія. Марыя засталася. Іван паехаў адзін. З таго і пачалося.

Недзе ў небе курлыкалі жураўлі, спакойна і самотна, нібы развітваліся з роднымі мясцінамі.

Марыя зірнула ўгору і адразу ўбачыла жураўліны клін, над самай галавою. Вось і канец бабінага лета. А там наперадзе восень: надакучлівыя дажджы, холад, непралазная гразь на ферме. І раптам успомніла, што той, старой, фермы няма. Ёсць новы комплекс з асфальтаванымі пад'ездамі, з цёплымі пакоямі адпачынку, з сушылкамі, мыцельнікамі і нават тэлевізарам.

«Колькі ж гадоў спатрэбілася, каб усё гэта сталася,— чалавечае жыццё. А ты, Пятро, мераеш заробкамі»,— падумала яна пра Берасценя.

## 18

Хоць Ліда і трапіла ў фінал спаборніцтва, ніякага спадзявання на прызавое месца ў яе не было. Яна ведала гэта з самай раніцы, калі прачнулася і адчула, што і не выспалася, і не адпачыла. Трэба было ўставаць, каб не парушыць рэжым, якога строга трымалася трэнер Серафіма Рыгораўна, але Ліда ўсё ляжала ў ложку; млявая, прыемная расслабленасць валодала ёю. Недзе, ці то за сценкай, а можа, унізе, ці паверхам вышэй, гучала музыка, якая аж закалыхвала; мабыць, таму і не хацелася падымацца.

«Каб толькі Серафіма Рыгораўна не перашкодзіла,— думала Ліда.— Праляжала б так увесь дзень. Навошта мне тыя спаборніцтвы? Усё роўна нічога не выйдзе. І яшчэ каб не ехаць дамоў, застацца тут. Можа, папрасіць Сяргея? Хай дапаможа ўладзіцца на завод. Ён зробіць...»

Яна ўсміхнулася, прыгадаўшы ўчарашняе, асабліва цётчына старанне сасватаць яе Сяргею. Смешна было ад таго, што цётка Насця рабіла ўсё з вясковай шчырасцю і непасрэднасцю, хоць была ўпэўнена, што праяўляе пры гэтым належны такт і хітрасць. Пра Сяргея думалася сёння з лёгкай іроніяй, а не той жорсткай, што была ўчора.

— Табе не здаецца, што твая шаноўная цётачка хоча, каб мы пажаніліся, ва ўсякім разе, каб спадабаліся адно аднаму? — спытаўся Сяргей, калі яны пайшлі танцаваць.

— Ну і што?

— Давай зробім ёй прыемнае,— прапанаваў Сяргей.— Для нас гэта не вялікі клопат.

— Давай,— пагадзілася Ліда.— Толькі глядзі не закахайся. Жарты не прыводзяць да дабра...

Здаецца, яны ўчора пераканалі цётку, што закахаліся адно ў аднаго, аж было крыўдна і няёмка.

У дзверы пастукалі. «Серафіма Рыгораўна»,— здагадалася Ліда і адамкнула дзверы.

— Што я бачу? — ненатуральна-паблажлівым голасам сказала трэнер.— Ты яшчэ спала? Мы, можа, хочам адмовіцца ад першага месца, ад поспеху, славы, да якіх застаўся адзін скачок? І наогул, што ўсё азначае? Напярэдадні адказнага фінішу ты недзе ходзіш да паўночы... А між іншым, прызавое месца патрэбна найбольш табе. Ты ведаеш, цябе возьмуць на працу, калі ты атрымаеш званне майстра. Прызавое месца дае такое званне...

— Летась вы казалі, што першы разрад дае права на працу,— нагадала Ліда.

— Ну і казала,— пакрыўджана выгукнула трэнер. — Між іншым, ты не стой, а збірайся хутчэй. Мы яшчэ не снедалі, чакаем цябе.

— А мне, між іншым, не патрэбна ні ваша першае месца, ні ваша праца. Я выходжу замуж,— адказала Ліда.

Серафіма Рыгораўна аж папярхнулася.

— Ты можаш давесці да інфаркту сваімі жартачкамі...

— А я не жартую...

Трэнер адразу ж змяніла тактыку. Яна абняла Ліду за плечы, ласкавым, аж занадта, голасам сказала:

— Лідачка, пашкадуй маё сэрца і нервы. Ты павінна думаць зараз пра першае, мінімум пра другое месца. Ты ведаеш, да мяне і так прыдзіраюцца...

Лідзе стала шкада яе.

— Добра, я пастараюся,— паабяцала яна, толькі каб супакоіць Серафіму Рыгораўну.

— Я ведаю, ты добрая, чулая і не падвядзеш мяне,— расчулілася трэнер.— Прыбірайся, а я пачакаю. Ты не супраць, калі я закуру?

Яна дастала цыгарэту, прыкурыла. Трымала запалку за самы канец, пакуль тая не дагарэла. Тады паклала вугельчык у попельніцу.

— Каб ты ведала, як мне ўсё надакучыла,— сказала Серафіма Рыгораўна.— А хлопец хоць добры? Толькі каб не са спартсменаў.

— Я пажартавала,— прызналася Ліда.— Застануся, як і вы, у дзеўках, калі ўладзіце мяне на працу.

Серафіма Рыгораўна махнула рукой.

— Не-не, выходзь замуж...— Ізноў стала такой, якой яе заўсёды ведала Ліда.— Доўга цябе чакаць?.. І

выкінь з галавы розныя непатрэбныя думкі. Спартсмен павінен быць сабраным...

Праз дзве гадзіны аўтобус прывёз іх у басейн. Ліда выходзіла апошняя. Яе нехта паклікаў. Яна павярнулася. На прыступках стаяў Сяргей і ўсміхаўся.

— Ты здзівілася? — спытаўся ён, падыходзячы да яе.

— Нікольні,— усміхнулася яна.— Зараз ты скажаш, што не спаў усю ноч, думаў пра мяне і прыйшоў сюды, каб сказаць, што закахаўся.

— Дарэмна іранізуеш.

— Няўжо так сур'ёзна? Мусіць, мая цётка чараўніца. А калі так, дык, можа, лепей ісці не ў басейн, а ў загс?..

Яны зайшлі ў вестыбюль. Ліда заўважыла, як Серафіма Рыгораўна паглядзела на іх і пайшла насустрач.

— Гэта трэнер,— шапнула Ліда Сяргею.— Яна баіцца, што я не заваюю першае месца. І калі гэта здарыцца, вінаваты будзеш ты.

Серафіма Рыгораўна нават не папрасіла, каб яе пазнаёмілі з Сяргеем.

— Гэта з-за вас учора Ліда вярнулася ў гасцініцу пазней, чым належыць спартсменцы напярэдадні адказнага выступлення?

— Учора мяне затрымала цётка,— сказала Ліда, але Серафіма Рыгораўна, здаецца, не пачула яе.

— Дык вось, мілы мой,— гаварыла яна да Сяргея,— калі вы маеце ўплыў, дык дапамажыце падзейнічаць на Ліду. У яе дрэнны настрой. З такім на фініш не выходзяць.

— Што я павінен рабіць?

— Гэтага я не ведаю,— адказала Серафіма Рыгораўна.— Але ў яе павінна быць прызавое месца. Мінімум трэцяе.

Ліда засмяялася ад таго, што мінімум усё памяншаўся.

— Пастараюся апраўдаць ваш давер,— пажартаваў Сяргей.

Маленькі смешны інцыдэнт гэты неяк зблізіў іх, як бы зрабіў змоўшчыкамі.

— Я, сапраўды, правалюся,— прызналася Ліда.— Падвяду Серафіму Рыгораўну. А мне так бы не хацелася.

— Я магу чым-небудзь дапамагчы?

— Не ведаю... Калі я выступлю дрэнна, ты паможаш мне ўладзіцца на працу ў Мінску?

— Усе аддзелы кадраў у маім падпарадкаванні,— пажартаваў Сяргей.— Так што не хвалюйся.

Фіналістаў выклікалі ў судзейскую калегію, і яны рассталіся.

...Ліда павінна была выступаць шостай. Часу хапала, каб падрыхтавацъ сябе да спаборніцтва. Але патрэбны настрой не прыходзіў, дарэмна Серафіма Рыгораўна старалася падбадзёрыць яе.

— Ну вось і твая чарга,— падштурхнула Ліду Серафіма Рыгораўна.— Спакойна. Пастарайся ні пра што не думаць. Усё будзе добра.

Ліда паднялася на вышку, старалася сканцэнтравацца, але нічога не выходзіла. Як не сваімі нагамі яна стала на край памоста, па прывычцы паднялася на дыбачкі, падскочыла ад пругкай дошкі і, не кантралюючы свае рухі, паляцела, як у бездань.

Цяпер яна была цвёрда ўпэўнена, што не ўвойдзе нават у дзесятку мацнейшых, колькі б спроб ні рабіла. Серафіма Рыгораўна супакойвала яе, але Ліда бачыла, як тая злуецца і ўсяляк спрабуе схаваць сваю злосць і незадаволенасць.

«Усё пачнецца ў гасцініцы,— думала яна, надзвычай добра ўяўляючы, як будзе сварыцца Серафіма Рыгораўна.— Уцячы куды-небудзь. Не трэба, каб Надзя ведала, а я не вытрымаю, раскажу ёй, і чаму дрэнна выступіла, і чаму ўчора плакала».

Яна адзелася і выйшла ў вестыбюль. Сяргей чакаў яе.

— Перажываеш? — паспачуваў ён.

— Ніколькі...

— Ну і правільна. Калі ты рыхтавалася скакаць у ваду, я падумаў, што, мусіць, так паводзяць сябе тапельцы.

— А мне не да жартаў,— сказала яна.— Ты з машынай?

— А што?

— Можа, куды-небудзь з'ездзілі б...

— Ну што ж, паедзем... Куды толькі?

— Мне ўсё роўна...

За ўсю дарогу да Мінскага мора яны сказалі, мо-

жа, па дзесятку слоў. Ліда пахмурна маўчала, абыякава пазіраючы перад сабой.

За горадам было крыху ветрана і па вадзе беглі велікаватыя хвалькі, аж дзе-нідзе пеніліся іх грабяні. І гэтая сіняя халодная вада, і прылізаны пясок пляжа, і голыя дрэвы з пустымі між іх павільёнамі наводзілі тугу. Лідзе аж хацелася плакаць.

— Навошта ты прывёз мяне сюды? — спыталася яна.

— Здарова была! Сама ж загадала — вязі. Ну і прывёз! Ты, і сапраўды, так перажываеш?

Яны ўсё яшчэ сядзелі ў машыне, не хацелася выходзіць на гэты апусцелы пляж.

— Нічога ты не разумееш,— азвалася Ліда.— Як я не разумею, чаго ты прыехаў сёння ў басейн і чаго я паехала сюды.

— Ты мне падабаешся...

Ліда адчыніла дзверцы і выйшла. Направа, па ўзгорку раслі сосны з выслізганымі камлямі. Між іх пралеглі сцежкі, вытаптаныя дачнікамі. Яна пайшла па сцежцы туды, дзе сінеў на чатырох слупках дах альтанкі. Не дайшоўшы да яе, звярнула налева і зноў выйшла да мора. Яно вузкай затокай урэзалася тут у пляж. На беразе, засыпаныя пяском, ляжалі дагары дном тры лодкі. Чацвёртая мокла ў вадзе, толькі нос ляжаў на пяску. Ліда села ў гэтую лодку. Неўзабаве падышоў Сяргей і таксама сеў у лодку — на борт. Яны маўчалі доўга.

— Ты, праўда, хацела б працаваць у горадзе? — нарэшце спытаўся ён.

— А табе што?

— Мы часцей бачыліся б.

— Навошта?..

— Слухай, давай пагаворым па-сур'ёзнаму...

— Давай...

— Ты, праўда, мне падабаешся...

— Тады паслухай мяне.— Ліда дапытліва паглядзела на яго і раптам заплакала, прытулілася да яго ных грудзей.

...Ён праводзіў яе на аўтобус раніцой, паабяцаўшы прыехаць у Крутыя Горкі разам з дэлегацыяй, што будзе ўручаць трактар Насці Крывіцкай.

Ліда імкнулася выглядаць вясёлай і бесклапотнай.

Але як толькі аўтобус адышоў ад станцыі, яе зноў ахапіў дрэнны настрой. І таму былі важкія прычыны.

Дамоў яна вярнулася, як хворая. Паставіла чамадан і, не распранаючыся, лягла на ложак. Дзед выбіраў бульбу ў агародзе. Таня гуляла пры ім. У хаце стаяла цішыня, якая наводзіла на думкі. Але думкі былі невясёлыя.

Неўзабаве нехта забразгаў дзвярыма. Па кроках Ліда здагадалася, што прыйшла маці.

— Выгулялася, а цяпер і адпачыць захацелася,— сказала маці.— Дзед вунь адзін у баразне сядзіць. Памагла б бульбу дакапаць.

— Абрыдлі вы са сваёй бульбай. Ад'язджала — пра яе гаварылі, прыехала — зноў пра яе,— не жадаючы ўсчынаць сварку, усё ж не стрымалася Ліда.

— А ты як думала,— павучальна сказала маці.— Само нічога не прыходзіць. Што зробіш, тое тваё. З'ездзіла хоць добра?

— Надзю бачыла,— Ліда не хацела расказваць пра сваё паражэнне.

— Дамоў заходзіла?

— Не, у рэстаране...

— Дзіця во кінула, а сама па рэстаранах брындае,— абурылася маці.

— Спявае яна там,— растлумачыла Ліда.

— Як гэта спявае?

— Звычайна. Аркестр іграе, а яна спявае.

— А толкам ты можаш сказаць? — узлавалася маці.— Усё нешта ад мяне хаваеце.

— Бо сама не цікавішся...

— Як гэта ты з маці гаворыш? — накінулася яна на Ліду.— Не бачыш, што вечна ў працы? На ферме, дома, а вы памагчы не хочаце. Усё на матчыны плечы ўсклалі.

Лідзе і самой стала няёмка. Яна паднялася з ложка, пачала апранаць рабочую вопратку.

— Гэта праўда, што бацька вярнуўся? — раптам спыталася яна.

— Праўда,— крыху памаўчаўшы, адказала Марыя.

— І тое праўда, што ён прыходзіў прасіцца пераначаваць, а ты яго не пусціла? — спыталася Ліда.

— Я яго не гнала. Сам прыйшоў — сам пайшоў.

Ліда, нічога не сказаўшы, выйшла.

## 19

Даўно не спалася Івану так, як на Грушынай пасцелі. Не чуў, калі яна вярнулася дамоў, калі выпаліла ў печы, прачнуўся ад таго, што нехта асцярожненька пакратаў яго за плячо.

У акно ярка свяціла сонца. Іван расплюшчыў вочы і зноў заплюшчыў ад гэтай яркай віднаты.

— Сняданак стыне,— ужо аднекуль здаля даляцеў да Івана Грушын голас.

Трэба было ўставаць. Не ў сваёй жа хаце ляжыш, не жонка будзіць.

Іван апрануўся, запытаўся:

— Дзе ў цябе памыцца можна?

Груша зачэрпала ў вялізную конаўку вады, паставіла на ўслончык таз, падала мыла.

— Я — сам,— запярэчыў Іван, чамусьці саромеючыся Грушынай паслужлівасці.

— За мужыком і паўхаджваць прыемна,— усміхнуўшыся, сказала Груша.— Што ж там? Не вялікая работа.

Цяпер, пры дзённым святле, Іван бачыў, што Груша вельмі пастарэла. Выразна акрэсліўся касы разрэз мангольскіх вачэй, пад імі шмат зморшчын, глыбокіх і нейкіх бураватых, як выветраны, выпалены сонцам стэп, а твар яшчэ больш завастрыўся, з-пад сухой і таксама бураватай скуры выпіраюць вострыя скулы, у чорных валасах процьма сівізны, нібы пераплёў іх хто сярэбранымі ніткамі.

Зрэшты, Груша ніколі не была прыгожай, калі меркаваць па крутагорскіх густах. Таму і дзівіліся ў вёсцы, што магло прывабіць Свірыда, чаму вёз жонку з-за свету, калі і ў Крутых Горках такіх красунь хоць гаць гаці.

Паліўшы на рукі, Груша падала ручнік крамнага палатна, але вышыты па канцах нянаскімі ўзорамі. Пакуль Іван выціраўся, яна стаяла воддаль, глядзела на яго цёплым, спачувальным позіркам, як бы любавалася ім.

— Не ведаю, як і дзякаваць табе,— сказаў Іван, каб заглушыць раптам нахлынуўшае пачуццё прыхільнасці да Грушы.

— Чаго ўжо там! Садзіся за стол,— як бы збянтэжыўшыся, сказала Груша.

Яна пачала завіхацца ля печы, не паспешліва, а неяк з прыгожай жаночай сталасцю, спакойна і нават марудліва, нібы гэта прыносіла ёй вялікую задаволенасць. Цяпер ужо Іван назіраў за ёю і непрыкметна любаваўся яе прыгожай увішнасцю. Здавалася, што Груша не хадзіла, а як бы плавала ад печы да стала, ад стала да печы.

— Што ж ты на краёк сеў? — сказала яна Івану. — Госць на покуце павінен сядзець. Не, не, пасунься, Кірылавіч, а то пакрыўдзіш.

Яна не адступіла, пакуль Іван не перасеў на покут. Яшчэ раз схадзіла да печы, прынесла дзве драўляныя, распісаныя ўзорамі лыжкі.

— Сама раблю. Папаша мой некалі дужа прыгожыя лыжкі рабіў. Маім да ягоных далёка.

Але лыжкі былі лёгкія, зграбныя і прыгожыя. Перш чым зачарпнуць страву, Іван пакруціў лыжку перад вачыма, здзівіўся Грушынаму ўмельству.

— Такіх у нас ніколі і не рабілі,— сказаў ён.— Так, звычайныя белыя стругалі, а такіх не памятаю. Можа, даўней і распісвалі...

— У вас да рамяства прывычкі няма,— сказала Груша.— Усё купленае, усё з крамы. Яно, можа, сваё і не лепшае за крамнае, толькі ў крамным душы няма.

— Часу не хапае ў людзей,— пакрыўдзіўся за сваіх Іван.

— Зімнія вечары вялікія,— сказала Груша.— Святла хапае. Папаша, бывала, пры газовачцы рабіў. Прачнуся ўночы, а ён стругае. Чаго ён толькі не рабіў: лыжкі, чарпакі, міскі, нам, дзецям, розныя цацкі стругаў.

Дабрэня адчуваў, што Груша жыве нейкімі сваімі і вельмі дарагімі ёй успамінамі. Яе твар аж праменіўся, на ім загуляла маладая нясмелая ўсмешка. Можа, упершыню пасля смерці Свірыда ёй выпала нагода гаварыць пра сваё маленства, і таму размова гэта хвалявала яе. Дабрэня разумеў Грушу, нібы яна — гэта ён, закінуты далёка ад родных мясцін, якія раптам пачалі нагадваць пра сябе то ў сне, то на адзіноце.

Такое, пэўна, прыходзіць з гадамі. У маладосці чалавек не вельмі шукае той кут, дзе нарадзіўся, дзе правёў сваё басаногае дзяцінства. Калі гаварыць праўду,

дык у маладосці кут гэты як бы нават становіцца цесным, надакучлівым, і тады неадольна цягне ў свет. Але праходзяць гады — і неяк непрыкметна для сябе пачынаеш прыгадваць гэты самы, яшчэ нядаўна не мілы кут, як дарагі і блізкі, і ўжо не разумееш, навошта пакідаў яго.

У Грушыных словах Дабрэня чуў сум па страчанай маладосці. Яму хацелася запытацца, адкуль яна родам і ці застаўся хто ў яе на радзіме. Але тады, як бы само па сабе, трэба было спытаць пра тое, ці праўда, што яна сядзела і за што. Кратаць жа яе мінулае не хацелася, як сваё. Ён прамаўчаў, і гаворка за сталом затухла.

Іван прагаладаўся, бо ўчора так і не павячэраў, таму налягаў на яду, пахвальваючы гаспадыню. Бачыў, што Грушы падабаецца, як ён есць, што хваліць яе. Але яго не пакідала назойлівая думка, што рабіць далей. Зноў ісці да Арцёмкі ці, можа, сесці на аўтобус, назаўсёды пакінуць Крутыя Горкі? Два супярэчлівыя жаданні жылі ў ім, як блізняты: адно, вось гэтае — з'ехаць адсюль назаўжды, другое, яшчэ больш моцнае — застацца тут, абы-як, хоць вось так, як цяпер, без пэўнага прытулку і вялікай надзеі на ўладжанае жыццё.

Мабыць, Груша зразумела ягоны клопат. Як толькі яны вылезлі з-за стала і Дабрэня закурыў, яна без лішняй хітрасці спыталася:

— Дык што ж, Кірылавіч, думаеш далей рабіць?

І ён таксама адказаў, не хітруючы, а шчыра:

— Яно б і паехаць можна, а нешта тут трымае.

— Гады, Кірылавіч, гады,— спачувальна сказала яна.— Некалі ўвесь свет здаваўся хатай, а цяпер хата— светам. Гэта мне вядома.

— Во-во, а хаты, выходзіць, няма.

— Хат многа. Вось і мая, калі хочаш, тваёй будзе. Я — адна, ты — адзін, і дажылі б век. Я таму так кажу, што калі жонка цябе не прымае, дык я не разлучніца. На чужое я не скваіпная.

Яна насцярожана глядзела яму ў вочы, чакаючы адказу.

— Неяк ты без падрыхтоўкі,— сказаў Іван, крыху збянтэжаны яе сватаннем.

— Дык жа нам не па семнаццаць,— усміхнулася

Груша.— Адной не дай божа жыць. Пагаварыць і то няма з кім. Сама з сабой часам гавару. Усю сваю жызню ў памяці перабяру, ды паправіць ужо нічога не магу.

— А ці праўда, што пра цябе казалі, нібы ты сядзела ў лагеры? — адчуўшы, што якраз цяпер і настала тая зручная хвіліна, спытаўся Дабрэня.

Спытаўся ён нібы між іншым, нібы гэта яго не вельмі цікавіла, і тут жа ўбачыў, што дарэмна загаварыў пра гэта. Грушын твар як бы адзервянеў, завастрыўся, а вочы спалохана замітусіліся, пакуль не спыніліся на яе вузлаватых руках, што спакойна ляжалі на каленях.

— Даруй, калі што не тое ляпнуў,— вінавата прызнаўся Іван.

— Чаго ж там,— глухавата сказала Груша.— Было такое... Гэта, як зарубка на дрэве — смалой заплыве, а знак застаецца. Толькі во што, Кірылавіч, калі мы з табою сыдземся, не кранай таго, што было...

Яго здзівіла, што Груша як бы ўжо вырашыла ўсё за яго і нават ставіць яму нейкія ўмовы.

— Пакуль з жонкай не перагавару, не хачу сябе словам, як вязьмом, вязаць. Дзеці там у мяне,— сказаў ён і тут жа зразумеў, што ўжо і звязаў сябе гэтым вязьмом.

— Само сабой,— падтрымала яго Груша.— З жонкай пагаварыць трэба. А дзецям і адсюль памагаць можна. Я не супраць... У самой двое...

І зноў яна гаварыла так, нібы ўсё ўжо вырашана, і гэта крыху бянтэжыла Івана. Ён упершыню адчуваў, што жанчына ў чымсьці мацней за яго, што яна з першых слоў рашуча навязвае яму сваю волю, але яе разважлівасць і непасрэднасць скаралі яго.

— Дык я пайду,— нясмела азваўся ён, нібы баяўся, што Груша можа і не дазволіць.

— А мужчыне і не трэба пытацца,— павучальна сказала яна.— То ягоная мужчынская справа...

Яе словы надзвычай спадабаліся Дабрэню. Ён кінуў у прыпечак недакурак і, ужо павесялелы, паляпаў Грушу па плячы.

— Харошая ты баба, Груша. Ды сама бачыш — нявольны я.

За гады доўгага, пакручастага жыцця Іван Дабрэня ніколі не задумваўся так, як у гэты яркі, сонечны дзень

восені. Усё, што раней было проста і зразумела, набыло нейкі іншы сэнс, у якім хацелася разабрацца не спехам, а грунтоўна і важка. Зрэшты, Дабрэня, ніяк не мог зразумець, што змянілася з таго часу, як ён прыехаў у Крутыя Горкі? Чаму ўсё заблыталася і ў яго не хапае ранейшага характару, што адным махам знаходзіў выйсце і не з такіх сітуацый? Нарэшце, і ці не залішне сур'ёзна ён ставіцца да жончынай адмовы прыняць яго? Пашчырасці, дык ён не выключаў такой акалічнасці, хоць і не дужа верыў у яе. Тады думалася лёгка і проста: не прыме — хай на сябе наракае. А выйшла наадварот, наракае ён сам на сябе, быццам на гэтых Крутых Горках сышоўся свет клінам, быццам ён сам стаў бездапаможны, як бязрукі інвалід.

У думках выходзіла так, што ён, Іван Дабрэня, паранейшаму вольны і незалежны, але ўпэўненасці ў гэтым не было. Горш, ён адчуваў, што ягоныя разважанні наконт незалежнасці — суцэльная хлусня, якая аблытвала яго ўсё жыццё.

Калі Іван выйшаў ад Грушы, у яго быў намер адразу ж пайсці да Марыі; хай скажа без выкрутасаў, можа ён спадзявацца на яе ці не можа. Але неўзабаве такая рашучасць не на жарт напалохала яго. На развілцы, дзе трэба было паварочваць да Марыі, ён павагаўся і скіраваў у сельмаг. Купіў там бутэльку, пайшоў да Арцёмкі.

Ліпскі не здзівіўся, не папытаў нават, дзе ён прападаў. Калі Дабрэня паставіў на стол бутэльку, Арцёмка спрытна схапіў мыліцы, выкуліўся за дзверы, а неўзабаве паявіўся з закускай у прыполе.

— Не жызня пайшла, а катарга,— аб'явіў ён Івану. — Хоць бяжы ў лес. А што, Кірылавіч, давай выкапаем дзе зямлянку ды станем жыць, як тыя сяктанты.

— А ты чаго? — усміхнуўшыся, спытаўся Іван.

— Дык, браце ты мой, пабяжыш. Раней як было? Жонка на працы, а ты пачухаешся троху ля гаспадаркі — ну і годзе. І яна задаволена, і табе добра. А цяпер увесь дзень дома. Кірылавіч, я ніколі не думаў, што бабы так шмат гавораць. Радыё і тое перадых мае, а яны і днём і ноччу не маўчаць. Галава пухне. Я ўжо вушы ватай затыкаў — не памагае. Хіба гермашлем які купіць? Дык баюся, што і ён не вытрымае.

Арцёмка гаварыў, нібы плёў лапці, весела і бесклапотна. А ў Івана зноў нешта зашкрэбла на сэрцы.

— Як ты думаеш,— спытаўся ён, наліваючы гарэлку,— прыме мяне Маша ці не?

Арцёмка спачатку выкуліў гарэлку ў рот, паволі закусіў, нібы не пачуў пытання, толькі пасля, счакаўшы, разважліва адказаў:

— Прыняць, браце ты мой, можа, і прыме. Толькі вось што я табе скажу. Калі вяроўчына рвецца, дык звязаць яе звяжаш, але вузлом. Муляе ён, халера яго вазьмі. Ну, ды гэта тваё дзела. Я тут старана.

Яны дапілі гарэлку. Іван узяў свой чамадан на засцёжках, адчуў, які ён лёгкі, і засаромеўся, што з ім трэба вяртацца дамоў.

## 20

Рашучасці ў Івана хапіла толькі на палову дарогі. Спачатку, можа, ад выпітай гарэлкі, у ім жыла дзёрзкая смеласць; не адступаць, як было дасюль, а наступаць, дамагацца свайго, але не так, як у мінулы раз — вінавата,— а з мужчынскай годнасцю. Што ні кажы, а тыл у яго цяпер трывалы — Груша, адзінокая, клапатлівая жанчына, з якой можна дажыць век, нібы ў бога за пазухай.

Усё гэта было так. Але рашучасць паступова развейвалася, і ўжо іншыя, мітуслівыя, трывожныя думкі лезлі ў галаву. Выходзіла так, што калі Марыя і зноў не дасць згоды, каб сысціся, дык і заставацца ў Крутых Горках яму не выпадае. Не дадуць жыцця людзі. Будуць не проста коса паглядаць, а адкрыта варожа ставіцца да яго, як і да Грушы. На ліха такое жыццё — сярод людзей у адзіноце. Іншая справа, каб замест Грушы можна было б вярнуцца да Аўгінкі!.. Дзіўна, але Марыя і Аўгінка зліваліся ў яго ўяўленні ў адну жанчыну, аднолькава патрэбную яму ў гэтую хвіліну. Груша стаяла ўбаку. І ён недзе адчуваў, што перайсці да Грушы—гэта як ступіць за апошнюю рыску жыцця. Таму ён і мкнуўся да Марыі, таму і баяўся, што Марыя можа адмовіць. Другое, што непакоіла яго — размова пры сведках. Бацьку ў разлік ён не браў. Разумеў, што той будзе на яго баку. А Васі чамусьці баяўся. Нутром адчуваў, што пры сыне гаворка зноў скі-

руецца кудысьці ўбок, што абаім ім, яму і Марыі, як бы будзе няёмка. Ён ужо раскайваўся, што ідзе ў хату. Лепей было б падпільнаваць Марыю дзе-небудзь у полі, а яшчэ лепей папрасіць Алену, каб паклікала Марыю да сябе. Потым ён падумаў, што Вася ў школе. І гэта крыху падбадзёрыла яго.

«Баязлівы стаў,— папікнуў ён сябе.— Ды тут і станеш, бо зусім не ведаеш, што рабіць».

Ідучы пад вокнамі, Іван знарок запаволіў хаду. Спадзяваўся ўбачыць каго ў хаце. Ды так і не пабачыў. Праз брамку зайшоў на двор і тут жа пачуў галасы: бацькаў і Марыі. «Во і добра, што адны»,— падумалася яму.

Ён перасек двор, выйшаў на агарод і сумеўся ад неспадзяванасці. Насустрач яму несла кошыкі з бульбай Ліда. Ён пазнаў яе адразу і тут жа засумняваўся, ці яна гэта. І Ліда, мабыць, пазнала яго. Яна спынілася, трымаючы два цяжкія кошыкі. Але на яе твары Іван не ўбачыў ні здзіўлення, ні радасці. Яна як бы разглядала яго, нібы ён загароджваў ёй дарогу і яна хацела даўмецца, чаго ён паявіўся на гэтай дарозе.

— Добры дзень, дачка,— сказаў ён і паставіў чамадан.

Ліда таксама паставіла кошыкі, усё яшчэ пазіраючы на яго.

На Іванаў голас паднялі галовы ад барознаў бацька і Марыя. Гэта ён бачыў крайком вока.

— Лёгкі ты на паміне,— сказаў бацька.

— Не кажы,— пацвердзіла Марыя.

— Вырасла ты як,— не звяртаючы ніякай увагі на словы бацькі і Марыі, сказаў Лідзе Іван.

Яна неяк загадкава ўсміхнулася.

— Я цябе зусім іншым уяўляла,— сказала Ліда, падняла кошыкі і панесла на двор.

Іван, павярнуўшыся, глядзеў услед. Сустрэча з дачкой была такая неспадзяваная, што ён у першую хвіліну нават не мог сабрацца з думкамі. Цяпер, калі яна схавалася на двары, ён падумаў, што, бадай, ішоў дарэмна. Проста забыўся, не ўлічыў, што дачка дарослы чалавек.

— Вырасла як,— сказаў ён ужо да Марыі.

— Нявеста,— пахваліў бацька.— Ад хлопцаў ад-

бою няма. А ты што ж, развітацца прыйшоў ці мо кончыў свае выбрыкі, дахаты вярнуўся?

Бацька, па ўсяму было відаць, падаваў яму павадок для ратунку, але Іван дрэнна цяміў, што і да чаго.

— Дык жа не ад мяне...

— Чуеце, людзі добрыя? — знарок гучна і як бы абурана выгукнуў бацька.— Пераначаваў ноч і знік. А жонцы што рабіць? Перахваляваласяя вунь як...

Бацька троху перабольшваў, і Марыі гэта не падабалася.

«Самі хацелі, каб сышлася, а цяпер на мяне зварочваюць»,— падумала яна.

Тым часам прыйшла Ліда, паставіла кошыкі ў баразну.

— Дык што ж ты, мама, бацька ў госці зайшоў, а ты ў баразне? Яешню трэба пячы, гарэлку ставіць.

«Ну, вось і пачынаецца»,— падумаў Іван і, каб не цягнуць далей, сакануў з пляча:

— Я, дачка, не ў госці, а назусім вярнуўся. Канечне, калі прымеце. Вінаваты я перад вамі.

Марыя няўцямна зірнула на Ліду. Цяпер і яна разумела, што ўсё залежыць ад дачкі. Скажа, што бацька ёй не патрэбны, дык і яна, Марыя, нічога не перайначыць. А ёй нечага раптам стала шкада Івана. Стаіць, як перад страшным судом, апусціўшы галаву. Мусіць жа, дапякло, калі ў другі раз прыходзіць.

— А каб не Ліда, дык, можа, і не прыняла б,— пайшла Марыя на выручку Івану.— Пытае, ці праўда, што бацька вярнуўся. А я кажу, з хаты яго не выганяла. Калі пра жызню думае, вернецца. Ну, во і вярнуўся...

Марыя гаварыла таропка і гэтак жа таропка паднялася з баразны, атрэсла з каленяў зямлю. Ёй хацелася хутчэй пазбавіцца ад нечага непрыемнага, што, усёй сваёй істотай адчувала, наспявае між дачкой і бацькам. Яна ўжо хацела запрасіць Івана ў хату, як той ні з таго ні з сяго звярнуўся да Ліды, быццам хацеў знарок абвастрыць сітуацыю:

— Дзякуй табе, дачка, што заступілася. А то маці не дужа ветліва сустрэла.

— Вярзеш ты нешта,— цыкнуў на Івана бацька.

— А мне прыемна, што дачка бацькі не цураецца,— стаяў на сваім Іван, быццам сам чорт падгграваў яго на размову.— Праўда, дачка?

— Мне ўсё роўна, прыме цябе маці ці не. Я з вамі жыць не збіраюся,— з выклікам сказала Ліда і пачала выбіраць бульбу.

— Як гэта не збіраешся? — аж здрыганулася Марыя.— Калі з-за яго, дык мне ён таксама не дужа патрэбны.

— Ну што ты, мама. Я замуж выходжу. У горадзе жыць буду.

— Чакай, чакай. Які яшчэ замуж! Маўчала, маўчала і раптам...

— Блазнуе дзеўка,— падаў голас дзед Кірыла.

І хоць Іван яшчэ нічога не разумеў, ён адчуў, што настала і ягоная чарга сказаць сваё слова і не звычайнае, а бацькоўскае.

— Чаго вы на дзеўку накінуліся? — загаварыў ён. — Быццам яна нешта дурное сказала. Самі ж гаварылі: нявеста!

— Ды выдумляе яна,— ледзь не закрычала Марыя. — Прыехала — ні слова, а тут раптам: выходжу замуж.

— Так і ёсць. Спачатку не думала, таму і не казала. А цяпер пайду. Хіба нельга, скажаце? Вы во сходзіцеся, дык я не супраць. Наадварот, вельмі рада, што бацька вярнуўся, а ты, мама, яго прымаеш.

— Ды ты ўсур'ёз, ці што? — спыталася Марыя.

— Спытайце ў цёткі Насці. Яна мне і жаніха знайшла. Праз тры дні прыедзе ў сваты, афіцыйна.

— Жаніх хоць хто? — ужо больш памяркоўна спыталася Марыя.

— Цётка кажа, што добры. З ёй і гаварыце. А мне ўсё роўна. Табе ж, мама, таксама ўсё роўна, вернецца бацька ці не.

Марыя толькі махнула рукой.

— Я пайду,— сказала яна свёкру.

Яна адчыніла дзверы ў хату, прапусціла наперад сябе Івана, нібы ён, і сапраўды, быў госць.

Пакуль Марыя ішла праз двор, у яе саспела цвёрдае рашэнне: адмовіць Івану. Хай ідзе куды хоча. Сам бачыць, што робіцца ў хаце. Вернецца Іван — і зусім заблытаецца жыццё. Адной як ні кажы, а прасцей.

Іван паставіў чамадан на лаўку, прайшоўся па хаце, задумліва спыніўся перад Марыяй і раптам даўнім заклапочаным голасам спытаўся:

— Што гэта з ёй, Маша? Ці не бяда якая?

Марыя зразумела, што ён пытаецца пра Ліду, і ёй стала шкада сябе, іх, неразумных, незразумелых дзяцей, і яна горка заплакала. Іван узяў яе за плечы. Рукі ў яго былі цёплыя і нейкія бездапаможныя.

## 21

Крывіцкі пісаў прамову. Выступаць яму даводзілася не часта, але не так ужо і рэдка. Першая фраза ў яго склалася адразу. Ён запісаў яе без перадыху, прачытаў уголас, застаўся задаволены. Але далей нешта не выходзіла. Ён пісаў і тут жа перакрэсліваў напісанае або таму, што яно гучала задужа проста, або таму, што фразы здаваліся груваcткімі, якіх ніколі не прачытаеш з пафасам.

Крывіцкі быў дома адзін — Насця пабегла да Марыі, каб пагаварыць наконт заўтрашніх заручын,— ніхто яму не перашкаджаў, але, як на злосць, не пісалася. Ён па-дзіцячаму злаваў на сябе, пыхкаючы люлечкай.

Даўней такія прамовы складаліся лёгка, на хаду, і Крывіцкі недзе адчуваў, што пастарэў, таму ўсё даецца цяжка, аж непрывычна. «Затое цяпер бачыцца глыбей,— падумалася яму,— без таго лёгкага, павярхоўнага падыходу, што бывае ў маладосці». Гэта яго падахвоціла не кідаць справу, і ён, сапраўды, напісаў колькі сказаў.

Вось якраз у гэты час творчага натхнення і паявілася Ліда. Яна спынілася ў парозе, чамусьці хутаючыся ў пуховую хустку.

— Праходзь, Ліда,— запрасіў яе Крывіцкі.

Хоць Лідзіна паяўленне і парушала ягоныя планы, ён выгляду не падаваў, што Ліда прыйшла не ў час.

Ліду ён любіў не меней, чым Насця, хоць і быў не задаволены яе паводзінамі.

— А я во адзін. Прамову трэба скласці.— Ён падняўся з крэсла, заусміхаўся ёй.— Дык ці не на заручыны прыйшла клікаць?.. А я ўсё прыглядаўся ды прымяраўся, за каго пляменніцу пасватаць. Аж яна сама... Ну, сядай, сядай, вось сюды.

Ён пасадзіў яе на канапу, паставіў каробку з цукеркамі на столік.

— Я да вас, дзядзька,— нібы не сваім голасам сказала Ліда.

— Чаго там, разумею,— як бы бянтэжачыся, загаварыў Крывіцкі.— Я сам аж не веру, што і ты ўжо дарослая. Усё неяк лічыў маленькай.

Ліда прамаўчала. І гэта яе маўчанне раптам устрывожыла Аляксея Віктаравіча.

— Ты чаго кіслая? — спытаўся ён.

— Я не кіслая,— азвалася Ліда, чамусьці хаваючы твар.

— Ну і правільна! — выгукнуў Крывіцкі. — Табе толькі і весяліцца!..

Але ён адчуваў, што ягоныя ўзнёслыя словы разбіваюцца аб Лідзіну маўклівасць. І ён сам замоўк, устрывожана пазіраючы на пляменніцу.

Ён раптам падумаў, што няйначай як Ліда прыйшла прасіць грошай, бо ў яе зноў паявіўся доўг.

Яшчэ летась, пасля заканчэння школы, Ліда паехала на спаборніцтвы, пазычыла ў нейкай спартсменкі дваццаць рублёў. Уразіла тады Крывіцкага не гэта (можна было пагадзіцца, што грошы ёй, сапраўды, былі патрэбны), а тое, што яна схавала гэта ад маці, ад яго і толькі тады, як спартсменка прыгразіла паскардзіцца ў калгас,— пад прымусам прызналася, што, сапраўды, пазычыла грошы.

Гэтая хлусня і Лідзіна несумленнасць глыбока ўзрушылі Крывіцкага. Упершыню ён тады накрычаў на яе, а маці выслала грошы тэлеграфам. Але, як чалавек сумленны, Крывіцкі не мог забыцца пра той выпадак. Ён доўга думаў, чаму Ліда так зрабіла, і прыйшоў да некалькі дзіўнай высновы. Заключалася яна ў тым, што Марыя не разумее дачкі, а цяперашняя моладзь мае патрэбу ў самастойнасці, бо яе, гэтую самастойнасць, прывіваюць дзіцяці з першага класа школы, таму трэба, каб Ліда пачала зарабляць грошы і не залежала ад маці, як таго хацелася Марыі. Вось тады ён і заняўся ўладжваннем Ліды на працу, а пакуль вяліся перагаворы, вымяркоўваў ёй час ад часу то пяць, то дзесяць, а часам і дваццаць рублёў.

Ліда грошы брала, але на працу не вельмі спяшалася. Праўда, пазычак больш не было, і гэта, па крайняй меры, радавала Крывіцкага.

І вось цяпер ён з жахам чакаў: Ліда прызнаецца, што зноў мае доўг.

Яна сядзела, адкінуўшыся на падлакотнік, абапёршыся на руку, закрывала далонню палову твару. Крывіцкі сеў побач з ёю, але не ведаў цяпер, як і з чаго пачаць непрыемную гаворку. Дзіўна, але яму было сорамна, быццам ён сам, а не хто-небудзь іншы, зрабіў ганебны ўчынак.

— А ўсё ж ты ад мяне нешта хаваеш,— сказаў ён. — Не бойся, кажы...

— Каб баялася, дык не прыйшла б,— адказала Ліда.

— Ну і добра! Правільна,— падхапіў Крывіцкі.— Дык і кажы, што здарылася. Зноў напазычала грошай?..

Ліда нешта хацела сказаць, але раптам замоўкла, падхапілася з канапы і зноў села на яе.

— Так мы ні да чаго не дамовімся, Ліда,— сказаў ён.— Колькі ты павінна?

— Нічога я не павінна,— адказала Ліда як бы са злосцю, што да яе прыстаюць з дурнымі пытаннямі.

Яна ўткнула галаву ў калені, заплакала наўзрыд.

Крывіцкі, які з дзяцінства не цярпеў жаночых слёз, зусім разгубіўся. Яму здалося, што сваім пытаннем ён пакрыўдзіў, нават абразіў Ліду.

— Ну чаго ты, чаго? — асцярожна кранаючыся Лідзінага пляча, гаварыў ён.— Даруй, калі што не так сказаў. Я па-добраму, па-сваяцку. А ты во ў слёзы. Супакойся, дурненькая. Усё абыдзецца. Ты толькі скажы, чаго плачаш. Ведаеш жа, я заўсёды табе памагаю.

Ліда праз слёзы ўсміхнулася, і Крывіцкі невыказна гэтаму ўзрадаваўся.

— Ну во і малайчына! Во і добра! А то ў слёзы... Дык кажы цяпер, якая цябе бяда напаткала, а мы ёй ураз галаву скруцім...

Ён не адчуваў, што гаворыць з Лідай, як з малой. Ды яму і ўсё роўна было, як гаварыць, абы Ліда не плакала. Ён нават дастаў з кішэні насоўку, хацеў быў выцерці Лідзе слёзы, але яна ўхілілася.

— Дзядзька Лёша, не магу я ісці замуж за Сяргея,— сказала Ліда, і Крывіцкі, які чакаў невядома якога жахлівага прызнання, аж залыпаў вачыма.

— Чаму? Хіба ты яго не кахаеш?

— Кахаю,— як рэха, адгукнулася Ліда.

— Во ўжо нічога не разумею,— шчыра прызнаўся Аляксей Віктаравіч.

Ліда зноў заплакала і на гэты раз шчыравіта на слёзы. Яны як не цурком каціліся па шчоках. Ліда не выцірала іх. Здавалася, яна і не заўважае слёз.

Збянтэжаны Аляксей Віктаравіч падумаў, што жонка сышла з хаты зусім не ў час. Яна, вядома, лепей за яго разабралася б у Лідзіным горы.

— Ну чаго ты плачаш? — у роспачы, нават са злосцю ў голасе спытаўся ён.— Растлумач, нарэшце, што ўсё гэта азначае?..

Мусіць, ягоны раззлаваны голас зрабіў уражанне, бо Ліда перастала плакаць, нават выцерла насоўкай слёзы.

— Мы з адным хлопцам дружылі...

— Ну і што? — спытаўся Аляксей Віктаравіч.— Так часта бывае: з адным дружаць, а замуж за другога ідуць. Цётка твая таксама дружыла. А я ўзяў ды і ажаніўся.

Аляксей Віктаравіч аж усміхнуўся, прыгадаўшы, як ён адбіў Насцю ў Васіля Галяшкі, эмтээсаўскага механіка. Той быў і з твару прыгажэйшы, і гаварыць умеў — заслухаешся, а ён, Лёша Крывіцкі, аднойчы падмеўся падвезці Насцю да Астрошыц. Пакуль ехалі, і ўгаварыў яе пайсці ў загс. З Астрошыц вярталіся ўжо мужам і жонкай, а Васіль чакаў яе, седзячы на бярвенні, не здагадваўся, што атрымаў адстаўку. Падбег да калёс, пачаў запрашаць Насцю на вечарынку. А ён, Лёша, спакойна сказаў яму: «Ты што гэта маю жонку на вечарынку цягнеш? Нядобра неяк». Галяшка аж не паверыў. А як тое самае пацвердзіла Насця, трое сутак піў...

— Дык у мяне ж... Ну як вы не разумееце,— выгукнула Ліда, адводзячы вочы ўбок.

Аляксей Віктаравіч дапытліва зірнуў на яе, і, ужо здагадаўшыся, што здарылася, з прафесійнай непасрэднасцю спытаўся:

— Ды ты што? Даўно?

— Трэці месяц... напэўна,— адказала Ліда.

Яе прызнанне і тое, як гэта было сказана, уразіла Аляксея Віктаравіча. Ён падняўся, заклаў рукі за салдацкі рэмень, пачаў мераць хату павольнымі крокамі.

Ён разумеў, чаму да яго звярнулася Ліда. І цяпер, пахаджваючы па хаце, думаў, што і як павінен сказаць ёй. Знешне Аляксей Віктаравіч быў спакойны, нават

занадта, але ў душы бязмежна абураўся. І не тым, што здарылася з Лідай, а тым, што хацела зрабіць, ды яшчэ з ягонай дапамогай.

Тыя аперацыі, у выніку якіх абрывалася жыццё няхай сабе і не свядомай яшчэ істоты — будучага чалавека,— Аляксей Віктаравіч лічыў амаральнымі, а таму злачыннымі. Было тут шмат асабістага, бо ён не меў дзяцей і таму адчуваў сябе няшчасным. Але калі б нават ён і меў дзяцей, нічога ў яго адносінах не мянялася. У гэтым ён быў перакананы. А калі ў чым-небудзь Аляксей Віктаравіч лічыў сябе перакананым, гэта станавілася ягоным прынцыпам.

На самым пачатку яго медыцынскай дзейнасці ў Крутых Горках было, нешта, два выпадкі, калі да яго звярталіся з такімі просьбамі. Тады ён адстаяў свой прынцып, спасылаючыся і на закон, і на ўласнае адмоўнае стаўленне да такіх спраў. Цяпер Крывіцкі адчуваў сябе ў чымсьці бяссільным.

Па-першае, гэта была ягоная пляменніца, на якую ён, праўда, мог накрычаць, насварыцца, забараніць нават думаць пра тое, што яна надумалася зрабіць, але якую шкадаваў. Па-другое, і ён гэта разумеў асабліва выразна, Ліда апынулася ў сапраўды незвычайных абставінах, і дапамагчы ёй мог толькі ён. Таму ён абураўся ўдвая, а гэта перашкаджала яму знайсці выйсце і для сябе, і для Ліды.

— Што ж нам рабіць? — у роспачы спытаўся ён, больш у сябе, чым у Ліды.

— Дзядзька Лёша, дык у вас жа шмат знаёмых,— падказала Ліда.

Яе разважлівы голас вывеў яго з задуменнасці. Ён зірнуў на Ліду і здзівіўся, што яна сядзіць зусім ўжо спакойна, быццам гаворка ідзе ў іх пра нешта вельмі нязначнае. Цяпер ён ужо не мог стрымацца. Але не толькі таму, што яго прымушаюць ісці наперакор сваім прынцыпам, а яшчэ і таму, што ўся гэтая гісторыя— разважлівае, брыдкае ашуканства сумленнага чалавека, якога Ліда, напэўна, не кахае і за якога збіраецца ісці замуж невядома па якіх прычынах.

— Я не дазволю, каб ты ашуквала яго. Гэта подла, брыдка, амаральна. Так, так, амаральна! — крычаў ён, ужо бегаючы па хаце.— Ідзі за таго замуж, з кім гуляла, ад каго прыдбала гэта дзіцё, якое хочаш зніш-

чыць. Ды хто табе даў права? Не, паглядзіце на яе. Сядзіць, быццам нічога не здарылася. З якім жа ты сумленнем ідзеш замуж? «Я кахаю!..» А ён цябе? За што кахаць? Ну, а калі кахае, прызнайся яму. Але я не дазволю рабіць аборт. Не дазволю...

Крывіцкі спыніўся ля яе і раптам замоўк. Ліда насмешліва, нават са злоснай пагардай глядзела яму ў вочы.

— Ты што? — спытаўся ён, збянтэжаны гэтай усмешкай.

Ліда паціху паднялася з канапы, абцягнула кароценькую спаднічку, паволі пайшла да дзвярэй.

Крывіцкага так і падмывала адперазаць рэмень. «Якая дрэнь расла, а мы прагледзелі»,— злосна падумаў ён, пазіраючы на Ліду. Але ў душы ён адчуваў, што ні абурэнне, ні самыя злосныя словы, ні нават папруга ўжо нічога не могуць змяніць. І гэтае адчуванне свайго бяссілля зусім абяззбройвала яго.

Тым часам Ліда спынілася ў парозе, павярнулася да яго. Твар у яе быў як чужы.

— Я вельмі шкадую, што прыйшла да вас. Хоць маме не кажыце. Ёй і так цяжка.

— Не скажу,— нібы рэха, адгукнуўся Крывіцкі.— Ды ты пачакай. Можа, я пагарачыўся. Можа, выйсце ёсць. Жэняцца ж, урэшце, на ўдовах, з дзецьмі. Дык і ён, калі чалавек, зразумее.

Ліда неяк задужа гучна засмяялася.

— Дзядзька Лёша, вы, як пратакол, правільны дужа.

Яна пайшла, а Крывіцкі зноў пачаў хадзіць па хаце. Спачатку ён толькі абураўся паводзінамі Ліды, потым, неяк непрыкметна, астыў і ўжо разважліва падумаў, што, магчыма, нічога страшнага не адбылося, што ён усё перабольшаў і, напэўна, зусім дарэмна насварыўся на Ліду.

Крывіцкі нават стаў вінаваціць сябе, што не стрымаўся, нагаварыў лішняе, а трэба было памагчы Лідзе. Ён спалохаўся, што Ліда можа ўчыніць над сабой нейкі гвалт, і ўжо зусім разгубіўся ад гэтай думкі.

Яму хацелася зараз жа пайсці да Марыі, пабачыць, ці прыйшла Ліда, можа, нават і ўжо спакойна пагаварыць з ёю. Але і гэтая думка паказалася зусім неразумнай. Калі ён так позна паявіцца ў Марыі, дык яна

напалохаецца, пачне распытваць, і тады (Крывіцкі добра ведаў) ён не стрымаецца, раскажа пра Лідзіну бяду.

Разважлівы і вынаходлівы, калі нешта трэба было параіць чужому чалавеку, Аляксей Віктаравіч цяпер не мог знайсці правільнае рашэнне.

Ён вельмі ўзрадаваўся, калі пачуў за акном жончыны крокі. Насця ўвайшла з той усмешкай, якая паяўлялася ў яе, калі вярталася аднекуль у хату.

— А ці ты не спіш? — весела сказала яна, здымаючы з галавы хустку і вешаючы яе на жэрдку.— Не дужа сумаваў? Загаварыліся і не заўважыла, што позна... Заўтра хоць разарвіся: і мітынг, і заручыны, і Берасцень прасіў, каб абавязкова пабыла на прыёме. А ў мяне ніводнай прасаванай сукенкі, ды і твой касцюм трэба выпрасаваць. Ты кладзіся спаць, а я параблю...

Насця не заўважыла, што Аляксей чымсьці ўстрывожаны. Яму карцела расказаць ёй пра ўсё, што адбылося тут гадзіны паўтары назад.

— А Ліда дома? — спытаўся ён.

— Дома. Дзе ж ёй быць? — адказала Насця. — Ты во ўсё наракаў, што яна бесклапотная. А як прыйшло замуж выходзіць, дык і пасур'ёзнела. Задумлівая такая стала, аж шкада... Ды яно і не дзіва. Здаецца, ну чаго там перажываць, а нешта трывожыць. Чалавек ён добры, пабачыш сам, але ж у душу не заглянеш. Замуж не на адзін дзень выходзіш — на ўсё жыццё.

Крывіцкі хацеў стрымацца, але не мог.

— Была яна тут, у мяне — Ліда,— сказаў ён, нібы між іншым, аднак пільна пазіраючы на Насцю.

— Табе асаблівы гонар,— падхапіла Насця.— Любімы дзядзька. Сама на заручыны кліча.

— Якія там заручыны,— Аляксей Віктаравіч падышоў да Насці, паклаў руку на плячо.— Ты не хвалюйся, але павінен сказаць: не трэба заручын. Цяжарная яна. Таму і прыходзіла да мяне.

Спачатку Насця ніяк не магла ўцяміць таго, што сказаў Аляксей. Здавалася, што ён сказаў пра кагосьці яшчэ, а не пра Ліду. Але памяць адразу ж узнавіла і тое, як вяла сябе Ліда ў рэстаране і як яна плакала на кватэры ў Надзі.

— Што ж цяпер рабіць? — як бы ў роспачы спыталася Насця.

— Дык во і я пра гэта думаў...

— Лёшанька, у цябе ж дактары знаёмыя,— раптам горача загаварыла Насця.— Можа б, у Мінску, а не ў Астрошыцах. Тут жа ўсё на віду, не схаваешся... Чалавек вельмі ўжо добры. Другога такога і не прычакаеш...

Аляксей Віктаравіч прамаўчаў. У душы ён не пагаджаўся з жонкай, але адчуваў, што зробіць так, як яна захоча.

## 22

Пасля той размовы з Берасценем, калі Марыя падала заяву, яе выклікалі ў калгасную кантору. Гаварылі з ёю трох: сам Берасцень, брыгадзір Дудак і Аляксей Крывіцкі. Марыя доўга не здавалася, стаяла на сваім, каб на яе месца паставілі апературам Алену. Ды куды ты дзенешся — угаварылі, паабяцаўшы знайсці Алене сталую працу. І хоць такая праца была знойдзена — праўда, з удвая меншым заробкам,— Марыя адчувала перад Аленай сваю віну. Як бы здрадзіла сабе. Такой жа здрадай здавалася ёй і згода прыняць Івана. Разбіты збан не склеіш, а калі і склеіш — ваду ў ім не панясеш.

Па ўсім было відаць, што і сам Іван адчуваў сябе ў хаце чужым. Нешта рабіў, некуды хадзіў, глядзеў за гаспадаркай, але шчырасці не было. Здавалася, пасяліўся ў хаце староннi чалавек, якога не тое што трэба асцерагацца, але пры якім увесь час адчуваеш дзіўную скаванасць.

Вася ўсё хадзіў насуплены, прыціх — слова з яго не вырвеш. Ды і Ліда стала інакшай, хоць Марыі здавалася, што яна найбольш хіліцца да бацькі.

Сама Марыя адчувала няёмкую вінаватасць і перад Васем, і перад сабою. Іван як бы замінаў ёй, як бы быў лішнім у хаце. Не было да яго таго пачуцця, якое некалі паяўлялася ў бяссонныя ночы. Усё выветрылася. Дарэмна здавалася, што можна пачаць жыццё спачатку, як раілі жанчыны. Не пачнеш!..

Толькі клопат пра Лідзіна вяселле глушыў надакучлівыя, тужлівыя думкі. З таго часу, як Насця расказала пра будучага зяця, усяляк расхвальваючы яго, Марыя жыла то ціхай радасцю за дачку, то такой жа ціхай трывогай. Нешта не падабалася ёй у Лідзе. Ду-

шой адчувала, а толкам сказаць не магла, што трывожыць яе, вярэдзіць сэрца. Ліда паводзіла сябе неяк дзіўна. То весялілася, як на злом галавы, а то раптам натапырвалася, нібы той вожык — не дакранісл, не скажы слова.

Раней Марыя не заўважала настрояў у хаце, хоць бывала ўсяго. Проста не хапала часу. Вернешся дамоў бясконца зморанал, дык няма калі ды і неахвота прыглядацца, хто ў якім настроі. Цяпер часу прыдалося. А можа, не толькі часу? Здавалася, абвастрыўся і зрок, і слых — усё прыкмячаеш, усё чуеш.

Асабліва заўважна стала свёкрава мітуслівасць і няшчырая, прыкрая дагодлівасць. Свёкра — не тое што Ліду — Марыя разумела. Старому хочацца, каб у яе з Іванам нарэшце наладзілася жыццё. Хоць у свой час свёкар і казаў, што выкінуў сына з сэрца, ён не пераставаў любіць яго. І даражэй за сына ў яго нікога не было. Таму і жыў пры Марыі, спадзяваўся, што Іван вернецца.

Мусіць, і свёкар адчуваў, што Іван жыве ў хаце чужым. Ён і сам неяк унурыўся, аціх, толькі аднойчы сказаў Марыі:

— Вы што ж гэта, як чужыя, паасобку спіцё? Чаго тады было сходзіцца?

Марыя прамаўчала. Не хацелася гаварыць пра тое, што цяжкім каменем ляжала на сэрцы. Ды і не зразумее стары.

Усё гэта разам неяк ускладніла Марыіна жыццё. Здавалася, завязаўся вузел і ўжо нельга ні развязаць яго, ні рассячы.

Марыя ляжала, ганяючы павольныя, тужлівыя думкі. Як па-ранейшаму, дык яна даўно была б на ферме, а цяпер можна было і папесціцца ў цёплай пасцелі. Толькі вялікага задавальнення гэта не прыносіла.

Некалі дык толькі можна было марыць вось пра такое ранішняе ляжанне ў ложку. Усё спяшалася, усё неставала часу, а жылося нібы і весялей. Як яна — ды і не толькі яна — чакала комплексу, калі пра яго загаварылі ў калгасе! Думалася, што паявіцца вольны час, паменшае клопатаў, згрызот. Час вольны сапраўды паявіўся, а клопату як бы і дадалося. Машыны толькі зрабілі палёгку ў працы, чалавечыя турботы яны пакінулі людзям. І тое, што раней не заўважалася ў

цяжкай працы, цяпер заяўляе пра сябе на ўвесь голас. Такі, відаць, чалавек, што ніякая машына не здольна пазбавіць яго ад хваляванняў і клопату...

На дварэ патроху залачала. Няяркая, нібы прывідная віднота памалу кралася ў хату. Марыя адкінула коўдру, апусціла босыя ногі на халодную падлогу.

Мабыць, пачуўшы яе крокі, прахапіўся Іван у баковачцы, зайшоўся глухім, як у бубен, кашлем. На печы заварочаўся свёкар, але не ўстаў, як было раней, да прыезду Івана. Прыкінуўся, што ў сне павярнуўся, хоць Марыя ведала: ён будзе лавіць кожнае іх слова.

Марыя выйшла ў сені, запаліла святло. Электрычная лямпачка гарэла ў гэты час ярка, аж рэзала ў вачах. Набраўшы вады ў карэц, Марыя пачала мыцца. Пачула, як рыпнулі дзверы і ў сенцы выйшаў Іван. Яна не павярнулася нават. І ён стаяў за ёю, кашляючы і пераступаючы з нагі на нагу.

— Дык што мне рабіць сёння? — спытаўся ён чужым і нейкім вінаватым голасам.

Марыі зрабілася смешна: гаспадар называецца!..

— Трэба ж хоць троху падрыхтавацца, каб людзей сустрэць,— сказала яна, прыкідваючы ў галаве, колькі і чаго трэба ўзяць у краме і што згатаваць самой.— Грошы ў буфеце ляжаць. Але многа гарэлкі не бяры. Не вяселле, а сваты. Можа, яшчэ і нічога не будзе.

Толькі цяпер яна павярнулася тварам да Івана. Той стаяў, апусціўшы рукі, вінавата пазіраючы на яе.

— У мяне грошы ёсць... пакуль,— сказаў ён.

— Свае беражы, можа, прыгадзяцца.— Марыя зняла ручнік, выцерла твар, рукі.

Іван зноў пераступіў з нагі на нагу.

— Не магу я так, Маша,— прыцішана загаварыў ён.— Не магу. Як чужы які, як парабак.

— А і не свой,— бязлітасна абрэзала Марыя.— Думаеш, мне лёгка. Ты папрывыкаў па чужых кутах ацірацца. Табе дык нішто. А мне горай у сваім куце чужога бачыць.

— Дык, можа, і не варта было сходзіцца? — спытаўся Іван, разумеючы, што гаворка скіравалася на дужа слізкую сцежку.

— Гэта як хочаш, твая справа. Не раз ужо было і так: сходзіліся і зноў разыходзіліся...

— Я не да таго кажу,— памалу адступаў Іван.—Сам

вінаваты — разумею. А і ты зразумей, Маша, што дзеці на нас глядзяць. Не будзе між намі ладу — і ў хаце яго не будзе.

— Дзякуй богу, дайшло нарэшце,— Марыя пачала абувацца і, ужо седзячы на ўслончыку, пазіраючы на Івана знізу ўверх, дадала: — Разбурыў ты, Іван, сваё гняздо сам, а збудаваць яго нанава не ўмееш. Не ад мяне, ад цябе ўсё залежыць.

...Ноччу ў лагчынках мароз пакрыў белым інеем траву. Яна каляна шастала пад нагамі. На ўсходзе ярка разгаралася, як палала, неба. Затое на захадзе, на самым небасхіле, вісела бурая, як бы снегавая хмара. Але было ціха. Здавалася, што сухое празрыстае паветра застыла ад першага подыху марозу.

На дварэ адразу прапалі тлумныя, надакучлівыя думкі, і Марыя не заўважыла, як дайшла да фермы.

Брыгадзір ужо сядзеў у сваім пакойчыку, курыў і нешта запісваў у сшытак.

— А ты як усягды — першая,— сказаў ён.— Не тое што наша маладзёж.

Але і маладыя аператары паявіліся тут жа. Яшчэ на ганку пачуліся іх вясёлы, бесклапотны смех і звонкія ў ранішняй цішыні галасы. Так, смеючыся, дзяўчаты і зайшлі ў пакой і адразу ж пачалі пераапранацца, пра нешта расказваючы адна адной і смеючыся. І хоць іх не трэба было прынукаць да працы, брыгадзір не сцерпеў, падагнаў:

— Ну што вы варушыцеся, як нежывыя?

Але дзяўчаты на яго буркатню не звярнулі ніякай увагі. Быццам брыгадзір гаварыў не ім, а ў пустую прастору.

Яны прыхарошваліся перад люстэркам, нібы адпраўляліся не кароў даіць, а на вечарынку. Адна адной папраўлялі халаты, адмыслова, з нейкім нечуваным шыкам адзявалі белыя шапачкі, прыколвалі іх да валасоў такімі ж адмысловымі шпількамі.

«Іхні час прыйшоў,— падумала Марыя,— іхні... І дай божа мне пенсіі той дачакацца. Я сярод іх, як пень сярод кветак».

Яна пайшла ў хлеў першая. Адчыніла дзверы і ўключыла святло, потым скіравала да кароўніка, адкінула зашчапку, адчыніла лёганькія варотцы, і каровы самі пацягнуліся ў даільнае аддзяленне.

Гучна размаўляючы і смеючыся, дзяўчаты апусціліся па сходках у апаратную, прывычным рухам бралі даільныя бакалы і гэтак жа звыкла прыстаўлялі да вымя. Пры гэтым яны не пераставалі размаўляць і смяяцца.

Марыя па прывычцы падцерушыла канюшыну ў кармушках, пагладзіла кароў, каторую па шыі, каторую між рог, і сама далучылася да дзяўчат.

Унізе ўжо роўна і глуха гула халадзільная ўстаноўка. Па шкляных трубах бегла ў яе малако.

— Чаго гэта вам так весела? — запыталася яна ў дзяўчат.

Яны не адказалі, а яшчэ больш зайшліся ад нястрымнага смеху. Марыя напачатку аж узлавалася: рагочуць, як малахольныя. Хацела была прыкрыкнуць на іх, ды раптам успомніла даўні-даўні выпадак.

Яшчэ была жывая Любы Вежнявец маці. Толькі ўжо рабіла не старшынёй калгаса, а фермай загадвала. Нешта тады здарылася на ферме, здаецца, нейкая хвароба напала на парасят. Дык Любіна маці аж учарнела. А яны, Марыя з Любай, прыйшлі з вечарынкі і вось так, без усялякай прычыны, рагаталі. Можа, прычына і была, ды цяпер забылася. Але Марыя добра памятае, што яны тады аж заходзіліся ад смеху. Любіна маці паглядзела на іх, ды і кажа: «А мае вы дачушкі, во як вам весела. А мне плакаць хочацца. Мусіць, састарылася я, калі вам у смеху памагчы не магу».

«Пэўна, і я састарылася,— падумала Марыя.— Нешта ўсім незадаволена ды ўсё нешта плакаць хочацца. А чаго, каб хто спытаў? І работа лёгкая, і муж вярнуўся, і дачка замуж ідзе. Дык жа чым я незадаволена? Гадамі хіба. Іх жа не спыніш, каб і хацеў».

Яна, перамагаючы сябе, усміхнулася. Адчула, што ўсмешка выйшла няшчырая, і заклапочана ўзялася за працу.

## 23

Гасцей чакалі гадзіне а дванаццатай, а яны прыехалі пасля абеду.

Як на тое ліха, надвор'е, што трывала з раніцы, сапсавалася. Спачатку паліў золкі, як з вядра, дождж, потым, калі ён крыху аціх, сыпануў густы, як пад новы

год, снег. Ён, праўда, хутка перастаў, але ўжо рабіць мітынг на дварэ не выпадала.

На мітынг з'ехаліся калгаснікі з усіх брыгад, і калі ўрачыстасць перанеслі ў клуб, людзей там набілася шмат — не павярнуцца.

Марыя ісці ў клуб не збіралася, але па яе прыбеглі, і яна пайшла. За сцэнай, у невялічкім пакоі, ужо сабраліся і госці, і раённае кіраўніцтва, і калгаснае — усе, каму належала сядзець у прэзідыуме. Марыя ціхенька стала ля дзвярэй, прыслухоўваючыся і да размоў, што не сціхалі тут, і да вясёлага гулу ў зале. Першым, каго яна ўбачыла, быў Берасцень. Ён трымаў пад руку Насцю, нешта гаварыў гасцям і рагатаў. Побач з імі стаяў высокі чалавек у паліто, трымаў у руцэ капялюш.

— А мы таксама людзі ашчадныя,— сказаў ён у цішыні, якая раптам настала.— Мы вам — трактар, а вы нам таксама нешта аддасце.

Ён абняў за плечы невысокага каранастага хлопца.

— Праўду кажу, Сярога?

Хлопец як бы збянтэжыўся.

«Дык ці не ён і ёсць Лідзін жаніх?» — падумала Марыя і ўжо з цікавасцю паглядзела на яго.

— А бярыце каго хочаце,— выгукнуў Берасцень. — Толькі вось яе не аддамо.— І старшыня абхапіў Насцю за плечы, прытуліў да сябе.— Ёй у нас цаны няма.

Насця ў гэты час азірнулася, убачыла Марыю і, вызваліўшыся з Берасценевых рук, падышла да сястры.

— Хадзем, чаго ты тут стаіш. Пазнаёмлю з зяцем...

Марыя нечага аж спалохалася.

— Ды ну цябе! Які зяць! Быдта ўжо і запісаныя...

— Увечары прыйдуць,— шапнула Насця.— Можа, хай бы ў вас пераначаваў...

І зноў Марыя нечага спалохалася.

— Выдумляеш ты нешта. Каб размовы потым пайшлі па Крутых Горках?

Яны і не заўважылі, што на іх паглядаюць і госці, і Берасцень, і раённае начальства. Марыя раптам пачула, як старшыня сваім зычным голасам сказаў:

— А гэта наша даярка, і таксама лепшая.

Цяпер ужо не выпадала не падысці, і Марыя, чамусьці саромеючыся, збянтэжаная, падышла да гасцей, спынілася, не ведаючы, што і як трэба рабіць, што казаць.

— Сярожа, знаёмся, гэта і ёсць Лідзіна мама,— нейкім незнаёмым, задужа ласкавым голасам, сказала Насця.

Хлопец падаў руку і таксама засаромеўся. А Марыя дык гатова была хоць скрозь зямлю праваліцца.

На яе шчасце, зноў забубніў Берасцень:

— Любоў Мікалаеўна, вы ж, мусіць, і не ведаеце, што Марыя была падала заяву. Прасіла, каб зволілі яе з даярак. Ледзьве ўгаварылі.

Толькі цяпер Марыя ўбачыла Вежнявец у белым світэры і зялёнай спадніцы. Яна неяк вінавата ўсміхнулася Любе, як бы саромеючыся свайго ўчынку.

— Мусіць, на тое былі важкія прычыны, таварыш Берасцень,— неяк сурова сказала Вежнявец,— калі праз трыццаць гадоў працы на ферме людзі заявы падаюць.

На Берасценя як бы вылілі вядро халоднай вады. І Марыі аж стала шкада яго.

— Гэта ж я хацела, каб Ліпскую на маё месца паставілі,— сказала яна.

Мабыць, Берасцень адчуў, што гаворка становіцца залішне сур'ёзнай, ён раптам закамандаваў усім ісці ў прэзідыум.

Марыі вельмі хацелася перакінуцца з Вежнявец хоць некалькімі словамі, параіцца, ці правільна яна зрабіла, што прыняла Івана ў хату, але Берасцень далікатна пачаў падштурхоўваць сакратара наперад, і тая пайшла на сцэну побач з заводскім госцем.

У зале адразу ж запляскалі ў далоні, і гэтыя воплескі гучалі аж датуль, пакуль апошняй на сцэну не выйшла Марыя. Яна прысела на пустое крэсла ў апошнім радзе і тады глянула ў залу. Ёй здалося, што ўсе вочы скіраваны на адну яе, і Марыі аж стала няёмка, што вось так сядзіць на віду ва ўсіх людзей. Потым яна ўбачыла Вежнявец і Насцю ў першым радзе прэзідыума за доўгім сталом, накрытым чырвоным палатном. Насця, павярнуўшыся да Вежнявец, нешта весела гаварыла і смяялася.

«Прывыкла,— падумала Марыя пра Насцю.— А я дык, мусіць, ніколі не прывыкла б вось так сядзець на віду ў людзей».

Крывіцкі адкрыў мітынг, і ўсё пайшло сваім парадкам.

Марыя з усёй сілы напружвалася, каб пачуць кожнае слова. Тут, у прэзідыуме на апошнім радзе, чуваць было дрэнна, бо мікрафон на трыбуне нечага капрызіў, і Марыя аж стамілася, пакуль кончыўся мітынг, нібы адрабіла на ферме і за сябе, і за Алену Ліпскую.

«І як яны толькі могуць кожны дзень вось так сядзець»,— чамусьці падумала Марыя пра Вежнявец.

У прэзідыуме, ды і ў зале ўсе падняліся, рушылі на выхад. Марыя па прывычцы прапускала людзей паперад сябе, каб выйсці ў баковачку апошняй. Але на гэты раз у яе была і яшчэ прычына — сустрэцца з Вежнявец.

Любоў Мікалаеўна памалу пасоўвалася да выхада, нешта гаварыла Берасценю і Крывіцкаму, якія з двух бакоў суправаджалі яе. Марыя было падумала, што, мусіць, пагаварыць не давядзецца, бо Берасцень таго не дапусціць. Але Вежнявец ужо заўважыла яе і пайшла, так і не даслухаўшы Берасценя з Крывіцкім.

— Рыхтуйся, Марыя, на курорт,— падыходзячы да Марыі, сказала Вежнявец.— Пуцёўка табе ў Сочы. Палечышся. Санаторый добры...

Марыя сумелася. Вежнявец, мабыць, гэта заўважыла. Яна ўсміхнулася той прыязнай усмешкай, што выклікала чалавека на шчырасць.

— Што, зноў нешта замінае? — спыталася яна ў Марыі.

— А ўжо ж,— азвалася Марыя.— Во хацела нават да цябе ісці, параіцца. Ды часу няма. Ну, а як ты сама прыехала, дык ужо і паскарджуся, і парады папрашу.

— Ну то прысядзем,— зноў усміхнулася Вежнявец. — Дык што ў цябе? Чаму заяву падавала?

— Дык жа і падала, бо несправядліва,— сказала яна.— Рабілі-рабілі, а цяпер тэхніка, нас у адстаўку, крыўдна неяк.

— Алену ж уладзілі, дык чаго ты?

— Ну і далі работу, можа, лягчэйшую, а грошай удвая менш.

— Я разумею,— задумліва азвалася Вежнявец,— але і выйсця другога няма. Без тэхнікі няма руху наперад.

— Яно так,— пагадзілася Марыя.— Работа наша была катаржная. А ўсё роўна ад вялікага да малога не хочацца вяртацца.

Вежнявец не адказала, і яны памаўчалі крыху.

— Ну, а яшчэ што ў цябе? — пыталася Вежнявец.

— Сышліся мы з Іванам, ды неяк не па-людску. Думаю, можа, і не варта было. Перагарэла ў мяне ўсё былое — нават попел ветрам павыдзімала.

— Дык чаго ж сыходзілася?

— А во папытайся ў дурной бабы. Можа, шкада стала яго, а можа, людзей паслухала. Сама не ведаю.

— Многа ў нас, жанчын, той жаласці, спагады, пасля самі на сябе наракаем.

— Дык жа і без яе няможна...

— Ён хоць робіць што? — пацікавілася Вежнявец.

— Так, ля хаты... Ці паверыш, Любачка, ходзіць, як той непрыкаяны грэшнік, а каб узяцца за што, дык, нібы малы,— не ведае. Ведама, адбіўся ад хаты, ад гаспадаркі.

— Ты вось што, Маша, не лібэральнічай з ім. А то ад'есца на тваіх харчах ды зноў сігане ў свет. Ты яго ў работу ўпражы.

— Не трэба мне ягоная работа.

— Ну то скажы, хай вяртаецца туды, адкуль прыехаў. Жыла адна — і пражывеш.

— Дык неяк жа нібы і нязручна. Прыняла, а цяпер — пайшоў вон. Чалавек жа ўсё ж...

Вежнявец самотна ўсміхнулася.

У сакратароў райкомаў партыі — жанчын у адрозненне ад сакратароў-мужчын непазбежна паяўляецца яшчэ адзін клопат — быць дарадчыцай у інтымных справах такіх жа жанчын, як і самі. Ніхто на іх гэты клопат не ўзвальвае, але хочаш не хочаш, а вязі яго. І не раз ужо да Любові Мікалаеўны звярталіся жанчыны па самых інтымных справах. Да мужчыны з такімі справамі не пайшлі б. А да яе ідуць. Чакаюць самага канкрэтнага і самага правільнага адказу. А можа, проста хочуць падзяліцца сваімі сумненнямі?..

Вежнявец разумела, што непакоіць Марыю. Гадоў колькі назад у яе, напэўна, быў бы абсалютна дакладны адказ: «Гані ты яго, Маша, з хаты». Цяпер вопыт падказаў, што справы такія вельмі ўжо далікатныя.

Гадоў пяць назад вось так была і параіла яна адной калгасніцы. Ну, мужык і прыстаў у прымы да другой і жыве сабе, на злосць жонцы, ды яшчэ пахвальваецца: дзякуй, што выгнала, лепшую знайшоў. А жанчына

тая неяк і сказала Вежнявец: «Дарэмна я вас тады паслухала, сакратар».

— Не разумею я цябе, Марыя,— нарэшце сказала яна.— То ты шкадуеш яго, то не можаш жыць. Як жа тут параіць?

— Думаеш, я сябе разумею? — з тугою ў голасе прызналася Марыя.— А ты як бы зрабіла на маім месцы?

Вежнявец не чакала такога пытання. Яна аж задумалася. Сапраўды, што яна зрабіла б на Марыіным месцы?

Ну, вядома, выгнала б. Пад гарачую руку ды са злосці — чаму не так? А калі дзесяць гадоў пражыць адной і не проста пражыць, а ў цяжкай працы, дык тут і падумаеш.

— Не ведаю, што і сказаць табе, Маша,— прызналася яна.

— Дачка во замуж збіраецца.

— Чула ўжо. Хлопец сціплы.

Вежнявец зразумела, што Марыя не так сабе перамяніла размову, і ўзрадавалася, што не дала ёй адну з тых парад, якія часта любяць даваць шчодрыя дарадцы. Значыць, Марыя нешта для сябе вырашыла, а гэта галоўнае.

— Можа, на вяселле прыедзеш? — спыталася Марыя.— Ты мне, як сястра старэйшая.

— Не абяцаю, але пастараюся. Работы шмат.

— У каго яе няма? — адказала Марыя.

— Ды ты не пакрыўдзіся, калі не прыеду. Сама разумееш.

— А ўжо ж, як не зразумець... Дык, кажаш, сціплы хлопец?

— У мяне на людзей нюх...

— Ёй бы з характарам патрэбны. Нешта не падабаецца яна мне. Пра дачку грэх такое казаць, ды я не каму-небудзь, табе.

— Моладзь цяпер іншая.

— Яно так,— адказала Марыя і паднялася.— Не буду цябе затрымліваць.

— Вяселле справіш — абавязкова на курорт адпраўлю,— паабяцала Вежнявец.— І ўжо не адступлю, чуеш?

— Тады тое і будзе,— няпэўна адказала Марыя.

## 24

Здавалася, жыццё знайшло сваю каляіну і пакацілася па ёй хоць і не дужа шпарка, але і не вельмі ціха, як таго хацелася.

Да вяселля заставалася менш як тыдзень. Іван Дабрэня выйшаў за весніцы пастаяў, як бы ў роздуме ў які бок пайсці. Пасля дажджлівых, снежных дзён зноў праяснела неба, і нямоцны мароз прытрымаў у нізінах снег, які не паспеў растаць пад золкім дажджом. А на пагорках прышэрхла пабялелая ад інею трава. Іней ляжаў і на дрэвах. Ранні, бялюткі іней. Ад яго ўсё навокал памаладзела, аж на душы рабілася лагодна і хораша.

Што праўда, дык Івану не трэба было выбіраць дарогу. Але было прыемна не проста вось так адразу пайсці да Каці, а пастаяць ля сваёй хаты, паазірацца. Можа, хто і ўбачыць, што ён не чалавек на пасылках, а гаспадар, які сам сабе выбірае шлях.

Вуліца, аднак, пуставала. І Дабрэня, закурыўшы, паволі падаўся аж на той канец вёскі.

Ён ішоў не спяшаючыся, адчуваючы дзіўную асалоду ад гэтай павольнай, сталай хады.

Ускрай лесу, як не чапляючыся за вяршаліны адзінокіх елак, што раслі на гары, хутка беглі шэранькія рэдкія хмаркі. Затое над галавой густа сінела чыстае неба. Яно было, як шкляное. Такімі ж шклянымі выглядалі замерзлыя за ноч лужыны на вуліцы. Пад нагамі малады лядок расколваўся са звонам. І гэта таксама прыемна дзейнічала на Івана. Нібы той хлапчук, ён то забіраў управа, то ўлева, каб толькі яшчэ раз пачуць звонкае патрэскванне лёду.

Той канец вёскі забіраўся ўгору. Вуліца тут была сушэйшая і шырэйшая. Іван пачуў пах асенняга лесу, амаль няўлоўны пах у такую пару. Але Іван чуў яго добра, нібы ішоў не па вуліцы, а па самым лесе.

Ён добра ўявіў, які цяпер лес: пусты, аголены, маркотны. Не тут, каля вёскі, а ў глушы, кіламетраў за пяць адсюль. Нават прыгадаў адзін куток у ім. Невядома кім і навошта пракладзеную цераз лес прасеку ці, можа, дарогу, абапал якой раслі сосны і елкі.

Чаму раптам прыгадаўся менавіта той куток? Мо-

жа, таму, што калісьці быў арыенцірам. Там, сярод прасекі, на пясчаным пагорку, расла не падобная на астатнія сасна-вырадак. Здавалася, што яе і выпіхнулі на прасеку за гэта пачварства. Доўгі сасновы ствол, можа, разоў сем быў скрыўлены, выпіраў вонкі гарбом, але ўсё цягнуўся ўверх. Недзе там, на недасяжнай вышыні, ствол сасны як бы расшчэпліваўся на тры ствалы, якія перапляліся між сабой у жорсткай схватцы. Увосень у ветранае надвор'е адтуль, зверху, разносілася па наваколлі жудаснае рыпенне. Як бы хто скрыгатаў зубамі.

Там, непадалёк ад сасны-пачвары, у гушчары, было ваўчынае логава. Ваўкоў перабілі нешта гадоў праз пяць пасля вайны. Увесь раён тады выйшаў на аблаву-паляванне. Уцёк толькі мацёры воўк. Застаўся жыць праз яго, Івана.

Было гэта так. Іван стаяў якраз насупраць сасны ў маладым сасонніку. Стрэлы чуліся недзе там, удалечыні. Ваўкі, мабыць, імкнуліся ў гушчар, натыкаліся на чырвоныя стужкі, на момант губляліся. Тут іх і падсцерагала смерць. Сюды, на больш адкрытае месца, яны не беглі. І раптам Іван убачыў адзінокага ваўка. Той не спыніўся, сігануў цераз вяроўчыну і апынуўся якраз насупраць Івана. Можа, ад роспачы воўк сеў у снег, падняў уверх рудаватую з сівымі пляшынамі мызу і завыў, але не так, як звычайна вые воўчае племя, а нібы загаласіў.

— Бяжы, чорт з табой,— сказаў яму Іван.

Як бы ад гэтых слоў, воўк падхапіўся, скочыў убок і знік.

Але гэта было зімой, па снезе. А Івану прыгадваўся той закутак іменна ў познюю восень. Ён цяпер ніяк не мог успомніць, калі яшчэ быў каля той пачварнай сасны. Але добра ведаў, што з ёю звязана яшчэ нешта важнае, нейкая падзея.

Надакучлівае жаданне прыгадаць гэтую падзею не знікала да самага канца дарогі.

Праз брамку Іван зайшоў на двор, спыніўся, чакаючы, што вось зараз на яго кінецца сабака, як тады, калі ён прыходзіў прасіцца на начлег.

Сабака, і сапраўды, кінуўся на ланцугу, зайшоўся ад лютай злосці. Але цяпер ланцуг быў прымкнуты да вугла будкі, а не слізгаў па дроце на кольцы.

«Ну і звер!» — падзівіўся з сабачай адданасці Іван і прашмыгнуў у сені.

— А я думаю, на каго ён брэша,— адчыніўшы дзверы з хаты, сказала Каця.— Заходзь, заходзь.

Іван зняў кепачку, павесіў на калок.

— Адна, ці што? — спытаўся ён.

Па-шчырасці, дык Івану не вельмі хацелася ісці да Каці, прасіць, каб пазычыла на вяселле рублёў трыста. Але, па-першае, ён не мог адмовіць Марыі, бо тады трэба было б тлумачыць, што ён пасварыўся з Лёнькам, а па-другое, Марыя запэўніла, што дамовілася з Кацяй.

Таму ён і спытаўся, ці адна яна.

— А табе Лёнька патрэбны? — у сваю чаргу спыталася Каця.

— Ды не. Марыя па грошы паслала, каб, значыць, пазычыла.

— Ты ж у мяне даўно не быў,— усміхнулася Каця.— Паглядзі хоць, як жыву.

«Значыць, Лёнька не сказаў, чаго я тады прыходзіў»,— падумаў Іван і пачаў здымаць сваю на засцёжках-маланках куртку.

Каця правяла яго па ўсёй хаце і толькі потым завяла ў залу, дзе яны ў той раз сядзелі з Лёнькам.

— Жывём, во, добра,— сказала яна,— а ўсё роўна нечага не хапае.

— Птушынага малака,— пажартаваў Іван.

— Можа, і птушынага,— пагадзілася Каця.— Чалавек заўсёды ненаежны. А чаго гэта вы экспрэсам вяселле гоніце?

Прагучала гэта як папрок, і Дабрэня, не жадаючы таго, пачаў апраўдвацца.

— Яно, вядома, і пачакаць можна было б. Грошай сабраць і ўсё такое. Карова ацялілася б. Цялё зарэзалі б. А так наспех усё. Сваты падганялі, жаніх.

— Цярпення ў яго няма, ці што?

— А тут, бачыш, якая справа. Жыллё ў іх павінны размяркоўваць. Дык абяцаюць кватэру з двух пакояў. Калі з жонкай, вядома.

— А-а-а! Тады зразумела. Жаніх хоць нішто?

— Добры хлопец. Акуратны такі. Машыну мае.

— Во, глядзі, пашэнціла Лідцы. Дасужая яна ў вас. Ты, Ваня, не крыўдуй, але Марыя распусціла яе не без дапамогі Крывіцкіх.

Іван, праўда, і не думаў крыўдаваць. Наадварот, ён недзе адчуваў задавальненне, што вось без яго Марыя не змагла як след выхаваць дзяцей. Быццам не ён, а яна была вінавата ў тым, што засталася адна.

— Усё спаборніцтвы гэтыя. Спорт. Распуста адна,— сказаў ён.— Во і цяпер паехала. Перад вяселлем. Дзе ж гэта бачылі, каб за тыдзень да вяселля ехаць на спаборніцтвы? А ўсё Крывіцкі. Разумнік. «Няхай паедзе,— перадражніў ён сваяка.— Можа, потым не давядзецца». Важнасць вялікая, гэтыя спаборніцтвы! У маім становішчы, сама разумееш, даводзіцца маўчаць.

— Ты ж пасля і вінаваты будзеш,— падтрымала яго Каця.

Яна, як і бывала, прыняла ягоны бок, і гэта зусім падкупіла Івана.

З Кацяй яму заўсёды было лёгка і проста, хоць часам ён і злаваў на яе, хоць і заўважаў, а хутчэй адчуваў, што яна бывае няшчырая. Яна чымсьці нагадвала Алімпіяду, і ён раптам аж усміхнуўся, падумаўшы, што Каця, напэўна, здраджвае Лёньку. Не можа быць, каб не здраджвала.

— Чаго ты ўсміхаешся? — пацікавілася Каця.— Няпраўду, можа, сказала?

— Ды не... З табой неяк хораша. Пагаварыў, душу адвёў. Марыя зусім не такая. Маўклівая. А з табой, як з роднай сястрою...

— З маім таксама не дужа пагаворыш,— як бы паскардзілася Каця.— А во ён, лёгкі на ўспамін...

Лёнька зайшоў не адразу. Нечага даўгавата соп у прыхожай, а яны моўчкі чакалі, пакуль ён зойдзе.

На ім былі старáватыя ватнікі і тоўсты, добра паношаны світэр, залаплены на локцях. Поруч з Кацяй, якая і дома апраналася з густам — на ёй зграбна сядзеў чорны жакет і такая ж чорная ў белую палоску вязаная спадніца,— Лёнька асабліва здаваўся непаглядным.

— А я думаю, хто гэта ў нас, аж Кірылавіч, уласнаю персонаю.— Лёнька падаў руку, старанна адводзячы вочы.— Як той казаў, госць у хаце, дык трэба было б і па чарчыне зрабіць, а я во заняты.

— Не турбуйся,— аж ледзь утрымаўся ад смеху Іван.— Не па чарчыну прыйшоў...— І асекся.

Каця штурханула яго нагой. Ён зразумеў, што гаварыць пра пазыку нельга. І наогул, лепей памаўчаць.

— А ў мяне да цябе гаворка ёсць,— раптам сказаў Лёнька і, быццам толькі за гэтым прыходзіў, выйшаў з хаты.

Калі ў сенцах зачыніліся дзверы, Іван не стрымаўся.

— Ну і чалавек табе дастаўся,— паспачуваў ён.

І тут жа ўбачыў, што ляпнуў лішняе. Каця як успыхнула ад ягоных слоў.

— Лёня ў мяне гаспадар. Іншым павучыцца трэба,— сказала яна і паднялася з крэсла.

Іван хацеў быў нагадаць, што гаспадар гэты не пусціў яго пераначаваць, ды перадумаў. Чорт іх разбярэ. Муж ды жонка аднаму богу моляцца.

Каця тым часам дастала з шафы грошы — адны траячкі. Спрытна адлічыла тры сотні, падала Івану.

— Я не таму цябе штурханула, што яго баялася,— пачала тлумачыць яна, але так і не закончыла.— Ты мне, Ваня, спатрэбішся ў хуткім часе. Дык ужо не адмоўся тады.

— Па гандлёвай частцы? — пацікавіўся Іван.

— Ды так, глупства, але дапамога спатрэбіцца.

Яна так і не сказала, навошта ён патрэбны ёй, але Іван здагадаўся. Няйначай, нешта трэба прадаць дэфіцытнае.

За доўгае пакручастае сваё жыццё Іван навучыўся супастаўляць самыя дробныя факцікі і рабіць з іх адпаведныя вывады. І цяпер ён ураз здагадаўся, што ўся гэтая пазыка грошай — хітрая пастка, якую ставіць яму Каця. Ну, магла ж яна аддаць грошы Марыі, калі тая папрасіла пазычыць? Магла. Дык не, параіла прыслаць яго. Паспрабуй цяпер, адмоўся.

Зрэшты, Іван і не меў бы намеру адмаўляцца. Яму проста было непрыемна, што Каця як бы заходзіць да яго з тылу, як бы адводзіць яму нейкую другарадную ролю.

«Мяне таксама нялёгка абхітрыць»,— падумаў ён і пачаў развітвацца.

Лёнька чакаў яго на дварэ, хоць і рабіў выгляд, быццам падмятае асфальтаваныя сцежкі. Яны былі падмецены. Іван гэта заўважыў, як ішоў у хату.

— Хацеў з табою пагаварыць,— прызнаўся ён,— без жонкі. Справа ёсць.

«Глядзі, і ў яго паявілася справа»,— падумаў Іван, насмешліва пазіраючы на Лёньку.

Над Лёнькам ён адчуваў сваю перавагу, не тое што перад Кацяй. Таму нават цікава было, што хоча прапанаваць гэты прагны ахламон. Няйначай, нейкую авантуру з мёдам.

— У мяне цяпер сваіх спраў па самыя вушы,— знарок, каб пазлаваць Лёньку, ён зрабіў выгляд, быццам ніякая прапанова яму не падыдзе.— Дачку, во, замуж аддаю. Так што гульнём.

Лёньку, аднак, Іванавы словы ані не збянтэжылі. Ён як бы нават узрадаваўся.

— Дык жа і я пра тое думаю. Пра вяселле. Кабана рэзаць цяпер як бы і рана. А без каўбас якое вяселле? Так сказаць, мясное цяпер і ў вялікі пост любяць.

— Што ты прапануеш? — зацікавіўся Іван.

— А-а-а, так сказаць, клюнуў. На дзікоў схадзіць, во што. Дайшло! Ты ж некалі добра паляваў. Мне да цябе далёка.

— Чакай, а дзе яны?..

Лёнька аж зарагатаў з яго наіўнасці.

— У лесе, вядома...

— І без цябе ведаю, а дзе канкрэтна?

— Значыць, згодзен? І на тым дзякуй. Я лесу баюся. Жах ахоплівае. Таму і звярнуўся да цябе. Удвох весялей.

— Стрэльбы ж у мяне няма...

— То не бядуй. Я аж дзве маю.

— Калі пойдзем?

— Заўтра... І от што, каб Марыі не гаварыў. Прыкмета ў мяне ёсць такая. Скажаш бабе — не пашанцуе.

Ужо ідучы дамоў, Іван падумаў: «Як жа ён выведаў, дзе водзяцца дзікі, калі лесу баіцца?..»

## 25

— Куды гэта ты? — спыталася спрасонак Марыя.

— Ды так, нікуды. Спі, спі...

Яны першы раз спалі на адным ложку ў баковачцы за печчу, і Дабрэня, як ні стараўся, каб не пабудзіць Марыю, усё ж разбудзіў яе. Але яна тут жа заснула, і ён, узяўшы вопратку, выйшаў у сенцы. Там і апрануўся.

Іван выйшаў на двор. З поўначы дзьмуў востры, пранізлівы вецер. Ён адразу праця ў да касцей. Дабрэня падумаў, што дарэмна не паддзеў што-небудзь пад куртку, але вяртацца ў хату не стаў.

Неба пад раніцу выяснілa. На ім ярка мігцелі зоркі, а вышчарблены месяц памалу скочваўся за лес. Яго ахіналі рэдзенькія белаватыя хмаркі. Яны набягалі на чырвоны шчарбаты дыск і спяшаліся кудысьці па-над краем далягляду.

Зямля за ноч добра падмерзла, аж гула пад нагамі. І лёд на лужынах ужо не трашчаў, а звонка гуў.

Вёска яшчэ спала. Нідзе ні агеньчыка. Няйначай, спіць яшчэ і Лёнька. Івану нават здалося, што ён падняўся задужа рана і цяпер давядзецца тырчэць пад Лёнькавым плотам, бо на двор не зойдзеш — сабака.

Але Лёнькава постаць ужо маячыла на фоне плота.

— Я ўжо з паўгадзіны чакаю,— сказаў ён, падаючы руку.— А ты што гэта, як на гулянку сабраўся? Кепачка, куртка!.. Пачакай мяне тут.

Ён знік за брамкай, а неўзабаве паявіўся, нешта несучы перад сабою.

— Во, апрані гэта паўзверх курткі,— падаў ён Івану стары кажух, які чамусьці смярдзеў поўсцю і мышамі, футравую шапку і гумавыя боты.

— За гэта дзякуй,— шчыра ўзрадаваўся Іван.— Сам ведаеш, у мяне патрэбнай амуніцыі няма. Не набыў яшчэ.

— Чаго там,— адмахнуўся Лёнька.— Памажы матацыкл выкаціць. Сабаку я запёр.

Удвух яны выкацілі матацыкл з каляскай, спярша на вуліцу, а потым і за вёску.

— Няма чаго ляскату рабіць,— растлумачыў Лёнька.

Івану гэта спадабалася. Ён і сам быў заўсёды асцярожны і любіў асцярожных.

Пакуль Лёнька корпаўся ў матацыкле, Іван курыў, смакуючы ў прадранішняй халадэчы салодкі і цёплы цыгарэтны дым.

— Паслухай, Лёня, а як жа ты высачыў дзікоў, калі баішся лесу? — спытаўся ён як бы між іншым, хоць пытанне гэтае засела ў зубах з учарашняга.

Лёнька рагатнуў, быццам яго неспадзявана пазакыталі.

— Сакрэт фірмы, так сказаць. А зрэшты, магу адкрыць тайну. Вартаўнік магазіна сказала.

— Груша? — здзівіўся Іван.

— Яна самая. Гэта, брат, не Груша, а конь з тым самым, чаго яму не дастае. Яна кожны год дзіка ўпалюе, а свайго кабанчыка на базар завязе. Ну, садзіся...

Лёнька націснуў на стартэр раз, другі, трэці. Матор спачатку чыхнуў, стрэліў бензінам, потым залапатаў, аж пакацілася водгулле. Яркі белы прамень асвяціў пакрытую інеем траву.

«Дык вось чаму мне прыгадалася тая сасна-калека»,— раптам успомніў Іван даўні выпадак.

Аднаго разу Іван заблудзіўся ў лесе. Такое з ім ніколі не здаралася. Лес ён ведаў як свае пяць пальцаў. А тым разам нечага схібіў. Выбіраў кірунак, прамаваў праз гушчар на поўдзень, дзе, на яго думку, знаходзіліся Крутыя Горкі, а вяртаўся на старое месца. Як чорт за нос вадзіў. І ўжо недалёка было да цемры, тым больш што неба завалоквалі бурыя хмары.

У трэці, ці што, раз вярнуўшыся да пагорка з чорным каменем, Іван не стаў спрабаваць шчасця на авось. Разуўшыся, палез на самую высокую елку, хоць, папраўдзе, і не спадзяваўся адтуль што-небудзь угледзець.

На яго здзіўленне, ён адразу ж убачыў сасну-пачвару, праўда, зусім не ў тым баку, дзе, на яго думку, яна магла расці. Яму нават здалося, што ў тым баку над лесам курыцца шызы дымок.

Цяпер ён ішоў праз лес смела, як па полі, і неўзабаве выйшаў на грудок. Было ўжо даволі цемнавата. І ў гэтай цемры дагараў касцёр, а ля яго стаяў запрэжаны конь і двое чалавек нешта ўскладалі на воз.

Іван хацеў гукнуць тых дваіх, але нешта ўтрымала яго. Ён падкраўся бліжэй і тады ўбачыў, што на воз грузяць асвежаванага дзіка. Яшчэ яго дзівіла, што з дваіх адна была жанчына.

Тады ён яе не пазнаў, а цяпер мог даць галаву адсячы, што гэта была Груша. Толькі не са сваім Свірыдам. Мужчына выглядаў здаровым, высокім...

Пакуль Іван думаў над тым выпадкам, Лёнька вывеў матацыкл на лясную дарогу. Святло фары разразала цемру, блыталася на паваротах у сухім голлі дрэў.

Дарога паволі звужалася, аж пакуль не ператварылася ў ледзь прыкметную сцежку. Даводзілася нізка прыгінацца пад навіслым голлем, прыкрываць твар рукою.

Нарэшце кончылася і сцежка. Лёнька павярнуў направа. Нейкі час яны ехалі па лесе, цудам прабіраючыся між дрэў, паднімаючы каляскай маладыя елкі. Потым зноў выбраліся на нейкую прасеку, але па ёй не паехалі, узабраліся на высокі пагорак з даволі палогім схілам.

Тут Лёнька заглушыў матацыкл, і абодвух ахінула мёртвая цішыня.

Пазней ужо яны пачулі, як шуміць вецер у вяршалінах, а недзе нібы нехта стагнаў. Іван здагадаўся, што яны непадалёк ад сасны-калекі.

— Давай перакусім ды пагрэемся троху,— сказаў Лёнька.— Усё роўна давядзецца чакаць світання.

Ён дастаў з каляскі кулёк, а з кулька кавалак сала, хлеб і пляшку. Іван аж падзівіўся з Лёнькавай запаслівасці і прадбачлівасці. Во табе і скнара!..

Раніца разгаралася хутка, хоць і стаяла позняя восеньская пара. Увачавідкі мяняліся абрысы лесу. Ён як бы расступаўся, і ў прагалах між бяроз, што раслі ўнізе, відаць стаў лясны ручай з балоцістым берагам. За ім лес зноў узбягаў на пагорак — калматыя яліны з арэхавай падсадкай. Недзе тут, па словах Грушы, і знаходзілі прыстанішча дзікі.

Схаваўшы матацыкл у ельніку, яны спусціліся да ручая, перабраліся на той бок. Праз балота ў парудзелай высахлай траве пралягала шмат сцежак, няйначай яшчэ ўлетку вытаптаных звярамі. Свежых слядоў, аднак, не было.

Праўда, у тым месцы, дзе ручай рабіў круты паварот, Лёнька ўбачыў дзікоў след, але даўні, заплылы ўжо торфам.

Так яны блукалі па лесе, можа, з гадзіну, калі не болей. Іван ужо засумняваўся, ці можна наогул вось так адшукаць тых дзікоў у лесе. У іх, чарцей, адна дарога, а ў цябе сто, паспрабуй знайдзі тую адзіную, на якой стрэнеш сваё паляўнічае шчасце. Але Лёнька ішоў з упартасцю апантанага. Ён, як той ганчак, здавалася, нюхае носам кожную сцяжынку, а вочы так і вылізваюць кожны след.

Тым часам на небе паказалася сонца, і брудны восеньскі лес хоць крыху пасвятлеў, застаючыся самотным і пустым.

Да гэтага часу Іван, як нейкі сляпы, трымаўся Лёнькі. Яму было ўсё роўна, куды той вядзе яго. Але цяпер, калі выглянула сонца і пасвятлела ў лесе, і ў Іванавай галаве як бы пасвятлела. «Які з Лёнькі паляўнічы,— падумаў ён,— а я, дурань, за ім бягу, як той цюцька. Так мы дзікоў не знойдзем. Адно заморышся...»

Іван сеў на парослы стары вываварацень, закурыў. Здавалася, што далей ён і не збіраецца ісці.

— Чаго ты рассеўся?— узлаваў Лёнька.— Трэба шукаць, шукаць. Не за тым ехалі, каб лесам любавацца.

Іван бачыў, што Лёньку не церпіцца, ён аж не можа ўстаяць на месцы. І яму захацелася паздзекавацца з яго.

— Слухай, а мо Груша цябе разыграла? Сам падумай, які паляўнічы выдае свае тайны? Цяпер, пэўна, смяецца, што ты паверыў.

Лёнька неяк разгублена паглядзеў на Івана. Мусіць, толькі цяпер і да яго дайшло, што Груша магла пажартаваць. Ён таксама сеў на вываварацень.

— Магло і такое быць, але ж дзікі ў лесе водзяцца. Усе ведаюць,— крыху счакаўшы, сказаў ён.

— Ходзім мы без сэнсу,— ужо разважліва вымавіў Іван.— Хто ж так палюе? Тут памазгаваць трэба... Давай во што — разыдземся. Ты направа, а я налева, а сустрэнемся каля імшарыны за бярэзнікам. Адтуль скіруем на Радзевічаў хутар. Па ўсяму, дзікі недзе там.

Лёнька хацеў запярэчыць, але Іван не даў яму і рот раскрыць. Ён затаптаў цыгарэту і пайшоў, пакінуўшы Лёньку.

Да той імшары за бярэзнікам трэба было ісці з гадзіну. Іван, не спяшаючыся, абагнуў балота з хілымі, каржакаватымі соснамі, забраўся ў гушчар.

Ён ужо даўно не быў у лесе, і цяпер яго прыгнятала адзінота. Недзе ў вяршалінах, глуха і самотна, шастаў вецер, наганяючы шчымлівую тугу. А тут, унізе, стаяла стоеная цішыня. Нават не было чуваць уласных крокаў. Іх заглушаў мяккі, падатлівы пад нагамі

мох. Гэта цішыня не заспакойвала, а раздражняла, аж хацелася закрычаць.

Непрыкметна да Івана пачаў падкрадвацца незразумелы страх. Івану здавалася, што нехта ідзе за ім па пятах, і хоць ён ведаў і пераконваў сябе, што баяцца няма каго, страх не адступаў, а яшчэ мацней усседаў на яго, аж па спіне пачыналі бегаць мурашкі. Тады Іван спыняўся, прыслухоўваўся.

«На ліха мне той дзік? — аж злаваў ён на сябе.— Лёнька дык ад прагнасці палюе. А я? Пацягнула нячыстая сіла. Марыя, відаць, непакоіцца. Не сказаў куды, чаго пайшоў. Сядзеў бы дома. Работы ж хапае. Дык папёрся. І так усягды нечага, бывала, кідаўся, як на гэтае паляванне. Дакідаўся, во».

Яму хацелася плюнуць на ўсё, павярнуць назад, дамоў, але ён ужо не мог гэтага зрабіць, бо сам жа прызначыў, дзе павінен сустрэцца з Лёнькам.

«Дайду да імшары, і годзе, хопіць з мяне»,— падумаў ён і аж усміхнуўся, уявіўшы, як расчаруецца Лёнька.

Думкі і злосць на сваю неабачлівасць, на гэтае не патрэбнае яму паляванне крыху развеялі страх. Іван ішоў цяпер, не вельмі заўважаючы лес. Яму хацелася аднаго: як найхутчэй выбрацца на ўскрай бярэзніку да той імшары, дзе яго будзе чакаць Лёнька.

Раптам яго зноў пачало нешта трывожыць. Ён азірнуўся і толькі цяпер заўважыў, што ўсё навокал змянілася. У лесе аж было цёмна. І вецер у вяршалінах ужо не шамацеў, а насцярожана гуў, быццам стагнаў. Між вяршалін відаць былі бурыя, аж чорныя, хмары, якія паволі плылі ў небе.

«Ну вось толькі снегу не хапала,— падумаў ён.— А можа, яно і лепей. Лёнька не стане артачыцца». Па разліках да месца сустрэчы заставалася няшмат— можа, якія кіламетры два. Іван паддаў кроку і неўзабаве, сапраўды, выйшаў у бярэзнік. Лес тут палога апускаўся да імшары. Ад белых бярозавых ствалоў у Івана пачало мільгацець уваччу. І ён падумаў, што зусім адвык ужо хадзіць па лесе, і тут жа ўбачыў Лёньку, які нецярпліва тупаў на адным месцы.

— Дзе ты ходзіш?— закрычаў Лёнька.— Я, можна сказаць, на след натрапіў. Ты як у ваду глядзеў — тут яны, тут. На Радзевічаў хутар след вядзе.

Лёнька аж захліпаўся ад радасці.

— След — яшчэ не кабаны. Іх знайсці трэба.

— Ды ты што, свежы след! Зусім свежы.— І, не чакаючы Івана, Лёнька пакрочыў па абочыне імшары.

Лёнькава апантанасць зноў захапіла Івана. Ён дагнаў Лёньку, пайшоў поруч.

— Я ўжо надзею згубіў,— гаварыў Лёнька, лёгка, неяк па-кашачаму ідучы па зашэрхлай, калянай траве,— аж раптам гляджу — след... Пайшоў па ім, а там зямля перакапана. Свежая. Ноччу, відаць, ішлі...

— Я дык адразу падумаў, што шукаць іх трэба ля хутара. Там яны, у гушчары, днююць,— пахваліўся Іван.

— Ага, праўду кажаш... Груша ахмурыла была, во і вадзіў цябе...

Тым часам спачатку памалу, а потым густа пасыпаў снег. Усё навокал завалакло белай плёнкай. Увачавідкі бялела зямля пад нагамі. Снег клаўся на маладыя елкі і не раставаў, ляжаў белым мяккім пухам. У яловых зарасніках, дзе трэба было прадзірацца сагнуўшыся і вельмі асцярожна, каб не выкалаць вочы, яны пачулі стрэл. Стрэл прагучаў так нечакана, што Лёнька з Іванам аж спыніліся.

— Хто гэта?— здзівіўся Іван, быццам у лесе яны мелі права быць толькі ўдвух.

— Во чорт! Няўжо Груша? Ну і баба! Каго хоча абхітрыць...

Іван раптам пабег напрасткі, не зважаючы на сухое голле, што магло параніць твар. Лёнька таксама рынуўся за ім.

Яны выбеглі з зараснікаў амаль разам. Пад схілам крутога пагорка сярод бялюткага снегу чарнела вада. Мусіць, тут білі з-пад зямлі крыніцы, і ручай не замёрз. Па той бок яго густа рос алешнік; высокае пнёўе і купіны, прыкіданыя снегам, падаліся Івану статкам кабаноў. Ён пераклаў стрэльбу з рукі на руку і тут жа ўбачыў, як Лёнька скаціўся з пагорка, пераскочыў ручай. Іван кінуўся за ім. Недзе там, за алешнікам, і быў Радзевічаў хутар. Лёнька бег да яго.

Хутар гэты — невялікая паляна сярод лесу — перастаў быць хутарам яшчэ недзе на пачатку трыццатых гадоў. Тады гаспадара яго, нейкага Бугуміла Радзевіча, забілі бандыты, а хату спалілі. Застаўся сад

ды лазенька пры лесе. Сад вымерз у фінскую вайну, засталося нешта з тры ці чатыры яблыні ды дзве грушы. З часам усё навокал адзічала, а на распрацаваным полі забуяў маліннік і кашка.

Цяпер, калі Іван следам за Лёнькам выбег да хутара, дык ён і зусім не пазнаў яго. Па пояс, а дзе і ў рост чалавека густа рос малады ельнік, а сярод яго ўзвышаліся старыя яблыні і грушы ды тырчэлі цыбатыя бадылі малінніку.

У адным месцы, аднак, заставалася прагала, як прасека, невялікая і вузкая. Яны спыніліся ў густым ельніку, прыслухоўваючыся да кожнага гуку ў лесе. Івану здалося, што недзе зусім блізка, па той бок прагалы, трашчыць ламачча. Ён даў знак рукою і сам стаіўся, нечага чакаючы. Было неверагодна, што кабаны выскачаць іменна на іх. Але на дзіва, адзін, сапраўды, выскачыў на прагалу. За белай плёнкай снегу ён мільгануў, як шэры прывід. Іван усё ж паспеў стрэліць і тут жа зразумеў, што прамахнуўся. Справа, дзе стаяў Лёнька, нешта зноў затрашчала. Было відаць, як заварушыліся маладыя елкі.

З-за снегу, аднак, было дрэнна відаць. Тым не менш, Лёнька падняў стрэльбу.

Бах! Бах!

Ён стрэліў адразу з двух ствалоў.

Іван таксама стрэліў у той бок, дзе было затрашчала ламачча. Ён і сам не разумеў, навошта страляў. Напала нейкае жаданне разрадзіць стрэльбу.

— Здаецца, ухайдохаў аднаго,— весела сказаў Лёнька.— Толькі спіна была відаць. Здаровы такі кабанішча.

Не спяшаючыся, Лёнька выцягнуў з патронніка адстрэленыя гільзы, паклаў у кішэню, з другой дастаў новыя, чамусьці пахукаў на іх, выцер аб падкладку і засунуў у ствол. Толькі пасля гэтага ён пачаў прадзірацца праз зараснікі туды, дзе меўся ляжаць забіты кабан.

«Шанцуе ж сквалыгу гэтаму», — пазайздросціў Дабрэня, ідучы за Лёнькам след у след.

Раптам Лёнька нечага спыніўся. Іван, аж упёрся яму ў спіну, зірнуў цераз плячо.

— Ды вунь жа ён ляжыць,— сказаў Іван, убачыўшы нешта шэрае між елак.

— Цс-с-с ты!— зашыпеў Лёнька.— Уцякайма хутчэй. Снегам занясе — і хана, магіла.

У Лёнькі былі страшныя, перапалоханыя, як шкляныя, вочы.

— Божа! Чалавек!— таксама прыглушана крыкнуў Іван.— Трымай, во!..

Ён сунуў разгубленаму Лёньку стрэльбу, кінуўся туды, дзе ляжаў забіты чалавек. Не памятаючы, што ён робіць, Іван перавярнуў чалавека на спіну і цяпер сам жахнуўся. Такімі ж, як і ў Лёнькі, ашклянелымі, толькі мёртвымі, вачыма на яго глядзела Груша.

Побач з ёю валялася стрэльба. Іван чамусьці падняў стрэльбу, патрымаў у руках ды зноў паклаў побач з Грушай.

Калі Іван пераварочваў Грушу на спіну, правая рука засталася адкінутая ўбок, а левая ляжала ўздоўж цела, крыху сагнутая ў локці. Іван падумаў, што трэба і правую руку пакласці ўздоўж цела. Ён узяўся за яе і пачуў, што рука яшчэ цёплая.

Тады ён, таропка адрываючы гузікі, расшпіліў ватоўку. Пад ёю была безрукаўка з аўчыны. Іван расшпіліў і яе і адразу ўбачыў кроў.

«Можа, яна жывая?» — падумаў ён, прыкладваючыся вухам да грудзей, каб пачуць, ці б'ецца сэрца. Вуха ўпіралася ў штосьці калянае і ліпкае. Іван адхінуўся.

— Ты ж увесь у крыві,— пачуў ён Лёнькаў голас.

Лёнька стаяў ужо насупраць яго крокі за два. Іван яшчэ раз глянуў на Грушу, на яе буры, як абветраны, твар. Ён завастрыўся і як бы пасвятлеў.

«Каб застаўся ў яе, дык і не было б гэтай смерці,— падумалася Івану.— Не, не было б. А ўсё Лёнька. Сквалыга! Ды і я добранькі! Хоць я тут не вінаваты. Ах, Груша, Груша! Як жа ты так неасцярожна?»

Ён падняўся, павярнуўся да Лёнькі.

— Як жа ты?— дакорліва спытаўся Іван.—Ухайдохаў, кажаш. Во і ўхайдохаў...

Лёнька стаяў як скамянелы, трымаючы ў кожнай руцэ па стрэльбе. Івану здалося, што ён вось-вось упадзе ад страху.

— Не знарок жа ты,— падбадзёрыў ён Лёньку.— Сама пад стрэльбу падлезла.

6 Зак. 3547

— А можа, пойдзем і ніхто не даведаецца?— спытаўся Лёнька.— Хто яе хопіцца?..

— Не выдумляй,— прыкрыкнуў на яго Іван.— У вёску ўсё роўна вяртацца трэба.

— Дык што ж нам рабіць? Божа мой, божа!..— Ён кінуў стрэльбы і загаласіў, як баба, хапаючы сябе за галаву.

— Перастань ты! Цяпер ужо не паможаш,— разважліва сказаў Іван. Ён адчуваў сябе на дзіва спакойна.— Трэба матацыкл падагнаць сюды.

Дабрэня падняў стрэльбы, дастаў з Лёнькавай патроны, каб яшчэ чаго не здарылася, павесіў абедзве на адно плячо.

— Пайшлі,— сказаў ён.— Ёй ужо нічым не паможаш.

Ад Радзевічавага хутара да таго месца, дзе быў пакінуты матацыкл, трэба было тупаць па лесе кіламетраў сем. Нейкі час яны ішлі моўчкі. Абодва былі прыгнечаныя, так што гаварыць не хацелася.

— Дай закуру,— раптам папрасіў Лёнька Дабрэню.

Іван спыніўся, дастаў пачак цыгарэт. Яны закурылі.

— Слухай, Ваня,— нясмела загаварыў Лёнька.— Вазьмі грэх на сябе, а-а? Век у даўгу буду. Дзеці ў мяне маленькія... Я памагу табе, адвакатаў найлепшых найму — выручым. Вазьмі грэх, Ваня.

— Ты што!

— Выручы, браточак. Хочаш, на калені стану?

Ён упаў на калені, абхапіў Івана рукамі за ногі, аж той ледзьве ўтрымаўся.

— Не шалей, Лёнька,— крыху ўзрушаны Лёнькавым страхам, сказаў Дабрэня.— Не магу я зараз узяць такое на сябе. Толькі жызня ладзіцца пачала — і ў турму?

— Эх ты!— Лёнька падняўся з зямлі, угнуўшы галаву, патупаў паперадзе Івана.

Дабрэню было шкада Лёньку. «Каб здарылася такое з тыдзень назад, узяў бы грэх на сябе,— думаў ён, пазіраючы на сутулыя Лёнькавы плечы,— а цяпер не магу, з-за Марыі не магу».

І ў тоў жа час яму хацелася памагчы Лёньку, але як памагчы — ён не ведаў. Таму ішоў моўчкі.

Так яны і дайшлі да матацыкла. Лёнька адкінуў брызент, рукавом змёў снег, але матацыкл чамусьці не заводзіў.

«Зараз зноў пачне прасіць»,— падумаў Іван, баючыся, што калі Лёнька дужа прыстане, дык ён, бадай, не вытрымае, згодзіцца.

— Ну што ты чухаешся?— знарок узлавана закрычаў ён на Лёньку.

Той стаў адной нагой на стартэр і як бы раздумаў заводзіць матацыкл.

— Во ты не згаджаешся,— спакойна ўжо загаварыў Лёнька,— а яшчэ ж невядома, чыя куля яе забіла. Ты таксама страляў...

Такога павароту Іван не чакаў. Нейкі час ён здзіўлена пазіраў на Лёньку.

— Як гэта невядома? — спытаўся ён.— Сам жа казаў, што ўхайдохаў...

— А хто чуў? — неяк пераможна выгукнуў Лёнька.— Ніхто. Ды і па стрэльбе, калі на тое пайшло, не ўстановіш, хто страляў. Там і тваё і мае адбіткі.

— Ну, ведаеш, такім не жартуюць...

— А я і не жартую. На паляванне ты мяне падбухторыў. Людзі бачылі, як ты да мяне прыходзіў, упрошваў, каб павёз цябе. Я і павёз. Стрэльбу даў. Ты і забіў... Усе ведаюць, што я не паляўнічы. Стрэльбу тую ў руках не ўмею трымаць. Ага, бачыш!

Лёнька аж узрадаваўся, калі пабачыў, што Іван спалохаўся. А той і сапраўды спалохаўся. Калі Лёнька вось так загаворыць на допыце, дык у яго, Івана, дужа мала шанцаў на апраўданне.

— Што ж ты з хворай галавы ды на здаровую звальваеш? — папікнуў ён Лёньку.

— І не звальваю. Па-брацку хачу памагчы табе. Каб, значыць, у турме не галадаў, каб у судзе не абыхто абараняў, а добры законнік. Ды сам ты, Ваня, падумай, якая табе карысць адмаўляцца. Ну, пачнецца следства. Ты будзеш апраўдвацца, і я буду апраўдвацца. Каму больш паверыць следчы? Мне. Бо я чалавек сталы, мяне ў раёне ведаюць. У мяне хто толькі мёду не браў. А ты? Блытаўся па свеце. Рэпутацыя ў цябе падмочаная. Вось і стане следчы на мой, а не на твой бок. Упякуць цябе гадоў на сем — гэта я верна кажу. А калі ты сам заявіш у міліцыю, іншая справа. Ня-

шчасны выпадак. Ад сілы тры гады дадуць. Паўтара года пасядзіш. Самае большае. Кожны месяц пасылкі буду прысылаць, Марыі памагаць, а як выйдзеш, тысячу рублёў дам.

— Пайшоў ты са сваёй тысячай...

— Ну, як хочаш,— Лёнька націснуў на стартэр. Матацыкл завёўся адразу.

Ехалі на Радзевічаў хутар кружным шляхам. Недзе на палове шляху нечакана перастаў снег, і з-за шэрага радабоддзя хмар выглянула сонца.

«А ён упячэ мяне ў турму, як піць даць — упячэ,— падумаў Іван, скоса пазіраючы на засяроджаны Лёнькаў твар.— І нікуды не дзенешся. Дык, можа, і праўда, лепей самому прызнацца. Сумленнае прызнанне змякчае віну. Чыю віну? Ды і якое ж яно, сумленне? А выйсця няма. Не, няма...»

Лёнька павярнуў матацыкл на ледзь прыкметную сцежку, што вяла на Радзевічаў хутар, з-пад нізка насунутай шапкі зірнуў на Івана, быццам хацеў угадаць, што той вырашыў, і нечага ўсміхнуўся.

«Даць бы табе па чэрапе, ды ўжо заадно адказваць»,— кальнула Івана злая думка. Ён адагнаў яе.

— Прыехалі,— сказаў Лёнька і заглушыў матацыкл.— Дык куды цела павязём? У вёску ці ў раён адразу?

«Калі скажу, каб у раён, значыць, даў згоду»,— падумаў Іван.

— А куды б ты хацеў? — спытаўся ён.

— Мне ўсё роўна,— абыякава адказаў Лёнька.

— Ну, тады ў раён,— расцягваючы словы, сказаў Дабрэня.— Толькі не думай, што я спалохаўся. Так...

Іван махнуў рукой, як бы атрасаў нешта з сябе.

— Браток, дык я і не пагражаў, не крыўдуй, браток, само так выходзіла.

Іван не адказаў. Ён паглядзеў на неба, якое зноў завалаклося хмарамі. У белай смузе няяркі дыск сонца паволі хаваўся за хмары.

Адразу пасля шчодрага бабінага лета наступала зіма. Такое бывае рэдка.



# ДВА ДНІ І ДЗВЕ НОЧЫ

## НОЧ

У Карлавых Варах, у санаторыі, Антон Мялешка збіраўся напісаць аповесць, невялікую і абавязкова лірычную. Была і тэма, як уяўлялася яму,— важная, сучасная, якую хоць і краналі ў літаратуры, але якую ён меркаваў раскрыць інакш.

Дома, а потым у цягніку, у купэ на трох пасажыраў, якое Антон займаў адзін, лёгка, аж непрывычна, складаўся сюжэт, асобныя сказы, і ўжо яскрава бачыліся героі, нават пачыналі гаварыць, спрачацца, даказваць тое, што павінны былі даказаць, што патрэбна было яму.

Першыя старонкі, ужо вынашаныя, выпакутаваныя аж да кожнага слова, да кожнай коскі, пісаліся на адным дыханні. Ды і нішто не перашкаджала працаваць. Наадварот, быў час падумаць над лёсам герояў, так як ён складаўся па яго, Антонавай, волі.

Звычайна раніцой, як толькі з-за гары выглядала ружовае ў смузе сонца, Мялешка садзіўся за вузенькі стол пры акне, пісаў гадзіны паўтары, потым ішоў на ланоўку-фунікулёр, спускаўся ў цясніну, да новай са шкла галерэі, перад якой бронзавы, у скафандры Юры Гагарын вітаў узнятай рукой бесклапотных курортнікаў. Там Мялешка піў гарачую саланаватую ваду. Пасля снедання, калі не было працэдуры, зноў пісаў якую гадзіну. Але найлепш за ўсё пісалася ўвечары, пры маленькай лямпачцы-пражэктары, якая асвятляла толькі аркуш паперы.

З акна пакоя была відаць гара, парослая дрэвамі. У санаторыі панавала цішыня. Толькі з вуліцы, з дарогі, якая пралягала тут па схіле гары, даносіўся шоргат шынаў ды натужны гул матораў — увечары дык і не дужа часта.

Мялешка быў упэўнены, што закончыць аповесць. Самому яму яна падабалася. Спадзяваўся, што спадабаецца і чытачу.

Ды раптам прапаў настрой і ахвота пісаць далей. Горш таго, ён адчуў, што робіць нешта непатрэбнае, нікчэмнае — і ўжо ўсё напісанае выглядала дробязным і пошлым.

Ён яшчэ спрабаваў пісаць, мучыў сябе і словы, але ўжо ведаў, што аповесці не будзе, ды і не трэба, каб была.

А пачалося ўсё з адной выпадковай сустрэчы. Ля Вацлаўскай крыніцы, у старой каланадзе, як заўсёды, як, можа, і сто гадоў назад, іграў аркестр. Мінулыя разы, калі Мялешка адпачываў тут, ён часта бавіў час, слухаючы аркестры карлаварскага акрэсту. Прыемна было пастаяць сярод засяроджаных слухачоў, аддацца ва ўладу музыкі.

Сёлета ён не хадзіў слухаць аркестры, быў заняты. А ў той дзень чамусьці пайшоў.

Было горача, як рэдка бывае ў сярэдзіне мая. На лавачках ужо сядзелі курортнікі — найбольш чэхі ды немцы. Аркестр іграў Бетховена, і публіка шчыра слухала яго.

Мялешка не любіў слухаць музыку, седзячы на сонцы. Але нешта балелі ногі, як на перамену надвор'я, і ён падумаў, што не выстаіць паўтары гадзіны. Папраўдзе, дык ён не вельмі спадзяваўся знайсці вольнае мес-

ца. Лавачкі займалі задоўга да канцэрта. І ўсё ж прайшоўся па пляцоўцы і раз, і другі. Людзі сядзелі не цесна, але ў яго не хапала смеласці папрасіць, каб пасунуліся, ды і ці варта было непакоіць іх? Зрэшты, можна і пастаяць.

Мялешка хацеў ужо зноў пайсці ў галерэю, але ў трэцім радзе падняўся чалавек. Мялешка тут жа заняў вызваленае месца, папярэдне спытаўшыся жэстам, ці можна сесці.

— Зіццен зі бітте,— сказала жанчына і чамусьці ўсміхнулася.

— Данке шойн,— адказаў Мялешка, выдаткаваўшы амаль палову свайго запасу нямецкай мовы.

Жанчына нешта пачала гаварыць зноў, прыязна ўсміхаючыся, а ён нічога не разумеў і адчуваў сябе, як верабей, што забраўся ў шпакоўню. Яна замоўкла, павярнулася да свайго суседа, каржакаватага, з кароткай шыяй чалавека, які сядзеў, абапёршыся падбародкам на чорную інкруставаную палку. Чалавек быў стары, гадоў, можа, пад семдзесят, з бурым загарэлым тварам, маршчыністым, але дагледжаным, з сінімі, ужо выцвілымі вачыма. Ён слухаў жанчыну з павагай, але як бы і неахвотна, нібы яна перашкаджала яму аддавацца музыцы.

Мялешку здалося, што ён недзе бачыў гэтага чалавека — і не старым, а маладым. І хоць гэта было не дужа прыстойна, разы два залішне доўга затрымаў на ім позірк. Не ён, а жанчына заўважыла Мялешкаву цікаўнасць і зноў звярнулася да яго. Цяпер Мялешка зразумеў, што яна пытае, адкуль ён.

— Савецішэ уніон,— адказаў Мялешка, знайшоўшы яшчэ два словы ў замежным моўным запасе.

Яна нешта сказала яму, і тады Мялешка да донца вычарпаў свае веды нямецкай мовы.

— Іх ніхт шпрэхен дойч. Нікс фарштэйн...

Жанчына засмучана пахітала галавой, яшчэ нешта сказала да яго і ўжо, мабыць, страціўшы цікавасць, загаварыла са сваім суседам. І тут нечакана па-руску абазваўся другі Мялешкаў сусед, што сядзеў злева.

Гэта быў даўганосы, сіваваты чалавек, дужа худы і доўгі, у чорных акулярах з тоўстымі шырокімі дужкамі. Мялешка заўважыў, што акуляры служаць яму адначасова і слухавым апаратам.

— Яна пытаецца: адкуль вы з Расіі? — сказаў ён з моцным акцэнтам.

— З Беларусі, з Мінска,— адказаў Мялешка і, пакуль чалавек перакладаў, папікнуў сябе за непатрэбную паспешлівасць.

Жанчына, здаецца, зацікавілася тым, што пераклаў ёй чалавек у акулярах. Яна пачала гаварыць хутка, быццам баялася, што яе не стануць слухаць.

— Яна кажа,— пачаў перакладаць Мялешку сусед,— што была ў Беларусі. У Мінску была. Ёй спадабаўся ваш горад, вашы людзі. Яна ездзіла да вас на машыне. Хацела знайсці магілу мужа. Але ёй не дазволілі. І яна не разумее чаму, бо яна нічога благога не рабіла. Яна толькі хацела знайсці магілу мужа.

Па-шчырасці, Мялешка не ведаў, што адказаць, што наогул можна сказаць у такіх выпадках. Ён бачыў, што жанчына чакае ягонага адказу, глядзіць яму ў вочы, быццам ад яго, Мялешкі, залежыць яе лёс.

«Во і паслухаў музыку!» — горка ўсміхнуўся Мялешка. Мабыць, чалавек у акулярах зразумеў ягоную ўсмешку па-свойму.

— Дзіўны народ немцы,— сказаў ён,— хочуць знайсці магілы сваіх салдат і забываюць, што мільёны людзей па іх віне не ведаюць магіл сваякоў, якія не былі салдатамі.

— Вы хіба не немец? — спытаўся Мялешка, бо дасюль думаў, што і ён немец, з адной кампаніі.

— Я з Югаславіі... серб... партызан...

Мялешка ледзьве ўтрымаўся, каб не пахваліцца, што і ён таксама партызан.

— Вельмі прыемна,— сказаў Мялешка.— Мне ніколі не даводзілася сустракацца з югаслаўскімі партызанамі.

— Ды і мне не даводзілася сустракацца з вашымі. А ў нас было б пра што пагаварыць...

Жанчына пераводзіла позірк з серба на Мялешку, з Мялешкі на серба, як бы хацела па выразу твару зразумець, пра што яны гавораць. Затое яе сусед сядзеў, абапёршыся на палку, абыякавы і да яе, і да іхняй размовы.

Тым часам аркестр перастаў іграць. Дырыжор тройчы пакланіўся натоўпу, сеў на крэсла ля піяніна. Публіка ўзнёсла апладзіравала.

— Я быў тут у вайну,— сказаў серб.— Тады вось тут, ля галерэі, гулялі нямецкія афіцэры. І таксама ігралі аркестры. Вайсковыя... Маршы! Маршы! А над светам ужо ўзыходзіла сонца Сталінграда.

— Гэта было ў сорак другім? — здагадаўся Мялешка.

— У верасні. Залаты сезон у Карлавых Варах. Тады я не ведаў, што ў верасні ў Карлсбадзе залаты сезон. І што ў Сталінградзе ідуць баі. Тады я шмат чаго не ведаў...

— Як жа вы трапілі сюды? Вядома, калі не сакрэт.

— Які там сакрэт! Увосень сорак першага мяне вывезлі ў Германію. Я двойчы ўцякаў. У верасні сорак другога мяне злавілі. Вось там,— ён паказаў рукой цераз плячо, дзе на схіле гары караскаліся ўверх дамы,— было гестапа. Я сядзеў у камеры, на апошнім паверсе. Мяне дапытвалі: лілі ў вушы ваду і білі. А вось тут гулялі немцы. Іграла музыка. Тады я не думаў, што зноў пабываю тут. Тады я думаў, як уцячы, дабрацца да Югаславіі, у горы, да Ціта.

Чалавек з інкруставанай палкай падняўся, за ім жанчына. Ён пайшоў паперадзе. Яна затрымалася на хвілінку.

— Аўфвідэрзейн,— кіўнала яна галавой Мялешку і яшчэ нешта сказала, але ён так і не зразумеў што.

— Яна рада знаёмству,— пераклаў серб.— Шкада толькі, што ні вы не ведаеце нямецкай мовы, ні яна рускай.

Мялешка не шкадаваў. Яго цікавіў серб.

— Ну і ўцяклі? — спытаўся ён, каб падтрымаць гаворку.

— У снежні, якраз перад Новым годам, я ўжо ваяваў. Цяжкія былі баі. Мы адыходзілі ў горы.

Серб замоўк, нібы прыгадваў тыя цяжкія баі ў гарах. І Мялешка прыгадаў апошнія дні сорак другога года. Страшныя, кашмарныя дні.

Іх брыгада два тыдні адступала і днём і ноччу, вяла баі. Тады і загінуў камісар іхняга атрада Восіп Казмін.

«А дзе ягоная магіла? — падумаў Мялешка.— Як знайсці яе?»

Хавалі яны Казміна на ўзгорку, пад адзінокай бярозкай. Тады Мялешка казаў прамову, абяцаў, што да камісаравай магілы ніколі не зарасце сцежка.

Наіўныя, маладыя клятвы!

Гадоў праз пятнаццаць яны, чацвёра, што засталіся з усяго атрада, паспрабавалі адшукаць магілу камісара. Абышлі ўсе ўзгоркі між вёскамі Вежань і Дзерваеды, але таго пагорка з адзінокай бярозай так і не знайшлі. Ды і вёсак не было. Раслі толькі адзічэлыя ў полі дрэвы. А дзе магілы астатніх? Хто адшукае іх па лясах ды балотах, пахаваных на скорую руку, а то і проста пакінутых у заплылых вадой кар'ерах, калі вырываліся з апошняй блакады вясной сорак чацвёртага?..

Сказаць бы аб гэтым той фраў. Толькі ці зразумее яна?

Ноччу Мялешку прысніўся Восіп Казмін.

...Яны бягуць па неглыбокім снезе ў полі туды, адкуль густым роем ляцяць чырвоныя кропелькі трасірных куль. Восіп Казмін стаіць на санях, трымае левай рукой лейцы, а правай страляе з пісталета і нешта крычыць. Яны таксама крычаць і страляюць. Ён, Мялешка, бяжыць крыху з боку ад саней. Яго закрывае ад куль пагорак. А Восіп імчыць па адкрытым полі. Кулі абмінаюць Восіпа: то праносяцца над галавой, то аблятаюць бокам, нібы вецер здзімае іх, як іскры ад вогнішча.

— Восіп! — крычыць Мялешка.— Восіп!..

Роўны ланцужок куль паяўляецца ад самай зямлі ўдалечыні і ляціць насустрач Восіпу. Кулі тыркаюцца ў Восіпавы грудзі і гаснуць. Толькі чатыры ляцяць далей. І тады Мялешка бачыць, што Восіп ужо не стаіць, а ляжыць у санях і яго галава звісае з іх, доўгія валасы падмятаюць снег.

— Віцька! Віцька! — кліча Мялешка свайго сябра Дразда.— Камісара забілі.

Але ніхто не чуе яго. Ды і няма каму яго пачуць. Ён адзін сярод цемры ночы, і кулі ляцяць насустрач яму, балюча тыркаюцца ў сэрца. Ён задыхаецца. Крычыць.

І прачынаецца.

У акно праз цюлевую фіранку свяціў месяц, яшчэ не поўня, можа, адны якія суткі да поўні. Горы насуп-

раць у блакітным месячным ззянні. А пад імі, у нізіне, слаўся туман, таксама блакітны і лёгкі, як смуга.

Мялешка выйшаў на балкон, маленькі, з чыгуннай, на стагоддзі, агароджай. Босыя ногі апёк холад гладкай і коўзкай пліткі, якой выслаңы балкон.

Унізе, у святле ліхтароў, праз зеляніну дрэў, матава блішчэў серпантын дарогі. Злева, над санаторыем Сансусі, у тумане цьмяна свяцілі ліхтары. Недзе там, у Сансусі, спіць ягоны выпадковы знаёмы серб.

Што сніцца яму ў гэтую месячную ноч? Можа, допыт у гестапа? Што льюць у вушы ваду і ён нічога не чуе? А можа, і ён цяпер не спіць?..

Унізе, пад гарою, відаць дах — плоская чатырохкутная пляцоўка — другога санаторыя, «Швейцарскі двор», у якім пераважна жывуць заходнія немцы, аўстрыйцы. Некалі Мялешка сустрэў там бельгійца — удзельніка бельгійскага супраціўлення. Можа, там жыве жанчына, што ездзіла шукаць магілу мужа? Што можа сніцца ёй? Спіць сабе спакойна пасля дзённага размеранага адпачынку...

Стаяць, аднак, было холадна. З цясніны раптам пацягнуў калючы вецер — аж прабраў да касцей. Мялешка вярнуўся ў пакой, залез пад тоўстую пуховую коўдру, хацеў заснуць і не змог. Яму прыгадалася другая золкая ноч. Як і цяпер, майская, але больш халодная і цёмная.

Яны ляжаць з Віцькам Драздом пры кулямёце, у засадзе ля шашы.

...Трыццаць тры гады назад! Даўным-даўно, а ўсё помніцца нібы заўчора.

Зрэшты, усё было не так. Думкі пераскочылі месяцаў на дзесяць углыб, у сорак першы.

Мялешку з Віцькам Драздом не пашчасціла. Астатнія хлопцы са знішчальнага атрада адышлі на захад, а яны засталіся. Камандзір атрада Васіль Галавачка загадаў ім перабрацца на той бераг ракі, дзе, па звестках, ужо былі немцы, падпаліць элеватар.

— Загад ведаеце: немцу нічога не пакідаць,— гаварыў Галавачка,— тым больш элеватар, хлеб. А ён, бачыце, стаіць...

З гары праз дым і агонь — тая частка горада гарэ-

ла ўжо другі дзень — сапраўды, быў добра відаць элеватар і школа ля яго.

Пад вечар Антон з Віцькам пераплылі раку, бо абодва масты былі ўжо ўзарваны. Па крутым беразе выбраліся на набярэжную, якраз насупраць тытунёвай фабрыкі. Тая ўжо згарэла, дыміліся толькі горы тытуню і ўедлівы дым слаўся па зямлі. Яны ледзьве не задыхнуліся ў ім.

Заціснуўшы насы, выбеглі на Узвальны завулак, кароценькі, з небрукаванай вуліцай, і спыніліся, каб перавесці дыханне. Тры вуліцы перад вакзалам гарэлі, і подых вялікага пажару даносіўся сюды: пахла гарэлым, было горача, аж струменілася, пералівалася паветра, ды стаяў страшэнны, нясцерпны гул — бушавала полымя. Нешта трашчала, лопалася, ірвалася, і чырвоны дым засцілаў неба. На прыцемках ды зблізку пажар выглядаў больш жудасна, чым з таго берага ракі.

Яны пайшлі па завулку ля платоў. Брамкі і вароты былі зачынены — і нідзе ні душы. Людзі ўцяклі за раку яшчэ два дні назад, калі нечакана ў горад уварваліся нямецкія танкі. Да элеватара заставалася кварталы два старой забудовы. Домікі тут стаялі цесна, вулачкі вузкія, пясчаныя, з тратуарамі з дошак, якія падгнілі, паламаліся. Недзе на Рымарнай вуліцы яны пачулі гаворку і адразу ж прытуліліся да плота — гаварылі не па-нашаму. Ім здалося — моцна і вельмі адрывіста, быццам аддавалі каманду.

Віцька загадаў пералазіць цераз плот. Ён, Антон, падцягнуўся на руках, закінуў нагу.

— Давай бляшанку!— У ёй быў бензін.

Віцька падаў бляшанку. Мялешка прыгнуўся, узяў бляшанку, неяк неасцярожна пахіснуўся і паляцеў потырч у агарод. Ягоны пінжачок зачапіўся за цвік. Мялешка чуў, як трэснула тканіна. Але бляшанкі ён не выпусціў з рук. Праўда, затычка чамусьці вылецела, і яго абдало бензінам.

Следам спусціўся ў агарод Віцька.

— Бензін разліў? Разява...

Мялешка запэўніў, што бензіну разлілося няшмат. А вось пінжачок разарваны па жывому. Сапраўды, ад самай лапаткі вісеў добры шкумат. Ды і штаны парваў.

— Ты цяпер на старца падобны,— пажартаваў Віцька.

Мялешку было не да жартаў. У чым цяпер адыходзіць на ўсход?

Цераз гародзік — нейкіх пяцьградак — яны выбраліся на двор, завалены скрынямі. Вароты былі адчынены. Праз іх яны і выйшлі на шырэйшую вуліцу, павярнулі направа. Вуліца вяла кудысьці ў бок ад элеватара і нарэшце ўтыркнулася ў глухую каменную сцяну. Паўз яе — сцежачка. Справа падымаўся высокі плот з дошак, злева — сцяна. Водбліск пажару крыху асвятляў гэты вузкі тунель. Яны пайшлі па ім і хутка ўперліся ў агароджу з калючага дроту.

— Нафтабаза,— сказаў Віцька.

За ёй, па Віцькавым меркаванні, і быў элеватар. Паўквартала, не больш.

— Давай падпалім нафтабазу,— прапанаваў Віцька.— А тады ўжо элеватар. Гаручае немцам вунь як патрэбна.

— Зраўняў. Гаручага ў іх хапае. З Румыніі возяць. А хлеба мала.

Але Віцька ўжо пралез між дроту, узяў бляшанку. За ім палез і ён, Мялешка.

За дротам рос быльнёг — па пояс. У водсветах пажару па зарослым бур'янам полі мітусіліся, снавалі чорныя невыразныя цені. Аж было жудасна.

Яны выбраліся на пясчаную пляцоўку з аграмадзінамі-цыстэрнамі. Віцька абышоў іх, пастукаў каменьчыкам па жалезным боку.

— Пустыя,— сказаў ён.

Яны хацелі ўжо выбірацца, як нечакана наткнуліся на вялізныя люкі, што ўздымаліся, можа, на паўметра над зямлёй. Віцька паставіў бляшанку з бензінам на зямлю, пачаў адкручваць накрыўку. Яна не паддавалася.

— Памажы,— папрасіў ён.

Удвух адкручваць накрыўку стала ямчэй.

Ад рэзкага, незразумелага крыку абодва, здавалася, прыраслі да зямлі, нічога не разумеючы. Калі Мялешка азірнуўся, дык убачыў, што над ім стаіць немец з аўтаматам, які скіраваны яму ў твар.

Мялешку адняло і рукі і ногі. Немец штосьці крычаў, загадваў, але ён сядзеў на кукішках, як скамянелы.

Хтосьці выцяў яго ў карак. Аж пацямнела ўваччу.

Потым ён убачыў, што Віцька ўжо стаіць, заклаўшы за галаву рукі. І ён заклаў рукі за галаву, падняўся.

Толькі цяпер Мялешка ўбачыў, што немцаў двое. Здаровыя, высокія дзецюкі. Адзін з іх штурхнуў Віцьку аўтаматам і нешта сказаў. Віцька пайшоў. За ім і ён, Мялешка.

Мялешка і цяпер не мог даўмецца, чаму немцы не расстралялі іх адразу. Было ў гэтым нешта загадкавае, нейкая свая палітыка.

Іх вялі па шырокай брукаванай вуліцы на элеватар. Наперадзе Віцька з рукамі на патыліцы, за ім немец з аўтаматам на шыі, потым ён, Мялешка, і зноў немец. Бляшанка так і засталася ля таго люка, які яны спрабавалі адчыніць.

Што ён, Мялешка, тады думаў? Цяпер прыгадваў, што ён неўзабаве ачомаўся ад першага агіднага страху і нават пачаў азірацца па баках — пакуль толькі вачыма, не паварочваючы галавы.

Іх вялі пасярэдзіне вуліцы, і ўцячы было немагчыма. Але думка такая не пакідала яго.

Падкутыя боты немцаў суладна, крок у крок, грукалі па бруку. Іхніх брызентавых, на гумавай падэшве туфляў не было чуваць. Яны з Віцькам ішлі, як цені — бясшумна.

Ля элеватара гарэла вогнішча, пры самай хаце, што, відаць, у свой час не знеслі і якая стаяла цяпер пад самай сцяной. Ля агню стаялі немцы і нечага рагаталі. Пабачыўшы іх, замоўклі, глядзелі, як на нейкае дзіва.

Канваіры нешта сказалі аднаму з іх, мабыць, старшаму. Той адказаў. Іх павялі да будынка з закрачаным высока над зямлёй акном. Канваір адсунуў цяжкую жалезную засаўку, адчыніў тоўстыя і таксама жалезныя дзверы, падштурхнуў у іх Віцьку. За ім зайшоў у камеру Мялешка. Дзверы, зарыпеўшы на завесах, зачыніліся.

Яны стаялі ў парозе. Праз акно відаць было зарыва пажару, але ў камяніцы было цёмна. Мялешку здалося, што тут ужо нехта ёсць. І сапраўды, калі вочы крыху прывыклі, ён убачыў двух, якія сядзелі ля сцяны, пад акном. Яшчэ нешта белае ляжала на падлозе.

— Хто тут ? Са спатканнем,— пажартаваў Віцька.

— Сядайце, у нагах праўды няма,— пачуўся голас з-пад акна.

На падлозе заварушылася белае. То была дзяўчына ці жанчына ў белай кофце і ў белай спадніцы. Яна села, выцягнуўшы босыя ногі.

— Я, здаецца, заснула,— сказала яна.— Сон нават сасніла. Маму.

— Мама, мусіць, хвалюецца?

— Яна памерла, калі мне было чатыры гады.

— Вунь яно што!..

Гаварыў стары чалавек у ватоўцы. Другі, маладзейшы, што сядзеў побач, маўчаў, паклаўшы галаву на сагнутыя калені. Віцька сеў побач з дзяўчынай. А Мялешка ўсё стаяў, прыпёршыся да сцяны.

— Ты адкуль? — спытаўся Віцька ў дзяўчыны.

— А табе што? — агрызнулася тая.

— Я, напрыклад, з завода Кірава...

— Ну і памаўчы,— спакойна параіў мужчына ў ватоўцы.— Цяпер трэба язык трымаць за зубамі.

Ён выразна глянуў на таго, што сядзеў поруч з ім.

Дзяўчына раптам прыхінулася да Віцькі, заплакала, аж уздрыгвалі плечы. Віцька пагладзіў яе па галаве.

— Перастань! Чаго ты?

— Слязьмі гору не паможаш,— разважліва сказаў чалавек у ватоўцы.— Неабярэжныя вы, маладыя.

— Сам во таксама сядзіш,— злосна адказаў Віцька.

— Я ведаю, чаго і за што,— расцягваючы словы, як бы разважаў чалавек у ватоўцы.— Ды і пражыў сваё. Добра пражыў. Не скарджуся. А вам жыць трэба. Канец вайне пабачыць...

— Ну за што яны мяне, за што? — праз слёзы пачала скардзіцца дзяўчына.— Не паліла я горад, не паліла... Вітрына выбіта была, я заскочыла ў магазін, думала, разжывуся чым, а склад ужо гарыць. Я назад, а яны і схапілі... «Ты,— кажуць,— падпальшчыца, партызанка».

— Значыць, патрэбны ім падпальшчыкі,— азваўся чалавек у ватоўцы.— Не цябе, дык другога схапілі б. А горад, і праўда, дарэмна спалілі. Дарэмна! Нам жа і будаваць трэба будзе. Але пабудуем. Няма чаго шкадаваць, калі вунь колькі жыццяў загублена, а яшчэ колькі загубяць...

— А я паліў, паліў! — закрычаў ягоны сусед. Ён ускочыў, пачаў грукаць кулакамі ў сцяну.— Мала па-

ліў. Каб нічога не засталося. Попел і руіны. Пустыня. Хай жаруць яе, пакуль падавяцца.

— Сядзь, сядзь,— чалавек у ватоўцы ўзяў яго за руку, пацягнуў уніз.— Крычыш ты шмат. Ад страху гэта. Паміраць, брат, нікому не хочацца. А не выкруцішся. Паміраць трэба спакойна, з чалавечай годнасцю.

— Добранька вам казаць, вы сваё аджылі,— аж з болем у голасе сказала дзяўчына.— А я і не жыла.

— Цябе адпусцяць, пабачыш, адпусцяць. А я сваё, праўда, аджыў, як ты кажаш. Чацвёра сыноў у арміі, два зяці. Дачок з унукамі і жонкай у Расію адправіў, а сам во застаўся. Я на сваёй зямлі памру. Яна, матухна, прыгрэе, прыгалубіць.

Мужчына гаварыў так спакойна, што ў Мялешкі зусім стала лёгка на душы. Падумалася, што і ён, Мялешка, памрэ з чалавечай годнасцю, як кажа дзед. Мялешка адарваўся ад сцяны, сеў насупраць мужчыны на падлогу.

— А за што вас схапілі? — спытаўся ён.

Ад ватоўкі пахла мазутам. Мабыць, мужчына меў дачыненне да чыгункі. У такіх ватоўках хадзілі змазчыкі.

— Чалавек шмат гаворыць, а мала робіць,— адказаў той.— Зрабіў сваё і памаўчы. Усё, брат, забываецца. Быў у нас такі: зробіць не зробіць, а ляманту на ўсю акругу. Цанілі яго за гэта. А другі ціхенька зробіць сваё і маўчыць. Яго і не бачаць. А мне ён па душы.

Мужчына як абсек далейшыя роспыты. У каморцы настала цішыня. Дзяўчына скурчылася, паклала галаву на Віцькавы ногі, сцішылася. Віцька сядзеў, прыпёршыся да сцяны, глядзеў перад сабой. Мужчына зняў ватоўку, скруціў, лёг на яе галавой, сказаўшы Мялешку:

— Раніца мудрэйшая за вечар.

Мялешка перапоўз да Віцькі.

— Што ты скажаш? — спытаўся ён у Віцькі.

— Нашы, мабыць, адышлі,— сказаў той.

Ад Віцькавых слоў у Мялешкі заныла сэрца. Ён моўчкі зняў парваны пінжак, паклаў пад галаву. Ад пінжака смярдзела бензінам.

Спаць як бы і не хацелася. Але Мялешка нечакана і моцна заснуў. Прачнуўся ад нейкага шуму, валтузні. Яму здалося, што мужчына ў ватоўцы душыць дру-

гога, маладзейшага. Той вырываецца і не можа вырвацца з чорных жылістых рук.

Мялешка падхапіўся, штурхнуў старога, аж той адляцеў на метр.

— Што яму ад цябе трэба? — спытаўся Мялешка ў маладзейшага.

Той падняў на Мялешку злыя вочы.

— Пайшоў ты...

Нічога не разумеючы, Мялешка паглядзеў на старэйшага. У дзённым святле той выглядаў зусім яшчэ моцным, праўда, зарослы чорнай барадой, якая яго старыла. Але вочы былі маладыя, карыя і дужа прыхільныя.

— Ты таго, малец, забудзь, што было,— сказаў Мялешку стары.— Дурань ён і нічога не разумее.

— Я не хачу, не хачу! Сволач ты! — істэрычна закрычаў маладзейшы і пачаў біць кулакамі аб падлогу.— У мяне права ёсць. Мая жызня, мая, а не твая! Пайшоў ты да чортавай мацеры.

— Ну і дурань, які ж ты дурань! А, мабыць жа, вучаны троху.

Цяпер Мялешка больш пільна прыгледзеўся да маладзейшага. Быў той руды, рабаціністы і нейкі аж калючы. Нават рудыя валасы падстрыжаны пад бобрык. Маленькія вочкі паглядалі на Мялешку недаверліва і злосна.

Прачнуўся Віцька, спытаўся:

— Што вы не падзялілі?

— Біліся яны, ці што,— адказаў Мялешка.

— Ды не, пра жыццё пагаварылі крыху,— азваўся стары.

— Пра жыццё можна,— дазволіў Віцька і спытаўся ў дзяўчыны: — Як спала?

— Добра,— адказала дзяўчына, папраўляючы валасы.

Стары, адвярнуўшыся, нешта рабіў, як бы развязваў нейкі вузел зубамі.

— Аддай, аддай! — зноў закрычаў руды.— Я ўсё роўна сам скончу.

— На, бяры!

То была дзяжка, скураная, мяккая і доўгая, завязаная пятлёй.

— Карай сябе сам. А мы паглядзім, ці хопіць у цябе розуму.

Руды дзяжку не падняў.

Тады дзед паціху падпоўз да яго і зноў пачаў развязваць пятлю.

— Чалавек надзеяй жыве. Во што я табе скажу. Бывала, белыя афіцэрыкі ледзь што — бах з нагана ў лоб. Гонар ім не дазваляў. А глупства. Гонар павінен быць, каб жыць. Мы рабочы люд. Мы ні ў пятлю не лезем, не страляем сябе. Во што зразумець павінен. На сябе рукі накласці — проста. А ты пра жыццё думай. А давядзецца памерці, не паказвай сваёй слабасці. Каты слабых любяць. Моцных яны, ой, як баяцца. Во ў чым наша сіла цяпер. Каб нават мёртвага баяліся. Дзецям сваім гаварылі, як мы паміралі. А ты сам лезеш у пятлю. А ці падумаў ты, што тут дзеўчанё гэтае? Яна, можа, вісельніка ніколі не бачыла. Напалохалася б. Эх, ты! Абыдзецца, можа, выпусцяць. Не застрэлілі ж яны адразу нас, хоць маглі...

— Ты мяне не суцяшай! — злосна, аж з нянавісцю, праз зубы сказаў руды.— Я не хачу з іх рук жыццё браць. Я не здраднік!..

— Дзівак-чалавек! Які ты здраднік?

— А тое, што мы тут сядзім,— ужо здрада. Жывымі ў іхнія рукі трапілі. Гэта што, не здрада?

Ягоныя словы ўразілі Мялешку. Не ў іх, а ў тым тоне, якім яны былі сказаны, Мялешка пачуў нешта новае для сябе, над чым ніколі не задумваўся, але якое жыло недзе ў ім самім. Так і думалася да вайны, што жывым трапіць да ворага — горш за смерць. І вось трапіў. Але што ён мог зрабіць? Уцякаць, кінуцца на немцаў з голымі рукамі?..

Віцька дасюль маўчаў, і раптам яго прарвала:

— Заткніся! А то не пагляджу на твае заслугі. Ты чаму ўсіх нас у здраднікі пішаш? Яе, мяне, яго!.. А за што? Што мы без зброі былі, што выканаць задання не маглі? За гэта? Ці за тое, што жывыя пакуль?

Руды аж зларадна ўсміхнуўся.

— Ну, во бачыш,— ужо спакойна сказаў ён старому,— во так і пачынаецца здрада,— і, павярнуўшыся да Віцькі, свідруючы таго малюсенькімі вочкамі, спытаўся, нібы выкрасаючы кожнае слова: — А ты ўсё зрабіў, каб выканаць тое заданне? Ты кінуўся на немцаў,

кусаў іх, біў? Ага! Ты здаўся. Значыць, ты — здраднік!..

Віцька, сціснуўшы кулакі, павалі падняўся з падлогі. Дзяўчына спрабавала яго ўтрымаць.

— Не чапай яго, не чапай,— прасіла яна Віцьку.

Невядома, чым бы скончылася гэтая спрэчка, каб не загрукала засаўка, не зарыпелі акутыя дзверы.

Ухмыляючыся, у камеру зайшоў немец, малады, прыгожы, у зялёным кіцелі і такіх жа штанах, у падкутых ботах.

— Гутэн таг! — весела крыкнуў ён, пазіраючы на дзяўчыну.

Ён і яшчэ нешта гаварыў, але ніхто не разумеў ні слова. Тады ён паманіў кагосьці з арыштаваных пальцам. Падняўся Віцька.

— Найн, найн,— замахаў рукой немец.

Мялешка зразумеў, што немец кліча дзяўчыну. І яна зразумела, ухапілася абедзвюма рукамі за Віцьку.

— Не пайду я, не пайду, баюся.

Немцу надакучыла чакаць. Ён кагосьці паклікаў. У камеру, грукаючы ботамі, зайшоў няўклюдны, з белымі брывамі і такімі ж белымі вейкамі, круглатвары салдат. Немец з аўтаматам нешта сказаў гэтаму няўклюднаму, той падышоў да дзяўчыны, схапіў за руку, павёў на двор.

Дзверы зачыніліся. Чацвёра арыштаваных, затаіўшы дыханне, чакалі, што будзе далей.

Прайшло з паўгадзіны, а можа, і больш. Зноў загрукала засаўка.

Мялешка адчуў, як пахаладзела пад грудзьмі, а ўсярэдзіне ўсё адарвалася. «Цяпер мая чарга...» — падумаў ён.

Здавалася, што мінула вечнасць, пакуль грымела засаўка, пакуль рыпелі завесы. Нарэшце дзверы адчыніліся. З-за сцяны, у яркім сонечным святле, паявілася дзяўчына — жывая, не збітая. Толькі валасы растрапаны, ды спадніца была перакручана. За ёй паказаўся і прыгожы немец. Ён, як і тады, ухмыляўся і нават падміргнуў. Дзяўчына спынілася ў дзвярах. Немец, як жартам, шлёпнуў яе далоняй па спіне і зарагатаў.

— Дурань, цьфу табе,— дзяўчына павярнулася, плюнула немцу ў твар. Ён выцяў яе ботам, аж яна адляцела на сярэдзіну будыніны.

Дзверы зноў зачыніліся.

Усе чацвёра глядзелі на дзяўчыну, але чамусьці маўчалі, не адважваліся спытацца, чаго яе выклікалі. Проста глядзелі на яе і чакалі, што яна сама скажа.

— Чаго вылупіліся, як не бачылі ніколі? — злосна спытала дзяўчына, адпаўзла і села пры сцяне ў парозе.

— Ну што, разгавелася? — спытаўся руды з пагардаю і злосцю ў голасе.

— А табе што? — з выклікам адказала дзяўчына.

— Чаму ж не адпусціў?

— У цябе дазволу не спытаў. Яшчэ спытае.

— Сцерва.

— Пайшоў ты...— дзяўчына брыдка вылаялася.

Стары паківаў галавой, пачаў сарамаціць абаіх.

— Забыліся, дзе седзіцё? Чаго ты да яе прычапіўся? Што яна вінаватая? І ты, дзяўчынка, навошта ж так?..

Ён пайшоў да яе праз усю будыніну, сеў, пагладзіў па плячы. Яна прытулілася да яго, як учора да Віцькі, пачала плакаць наўзрыд.

Толькі цяпер да Мялешкі паступова даходзіў сэнс таго, што адбылося. І ён стаў на бок рудога. Яму было брыдка глядзець на дзяўчыну, якая толькі што была з немцам. Няважна як, але не магла яна вярнуцца назад жывая.

Мялешка падсеў да рудога. Той пацісну́ў яму руку.

— Цябе як завуць? — спытаўся руды ў Мялешкі.

— Антон...

— Мяне Іван,— і зашаптаў, прыхінуўшыся да Мялешкі: — А сябрук твой што за хлопец?

— Слясарыў на заводзе...

— Гэта яшчэ нічога не азначае. Смелы?

— Яшчэ які!..

— Тады вось што, як толькі выведуць нас, я свісну, і пачынаем разбягацца ва ўсе бакі. Хто-небудзь жывы застанецца, каб змагацца. Жыццё наша — барацьба. Зразумеў?

— Ага...

— Тады дамовіліся.

Мялешка вярнуўся да Віцькі, расказаў пра план уцёкаў. Той згадзіўся моўчкі. Другога выйсця не было.

Тым часам ніхто іх нікуды не выклікаў. У будыніне стала горача, хацелася піць.

Было пасля паўдня, калі зноў загрукала засаўка. Увайшлі двое немцаў у форме. На грудзях у іх на ланцугу віселі бляхі з арлом. За імі ўбег трэці, у чорнай форме, невысокі, вусаценькі. Ён стаў між гэтымі двума. Потым паявіліся салдаты з аўтаматамі.

— Фамілія, імя, отчаства? — па-руску, хоць дрэнна, выгукнуў вусаты і тыцнуў пальцам у старога.

— Няма ў мяне для вас фаміліі,— адказаў стары.— Камуніст я, бальшавік, член партыі з дваццаць чацвёртага.

Вусаты зірнуў на яго і сказаў: «Гут».

Потым ён задаў тое ж пытанне рудому. Той, угнуўшы галаву, пайшоў быў на вусатага. Але яго тут жа схапілі, скруцілі рукі назад.

— Гады, сволачы, фашысты! — вырываючыся, крычаў руды.

Яго ўдарылі раз, другі, і ён упаў, як сноп.

Цяпер была Віцькава чарга. Што скажа ён? Мялешка аж напяўся.

— Сідараў Іван Іванавіч,— бойка адказаў Віцька.

— Хорошо... паспорт.

— Няма ў мяне дакументаў,— адказаў Віцька і выцягнуў кішэні.

— Гут... Твой фамілія? — паказаў ён на Мялешку.

Мялешка запнуўся. Не ведаў, як лепей адказаць. Так, як стары, ці так, як Віцька.

— Іваноў Пётр Сцяпанавіч...

Немец не запісваў прозвішчаў, і было не зразумець, навошта ж ён тады пытае.

— А фройлен?..

Ён паглядзеў на дзяўчыну абыякавым позіркам, быццам яе не было.

— Вера я, а прозвішча Мятлік. Мяне абяцалі адпусціць.

Немец нічога не адказаў. Ён дастаў нейкую паперу, пачаў чытаць. Прачытаўшы, акуратна склаў яе і нешта скамандаваў. Аўтаматчыкі акружылі іх, пагналі на двор. Мялешка з Віцькам вялі пад рукі рудога. Той ісці сам не мог.

«Вось і ўцяклі!» — падумаў Мялешка.

Высокія дзверы на элеватар былі адчынены. На верхняй рэі брамы сядзеў немец. Іх вялі пад браму, на элеватар.

Аўтаматчыкі спыніліся перад дзвюма скрынкамі, пастаўленымі адна на адну.

Мялешка чамусьці ўсё бачыў, як праз сіта, невыразна, быццам гэта быў кашмарны сон.

Нехта з немцаў кінуў таму, што сядзеў на браме, канец вяроўкі, той злавіў яе. І тады Мялешка ўбачыў, што другі канец завязаны пятлёй. Пятля гайдалася над скрынямі, то апускалася ніжэй, то ўзнімалася. Двое салдат узялі старога пад рукі, якія ўжо былі закладзены за спіну і звязаны.

Стары адштурхнуў іх локцямі. Мялешка так і не заўважыў, калі старому звязалі рукі. Яго скаваў агідны страх. Ён чуў, як пацеюць далоні, як усё адзервянела: галава, цела і толькі ногі слабнуць, аж нельга ўстаяць на іх.

Стары падышоў да скрыні. Двое немцаў памаглі яму ўзабрацца на шырэйшую, потым на вузейшую, што была наверсе. Ён стаў тварам да астатніх чатырох, спакойны, аж урачысты, абвёў вачыма немцаў.

— Звяры вы і ёсць,— сказаў ён.

Доўгі худы немец таксама ўзабраўся на скрыню. Удвух ім стаяць было цесна, скрыня вагалася, і немец адной рукой ухапіўся за пятлю, а другой за старога, за плячо. Той скрывіўся, аж скалануўся ўвесь, быццам да яго дакранулася пачвара.

— Прыйдзе і на вас пагібель. Прашчавайце, людзі добрыя.

Мялешка заплюшчыў вочы, як толькі ўбачыў, што пятля ўжо адзета на шыю, а доўгі немец, крыкнуўшы нешта, накшталт «опля», саскочыў на зямлю.

Нехта пранізліва, як не па-чалавечы, закрычаў. Мялешка ўздрыгнуў і расплюшчыў вочы.

Над ніжняй скрыняй сутаргава варушыліся пальцы босых ног. У руках двух немцаў усё яшчэ крычала Вера Мятлік. Яе цела білі канвульсіі. Яно выгіналася, як ад болю, як бывае пры эпілепсіі.

Няўклюдны, бялявы немец, ці не той, што выцягваў з камеры Веру, піхаў скрыню з-пад ног старога. Крыху адпіхнуў убок, пачаў ставіць на яе тую, што валялася ледзь не ля Мялешкавых ног.

Чыя цяпер чарга? Ад думкі, што, можа, ягоная, у Мялешкі раптам пацямнела ў вачах, але ён устаяў. Толькі шырэй паставіў ногі. Ён чамусьці толькі глядзеў

перад сабой і не бачыў, што адбываецца побач. Хтосьці штурхнуў яго. Мялешка азірнуўся. Руды адбіваўся ад двух немцаў, што насядалі на яго. Руды адбіваўся нагамі, а немцы стараліся заламаць яму рукі назад. На імгненне руды выкаўзнуўся з іх рук, неяк тырчком ударыў немца пад дых і кінуўся бегчы.

— А-а-а, узялі?! — закрычаў ён.

Кароткая чарга прашыла яго. Усё адбылося нечакана. Мялешка толькі цяпер падумаў, што трэба было ўцякаць і яму. Ды было позна. Тыя ж двое немцаў схапілі цела, пацягнулі пад шыбеніцу. Ужо мёртвага, яны засунулі рудога ў пятлю.

Цяпер іх засталося трое: Вера, Віцька і Мялешка. Яны ціснуліся адно да аднаго. Мялешку білі дрыжыкі, і ён штосілы сціскаў сківіцы, баяўся адкрыць рот, каб не пачалі ляскаць зубы.

А белабровы немец зноў пачаў ставіць скрыню на скрыню. Потым ён узабраўся на іх. Яму падалі фанерку. Ён павесіў яе на шыю старому, паверх пятлі. Друкаванымі нязграбнымі літарамі на ёй было напісана: «Ён нападаў на нямецкіх салдат».

Другую фанерку павесілі на грудзі рудому.

«Падпальшчык, бандыт».

Трое здаровых дзецюкоў падбеглі, сталі пад павешанымі. Чацвёрты пачаў фатаграфаваць іх. Арыштаваныя, мусіць, заміналі. Той, што фатаграфаваў, нешта крыкнуў ім, але ніхто не зразумеў што. Тады аўтаматчык штурхнуў Веру аўтаматам, паказваючы, каб яна адышлася.

Немцы стаялі пад шыбеніцай і рагаталі. Адзін з іх паказваў над галавой сярэдняга два растапыраныя пальцы.

Мусіць, Мялешка з Віцькам адчулі, што небяспека мінулася, бо ўпершыню паглядзелі адзін на аднаго. Цяпер толькі Мялешка ўбачыў, што ярка свеціць сонца, што над горадам вісіць чорная хмара дыму, а ў элеватары расчынены дзверы і ён пусты.

Немец у чорнай форме зноў выцягнуў паперу і пачаў чытаць. І ў Мялешкі прапала ўся надзея. Але цяпер страх не ахопліваў яго так моцна, як раней. Настала нейкая абыякавасць да ўсяго.

Белабровы зноў пачаў соўгаць скрыні нагой, пакуль не паставіў адна пры адной.

Да арыштаваных падышоў аўтаматчык, тыцнуў руляй у Верыну спіну. Вера нахілілася, зрабіла крокі два і спынілася. Белабровы падышоў да яе і як не пацягнуў да скрынь, паваліў на іх тварам уніз. Другі задраў спадніцу і нешта крыкнуў белаброваму. Той сеў Веры на плечы.

Дзяўчына крычала, аж заходзілася ад крыку. Мялешка ўбачыў, як доўгі ўзмахнуў над сабой чымсьці чорным, выцяў Веру, і яна захліпнулася, замоўкла, а потым застагнала. На целе адразу ж набухнуў чырвоны рубец.

Пасля кожнага ўдару Мялешка ўціскаў галаву ў плечы. Яму здавалася, што б'юць Веру доўга. Нарэшце белабровы штурхнуў Веру пад бок. Яна падхапілася, пачала абцягваць спадніцу і раптам зламалася, загаласіла.

— Цурык! Цурык! — закрычаў немец у чорным.— Бяжы!..

Вера падхапілася і пабегла, а салдаты свісталі, крычалі ёй услед.

— Нам яны адмераюць не па пяць,— шапнуў Віцька.— Трымайся, Антоша.

Віцька сам падышоў да скрыняў. Спусціў штаны і, падміргнуўшы Мялешку, лёг.

Ім адмералі па дзесяць бізуноў — абрубка кабеля. І адпусцілі. Гэта быў цуд. Яны былі бясконца шчаслівыя, хоць хацелася выць ад нясцерпнага болю. Можа, таму і плакалі, калі адбегліся і былі ўжо за ракой.

Цяпер было сорамна за тыя слёзы. Ды і ўсё ўспрымалася інакш, даўні незарубцаваны боль быў вастрэйшы. Было страшна за сваю бездапаможнасць і крыўдна за тыя свае неразумныя ўчынкі. На сталы розум, усё трэба было рабіць інакш.

Навошта было пасылаць Васілю Галавачку, сталаму чалавеку, двух нявопытных хлапчукоў падпальваць той элеватар, у якім не было збожжа? І наогул, ці не залішне яны тады былі неразважлівыя, нейкія ачумелыя, не шкадавалі, не бераглі сваіх жыццяў?

«Хто ён быў, той стары, і за што яго павесілі?» — можа, упершыню пасля вайны папытаўся ў сябе Мялешка з нейкім дакорам, што і дасюль не ведае ні ягона-

га прозвішча, ні імя, ні таго, што ён зрабіў немцам. Хто той руды, непрымірымы, жорсткі чалавек, які нават перад смерцю лічыў, што здрадзіў, бо трапіў у рукі немцаў? Дзе іх магілы і хто знойдзе іх?

Нейкая пякучая незадаволенасць сабою авалодала Мялешкам. Аж не хацелася ўжо ўспамінаць былое. Ён нацягнуў коўдру на галаву, быццам хацеў схавацца ад страшных успамінаў. «Прыехаў жа я сюды адпачываць. Заслужаны адпачынак, як кажуць. Ну і адпачывай, і не мітрэнж сябе ўспамінамі. Прайшло ж трыццаць гадоў. І на будынку санаторыя сведчыць аб гэтым лічба — «трыццаць»,— думаў ён.

Але думка гэта не супакоіла, бо адразу ж усплыў у памяці нядаўні выпадак.

У першы дзень санаторнага жыцця Мялешка вяртаўся з крыніцы. Памалу ішоў ад ланоўкі-фунікулёра за дзвюма маладымі жанчынамі. Яны глядзелі на выстаўленую над фасадам ярка-чырвоную лічбу «30» і нешта паціху гаварылі. Ён не ўтрымаўся, пажартаваў, ці не забыліся яны, што азначае гэтая лічба, і толькі тады разгледзеў, што жанчыны не нашы. Яны былі крыху збянтэжаны ягонай бесцырымоннасцю і чамусьці рашылі, што ён француз, бо загаварылі да яго пафранцузску.

— Ці не ведаеце, месье, навошта свеціцца гэтая лічба трыццаць? Што яна азначае?

Мялешку здавалася дасюль, што ўвесь свет ведае, што мінула трыццаць гадоў з канца самай страшнай вайны, і ён аж разгубіўся.

— Гэта... гэта трыццаць гадоў перамогі,— адказаў Мялешка.

Яны, здаецца, не зразумелі. Пераглянуліся, як бы пытаючыся адна ў адной, пра якую перамогу ён кажа.

— Свята,— пачаў тлумачыць Мялешка. — Трыццаць гадоў, як кончылася вайна.

— Так, так, нам штосьці гаварылі пра вайну ў школе,— сказала адна з іх і загаварыла з сяброўкай ужо на нейкай іншай мове.

А Мялешка спыніўся і ўсё пазіраў на іх, маладых, прыгожых, з моднымі сівавата-бэзавымі прычоскамі. Цяпер ён падумаў, што то былі хутчэй за ўсё шведкі. Адкуль ім ведаць пра тую вайну!..

«А ці гаварылі вам у школе пра тое, як катавалі, вешалі, расстрэльвалі людзей?»

Ён, здаецца, сказаў гэта ўголас.

«Не хапала толькі гаварыць з сабой ноччу,— упікнуў ён сябе.— Ці мала тых, хто хацеў бы забыць вайну, хто хацеў бы, каб пра яе думалі, як пра бясконцую вясёлую прыгоду. А ці бачылі вы, мілыя фраў, як вешалі старога і маладога, як секлі абрубкам кабеля дзяўчыну? Можа, вы тады не паставіліся б абыякава да маіх слоў пра лічбу трыццаць, што чырванее над франтонам, нібы крывавая».

Ён усміхнуўся. Дзівак! Ды яны кожны вечар глядзяць, як гвалтуюць, забіваюць, катуюць людзі людзей. Сядзяць сабе ў мяккіх крэслах перад каляровым тэлевізарам або дзе ў клубе, у кіно. Тая, экранная смерць, толькі казыча нервы. Век бы яе не бачыць, гвалтоўнай смерці!..

Ягоныя думкі зноў сіганулі кудысьці ўбок, доўга блыталіся, пакуль зноў не вярнуліся ў сваё рэчышча, да той майскай ночы сорак другога года, якую ён і прыгадаў напачатку, калі прачнуўся.

Ноч тая была золкая і цёмная, хоць выкалі вока. Іхні ўзвод, так умоўна называлася дваццаць восем чалавек, падпарадкаваных Валодзю Лапшыну, падышоў да шашы. Адзін ручны кулямёт на ўсіх, адзін аўтамат ды дзве «сэвэтэ» — дзесяцізарадныя вінтоўкі. Астатнія — звычайныя, якія пабачылі ўжо ўсяго на сваім вяку.

Узводнаму хлопцы не давяралі. Не таму, што ён быў малады, іхняга ўзросту, а з нейкай іншай прычыны. Бывае ж такое, калі чалавеку пачынаюць не давяраць, хоць і не разумеюць чаму. Але з узводам ішоў камісар Казмін. Можа, ён таму і пайшоў у засаду, што ведаў — Лапшыну не давяраюць. А калі камандзіру не вераць — дабра не чакай.

Зрэшты, Мялешка з Віцькам былі навічкі, маглі і памыляцца. Астатнія ведалі Лапшына больш, дзён сорак. А яны — усяго васемнаццаць дзён. Для іх гэта была першая вялікая аперацыя, першы экзамен. І яны з Віцькам, ідучы на шашу, перакінуліся некалькімі словамі.

— Добра, што камісар ідзе з намі,— сказаў Мялешка.

Віцька зразумеў, што Антон думае пра Лапшына.

— Лапшын у вайну гуляе,— адказаў ён.— З камісарам можна ваяваць. Свой!

«Свой» у Віцькі азначала, што чалавеку можна паверыць, як сабе.

На шашу ўзвод прыйшоў пад раніцу. На ўсходзе выяснівалася, і ўжо можна было бачыць нават у лесе.

Узвод падзялілі на дзве няроўныя часткі. Большую ўзяў камісар, меншая, але з кулямётам, дасталася Лапшыну. Мялешка з Віцькам былі пры кулямёце. Задача ў кулямётчыкаў простая: падпусціць машыны, падбіць іх і падпаліць. Тады камісар са сваёй групай кідаўся на штурм і браў трафеі. Зброя атраду была патрэбна пазарэз.

Лапшын размясціў кулямёт на ўзгорку. Віцька хацеў паставіць яго на схіле, але Лапшын пахадзіў, пахадзіў сярод ельніку і загадаў ставіць кулямёт на самай вяршыні.

Яшчэ пяцёра з Лапшыным заляглі ніжэй, адзін быў пакінуты ў дазоры, каб паведаміць, як паявяцца машыны.

Хоць кулямёт і быў пастаўлены на гары, шаша справа, з горада, не была відаць. Калі Лапшын, чамусьці нізка прыгнуўшыся, пайшоў, яшчэ раз нудна паўтарыўшы, што яны павінны рабіць, Віцька павярнуўся на бок, спытаўся ў Мялешкі напаўшэпт:

— Закурыць яшчэ ёсць?

— Здурэў...

— Я не цяпер. Я толькі цыгарку скручу, а як ужо не трэба будзе хавацца, закуру. Чытаў недзе, як адзін кулямётчык у грамадзянскую вёў агонь з кулямёта з піпкай у роце. Супакойвае.

— Баішся?..

— А ты як думаў?..

Памалу разгаралася раніца. Узышло сонца. А машын усё не было. Самае цяжкае ў засадзе — чакаць. Час цягнецца марудна, а ў галаву лезуць розныя дурныя думкі.

Шаша пуставала. Яна ляжала, як мёртвая гадзюка, пабліскваючы на сонцы старой, сцёртай скурай.

Да іх з Віцькам падпоўз Лапшын.

— Ну, як, субчыкі, дрэйфіце? — з намёкам на тое, што яны новенькія, спытаўся ён.

— Пакуль церпім,— адказаў Віцька.

— Глядзіце ў мяне. Вы, гарадскія, калі цапнуць што, смелыя. Я ў горадзе сярод вашага брата пацёрся. Ведаю. Кулямёт спраўны?

— Кулямёт спраўны,— памяркоўна адказаў Віцька.— А вось што ты не там цёрся — факт. Пацёрся б за станком, дык не гаварыў бы...

— Ну-ну, жартую, а ты ўжо... Закурыць ёсць? Кажуць, вы з сабой з горада прынеслі.

— Дык жа нельга...

— Я пад плашч-палаткай. Ды і няма нікога. А можа, і не будзе. Дурні, ці што, немцы па шашы ездзіць? Яны па чыгунцы ўсё возяць.

— Дык якога ж чорта мы прыперліся сюды? Пайшлі б на чыгунку,— сказаў Мялешка.

Лапшын цвыркнуў слінай праз шчарбіну ў зубах. Выходзіла гэта ў яго выдатна.

— А каб на дармовых харчах не тлусцелі,— усміхнуўся ён.— А на чыгунку вам ранавата. У штаны накладзеце. Дасталіся вы мне, я вам скажу.

— Чаго гэта ты? — абразіўся Віцька.— Яшчэ невядома.

— Вядома! Як бой пачнецца, дык родную матку забудзеце як звалі. Толькі ў мяне не пабежыцё. Я панікёраў на месцы расстрэльваю. Во так, субчыкі!..

Ён памалу круціў цыгарку, быццам меў ад гэтага асалоду. Паслініў кавалачак паперыны, акуратна склеіў, потым правёў пальцамі знізу ўверх, каб цыгарка была раўнейшая.

Лапшын ужо хацеў прыкурыць, як справа затрашчала, загопала. Да іх бег Пецька Анікейчык, дазорны, хлопец гадоў семнаццаці. Ён убачыў Лапшына, паваліўся ля яго, задыхана разявіў рот і страшэнна выпучваў вочы.

— Ну, пылі, пылі! — скрывіўся Лапшын.

Узводны быў абсалютна спакойны, як бог. А ў яго, Антона, па спіне забегалі мурашкі.

— Едуць,— нарэшце сказаў Пецька.— Машын дваццаць. Дзве наперадзе.

— Што ты пыл у вочы пускаеш? Адна наперадзе...— прыжмурыўшы вочы, яхідна сказаў Лапшын.

— Не, дзве,— стаяў на сваім Пецька.

— Далёка? — ужо больш сур'ёзна спытаўся ўзводны.

— З вярсту. Яны ад Гадзінькава ў нізіну да моста спускаліся.

— А ты і наклаў ужо. Марш назад і палічы добра. Палічыш, скажаш. Чаго стаіш? А ну, кругом, арш!..

Пецька, прыгнуўшыся, пабег па ельніку. Лапшын паклаў цыгарку за вуха.

— Ну, дык трымайцеся, хлопцы. Я пайшоў.— І ён пачаў спускацца па схіле. Знік у ельніку.

— Бравіруе ўзводны,— сказаў Віцька, ямчэй укладваючыся ля кулямёта.— А пазіцыя, я табе скажу,— дрэнь. Адкос. Шашы не відаць.

Сапраўды, шаша тут ляжала пад крутым адхонам, які закрываў яе злева, хоць кавалачак шашы быў відаць.

— Давай крыху ўбок адпаўзём,— прапанаваў Мялешка.

— Паспеем,— адказаў Віцька.

Ён пакратаў дыск, паправіў ножкі, прымерыўся плячом да ложы. Антон дастаў з торбачкі запасны дыск, паклаў перад сабой.

Недзе, яшчэ далекавата, сапраўды, гулі машыны. І ад гэтага далёкага гулу зрабілася боязна. Мялешка нават падумаў, што Лапшын меў рацыю, калі абазваў іх субчыкамі, яго, ва ўсякім разе.

Тым часам гул машын быў усё бліжэй. У раптоўнай цішыні, ды ў лесе, ён чуўся вельмі выразна.

— Ні чорта не відаць,— бурчаў за кулямётам Віцька, але, мабыць, спадзяваўся, што машыны будуць вышэй адкосу, бо не мяняў месца.— Глянь, ці не відаць там што?

Мялешка прыўзняўся. У прасвет між ельніку ўбачыў, можа, метраў дзесяць шашы, якраз тое месца, адкуль пачынаўся спуск з гары. Ён ужо хацеў сказаць, што нічога не бачна, як з-за дрэў, з-за павароту вылезла тупарылая, крытая брызентам машына. Сонца ўдарыла ў ветраное шкло, і яго аж асляпіла. Ён паваліўся.

— Ідуць,— прыглушана крыкнуў Віцька.

— Чую,— адказаў Віцька і паклаў палец на спускавы кручок.

Яны ляжалі, чамусьці затаіўшы дыханне, нядоўга.

Потым перад іхнімі вачыма паявілася кабіна, а ў ёй шафёр, паплыў зялёны брызентавы верх.

Віцька раптам пачаў адпаўзаць, цягнуў за сабой кулямёт. Мялешку ахапіў такі страх, што, не жадаючы таго, ён таксама пачаў адпаўзаць задам, баючыся падняцца на ўвесь рост і пабегчы.

Ён адпаўзаў, а нешта як прыўзнімала яго над зямлёй, ціснула на грудзі, быццам ён пералазіў цераз бервяно. Голы жывот раптам апякло халоднай расой, і ён адразу здагадаўся, што паліто, пінжак і кашуля задраліся пад самы падбародак. Тады Мялешка ўбачыў Віцьку. Той ляжаў, раскінуўшы ногі — былі відаць стаптаныя падэшвы,— наўкось ад яго, злева. Мялешка падпоўз да яго, саромеючыся свайго страху.

Машына якраз выходзіла з-пад адхону. Далей ляжала нізіна, добра бачная адсюль. Віцька нечага чакаў. А яму, Мялешку, не цярпелася. Ну, чаго ён марудзіць?!

Першая машына была ўжо крокаў за сто, як паявілася другая, крытая брызентам. Кузавы машын былі доўгія, і Мялешка падумаў, што ў такіх перавозяць салдат.

Ён не заўважыў, як Віцька націснуў на спуск,— глядзеў на дарогу. Пачуў толькі, як ударыла ў твар гарачае смярдзючае паветра ды балюча закалола ў вушах, аж разламвала галаву.

Першая машына раптам спынілася, з яе паваліў густы, чорны дым. Другая затое прыбавіла хуткасці. Яна павярнула, каб аб'ехаць першую, але тут жа з'ехала колам у канаву на тым баку і паракулілася.

Усё было кончана хутка і добра. Нездарма ж Віцька быў варашылаўскі стралок.

Віцька яшчэ даў чаргу па перавернутай ужо машыне, хацеў, каб і яна загарэлася.

— Канец! — весела крыкнуў ён і ўскочыў, каб паглядзець, як будуць браць трафеі.

Ён, Мялешка, таксама ўскочыў, іх ахапіла радаснае ўзбуджэнне. На шашу, па рэдзенькім ельнічку, беглі партызаны. Наперадзе Казмін. Ён першы выскачыў на шашу.

Недзе за спіной часта і гулка затахкаў кулямёт. Мялешка нават не разабраўся, што да чаго, як раптам убачыў, што камісар выгнуўся, як бы зламаўся напалам і асунуўся на шашу.

І адразу ж над галовамі зацыўкалі кулі. Іх з Віцькам абсыпала іглiцай і ссечаным голлем. Яны паваліліся на зямлю. Віцька павярнуў кулямёт. І тут Антон убачыў, што туды, дзе яны напачатку ляжалі, выскачыў немец з аўтаматам, на хаду страляючы, аж ўздрыгвала кароценькая руля.

Віцька даў чаргу. Немец сунуўся носам у ельнік. Яны так і не зразумелі: сам ён паваліўся ці яго ссекла Віцькава чарга.

— Адыходзь! Папаліся, маць іх!..— крыкнуў Віцька, падхапіўся і пабег уніз па ельніку.

Недзе ўверсе над імі лопаліся, як сухія гарохавыя стручкі, разрыўныя кулі, падганялі ў спіну.

Ён, Мялешка, першы паваліўся на зямлю, не маючы сіл бегчы далей. Ляжаў уніз тварам, шырока разяўляючы рот, і ніяк не мог заглынуць паветра. Яно са свістам вырывалася з грудзей, балюча драпала горла. Ён адчуваў, што задыхаецца, што ягоныя лёгкія раздзіраюць грудзі, і ўжо лічыў, што ніколі не падымецца.

— Ну, чаго ты ляжыш? Чаго? Падымайся! — Віцька стаяў над ім, трымаючы пры назе кулямёт, а Антон пазіраў на яго, бясконца шкадуючы сябе: ён паміраў.

— Ды закрый ты рот. Носам дыхай.

Мялешка закрыў рот, і сапраўды, яму палягчэла. Яны пачалі спускацца ў равок, зарослы бузінай, і тут жа ўбачылі Лапшына.

Той бег аднекуль з другога боку як апантаны. Убачыўшы іх, спыніўся і раптам закрычаў:

— Назад, назад, растакую вас, баязліўцы, шпана...

Пры гэтым ён махаў наганам.

— Ты што, звар'яцеў? — сказаў Віцька.— Немцы там. Пецька не хлусіў. Іх многа.

У руцэ Лапшына аж заскакаў наган:

— Застрэлю гадаў! Назад! Камісара кінулі!

Мабыць, не пагрозы, не што іншае, а тое, што Лапшын нагадаў пра камісара, прымусіла іх павярнуць.

— Без камісара не вяртайцеся! — крыкнуў Лапшын.

— Чуў? — спытаўся Антон у Віцькі.

— Не глухі...

Равок кончыўся крокаў праз дваццаць. Яны выскачылі на зарослую ядлоўцам нізінку. Непадалёк на шашы гарэла машына, дым зносіла сюды.

Віцька азірнуўся. Справа ад іх расло на ўзгорку тры сасны. Ён паставіў кулямёт пад соснамі.

— Прыкрыеш мяне,— сказаў ён і пабег на шашу.

Мялешка ўпаў за кулямёт і адразу ўбачыў, што па шашы бягуць немцы. Добра нават не прыцэліўшыся, ён націснуў на спуск, адчуў, як балюча выцяла ў ключыцу, як задрыжэў, забіўся ў руках кулямёт.

Ён страляў і не бачыў ні прорэзі, ні мушкі. Бачыў толькі немцаў, якія раптам сталі падаць. Ён падумаў, што пацэліў у іх. Але яны адкрылі агонь па ім. Гэта ён таксама бачыў добра, бо да іх было недалёка.

Мялешка яшчэ ціснуў на спуск, але кулямёт ужо не страляў.

Зняў дыск і ўбачыў, што той пусты. Яшчэ адзін дыск, апошні, ляжаў у мяшэчку. Як на злосць, Мялешка паклаў яго не побач, а пад крайнюю сасну. Рукой яго не дастанеш.

«Балда, асёл!» — вылаяў ён сябе і папоўз па дыск. На яго пасыпаліся кара і трэскі. Ён спалохана ўнурыў галаву, потым схапіў дыск, а калі павярнуўся, дык убачыў, што кулямёт ляжыць на баку. Ён папоўз да яго, схапіў за рэмень, пацягнуў да сябе. Кулямёт чамусьці пераламаўся напалам, і тады толькі Мялешка ўбачыў, што ўвесь прыклад расшчэплены.

Аднекуль зноў ударыў кулямёт. Кулі ўскапалі ўзгорак перад соснамі. Ён падхапіўся, азірнуўся яшчэ на шашу — ні Віцькі, ні камісара не ўбачыў — і пабег на злом галавы да раўчука.

Адбегшыся метраў трыста, спыніўся, бо пачуў, што страляніна ў лесе сціхла.

Што было рабіць далей, дзе хлопцы са ўзводным, дзе Віцька? Ён не ведаў, і яго ахапіў жах. Як ён мог кінуць кулямёт, няхай сабе разбіты? Мялешка дакараў сябе як мог. Здаецца, ніводны чалавек не мог бы так лаяць сябе, як лаяў ён.

У тым баку, дзе шаша, было ціха. Тады Мялешка падумаў, што, можа, немцы акружылі ўвесь лес. Лес тут невялікі, а машын было дваццаць. Пецька не схлусіў.

Яму захацелася хутчэй выбрацца з лесу, у поле, дзе ўсё відаць. Яго, гарадскога хлопца, лес палохаў.

Мялешка пабег трушком, як загнаны конь, якога ўсё яшчэ падганяюць пугай. Нарэшце паказалася по-

ле. Убаку была вёсачка. «Мы не маглі ісці блізка ад вёскі на шашу. Значыць, я заблудзіўся»,— падумаў ён.

Стоячы на ўскрайку лесу, Мялешка стараўся адгадаць, у які бок трэба ісці, каб дабрацца да атрада.

Атрад стаяў тады на хутары між двума балотамі. З трэцяга падступаў да хутара лясок, негусты, яловы.

Мясцовасць, куды Мялешка выйшаў, была яму не знаёмая. Узгоркі цягнуліся на ўсход, як кінуць вокам. Удалечыні на іх стаялі вёскі, ужо ў зялёных садах. Але ж і не стаяць тут. А што, калі вярнуцца ў лес, на месца засады? Адтуль, яму здавалася, лягчэй знайсці дарогу.

І хоць было боязна, ён пайшоў назад, памалу, прыслухоўваючыся ўсё больш пераконваючы сябе, што робіць правільна. Па-першае, ён адшукае дарогу дамоў, па-другое — і гэта стала набываць рашаючае значэнне,— забярэ кулямёт.

Мялешка ішоў доўга. Здавалася, не будзе канца лесу. Ён ужо разумеў, што заблудзіў, але ішоў. А шашы ўсё не было.

На нейкім узгорку пад калматай ялінай ён сеў, ушчэнт змораны, і заплакаў ад прыкрасці, як дзіця. Але ніхто не бачыў яго́ных слёз, і яму не было сорамна.

Раптам да яго прыйшла на дзіва разумная здагадка. А што, калі ён задужа шмат узяў управа, калі ўцякаў ад шашы? «Адвечны інстынкт гнаў мяне далей ад немцаў, значыць, я нейкі час бег паралельна шашы, каб быць далей ад куль. Колькі я мог прабегчы так?» — разважаў ён.

Сяк-так выбраўшы напрамак па сонцы, Мялешка пайшоў памалу і неўзабаве, сапраўды, выйшаў да шашы. Але і гэта не памагло. З узгорка, на які ён узабраўся, шаша была відаць на кіламетр злева і метраў на семсот справа. На ёй ніякіх машын не было відаць. Трэба было выбіцца з лесу.

Мялешка пайшоў, ужо абыякавы да ўсяго, ледзь цягнучы стомленыя ногі. Хацелася піць. У роце перасохла. Ішоў ён, можа, гадзіну. Нарэшце выбраўся на ўскраіну лесу. Гэта было як насланнё: перад ім зноў стаяла тая ж самая вёсачка.

Ад роспачы, што ахапіла яго, ён аж завыў.

«Буду чакаць да ночы»,— падумаў ён. Сеў у гушчары на зямлю, каб адпачыць. І заснуў сном праведніка.

У сне здалося, быццам нехта глядзеў на яго. Ён прахапіўся, прыслухаўся — было ціха. З вёскі далятаў сюды гоман, як бы спрачаліся. Здалося нават, што галосіць жанчына.

Ён выйшаў на ўзлесак. Два чалавекі беглі сюды з вінтоўкамі. Адзін трымаў яе ў руках, нібы бег у атаку, другі прыціскаў рулю да пляча.

Значыць, не здалося. Нехта ўбачыў і паведаміў. Бягуць па яго. Спадзяюцца застаць соннага.

Мялешка рынуўся наўпраскі туды, дзе над лесам заходзіла сонца. Бег не азіраючыся. Адбегшы, можа, кіламетры два, спыніўся. Пагоні не было.

Сонца ўжо заходзіла. Мялешка павярнуў направа, трапіў на нейкую дарогу, але не пайшоў па ёй, а прабіраўся крокаў за пяць, па ельніку, і неўзабаве выйшаў у поле.

Цямнела, але мясцовасць ён пазнаў і здзівіўся, што ў часе блуканняў адбегся ад партызанскага лагера кіламетраў на пяць. Зрэшты, гэта было не самае горшае. Цяпер ён дома. Мабыць, у атрадзе вырашылі, што яго забілі. А ён жывы.

Мялешка ўявіў, як прыйдзе ў атрад, як здзівяцца хлопцы, будуць распытваць, дзе быў і як ухаваўся. У думках ён ужо расказваў пра свае прыгоды, нават крыху ўпрыгожваючы іх гумарам.

Можа, таму ён незаўважна дайшоў да хутара, абмінуў пост і заявіўся ў пуню, дзе жылі партызаны.

Хлопцы павячэралі ўжо, ляжалі на сене: ягоны ўзвод на правым застаронку, другі — на левым.

Ён узнік на парозе, як здань.

— Уваскрэслых не прымаеце? — знарок гучна і весела выгукнуў Мялешка.

— Хлопцы! Мялешка!

— Ды ну!

— Ён самы!..

— Дзе ты прападаў, чорт?

— Паесці нічога не знойдзецца?..

— Захацеў.

— Камісара вунь забілі.

— А ён пра жратву думае.

— Не еў жа з учарашняга...

— Хлеба магу даць...

— Во, дзякуй. А Віцька Дрозд дзе?

— Ха! Пытаецца. Даў твой Віцька цягу. Да немцаў збег, з кулямётам.

— Ды вы што? Жартуеце... Я з Віцькам да апошняга быў.

Пажылы дзядзька, старшыня сельсавета да вайны, ля якога Мялешка сядзеў на сене, штурхнуў яго локцем.

— Ты не дужа налягай, што разам быў. Тут і пра цябе чуткі пайшлі, нібы з Драздом гэтым збег. А раз прыйшоў — значыць, ніякага сумнення.

Перакусіўшы, Мялешка выйшаў, напіўся з бочкі вады. У штабе, адзінай тут хаце, дзе жыло атраднае начальства, гарэла святло. Мялешка падумаў, што трэба пайсці туды, расказаць пра Віцьку, пра сябе.

Ён ужо быў зусім сабраўся пайсці, як раптам адчуў такую зморанасць, што павярнуў назад, у пуню.

«Заўтра схаджу ў штаб,— падумаў ён.— Усё роўна ні камісара, ні Віцькі не вернеш».

Ён нагроб сена пад галаву, паваліўся і тут жа заснуў. Прачнуўся ад стрыманага шуму і мітусні. Партызаны кудысьці збіраліся, сварыліся, нешта шукалі.

— Куды гэта вы? — спытаўся Мялешка ў кагосьці.

— Ачнуўся! На новае месца перабіраемся...

Мялешка выскачыў на двор. Хлопцы ўжо стаялі няроўным строем. Нехта падаў каманду, і яны пайшлі.

У калоне, дзе па чатыры, дзе па тры, а дзе і па два, паціху перагаворваліся, спрабавалі ўгадаць, куды іх вядуць.

Ззаду ехалі дзве фурманкі: гаспадарчага ўзводу і шпітальная. Адтуль чуўся жаночы смех. Параненых у шпіталі не было.

Наперадзе конна ехалі камандзір атрада Сяргей Пашын і начальнік штаба Золаў, якога так і звалі — Золаў, або начштаба, бо імя яго ніхто не ведаў.

Начальнік штаба часам прытрымліваў каня, дачакаўшыся тых, хто замыкаў калону, загадваў падцягнуцца. Ягоныя загады, аднак, не вельмі памагалі.

Атрад адыходзіў у глыб зоны, адкуль яшчэ напрадвесні збеглі старасты і паліцэйскія. Так што баяцца засады не было чаго.

У зоне на той час размяшчаліся чатыры атрады, якія і ўваходзілі ў партызанскую брыгаду Селіванава. Брыгада стаяла кіламетраў за дваццаць на поўнач, за

не шырокай, але глыбакаватай рэчкай Сільніцай. Гэтыя чатыры атрады і павінны былі стварыць ящчэ адну зону ля шашы і чыгункі.

Ісці давялося нядоўга. За балотам атрад спыніўся ў вёсцы Альшэўка, хат дваццаць.

Размяшчаліся ў цемры. Іхняму ўзводу дасталіся дзве хаты, на самым краі вёскі. У хату зайшоў Лапшын. Паклікаў камандзіра аддзялення, загадаў выставіць вартавых.

— Мялешка вярнуўся,— узрадаваў Лапшына камандзір аддзялення.

— Дзе ён? — спытаўся Лапшын.

Мялешка выйшаў на сярэдзіну хаты.

— Тут я...

— Дзе ты прападаў? — сурова спытаўся Лапшын.

— Заблудзіў...

— А-а-а!..

Лапшын павярнуўся да камандзіра аддзялення.

— Мялешку на пост не стаў. Хай адпачне.

«Справядлівы і добры хлопец!» — з удзячнасцю падумаў Мялешка.

Раніцой Мялешку выклікалі ў штаб. Размяшчаўся штаб у вялікай, з фарбаванай падлогай хаце. Калі Мялешка прыйшоў у штаб, там, апрача Золава, нікога не было.

— Сядай,— загадаў Золаў.

Мялешка сеў на крэсла, драўлянае, самаробнае. Золаў доўга глядзеў яму ў вочы. Маўчаў.

— Дык як тваё сапраўднае прозвішча? — раптам спытаўся ён.

— Мялешка...

— А сябрука твайго — Дрозд? Так?

— Віктар Дрозд.

— А дзе ён, не ведаеш?

— Чаму? Лапшын загадаў нам камісара вынесці. Мы пабеглі да шашы. Я лёг за кулямёт, прыкрываў Віцьку.

— А кулямёт дзе?

— Дык жа разбілі яго.

Золаў грукнуў шырокай далонню па стале.

— Ну, хопіць дурня корчыць. Гавары, дзе вас завербавалі, з якім заданнем у атрад прыйшлі? У мяне загаворыш...

— Ды вы што, таварыш начштаба? — запратэставаў Мялешка.— Спытайцеся ў любога. Нас ведаюць. Віцька на заводзе рабіў, я таксама. Мы ж рабочыя...

— А ты мне на соцпаходжанне не налягай,— ужо больш памяркоўна, хоць і строга сказаў Золаў.— Немцы не дурні. Яны таксама нешта кумекаюць. Раскажы лепей, як вы са знішчальнага батальёна ўцяклі...

Мялешка пачаў расказваць. Золаў слухаў няўважліва. Мабыць, ведаў пра іх сумныя прыгоды. Яны не хаваліся. Неяк на адпачынку расказвалі хлопцам.

Мялешку здалося, што Золаў наогул страціў да яго цікавасць. Але ён зноў перапыніў яго нечаканым пытаннем:

— Дык калі ж вас завербавалі?

Мялешка аж разгубіўся, і Золаў задаволена ўсміхнуўся.

— Мы пра вас усё ведаем. І як вы ўцяклі да немцаў, і як вас завербавалі, і як падпіску давалі.

Мялешку пачынала разбіраць злосць і пякучая да слёз крыўда. А Золаў бы назнарок хацеў вывесці яго з цярпення, бы назнарок джаліў бязглуздымі пытаннямі і здагадкамі. Так цягнулася, можа, з гадзіну. Мялешка зусім абяссілеў ад гэтага дурнога, недарэчнага допыту, які быў падобны на нейкі свядомы здзек. Даказваць што-небудзь не было сэнсу.

У хату ўвайшоў Пашын, у чорнай скуранцы, перапаясанай рамянямі.

— Ну што, ёлачкі-палачкі, прызнаўся? — спытаўся ён.

— Падумаць хоча,— адказаў Золаў.— У такіх грахах цяжка адразу прызнацца.

— Ды што ты з ім цацкаешся, ёлачкі-палачкі,— загарачыўся Пашын.— Адпраў у «духаўшчыну». Хочацца табе са шпаной усякай важдацца...

— Ён яшчэ нам пра сувязі свае раскажа,— паабяцаў Золаў, і цяпер Мялешка спалохаўся не на жарт. Дасюль яму думалася, што адбылося нейкае непаразуменне, што Золаў пастрашыць-пастрашыць ды і адпусціць. У крайнім выпадку, пакарае за кулямёт. За кулямёт Мялешка гатоў быў адказваць поўнай мерай. Але кулямёт Золаў у віну яму не ставіў, хоць ён і прызнаўся сумленна, што кінуў яго ў лесе. З кулямётам збег Віцька. Навошта ж Золаву ўскладняць справу?

Золаў загадаў пасадзіць яго ў лазню. Развадзяшчы, пакуль вёў пад канвоем ад штаба да лазні, сварыўся:

— Цябе яшчэ не хапала. І так пастоў шмат, дык яшчэ ты. Шпіён задрыпаны. Ці, можа, ты, і праўда, шпіён?

Развадзяшчы быў з другога ўзвода. З ім Мялешка аднаго разу ездзіў з хутара ў вёску па прадукты. Мялешка прамаўчаў, бо быў не вінаваты ў тым, што мусіць сядзець пад аховай.

Развадзяшчы сам завёў Мялешку ў лазню з маленькім акенцам, толькі прасунуць руку, агледзеў яе крытычна.

— Не дужа, каб добра, але палок ёсць. Венік пад галаву пакладзеш. Хоць адаспішся.

— Сцёпка,— папрасіў Мялешка развадзяшчага,— прышлі чаго паесці. Другія суткі галодны.

— Бач ты,— зарагатаў Сцёпка,— можа, яшчэ дзеўку захочаш? Ты — арыштаваны, і я не маю права карміць цябе. Паложана раз у суткі — і не рыпайся.

Гаварыў ён як бы і не сур'ёзна.

— Але ж не сказана, у які час сутак карміць. Во і прынясі цяпер.

Сцёпка задумаўся, збіў кепку спачатку на вочы, потым уссунуў на патыліцу.

— Дазвол трэба ісці прасіць,— ужо з развагай сказаў ён.— Нарабіў ты, малец, клопату.

— Нічога, палічымся,— адказаў Мялешка.

Сцёпка зачыніў дзверы, падпёр калом. Мялешка чуў, як ён ужо строга наказаў вартавому:

— У выпадку ўцёкаў страляй без папярэджання...

Мялешка засмяяўся. Куды яму ўцякаць? Навошта?

Тым часам сядзець на лавачцы без справы было нудна. Ды і думкі адольвалі. Ён лёг на палок, паклаўшы пад галаву венік, як раіў развадзяшчы. Лежачы думалася больш спакойна і разумна.

Толькі разумнае не прыходзіла ў галаву. Ды і не мела яно рашаючага значэння.

Час цягнуўся марудна. Мялешка чакаў змены вартавога, можа, больш, чым чакаў сам вартавы, які стаяў на пасту. Нарэшце змянілі вартавога. Пакуль Мялешка саскочыў з палка, развадзяшчы пайшоў. Нейкі незнаёмы хлопец нават не стаў размаўляць з ім. Маўчаў як вады ў рот набраўшы.

Не было чаго рабіць, і Мялешка заспяваў. Праспяваў усе песні, якія ведаў. Пачаў спяваць нанава.

За сцяной пачуўся голас вартавога.

— Ды зразумей жа, пападзе мне за гэта. Не магу я цябе да яго пусціць. Забаронена.

Мялешка аж здзівіўся. Хто можа дамагацца з ім спаткання? Жаночы голас спачатку быў ціхі, дагодлівы. Не разабраць чый. Вартавы не адступаў.

— Ну і ахламон, затычка дурная,— выгукнула жанчына.— Чалавек, можа, суткі не еў.

Па голасу Мялешка пазнаў Клаўдзю. Во ўжо каго не чакаў!

Клаўдзю Белахвосцікаву баяліся ўсе, нават камандзір Пашын. Была яна яршыстая, нястрыманая, ледзь што — хапалася за маўзер.

Гэты яе маўзер падабаўся многім. Каб у каго іншага, дык маўзер даўно б адабралі, але Клаўдзю не чапалі. Казалі, што маўзер падарыў ёй сам камандзір брыгады Селіванаў. Ды і не толькі гэта вылучала Клаўдзю сярод байцоў. Была яна сястрой камандзіра першага атрада, паплечніка і сябра камбрыга, Івана Белахвосцікава, які загінуў у сакавіку, калі грамілі эшалон з эсэсаўцамі.

Мялешка пазнаёміўся з Клаўдзяй у самыя першыя дні партызанства пры абставінах, якія яму хацелася б забыць.

Быў у партызанскім гарнізоне не галоўны пост, а такі, каб было чыстым сумленне, як гаварыў Лапшын. Ставілі на яго навічкоў, каб прывыкалі да каравульнай службы. Трапіў на яго і Мялешка — сцерагчы сцежку праз балота, як жартавалі партызаны.

Дзень быў слотны, пахмурны. Мялешка тупаў на месцы, адлічваючы хвіліны, чакаў, калі яго зменяць. Сум неверагодны, хоць воўкам вый.

Раптам ён убачыў, як мільганула на сцежцы белая хустка. Неўзабаве на сухадол выйшла дзяўчына. Чарнявая, круглатварая, з ямачкамі на шчоках, у нейкім старамодным жакеціку, з кошыкам у руцэ. Яна здзіўлена, аж разгублена спынілася, баязліва падыходзіла да Мялешкі.

— Стой, куды ідзеш? — спытаўся ён, калі дзяўчына была крокаў за пяць.— Тут цывільным забаронена хадзіць.

— Я, дзядзечка, да цёткі іду. Цётка ў мяне тут жыве, Мар'я. Наказала, каб прыходзіла. Спіна ў яе баліць.

Дзяўчына спалохана міргала вейкамі, мабыць, баючыся Мялешкавай стрэльбы: ён трымаў яе напагатове, як і паложана вартавому.

Яму было смешна глядзець на яе, такую бездапаможную, баязлівую, а яшчэ ад таго, што яна назвала яго дзядзькам.

— Ты вось што,— апускаючы вінтоўку, загадаў ён,— паварочвай назад.

— Дзядзечка, родненькі, дык я ж тры вярсты ішла. Мяне ж усе ведаюць. І камандзір ваш, і начальнік. Ты ў іх, дзядзечка, папытайся...

— Стану я начальства з-за цябе турбаваць,— сказаў Мялешка, адчуваючы недарэчную асалоду ад таго, што ён над кімсьці мае ўладу.

Дзяўчына зарумзала, аж яму шкада яе стала. Але ён трымаўся, як і належыць вартавому. Хай паплача!..

— У мяне, дзядзечка, закурыць ёсць. Я табе паўпачка махоркі дам.

Яна зрабіла яшчэ крокі два, запусціла руку ў кошык і раптам выхапіла маўзер.

— Стой смірна, а то дзірак нараблю,— ужо зусім іншым, жорсткім голасам загадала яна Мялешку.

І тут Мялешка ўбачыў, што вочы ў яе зусім не жорсткія, а насмешлівыя.

— Апусці сваю пушку,— сказаў ён.

— Новенькі? — спыталася яна.

— Ага...

— Што ж ты рот разявіў, ахламон? У другі раз начальству дакладу.

І пайшла ў бок хутара.

...Вартавому надакучыла спрачацца. Ён адкінуў кол, папрасіў:

— Ты ўжо, Клава, не бойся...

Клаўдзя спынілася на парозе, мабыць, не магла адразу ўбачыць, дзе арыштаваны.

— Здароў, арыштанцік, — павіталася Клаўдзя. — Падмацавацца прынесла. Ды і паглядзець захацела. Кажуць, ты шпіён?

— Паверыла?

— Дык жа не бачыла іх ніколі.

— І есці прынесла. За гэта не пахваляць.

Клаўдзя прысела на лавачку.

— Як думаеш,— спыталася яна,— камісара забілі?

— Сам бачыў, як ён бег, потым нібы спатыкнуўся і паваліўся.

— Шкада камісара,— з болем у голасе сказала Клаўдзя.— Так шкада, што плакаць хочацца. Яны з маім братам у фінскую ваявалі. І во ўжо ніводнага няма... Ну, ты еш, а я пайшла. Нельга доўга са шпіёнамі сядзець.

У Мялешкі паявілася кволенькая, але прыемная надзея, што хутка выпусцяць. Пойдзе Клаўдзя да камандзіра, дакажа, што ніякі ён не шпіён. Сама яна не верыць у ягонае шпіёнства. Ён гэта адчуў.

Сядзець у лазні стала весялей. Паявілася надзея...

Змянілі вартавога раз, другі, трэці. Сцямнела. А яго ўсё не вызвалялі. І зноў абцугамі сціснула сэрца. Дарэмна радаваўся...

Разведзяшчы прывёў новага вартавога. Счакаўшы крыху, Мялешка падышоў да дзвярэй.

— Эй, хто там? — ціха гукнуў ён.

З-за дзвярэй ніхто не адказаў. Мялешка падумаў, можа, наогул вартавога знялі. Можа, атрад зноў перабраўся на новае месца, а яго пакінулі.

— Вартавы! Аглух ты, ці што? Ці, можа, цяляты язык адкусілі? Чаго маўчыш?

— А мне з табой гаварыць забаронена,— азваўся вартавы, Пецька Анікейчык.

— Пецька! Няўжо ты?

— А хто ж яшчэ...

— Слухай, Пецька, ніякі я не шпіён...

— Хлусіш...

— А ці ведаеш ты, Пецька, хто бачыў, што Віцька Дрозд уцякаў да немцаў?

Пецька памаўчаў крыху.

— Я бачыў,— нарэшце азваўся ён.

— Ты?

— Толькі я не казаў, што да немцаў, а што на шашу пабег, а Лапшын кажа мне: «Куды ж яшчэ, калі не да немцаў?»

— Адчыняй, Пецька, дзверы, а то паламлю іх і па вуху табе дам,— загадаў Мялешка.

— Дык жа ў мяне стрэльба.

— Пляваў я на тваю стрэльбу. Мяне ўсё роўна расстраляюць з-за цябе. Дурань ты негабляваны.

На ягонае здзіўленне, Пецька адчыніў дзверы.

— Чаго ты ўсхадзіўся? — спытаўся ён.

Мялешка пасадзіў Пецьку і стаў расказваць, як Лапшын загадаў ім з Віцькам вынесці камісара, як ён, Мялешка, ледзьве не загінуў.

— Дык ты, і праўда, не шпіён? — наіўна спытаўся Пецька.— Дай чэснае камсамольскае.

— Самае чэснае камсамольскае! — шчыра выгукнуў Мялешка.

— Я таксама не верыў, але ўсе кажуць: шпіён, шпіён... А шпіёны, па-мойму, мардатыя, тлустыя...

— Эх, Пецька, Пецька!..

— Слухай, а калі я прылягу крыху. Ты не ўцячэш?

— Куды?..

— Ці мала куды...

— Не ўцяку, Пецька! Хочаш, я за цябе на пасту пастаю? Надакучыла сядзець.

— Табе не паложана. Ты арыштаваны.

Ён лёг у парозе і неўзабаве заснуў моцным дзіцячым сном. Мялешка таксама прылёг на палок.

Прачнуўся ён ад шуму. Крычаў разводзяшчы, лаяўся:

— Уцёк, так яго, разгэтак, і Пецьку забіў. Давай трывогу!

Не паспеў Мялешка азвацца, як прагучэлі два вінтовачныя стрэлы. Мялешка выбег з лазні.

— Чаго вы шалееце?

Разводзяшчы накінуўся на яго.

— Ты што комікі выкідваеш? Дзе вартавы?

— Ды спіць ён...

— Каб вас халера! Сволачы, напалохалі! Ледзь сэрца не разарвалася.

Двое партызан аж браліся за жываты. Разводзяшчы накінуўся на іх.

Мялешка пайшоў будзіць Пецьку. Ледзьве раскатурхаў яго. І ў час.

На кані прыляцеў начальнік каравула, камандзір другога ўзвода.

— Хто страляў? — асадзіўшы каня, аж той устаў на заднія ногі, спытаўся ён.

Яны стаялі, нібы вінаватыя ў чым хлапчукі. Развадзяшчы схітраваў:

— Пецька страляў. Здалося, што ў кустах нехта паўзе. Мусіць, вожык поўз, а ён напалохаўся...

Пецька хацеў быў апраўдвацца, і Мялешка штурхануў яго, каб маўчаў. Узводны заўважыў арыштаванага.

— А гэта што? Чаго арыштаваны на волі? Ну і парадачкі.

— Дык ён не шпіён,— не стрымаўся Пецька.— Яны з Драздом беглі камісара ратаваць, а я падумаў...

— Падумаў, падумаў,— перадражніў яго ўзводны. — А нам пост лішні трымаць трэба. Канчай базар.

Мялешку зноў запёрлі ў лазні, «да высвятлення», на пасту стаў другі вартавы. Усё пайшло сваім парадкам.

Мялешка ўлёгся на палку і доўга не мог стрымацца ад смеху.

Сон быў моцны. Калі яго пачалі будзіць, Мялешка ніяк не мог прачнуцца. Расплюшчыў вочы — і ўсё ўнутры пахаладзела. У лазні стаяў доўгі, вечна суровы партызан па мянушцы Гузік.

— Збірайся! — загадаў ён Мялешку.

Куды можа павесці Гузік? Яны выйшлі. Вартавога не было. Значыць, канец. Значыць, Гузік прыйшоў выканаць прысуд.

«Во і ўсё, што пачуў, што ўбачыў. Зараз Гузік адвядзе ў хмызнякі — і канец табе, Антон Мялешка».

Мялешка ўжо сам павярнуў да тых хмызнякоў, што былі відаць непадалёк за лазняй.

— Куды ты? — спыніў яго Гузік.— Кругом, шагам арш!

Мялешка павярнуўся кругом, тварам да вёскі. Так і дайшлі да штаба. Мялешка паперадзе, за ім суровы Гузік з вінтоўкай.

— Ну, во і ён, ёлачкі-палачкі! — выгукнуў Сяргей Пашын.

Камандзір сядзеў у пярэдняй, галіўся. З залы выйшаў Золаў.

— Ну, малайчына. Стойкі,— пахваліў начштаба Мялешку.

Нешта адбывалася незразумелае. Здзекуюцца над ім, ці што?

— Што стаіш, ёлачкі-палачкі, прыйшоў твой Віцька,— сказаў Пашын.

— Дзе ён? — аж закрычаў Мялешка і тут жа падумаў, што яго разыгрываюць.

— Ідзі адсыпайся, ноччу па камісара пойдзеце,— сказаў Пашын.

Мялешка бег і ўсё не верыў, нават азіраўся, ці не ідзе следам Гузік. Спыніўся ў парозе: Віцька сядзеў за сталом, еў бульбу.

Цяпер на ложку ўсё ўспаміналася спакойна. Час залячыў крыўду і на Пецьку, і на Лапшына. Асабліва на яго.

### ДЗЕНЬ

Была нядзеля. Ніякіх працэдур. Ніякага занятку. Пасля снядання санаторый апусцеў, толькі ў більярднай чуўся стрыманы гул ды рэзкія ўдары шароў.

У сквярыку перад санаторыем сядзелі на лавачках курортнікі, з тых, каму забаронена лазіць па гарах. Было не горача, але і не холадна, як бывае і ў Беларусі ў маі. Зрэдку аднекуль з гор прарываўся вецер, не моцны, прыемна халаднаваты; пракочваўся хвалькай па бэзу, па квітнеючых рададэндронах і заміраў недзе ў цясніне. Тады было чуваць, як пахне бэз, соладка і непрывычна слаба.

Пасля бяссоннай, кашмарнай ночы Мялешку хацелася атрэсці сон і млявую немагату. Ён пайшоў па дарозе ўніз да санаторыя Сансусі, адтуль яшчэ ніжэй, паўз Швейцарскі двор, да шостых лазняў — лячэбнага ваннага корпуса.

За мостам, на пляцоўцы, пасыпанай цёртай цэглай, на чырвоным мармуровым пастаменце спачываў бюст Адама Міцкевіча. Мялешка ў які ўжо раз прачытаў кароценькі, лацінкай, надпіс: іх вялікасць паэт Польшчы Адам Міцкевіч. І адразу прыгадаўся выпадак ваенных гадоў.

Увосень сорак першага на іхняй вуліцы засела ў бязвылазнай гразі нямецкая легкавая машына. Пакуль шафёр зганяў людзей выцягваць яе, да іх у хату зайшло два афіцэры. Чыстыя, пешчаныя, мусіць, нейкія штабныя, у бліскучых ботах. Адзін з іх быў капітан —

гаўптман, другі — лейтэнант, але старэйшы за капітана.

Было дзіўна чуць, як лейтэнант спытаўся ў маці, ці можна ім схавацца ад дажджу, пакуль выцягнуць з гразі машыну. Людзі ўжо прывыклі, што немцы ў хату заходзілі, як да сябе, садзіліся, дзе ім хацелася, бралі, калі што падабалася, ды яшчэ крычалі, а то і пагражалі зброяй. Гэтыя былі іншыя...

Маці нават выцерла анучкай крэсла. Запрасіла садзіцца да стала. Лейтэнант дастаў з кішэні пляскатую з яркай наклейкай пляшку, паставіў на стол.

— Чаркі ёсць у вас? — спытаўся ён.

Чарак у іх не было. Бацька ніколі не піў, яны з маці тым больш; абыходзіліся без чарак. Былі шклянкі, гранёныя, тоўстыя. Маці паставіла іх на стол. Капітан падняў шклянку, паглядзеў на святло, ці чыстая, выцягнуў хустачку, працёр, хоць шклянка была вымытая.

— То есць сын? — спытаўся ён, паказваючы на яго, Антона.

— Ага, паночку, сын,— адказала маці.

Яна надзвычай баялася немцаў, усё чакала, што тыя або вышлюць сына ў Германію, або пасадзяць у турму.

— Сын есць харашо,— сказаў капітан.— Маладзёж будзе жыць зеер гут. Толькі нада арбайтэн, працаваць. Мы любім працавітых. Падай, матка, чарку сыну.

— Ды ён, паночкі, і ў рот не бярэ,— старалася дагадзіць маці, аднак шклянку паставіла, хоць і вышчарбленую.— Можа, вам чаго закусіць? Хоць нічога і няма такога.

Лейтэнант наліў на донца, узяў шклянку ў рукі, нібы хацеў сагрэць яе.

— Французскі каньяк,— сказаў ён Антону.— Ты не піў каньяк? О, хутка кончыцца вайна. Усяго будзе досыць. Вы будзеце жыць багата.

Антона чамусьці ліхаманіла. Ён чуў, як дрыжаць ногі і рукі, а ўсё цела трымціць ад нечуванага напружання, ад нязвыкласці таго, што адбывалася. Немцы, смакуючы каньяк, выпілі і закурылі цыгарэты. Антон таксама выпіў — залпам, адчуўшы толькі цеплыню, што пракацілася па горле, а потым разлілася ў галодным жываце.

— Ты ёсць хто? — спытаўся капітан.— Настаўнік?

Мялешка толькі цяпер заўважыў, што капітан глядзіць на этажэрку з кнігамі.

Перад вайной, яшчэ ў школе, у сямігодцы, і потым, калі ўжо стаў працаваць на фабрыцы, Мялешка захапляўся паэзіяй, бо і сам патроху пісаў вершы. Пасля кожнай палучкі ён бег да знаёмага букініста на Замкавую вуліцу, купляў адну-дзве кнігі, кожны раз цярпліва выслухоўваючы матчыну буркатню. Жылі яны не горш другіх, але вольных грошай не было — кожная капейка на ўліку.

— Я — рабочы. На фабрыцы працаваў,— з гонарам за сябе адказаў Мялешка.

Яны абодва аж здзіўлена паглядзелі на яго.

— А што ты рабіў на фабрыцы? — спытаўся лейтэнант.

— Токар я... па дрэву. З дрэва дэталі тачыў,— Мялешка паказаў рухамі, як точаць дэталі, каб было больш зразумела.

— Пакажы рукі! — загадаў лейтэнант.

Антон працягнуў іх дагары далонямі. На руках яшчэ не зніклі мазалі. Лейтэнант нешта сказаў капітану. Той падняўся, пайшоў да этажэркі.

Маці часта сварылася, прасіла, каб Антон схаваў куды далей кнігі. Ён не слухаў, бо лічыў, што нічога забароненага там няма. Але цяпер нечага спалохаўся. Як казала маці, ад немца ды ад сабакі дабра не чакай.

Капітан выцягнуў томік, які першы трапіў пад руку. Гукнуў лейтэнанту:

— Пушкін,— і пачаў гартаць кнігу.

— Навошта рабочаму кнігі? — спытаўся лейтэнант.

Мялешка аж разгубіўся. Як гэта навошта?

— Каб усё ведаць,— адказаў ён.— Люблю паэзію.

Лейтэнант, мабыць, не зразумеў яго, бо нічога не адказаў. Стаў наліваць каньяк у шклянкі.

А капітан усё браў кнігі з этажэркі, зазіраў на вокладку і ставіў назад. Раптам ён нешта сказаў лейтэнанту. Той падышоў да яго, і яны пачалі разглядаць томік Гейнэ, з партрэтам. Потым капітан узяў яшчэ адну кнігу — Мялешка пазнаў: санеты Адама Міцкевіча — страпаная, зачытаная да дзірак кніга.

Лейтэнант паманіў Мялешку пальцам. Той падышоў. Лейтэнант тыцнуў у партрэт Гейнэ:

— Юда! — выгукнуў ён.— Нікс паэзія. Шлехт.

Потым лейтэнант зноў узяў томік санетаў і тыцнуў пальцам у вокладку:

— Поляк! Нікс гут... Зеер шлехт.

Не паспеў Мялешка ўцяміць, што да чаго, як лейтэнант шпурлянуў абедзве кнігі ў качарэжнік.

— Хлам! Смецце! — сказаў ён.— Спаліць!..

Томік санетаў ударыўся аб рог печы, рассыпаўся па падлозе. Лейтэнант узяў шклянку, пачаў памалу піць.

Мялешка сядзеў, баючыся падняць раскіданыя па хаце лісткі кнігі.

«Даруй, шаноўны паэт і зямляк, што дазволіў здзек над тваімі вершамі. Гінулі людзі, не тое што кнігі»,— стоячы перад помнікам Міцкевічу, сказаў у думках Мялешка.

...З санаторыя Рычманд па сцежцы ішлі немцы. Спыніліся перад помнікам, пачалі фатаграфавацца.

Мялешку здалося, што Міцкевіч глядзеў на іх з вышыні пастамента іранічна і ганарліва.

Падарожжа ў гарах, па лесе, сапраўды, прагнала сон і млявасць. Затое аж гулі ад стомы ногі. Мялешка ўжо не хацеў ісці на Пятрову гару, як ля «Паляўнічага доміка», санаторыя, сустрэў знаёмых, такіх жа, як і сам, курортнікаў — дзвюх жанчын і трох мужчын. Яны ўгаварылі пайсці з імі.

На гары дзьмуў не моцны вецер, але сонца прыпякала ўжо добра, і вецер гэты быў вельмі дарэчы. Яны пастаялі ля помніка Пятру і ўжо хацелі ісці да мінеральных крыніц па ўсходнім схіле, па крутой сцежцы, якая пятляла па схіле гары і гублялася недзе ўнізе, у зеляніне дрэў, як нехта падаў думку, што варта было б пакаштаваць тут піва. Жанчыны адразу ж пагадзіліся. І сапраўды, усіх мучыла смага, а калі загаварылі пра піва, дык яна стала нясцерпная.

Знайшлі і столік, адзін на шасцярых, ля самай балюстрады, адкуль добра відаць былі Карлавы Вары аж да Старога поля, да касцёла, на самай ускраіне горада. Далей высіліся ўзгоркі з рэдкімі дрэвамі і адзінокімі дамамі ў сонечнай ружовай смузе.

Было прыемна сядзець у плеценых крэслах са зручнымі спінкамі і падлакотнікамі. Афіцыянт прынёс піва, іскрыста-бурштынавае і прыемна халоднае.

Яны былі заняты сабой, півам і не вельмі звярталі ўвагу на людзей, што сядзелі тут. Ім не было ніякай справы да незнаёмых людзей, як тым да іх.

— Паглядзіце, чаго вунь той стары глядзіць на нас і ўсміхаецца,— ціха сказала адна з жанчын, Валянціна Сяргееўна.— Мы, можа, што-небудзь робім не так, не па правілах?

— Хай глядзіць, хай усміхаецца,— адказаў яе сусед-інжынер.— Мне проста добра, а гэта нешта ды значыць.

Мялешку таксама было ўсё роўна, глядзіць хто на іх ці не, але міжволі азірнуўся. Праз адзін стол збоку сядзеў той самы немец з інкруставанай палкай.

Немец кіўнуў Мялешку галавой, павітаўся. Мялешка адказаў: таксама кіўнуў немцу галавой і ўсміхнуўся.

— Знаёмы? — спытаўся масквіч, выкладчык інстытута.

— Немец. З Федэратыўнай Германіі.

— Ого!

— А што, ён не брыдкі і не зусім стары,— па-свойму, па-жаночы азвалася Ніна Іванаўна.

— Во ўжо не кажыце,— загаварыў яшчэ адзін з іхняй кампаніі, Васіль Андрэевіч.— Не ведаю, можа, так і нельга, але я дасюль з вайны не магу быць абыякавы да іх. Не да моладзі, а вось да такіх, што ў гадах. Усё думаю, што, можа, ён страляў у мяне. А калі пачынае вось так усміхацца, дык здаецца, што і смяецца ён таму, што недзе ў думках спадзяецца яшчэ стрэліць у мяне.

— Навошта ж гэта вы так? — сказала Валянціна Сяргееўна.

— А таму, што з вялікай нашай сям'і я адзін застаўся жывы.

— Мы зараз кінемся ўспамінаць,— сказаў Мялешка,— і сапсуем добры настрой. Можа, абыдземся без успамінаў? І вып'ем яшчэ па шклянцы піва.

— Залатыя словы, бо ў час сказаныя,— засмяяўся выкладчык.

Другі бакал яны пілі памалу, але ўжо ранейшай бесклапотнай і вясёлай гамонкі не было — знікла.

Зрэдку Мялешка кідаў на немца кароткія позіркі. Побач з ім сядзела жанчына, маладая з твару, але з

мыліцамі, якія былі пры ёй. Той, другой, што ездзіла шукаць магілу мужа, не было.

Мялешка ўжо даўно заўважыў гэтую жанчыну на мыліцах, кароценькіх, адмыслова зробленых, якія адзяваліся на рукі. Яна звычайна ішла, неяк грацыёзна абапіраючыся на іх, але цяжка цягнула непаслухмяныя ногі, абутыя ў модныя туфелькі. Неяк Мялешку давялося памагчы ёй напоўніць паільнічак з Вацлаўскай крыніцы, бо сама яна не магла апусціцца ў нішу на тры прыступкі ніжэй за памост каланады.

— Дзенькуе пану,— сказала тады яна, забіраючы з ягоных рук паільнічак тонкімі, белымі, аж празрыстымі пальцамі. Мялешка падумаў тады, што яна полька, і пакуль жанчына піла, прыхінуўшыся да калоны, неўпрыкметкуназіраў за ёй. Ёй было гадоў за сорак, але па гладкім, як адпаліраваным, твары, без ніводнай зморшчынкі, па жывых вачах, якія найчасцей хаваліся за доўгімі густымі вейкамі, можна было даць не больш трыццаці. Яму было шкада гэтую жанчыну, такую прыгожую і пакалечаную. Мялешка тады ледзьве ўтрымаўся, каб не спытацца, што з ёю здарылася, чым яна хворая.

У адно імгненне, калі Мялешка лішне доўга заглядзеўся на яе, ужо цяпер, іх позіркі сустрэліся. Можа, яна пазнала таго, хто памог ёй набраць вады з крыніцы, толькі яна нешта сказала свайму суседу, і той зноў зірнуў на Мялешку з нейкай сур'ёзнай зацікаўленасцю.

Яны збіраліся ісці. Жанчыны ўжо знімалі свае сумачкі са спінак крэслаў, мужчыны скідваліся нешта крон па пятнаццаць, як Мялешка ўбачыў, што немец ідзе да іх.

— Здраствуйце,— павітаўся немец адразу з усімі, але схіліў галаву толькі перад жанчынамі.

— Добры дзень! — уразнабой адказалі яны, здзіўлена пераглянуўшыся.

— Вы не будзеце супраць, калі я забяру вашага сябра? — ён схіліў галаву ў бок Мялешкі і, не чакаючы адказу, звярнуўся ўжо да яго: — Я вас вельмі прашу падысці да нашага стала. З вамі хоча пазнаёміцца мая сястра.

Не тое, што з ім, Мялешкам, захацела пазнаёміцца нейкая там сястра, не тое, што яна аказалася ягонай

сястрой, немкай, а не полькай, уразіла яго; чалавек, які ўчора, здавалася, не разумеў рускай гаворкі, які паводзіў сябе зусім абыякава, цяпер гаварыў амаль без акцэнту, хоць і крыху павольна.

Ён узяў Мялешку пад руку і, мусіць, адчуўшы, што той вагаецца, усміхнуўся:

— Не бойцеся. Ці, можа, вам не дазваляецца заводзіць знаёмствы з іншаземцамі?..

Не паспеў Мялешка належным чынам адказаць, як Ніна Іванаўна адпарыравала:

— Ён не баяўся заводзіць знаёмствы з вамі і тады, як вашы салдаты акупавалі ягоную Беларусь...

Можа, і занадта рэзка гэта было сказана, але на немца зрабіла ўражанне. Усе адчулі, што ён збянтэжыўся.

— Так, так,— таропка пагадзіўся ён,— прабачце, я не хацеў ні яго, ні вас пакрыўдзіць.

— Мне падышоў час піць ваду,— адказаў Мялешка.— Але з прыемнасцю пазнаёмлюся з вашай сястрой, тым больш, што аднаго разу сустракаў яе ля каланады.

— Па нас прыйдзе машына, і мы адвязём вас,— прапанаваў немец.— Вы не парушыце ваш распарадак.

Удвух яны падышлі да стала, за якім сядзела жанчына з мыліцамі.

— Мая сястра Юта,— пачаў знаёміць Мялешку немец.

Юта падала руку з доўгімі белымі пальцамі. Мялешка назваў сябе:

— Антон...— прозвішча, аднак, палічыў гаварыць непатрэбным.

— Фрыдрых Амендорфер... Як кажуць у вас, прашу любіць і жалаваць,— немец шырока развёў рукі і засмяяўся.

Усмешка ў яго была прыхільная, дабрадушная. Яна выклікала на шчырасць. Але Мялешка адчуваў сябе няёмка і скавана, не ўяўляў, што ён павінен рабіць, пра што гаварыць.

Юта, пазіраючы на яго з-пад густых веек, загаварыла з братам па-нямецку. Словы ў яе ліліся мякка і плаўна, зусім не так, як Мялешка прывык да іх у вайну, бо тады нямецкая мова здавалася дужа рэзкай і жорсткай.

— Юта вывучае рускую мову, але яна саромеецца свайго вымаўлення,— сказаў Амендорфер.

Юта кіўнула галавой. Мялешка падумаў, што яна падобна на ляльку, новую, добра прычасаную, якую толькі што выставілі ў вітрыне.

— Мне шкада, бо я зусім не ведаю вашай мовы. А вось вы, пан Амендорфер, размаўляеце вельмі добра,— не хаваючы сваёй зайздрасці, сказаў Мялешка.

— Дзякую,— нахіліў галаву Амендорфер.— Я думаў, што крыху забыўся вашу мову. Хоць мне і даводзіцца чытаць вашы кнігі, гэта ўсё ж не тое, што жывая гаворка... Дарэчы, што вы будзеце піць?

— Абсалютна нічога,— запратэставаў Мялешка.

— Крыху бехараўкі? Ці, можа, рускай?

— Я піў піва.

— А-а-а! — засмяяўся Амендорфер.— Як гэта ў вас называецца? Ну, так, ёрш. Але ў малых дозах гэта ўжо не ёрш, а бяскрыўдная рыбка.

Юта тым часам не зводзіла вачэй з Мялешкі, быццам глядзела на нейкае дзіва. Таму аж было няёмка.

— Я ніколі не гаваріль із савецкім чалавекам,— павольна вымаўляючы кожнае слова, сказала Юта.— Ошень каласальна... Вы, і праўда, ёсць савецкі чалавек?

— Вы хіба ўяўлялі савецкага чалавека інакш? — спытаўся Мялешка.

Амендорфер весела падхапіў:

— У чырвонай кашулі да калена, у галіфэ і высокіх ботах,— і зарагатаў са свайго жарту.

Мялешка таксама заўсміхаўся:

— І з барадой,— пажартаваў ён.

— Найн, найн,— пахітала галавой Юта.— Я не так хацель сказаць... Фрыдрых, перакладай пану Антону, што я хацель сказаць.

Амендорфер слухаў яе з паблажлівым выглядам, так, як слухаюць малое дзіця.

— Юце здаецца, што вы дужа звычайны, што ў вас нічога няма гераічнага. А наогул, не звяртайце ўвагі,— бесцырымонна параіў Амендорфер.— Юта нібы дзіця. Ды так яно і ёсць. У адну з бамбардзіровак англічан яе, параненую, засыпала на віле. Яна вельмі доўга ляжала на ложку. Гадоў дванаццаць толькі, як пачала хадзіць. Спачатку па пакоі, потым выйшла на двор,

у сад. Цяпер яна можа прайсці метраў дзевяцьсот за дзень.

У думках Мялешка паспачуваў Юце, але прамаўчаў, бо што ён мог сказаць. За вайну і сам нагледзеўся ўсякага.

— Гэта не мела вялікага сэнсу — ваяваць з малой дзяўчынкай,— сказала Юта.— Ваяваць павінны мужчыны.

— Чаму яны павінны ваяваць? — здзівіўся Мялешка.

— Яны моцныя,— аж выгукнула Юта.— Ім трэба дужацца сілай. Інакш мужчына не ёсць мужчына. Мужчына ўсе часы абараняль слабых жанчын. Маленькі хлопчык ужо ваюе. Гэта... гэта... рамантыка. Гэта абавязак мужчыны.

Пакуль Юта гаварыла, з цяжкасцю знаходзячы патрэбныя словы, Амендорфер квола ўсміхаўся, ці то падахвочваючы Юту, ці то пасміхаючыся з яе зайздроснага тэмпераменту.

«За час хваробы, мусіць, начыталася рознага смецця,— падумаў Мялешка, пазіраючы на Юцін аж пунцовы ад узбуджэння твар.— Уяўляе сабе мужчыну па рыцарскіх раманах...»

— Бачыце,— пачаў ён, не ведаючы, як звярнуцца да Юты: фраў, пані ці яшчэ як. Вырашыў, што абыдзецца і так.— Бачыце, мужчыны могуць дужацца сілай і не на палях вайны, а на палях стадыёнаў і на памостах спартыўных залаў.

— Найн, найн,— замахала рукамі Юта.— Я і думаль, правільна думаль, вы не ёсь герой... вас не можа кахаць жанчыны. Скакаць з ракеткай, бегаць за мяч — не! То занятак слабых, бязвольных. Мужчына ідзе паход... марш... Бяжыць у атаку. О, гэта каласаль!

Амендорфер зірнуў на Мялешку, быццам хацеў сказаць: не звяртайце ўвагі на гэтае трызненне хворай.

— Дарэмна вы думаеце, што вайна — гэта нешта вельмі рамантычнае і ўсё ў ёй гераічнае... Я кажу,— спахапіўся Мялешка, бо падумаў, што паставіўся да войнаў не з той пазіцыі, як бы з пацыфісцкай,— ды вось і кажу, што ў вайне несправядлівай усё брудна і брыдка.

— О, я з вамі згодна,— нечакана для Мялешкі за-

явіла Юта.— Несправядліва ваяваць есць зло, але зло і могуць перамагчы мужныя людзі.

— Вы мяне не так зразумелі,— запярэчыў Мялешка і паглядзеў на Амендорфера. Той сядзеў цяпер як бы абыякавы да іх размовы, быццам яна надакучыла яму.— На вайне і слабы становіцца жорсткі, можа, больш жорсткі, чым моцны. А калі вайна вядзецца разбойная, каб захапіць чужыя землі, скарыць другі народ, дык якая ўжо там рамантыка і які гераізм! Я ведаю яе. У нас палілі вёскі разам з людзьмі...

Амендорфер ніяк не адгукнуўся на яго словы, хоць Мялешка і падумаў, што, можа, і лішне было ў гэтых абставінах нагадваць пра спаленых людзей. Амендорфер сядзеў, ледзь адкінуўшыся на спінку крэсла, і безуважліва глядзеў кудысьці ўбок. Затое Юта адразу ж адрэагавала:

— Але ж то быль партызан. І потым... потым гэта рабілі эс-эс, гэта гестапа... Гітлер. Салдаты не-не!.. Салдат ваюе па правілах. Мой брат...

Амендорфер нібы прачнуўся, нешта спакойна, нават пяшчотна пачаў гаварыць Юце, паклаўшы сваю руку на яе плячо.

«Навошта я ўлез у гэтую непатрэбную размову? — з дакорам падумаў Мялешка.— І наогул, навошта пайшоў да іх?»

— Прабачце,— раптам звярнулася да яго Юта,— я, мусіць, не зусім дакладна гаварыль. Фрыдрых кажа, што я гаварыль не тыя словы. Я адчуваль, але сказаць гэта трудна. О, каб вы ведалі нямецкую мову, мы з вамі пагаварылі доўга-доўга! Нашы маладыя людзі кажуць прамовы, гуляюць у тэніс, глядзяць кіно, сядзяць у кафэ... і не думаюць пра будучыню. То не есць добра. Не, не, не ўсе. Ёсць сапраўдныя мужчыны. Але давайце памяняем тэму. Вы не былі ў нас у Германіі?

— Не, не быў,— адказаў Мялешка.— Ды я павінен ужо ісці... Але дазвольце спачатку адно пытанне вам, пан Амендорфер. Мне здалося, што вы запрасілі мяне не толькі дзеля таго, каб пазнаёміць са сваёй сястрой.

— О-о-о, так, так,— як бы ўзрадаваўся Амендорфер.— Вы ўгадалі. У мяне, сапраўды, ёсць невялікая просьба. Не ведаю, як вы пастаўіцеся да яе... Просьба крыху, як бы сказаць, нечаканая. Я нават сумняваюся, ці варта пра яе гаварыць, хоць гэта і дробязь.

— Ёсць просьбы, якія можна выканаць, а ёсць і такія, што нельга.

— Я разумею... Я цаню вашу шчырасць. Але і вы зразумейце мяне правільна. І не крыўдуйце, калі нешта не так.

Амендорфер быў разгублены. Ён, здалося Мялешку, з цяжкасцю вымаўляў свае словы.

— Пастараюся...

— Бачыце, Марта — жанчына, якая ўчора з вамі гаварыла,— мая стрыечная сястра.— Амендорфер адкінуўся на спінку крэсла, уставіўся на Мялешку выцвілымі сінімі вачыма. Ягоны гладкі, шырокі падбародак абапіраўся на каўнерык белай у палоску кашулі і на вузел гальштука, аж здавалася, што падбародкі ў яго тры.— Я люблю яе і не толькі як сястру. Вы разумееце мяне?

— Разумею...

Папраўдзе, дык Мялешка нічога не разумеў, а таму насцярожана чакаў, што той скажа далей.

— Марта безнадзейна хворая. Я гавару вам гэта па сакрэту і спадзяюся, што гэта застанецца між намі. Ёй засталося нядоўга жыць на свеце. І мне хацелася б, каб апошнія яе дні былі сагрэты сямейнай утульнасцю.

— Вам нешта перашкаджае?

— Так.

— І я магу дапамагчы?

— Так...

— Баюся, што я дрэнны дарадца ў такіх далікатных справах. Ды і не зусім уяўляю сваю ролю.

— І ўсё ж вы павінны спачатку выпіць,— рашуча сказаў Амендорфер і памахаў карткай афіцыянту.

Той адразу падбег, Амендорфер нешта сказаў яму па-нямецку. У другі раз адмаўляцца было проста непрыстойна, і Мялешка прамаўчаў. Амендорфер зноў адкінуўся на спінку крэсла.

— Дык я слухаю вас...

Юта адпіла глыток кавы, паставіла кубачак на стол.

— Я таксама буду прасіць вас. Фрыдрых ошень адзінокі, а мы так любім Марту.

Яна аж пачырванела ад напружання, з якім вымаўляла кожнае слова. Так, зрэшты, падумалася Мялешку.

— Уласна кажучы,— загаварыў Амендорфер,—

просьба, з якой я хачу звярнуцца да вас, належыць Марце, хоць не схаваю, што ідэю падаў я. Мне шкада Марту. А потым я не магу даказаць ёй, тое што вядома мне і ў што яна не верыць.

Ён памалу цадзіў словы, і Мялешка пачынаў здагадвацца, якую паслугу хоча атрымаць Амендорфер ад яго. Сапраўды, дзіўныя, наіўныя людзі. Няўжо яны могуць спадзявацца, што народ, які страціў у вайну кожнага чацвёртага, будзе захоўваць магілы сваіх ворагаў? Але Амендорфер тут жа абвергнуў ягоную здагадку.

— Я — рэаліст,— сказаў ён.— Я ўпэўнены, што ніякай магілы даўно няма, але жанчына, якая кахала свайго мужа, не можа гэта зразумець. Даруем ёй гэта.

— Я не зусім разумею, чым магу дапамагчы фраў Марце.

— Усё вельмі проста, вы пабываеце на тым месцы, дзе быў пахаваны яе муж, і напішаце пра тое, што ўбачыце, у лісце. Было б яшчэ лепш, але я нават не адважваюся прасіць аб гэтым.

— Калі пачалі, дык кажыце...

— Мы — народ сентыментальны. Дык вось, калі б вы маглі ўзяць жменьку зямлі — не, не з магілы, а хоць бы з таго месца,— і Марта, і я, і Юта былі б вельмі ўдзячны вам.

Усё было нечакана і так, як Мялешка не думаў, ды і не мог даўмецца да такога. Мусіць, на яго твары адбілася і здзіўленне, і пратэст супраць такой прапановы, бо ўжо не Амендорфер, а загаварыла Юта.

— Мы добра заплацілі б за ваш клопат,— сказала яна.

Мялешку скалолі яе словы. Але не паспеў ён адказаць, як Амендорфер крыкнуў на Юту, аж азірнуліся за суседнімі сталамі. Гэта было нешта абразлівае, бо на вачах Юты з'явіліся слёзы. Яна таропка, пакрыўджана загаварыла да яго. Амендорфер пагладзіў яе па плячы.

— Даруйце,— сказаў ён,— Юта думае, што грошы маюць усюды аднолькавую цану. А я ведаю вашых людзей. Вы не робіце таго, што вам не падабаецца, ні за якія грошы. Вы можаце рабіць з ласкі, па-сяброўску. Я — цаню гэта. І так, прадоўжым нашу гаворку...

— Я не скажу, пан Амендорфер,— крыху памаўчаўшы, пачаў Мялешка,— што ваша прапанова мне прыемная. Больш таго, яна зусім мне непрыемная, асабліва гэта тычыць таго, каб перадаць вам жменьку нашай зямлі...

— Я не падумаў пра такі акцэнт,— пагадзіўся Амендорфер.— Настойваць не маю права.

Ягоная падатлівасць і далікатнасць пачыналі падабацца Мялешку. Бывае ж так, што чалавек, якога не ўзлюбіў напачатку, аказваецца зусім не такім, якім уявіў яго сабе.

— Гэта, па-першае. Па-другое, я не ўпэўнены, што змагу знайсці тое месца, дзе быў пахаваны муж Марты. Прайшло тры дзесяцігоддзі. Ды і ці ўпэўнены вы, што дакладна ведаеце, дзе ён быў пахаваны?

— О-о, пра гэта не турбуйцеся.

Амендорфер дастаў з патайнай кішэні пінжака — кішэнька гэта была недзе ўнізе, у крысе — складны бумажнік, разгарнуў яго, дастаў нешта, загорнутае ў цэлафан. Мялешка здагадаўся, што гэта план. Але Амендорфер паклаў перад ім не план, а кавалак карты ваенных часоў з нейкімі адзнакамі. Без акуляраў Мялешка дрэнна бачыў, якая мясцовасць нанесена на карце.

Давялося дастаць акуляры. Калі ён глянуў на карту ўжо праз акуляры, у яго аж пацямнела ў вачах: на карце быў раён дзеяння іхняй партызанскай брыгады. Вёска, дзе стаяў штаб брыгады, абведзена сінім алоўкам, і па-руску напісана «штаб».

Апошнім намаганнем волі Мялешка здолеў стрымаць, не выдаць сябе.

— І дзе ж ён пахаваны? — ледзьве выціснуў ён з сябе.

— Вось тут, у Красынях.— Амендорфер дакрануўся да надпісу, што ішоў уздоўж шашы.

— І калі ён загінуў?

— У сорак другім.

— А месяц?

— У жніўні.

Гэта магло паказацца сном, але гэта быў не сон. Свяціла сонца, і яны сядзелі за сталом, на вяршыні Пятровай гары ў Карлавых Варах. І ўсё ж паверыць у гэта было цяжка.

Мялешка добра помніў усе абставіны таго бою ў Красынях. Тую ноч на світанні, калі яны падняліся з занятых пазіцый, дачакаўшыся чырвонай ракеты.

Яны беглі па ржышчы, на якім стаялі карагоды жытнёвых бабак. Немцы білі аднекуль справа, і бабкі нейкі час ахоўвалі партызанаў ад куль. Мялешка бачыў, як загарэлася наперадзе бабка: задымілася, і белыя язычкі полымя пачалі лізаць яе. Але партызаны ўжо зачапіліся за першую будыніну — пуню.

— Ну, хлопчыкі, цяпер Красыні мы возьмем,— выгукнуў Восіп Казмін — іхні камісар. Казмін быў шчаслівы як ніколі.— Віця, бяры свой узвод і заходзь у тыл. Другі ўзвод — налева, а я з трэцім да камендатуры. Трэба спяшацца...

На тым баку Красынёў чулася страляніна. Там наступала трэцяя рота. Першай чамусьці не было чуваць. Нарэшце, калі яны ўжо беглі па вуліцы, падала голас і першая рота.

Там, ля камендатуры, яны і застрэлілі немца. Той выскачыў з акна ў адной бялізне, з парабелумам у руцэ. Убачыў партызанаў і ва ўпор стрэліў у камісара. Але Мялешка апярэдзіў яго, можа, на якую секунду. Ён націснуў на спуск аўтамата і ўсадзіў у немца ледзь не ўвесь дыск.

Больш ніводнага немца тады не забілі — тыя адступілі, уцяклі, загадаўшы паліцаям абараняць гарнізон.

Дык вось, выходзіць, хто муж Марты. Той немец, што выскачыў з акна ў адной бялізне.

— Бедны Вернер,— пачуў Мялешка голас Юты.

Яна прыкладала белую хустачку да вачэй. Мялешка глянуў на яе, і яму стала смешна.

«Каб вы ведалі, хто сядзіць за вашым сталом!» — падумаў ён.

— У сорак другім годзе,— сказаў Мялешка, адчуваючы цяпер сябе зусім вольна,— фронт быў далёка.

Ён і не падумаў, што выдае сябе, што яму добра вядомы гэтыя мясціны. Амендорфер адразу ж спытаўся:

— Вы ведаеце, дзе знаходзяцца Красыні?

— Беларусь невялікая. Тым больш, вось у гэтым горадзе мне давялося бываць,— схітраваў ён і ўдакладніў: — Пасля вайны, вядома.

— Яго забілі партызаны,— спакойна сказаў Амендорфер.

Трэба было канчаць гэтую непрыемную размову.

— Шкада, што вы патрацілі час, але я не змагу выканаць вашу просьбу.

Юта зразумела, пра што сказаў Мялешка, і яе твар аж перасмыкнуўся, нібы ад болю.

— Я разумею, вам непрыемна выконваць просьбу жонкі былога афіцэра — вашага ворага.

Амендорфер як абяззброіў Мялешку. Але і нешта другое прыцягнула ягоную ўвагу. Чаму афіцэра? Мялешка добра памятаў, што забіты немец не быў афіцэрам. Звычайны яфрэйтар, як высветлілася пасля. Зрэшты, ці не ўсё роўна?..

— Не скажу, каб гэта было прыемна,— згадзіўся Мялешка,— шукаць магілы забітых салдатаў на чужой зямлі. І ўсё ж не магу не спытацца ў вас. Вы, калі меркаваць па карце, таксама былі ў гэтых Красынях?

— Гэта ўжо не мае значэння,— холадна адказаў Амендорфер.— Але адкажу. Я не мог быць там. Я быў тут, у горадзе,— ён зноў мезенцам дакрануўся да самага кутка карты.— Мне на дазваляла пасада.

Мялешка падняўся, але ніяк не мог рашыцца пайсці. Нечага мучыла пытанне: ён павінен развітацца ці проста павярнуцца і пайсці?

— Вы не выпілі сваё віно,— насмешліва сказаў Амендорфер, пазіраючы на яго халодным позіркам.— А потым, у нас вядзецца разлічвацца кожны за сваё...

Ён чакаў, што ўшчэнт збянтэжыць Мялешку, і той, сапраўды, ледзь стрымаў сябе.

— О, майн гот, Фрыдрых! Як табе не сорамна?! — выгукнула Юта і пачырванела.

Амендорфер нешта сказаў ёй, але яна адвярнулася ад яго і нават вырвала руку, калі ён хацеў пагладзіць яе.

На шчасце, паявіўся кельнер, і Мялешка паклікаў яго. Той падышоў, спытаўся:

— Вы плаціце за ўсё?

— Не, я плачу за сябе,— адказаў Мялешка і паклаў на стол сто крон, бо не ведаў, колькі можа каштаваць чарачка прынесенага пітва.

Афіцыянт памалу адлічыў рэшту, сказаў:

— Дзякую.— І пайшоў.

— Мне вельмі шкада, фройлен,— сказаў Мялешка Юце.

Ён пастараўся прайсці цераз пляцоўку незалежна, з гонарам, хоць яму хацелася бегчы і выць ад абразы. Толькі за паваротам ён даў волю свайму гневу. Мялешка лаяў сябе апошнімі словамі, на якія здольны чалавек вельмі абражаны.

«Развесіў вушы! Далікатны! Сентыментальны! Ну і атрымаў! Плюнулі ў душу! І не вытрашся! Не цяпер плюнулі, калі нагадалі, што трэба плаціць. Раней, калі папрасілі жменьку тваёй зямлі. Хай бы абурыўся, дык сядзеў... Дачакаўся... Быццам не ведаў, што ад недабітага фашыста і чакаць іншага няма сэнсу. Тады, можа, маёра. Цяпер, пэўна, генерала... Бач ты, і карту захоўвае. Спадзяецца яшчэ вярнуцца?»

Мялешка і не заўважыў, як збег з гары, як выйшаў з парку на залітую сонцам вуліцу. Насустрач яму, ад крыніц, да каланады, ішлі курортнікі з паільнічкамі ў руках. Зрэдку прабягалі машыны, абмінаючы людзей. Прайшла група савецкіх турыстаў, спынілася ля дома, дзе некалі жыў Тургенеў. Малады хлопец у джынсах гукнуў дзяўчат:

— Глядзіце! Тургенеў!

Тыя вярнуліся, пачалі фатаграфавацца, весела смеючыся. Ён падышоў да іх, спытаўся, адкуль яны.

— З Адэсы,— адказала загарэлая, у светлым гарнітуры дзяўчына.

— А я з Беларусі, адпачываю тут.

Яны перакінуліся яшчэ некалькімі словамі, пахвалілі надвор'е, якое на дзіва стаіць цёплым. І Мялешку стала лягчэй.

Ён ужо не бег, а ішоў памалу, стараючыся разабрацца ў тым, што адбылося. На развважлівы розум, дык як бы і нічога асаблівага. Сваімі вачыма паглядзеў на тых, хто аніколькі не перамяніўся з вайны. Зноў прыгадаў таго капітана, які разглядаў ягоныя кнігі. Можа, і сустрэў яго. Той таксама быў напачатку далікатны. Не, той капітан — не гэты. Той быў высокі і чорны. Чорны, светлы — душа адна...

Мялешка хацеў перайсці на другі бок вуліцы. З гары бегла машына, здаецца, «Фольксваген» — маленькая, як «Запарожац». На пярэднім крэсле сядзеў Амендорфер, пазіраў перад сабой, нічога не заўважаючы па

баках. Калі машына прайшла, праз задняе шкло Мялешка ўбачыў Юту. Яна павярнулася, паківала яму рукой.

«Да д'ябла Амендорфера, Марту, Юту і ўсё, што адбылося на Пятровай гары. Забыць, як ласкудны сон, і ніколі не ўспамінаць!» — вырашыў Мялешка.

Трэба было спяшацца на абед. Два паільнікі вады з Вацлаўскай крыніцы, якія ён піў тры разы на дзень, прапалі беззваротна, бо было ўжо позна.

У ланоўцы сядзела поўна народу. Важатая дала два званкі. Зверху адказалі. У вагончыку ўспыхнула святло, і ён павольна папоўз угору.

І раптам думкі Мялешкі зноў вярнуліся да Амендорфера. Нешта засталося для яго не высветленае, нейкія дэталі, і ён папракнуў сябе, што не здолеў высветліць іх.

«Навошта было вось так адразу адмаўляцца ад яго прапановы? Сказаў бы, што трэба падумаць, паразважаць. Тут хаваецца нейкая загадка, якая назаўсёды застанецца таямніцай».

Цяпер ужо была іншая незадаволенасць сабой, прафесійная, ці што? Але паправіць памылку было ўжо нельга. Не пачне ж ён шукаць гэтага тыпа і прапаноўваць свае паслугі.

«Пан Амендорфер, я перадумаў...» Якое глупства! Прэч, прэч думкі пра Амендорфера!»

Пасля абеду Мялешка адчуў страшэнную змораласць, прылёг на ложак і адразу заснуў. Прачнуўся ад моцнага званка і спачатку са сну не мог уцяміць, хто звоніць. Нарэшце здагадаўся — тэлефон.

— Слухаю...

— Ты што, спіш? Сорам, які сорам! На двары цёпла, і мы з Міладай чакаем цябе...

Званіў Іозеф, даўні знаёмы. Гады два назад Мялешку прапанавалі выступіць у Астраве. Ён згадзіўся — там і пазнаёміліся з Іозефам.

— Адкуль ты звоніш?..

— Знізу. Сяджу ў вестыбюлі. Колькі табе часу патрэбна, каб сабрацца? Мы едзем на канцэрт. Не пашкадуеш.

— Хвілін дзесяць.

— То я чакаю...

...Яны ўзняліся насустрач Мялешку: каржакаваты, з кароткай прычоскай і смяшлівымі вачыма Іозеф і чорнавалосая, стройная, як таполя, Мілада.

— О, добры, дз-энь, добры дз-энь! Паглядзі, Мілада, ён зусім атлусцеў ад сну. І мы вінаваты з табой. Я даведаўся, што ты прыехаў, і адразу сюды. Як добра, што ты прыехаў. Як здароўе? О, здароўе будзе, трэба толькі піць дванаццаць крыніц адразу, а запіваць трынаццатай — бехараўкай.

Ён, як заўсёды, гаварыў шпарка, блытаючы рускія і чэшскія словы, і ўвесь час усміхаўся. Усмешка ў яго шчырая, добрая, і Мялешка сам заўсміхаўся.

— Ты шмат гаворыш, Іозеф,— сказала Мілада.

— Не можна іначай. Работнік культуры. Гаварыць шмат даводзіцца... Ну, так вось, едзем у Яхімаў. Там выступае Надзя Урбанкава. Як гэта па-руску? Ах, так, салавей, чэшскі салавей, каралева эстрады.

— Дык жа нешта рана едзем...

— Але спачатку заедзем да аднаго добрага чалавека,— сказала Мілада.— Мы хочам пазнаёміць вас з ім.

— Ано, ано,— так, так,— гэта наш скульптар. Добра?

— Добра,— пагадзіўся Мялешка.

Старога ўзору «Шкода» прывезла іх на Старое Роле. За пасёлкам з дзесяціпавярховых гмахаў туліўся другі — прыватнай забудовы, з самых розных катэджаў. У канцы кароценькага, на тры дамы, завулка і жыў скульптар.

Чамусьці Мялешка чакаў, што сустрэне старога майстра, а з прыбудоўкі-майстэрні выйшаў прысадзісты, шыракагруды чалавек з дабрадушным тварам.

— Любамір,— сказаў ён і падаў шырокую руку скульптара.— Заходзьце, заходзьце.

За дзвярыма на Мялешку дыхнула знаёмай атмасферай майстэрні — быццам ён бываў тут. Здалося нават, што і яе гаспадара ён таксама ведае даўно. Той стаяў, крыху нязграбны, з апушчанымі рукамі, якія не ведалі, што ім рабіць, калі няма занятку, калі вось так уварваўся нечаканы госць. Ад стала, заваленага керамікай, падышла жанчына, выціраючы на хаду рукі аб фартух:

— Даруйце, яны ў мяне не чыстыя... Дагмара.

А Мялешка ўжо абягаў вачыма майстэрню, макет будучага фантана ў парку «Рычманд», усю такую звычную, знаёмую абстаноўку майстэрні. На сцяне нешта было закрыта поліэтыленавай плёнкай. Любамір палкай зняў верхні край з цвіка. Зашамацеўшы, плёнка з'ехала на падлогу; перад вачыма заіскрылася керамічнае пано: чатыры жанчыны, што ўвасаблялі зіму, вясну, лета і восень, а пасярод — нявеста, у вясельным уборы.

— Наша дачка,— сказала Дагмара,— у час вяселля.

Мялешка падзівіўся. Яму здалося, што гаспадары зусім маладыя і, можа, якраз не дачка, а сама Дагмара вылеплена пасярэдзіне пано.

— О-о, у нас ужо і ўнучка,— усміхнуўся Любамір і пагладзіў сябе па галаве.

Толькі цяпер Мялешка заўважыў, што пад пасмамі валасоў хаваецца даволі вялікаватая лысіна.

На стале аднекуль паявіліся пяць кілішкаў і бутэлька бехараўкі. Дагмара наліла, узяла свой кілішак:

— На здрове.

Яны адпілі па глытку. Любамір з Іозефам адразу ж завялі гаворку пра вернісажы, пра будучыя работы — і нават заспрачаліся.

— То, можа, годзе? — перапыніла іх Мілада.

...Хвілін за колькі яны абмеркавалі перспектывы керамікі, і каб не Дагмара, дык, можа, і паспрачаліся б. Яна запрасіла ў дом.

Якраз вярнуліся абедзве дачкі — чарнявая, больш падобная на бацьку,— зяць Любаміра і маленькая ўнучка. Абедзве дачкі крыху разумелі па-руску, і гаворка раптам завіравала, як рака ў разводдзе.

Прыйшоў яшчэ і бацька Любаміра — былы камяняр, стары камуніст — сівы, хударлявы чалавек з жывымі цёплымі вачыма,— прынёс сыну свае малюнкі. Пейзажы навакольных мясцін, хаткі пры дарозе, дрэвы...

— Калі не пярэчыце, дык я вам сыграю,— сказаў стары і борздзенька выбег, а назад вярнуўся з саксафонам.— З мяне павінен быў выйсці музыка, а атрымаўся камяняр.

Зяць прынёс Любаміру гармонік. Удвух з бацькам яны даволі ніштавата сыгралі «Суліко».

— Слухай,— сказаў Любамір,— прыходзь да нас часта. Як стане сумна, як успомніш пра свой дом — прыходзь. У нас ты знойдзеш свой дом.

Мялешка падзякаваў і, можа, ад расчуленасці, ад цеплыні чалавечай, раптам расказаў пра Амендорфера. Любамір усё ніжэй апускаў сваю лабастую галаву, а яго рукі, што ляжалі на стале, моцна перапляліся пальцамі; сціснуўшы губы, маўкліва сядзела Дагмара; без прывычнай усмешкі, адкінуўшыся на спінку крэсла, скрыжаваў на грудзях рукі Іозеф. Толькі Мілада нешта гаварыла старэйшай дачцэ Любаміра, якая карміла з соскі малую.

— Гэта — фашыст! Недабіты фашыст! — Любамір прыціснуў кулак да стальнічыны, аж здавалася, што тая ўгнулася пад яго цяжарам.— Мы ведаем такіх. Яны нішчылі Лідзіцэ. Ты ведаеш Лідзіцэ?

— У іх — Хатынь і сотні Лідзіц,— падказаў Іозеф.

— Так, так! Вы ведаеце! Вось яна была партызанкай,— паказаў Любамір на жонку.— Можа, ён паліў тваю Лідзіцэ? Плюнуць бы яму ў морду.

Спакойнага, ураўнаважанага Любаміра было не пазнаць.

— Можа, я дарэмна ўсчаў гэтую гаворку,— сказаў Мялешка.— Вайна баліць кожнаму. Даруйце, што закрануў незагоеныя раны.

— Пакуль баляць раны — людзі не забудуць вайну,— азваўся бацька Любаміра.

— Ты думаеш, навошта яму спатрэбілася жменька зямлі? Ты — не ведаеш. Я табе скажу. Яны едуць сюды піць ваду і здымаюць на плёнку свае вілы. Мы яшчэ вернемся — во што яны кажуць. Але яны здохнуць, а не вернуцца. Яны старыя. І ім трэба атручваць сваю моладзь. Во навошта яму спатрэбілася жменька тваёй зямлі. Каб труціць мазгі маладым. Каб з гэтай жменькай зямлі ўжо за ўсёй зямлёй пайшоў яго сын, унук, праўнук...

Любамір гаварыў так горача і пераканаўча, што другога адказу не магло і быць. Таямніца, ахутаная рамантыкай, набывала свой канкрэтны сэнс.

— Я пра гэта не падумаў,— прызнаўся Мялешка.

— Пакуль жыве хоць адзін фашыст — няма меры подласці,— зноў сказаў бацька Любаміра.

Тым часам Мілада нагадала, што трэба ўжо ехаць у Яхімаў, і Дагмара пайшла пераапранацца.

— Я не паеду,— сказаў Любамір. — Я яшчэ папрацую. Нешта аж засвярбелі рукі. А пакуль яны свярбяць, трэба працаваць.

— Чалавек жыве, пакуль нешта робіць,— сказаў ягоны бацька.

— Во, не хоча пераязджаць да мяне,— паскардзіўся Любамір.— Дом прасторны, месца хопіць, а ён жыве там, дзе часаў каменні. Маленькая вёсачка ў гарах.

— Калі дрэва глыбока пускае карэнні, яго можна спілаваць, вырваць з зямлі нельга,— усё так жа спакойна адказаў бацька.

Неўзабаве зайшла Дагмара — зусім маладая і стройная.

— Адпускайце сваю машыну,— сказала яна Іозефу.— Павязу вас сама.

Белы «Фіят» ірвануў з месца, як рысак па бегавой дарожцы іпадрома, пабег, пятляючы па крутых вуліцах Карлавых Вар, аж пакуль не выскачыў на шашу.

На пераездзе праз чыгунку яны затрымаліся хвілін на пятнаццаць — спачатку манеўраваў цеплавоз, потым прайшоў таварны састаў. Як Дагмара ні гнала машыну, яны спазніліся хвілін на дзесяць.

Вялікая, шырокая зала была поўна народу — найбольш моладзі, і Надзя Урбанкава ўжо спявала з расквечанай агнямі сцэны.

З першых мінут Мялешку здалося, што ён акунуўся ў наэлектрызаваную атмасферу, і не адразу зразумеў, ад чаго яна тут такая. Але неўзабаве і песні, словы якіх ён не заўсёды разумеў, і рытм, і тэмперамент спявачкі захапілі і яго, і ён сам, паддаючыся агульнаму настрою, шалёна апладзіраваў, і гатоў быў разам з моладдзю крычаць, і зноў і зноў да знямогі пляскаць у далоні.

Пасля канцэрта яны зайшлі наверх, у пакой адпачынку, каб падзякаваць спявачцы. Яна ўзнялася з крэсла, бясконца стомленая і шчаслівая. Мялешка паспачуваў ёй.

— Песня памагае жыць, любіць і верыць у лепшае,— сказала спявачка, як мог сказаць, толькі бацька Любаміра.

Назад яны ехалі моўчкі, трохі стомленыя, уражаныя песнямі і тэмпераментам спявачкі.

Недзе на Багаціцы выйшлі Іозеф і Мілада. Машына рванула ўгору, зноў запятляла па вуліцах горада.

— Мы любім песні, музыку,— ціха, нават задумліва загаварыла Дагмара.— А там, за Хэбам, па той бок мяжы, яны збіраюць моладзь і зноў крычаць свае маршы. Яны хацелі б, каб мы плакалі, а не спявалі.

Мялешка адчуў, як кальнула ў сэрца тупым болем, быццам хто хацеў выцягнуць з яго даўнюю, зарубцаваную стрэмку.

Перад вестыбюлем санаторыя, на пляцоўцы, агароджанай балюстрадай, стаялі курортнікі, курылі. Мялешка падняўся ў ліфце на свой паверх, адчыніў пакой. З-за гары падымаўся месяц-поўня. Здавалася, недзе там, удалечыні, нешта гарыць. Рабіць не было чаго, а спаць яшчэ рана. Ён сеў у крэсла, каб яшчэ раз усё ўзважыць, супаставіць, дакладна аднавіць у памяці падзеі больш чым трыццацігадовай даўнасці. Вельмі ўжо ўсё было неверагодна і выпадкова. А чаму выпадкова?

## НОЧ

Партызанскі атрад Пашына стаяў тады на Чапліцкіх хутарах. Сама вёска Чаплічы — хат з паўсотні — была крыху далей, за невялікім лесам і мелкаводнай, у трыснягах рэчкай Чаплінкай.

Чапліцкія хутары — дзве хаты з хлявамі, свірнамі, паветкамі, лазнямі, такамі і пунямі — павінны былі знесці ў сорак першым. Ды пачалася вайна, і яны засталіся, а цяпер сталі часовым прытулкам партызанам пасля нядоўгай раптоўнай блакады.

Атрад у той час — на прыканцы ліпеня сорак другога — налічваў недзе каля чатырохсот чалавек. Тры роты па тры ўзводы, вялікі ўзвод разведкі, гаспадарчы ўзвод ды ўзвод аховы. На хутарах было цеснавата. Адну хату займаў штаб, другую — разведка і шпіталь. Астатнія партызаны размяшчаліся ў таках і пунях.

Надвор'е стаяла цёплае, без дажджоў. Можна было начаваць і пад адкрытым небам.

Ён, Мялешка, рабіў тады ў штабе пісарам. Запісваў у дзённік баявыя аперацыі, вёў улік забітых і параненых немцаў і іхняй тэхнікі, кожны тыдзень складаў

спісы асабовага складу атрада, здымаў з харчавання тых, хто атрымліваў у баі дзевяць грамаў варожага свінцу.

Праца была спакойная, але да шаленства сумная, і Мялешка рваўся ў бой, а яго не пускалі, бо і днём і ноччу ён насіў пры сабе дзве сумкі з дакументамі — лёс не толькі байцоў атрада, але і іхніх сем'яў.

Была нядзеля і яшчэ нейкае свята, бо гаспадар хутара, барадаты, шыраканосы, падстрыжаны пад гаршчок Нупрэй Лісіцын, доўга стаяў перад абразамі на каленях, біў паклоны і хрысціў сябе двума пальцамі — па-стараверску.

Ягоная жонка, гадоў на дваццаць пяць маладзейшая, паліла ў печы і нечага бурчэла на Нупрэя. Камандзір з начальнікам штаба яшчэ спалі, удвух на адным ложку. Ён, Мялешка, пісаў дзённік, а Восіп Казмін галіўся ўсляпую, бо люстэрка ў хаце не было. Восіп дзён дзесяць, як вярнуўся з брыгаднага шпіталя. Быў ён бледны, аж жаўтаваты з твару, хоць, здаецца, і паправіўся на шпітальных харчах.

Адсутнасць камісара адчувалі ўсе: атрад па-ранейшаму хадзіў на аперацыі, вёў баі з паліцыяй ды немцамі, але ўжо не было таго адзінства і згуртаванасці, таго баявога духу, што раней. Камандзір з начальнікам штаба нечага спрачаліся, у ротах слабла дысцыпліна, і калі раптам напалі немцы, акружылі атрад, усе неяк разгубіліся, больш думалі, як ўратаваць сябе, а не ўвесь атрад. Бадай, адзін камандзір разведкі Вася Блажко заставаўся спакойны і падцягнуты. Ён выявіў слабае месца ў нямецкай блакадзе, вывеў атрад за кола карных войск.

Калі камісар вярнуўся, партызаны падбадзёрыліся.

Мялешка пачуў, быццам нехта задыхана плача. І адразу ж рыўком адчыніліся дзверы. У хату ўляцела Клаўдзя.

— Камісар, камандзіра нашага забілі...

— Хто забіў? — спытаўся Восіп, трымаючы на адлёце брытву.

— Конь прыбег, а яго няма.

— Чакай, адкуль прыбег?

— Каб жа я ведала. Трывогу падымай, камісар.

На ложку заварочаўся камандзір:

— Ну, што там, ёлачкі-палачкі, здарылася?

— Васю Блажко забілі,— крыкнула Клаўдзя,— а вы спіце.

— Ты вось што, садзіся ды па парадку раскажы,— спакойна, аж занадта, сказаў Казмін.

«Ну, чаго яны цягнуць, чаго? — абурыўся ў думках Мялешка.— Трэба падымаць людзей. Можа, немцы ўжо акружаюць».

Клаўдзя села на табурэтку, пачала расказваць. Восіпаў спакойны тон падзейнічаў на яе.

— Ноччу перад саменькім світаннем выйшла я на двор.

— Чаго выходзіла? — спытаўся начальнік штаба, нацягваючы боты.

— Чаго? Чаго? Трэба было, дык і выйшла.

— Пачакай, Золаў, дай ёй расказаць,— папрасіў Казмін начштаба.

— Дык вось, выйшла, а Вася каня сядлае. Я і пытаюся: «Ты куды?» А ён усміхнуўся: «Каня, кажа, прагуляць трэба». Сеў і паехаў. Яшчэ напаследак папрасіў, каб нікому не гаварыла, хай хлопцы паспяць. Так і сказаў: «Няхай, кажа, хлопцы паспяць. А то разбудзіш каторага, паедуць за мной. Я іх ведаю». Ну і паехаў.

— Не бачыла, у які бок? — спытаўся Казмін.

— У бок Красыняў. Па той сцежцы, што на балота вядзе. Як мая душа чула. Хацела каго з хлопцаў разбудзіць, але ж загадана было.

— Ну і далей...

— З паўгадзіны назад конь прыбег. Мы думалі, скінуў ён Васю. Было аднойчы такое. А потым хлопцы разгледзелі, што повад абарваны. Я і пабегла сюды...

Казмін выцер мыла, шпурнуў ручнік на лаўку.

— Адсутнасць належнай дысцыпліны, якая назіраецца сярод каманднага складу атрада, і павінна была прывесці да нечага падобнага,— як заўсёды, па-казённаму нудна, выказаўся Золаў.

Камандзір адразу ж абразіўся.

— Ты на што намякаеш?

— Камандзір разведкі інакш не можа забяспечыць разведдадзенымі,— нагадаў Казмін.

— Чаго, на якое ліха ён паехаў адзін? — гарачыўся камандзір.— Ёлачкі-палачкі, такога камандзіра разведкі страцілі.

Клаўдзі надакучыла іхняя спрэчка.

— Ды што вы развялі анцімонію. Можа, чалавек дзе паранены ляжыць...

Хвілін праз дваццаць дзве роты выйшлі ў бок Красыняў. Было яшчэ вельмі рана. Сонца толькі падымалася, і густая раса аж блішчэла на траве і дрэвах.

Гарнізон гэты — Красыні — быў як бяльмо на воку. Двойчы пад яго хадзіў атрад і адкатваўся назад. Спрабаваў браць Красыні суседні атрад, ды адышоў з вялікімі стратамі.

Стаялі Красыні, як непрыступная крэпасць, на беразе возера між крутых узгоркаў. Каб не Красыні, дык партызаны даўно б валодалі вялікай зонай, а так урэзалася нямецкая абарона ў партызанскую доўгім кароўскім языком.

Ад Чапліцкіх хутароў да Красыняў кіламетраў дванаццаць. Да паловы шляху некалькі вёсачак кантралявалі партызаны. За Сцёбцамі гаспадарылі ўжо немцы ды паліцаі. Але ноччу партызаны падыходзілі пад самыя Красыні. Днём пабойваліся. Праўда, і ноччу красынскія паліцаі рабілі засады. Можа, Вася Блажко і напароўся на адну з іх.

Мялешка разам з камісарам ехалі на конях. Восіп быў задумлівы і нейкі натапыраны, злы.

— Не падабаецца мне ўсё гэта, дужа не падабаецца,— за ўсю дарогу да Сцёбцаў толькі і сказаў Казмін.

— Чаго яго пагнала? — спытаў Мялешка.

Восіп прамоўчаў, здавалася, ён марудна перамолвае адну нейкую думку. Яго сківіцы цяжка варушыліся; ён то сціскаў зубы, то расціскаў іх.

Перад самымі Сцёбцамі партызаны спыніліся, пакуль разведка не высветліць, ці ёсць хто ў вёсцы. Да Казміна падышоў баец з першай роты.

— Паслухай, камісар,— сказаў ён,— кажуць, у Блажко дзеўка была ў гэтых самых Сцёбцах.

— Хто кажа?

— Ды ўсе. Спытайся ў разведчыкаў. Яны больш ведаюць.

Разведчыкі тым часам вярнуліся са Сцёбцаў.

— Хіба ў Блажко была дзеўка ў Сцёбцах?..— спытаўся ў іх камісар.

Тыя прамоўчалі, але па тым, як яны пераглянуліся, было відаць, што такі была каханая ў Васі Блажко.

— Да яе ён сёння паехаў? — зноў спытаўся Казмін.
— Ды не, што вы...
— Да яе калі ехаў, нас каго браў.
— Чаго яму было пад раніцу ехаць?..
— Ён увечары ездзіў. А яна выходзіла за вёску...

Разведчыкі ўсяляк абаранялі свайго камандзіра, але пераканаць не маглі — Мялешку ва ўсялякім выпадку. Ды і камісар як бы вагаўся: верыць ці не?

— Хто ведае, дзе яна жыве? — спытаўся Восіп Казмін.

Ведалі, аказваецца, не ўсе — адзін толькі Андрэй Савачка.

— Тады паедзеш ты,— загадаў камісар Андрэю.

Утрох: камісар, Мялешка і Савачка паехалі ў Сцёбцы. Роты засталіся ў лесе.

Вёска гэта не мела вуліц. Хаты раскіданы абы-як, нібы хутары, толькі сціснутыя ў гурт. Дарога, аднак, была за вёскай, па агародах. На гэтую дарогу і выходзілі ад кожнай хаты кароценькія і даўжэйшыя сцежкі, зарослыя травой, на адны калёсы.

— Не трэба было б адразу да яе ехаць,— сказаў Савачка.— Падумаюць, што яна сувязь з партызанамі мае. Красынскія паліцаі пачнуць прыставаць.

— Дзе яна жыве?
— Вунь у той хаце, пад бярозай.

Казмін павярнуў каня да першай хаты на ўзгорку. На двары злез з каня. З хаты выйшла ў гадах цётка, неяк спалохана глядзела на іх.

— Даўно прачнуліся? — спытаўся камісар.
— Даўнавата ўжо...
— Не чулі стрэлаў?
— А хто яго ведае? Можа, і стралялі. У лесе часта страляюць.

У наступнай хаце пытанні і адказы паўтарыліся слова ў слова. Хоць адказваў цяпер мужчына.

— Ні чорта вы ў іх, камісар, не высветліце,— сказаў Савачка.— Тут лішне не скажуць, вучаныя.

Сапраўды, і ў трэцяй, і ў чацвёртай хатах адказвалі аднолькава. Мялешку здалося, што тутэйшыя як бы забаўляюцца такой гульнёй.

Нарэшце яны дабраліся да хаты, дзе жыла тая дзяўчына. Камісар пастукаў у акно тупым канцом бізуна.

— Ці ёсць хто? Выйдзіце на хвілінку...

— Пры бацьку толькі не кажыце нічога,— папрасіў Савачка.

Выйшла маці. Маладая яшчэ. Абыякава глянула на конных. Восіп паўтарыў завучаныя свае пытанні. Жанчына адказала, як і ўсе.

— А хто ў вас яшчэ ёсць? — спытаўся Восіп.

— Муж, дачка.

— Дома яны?

— Стары на поле паехаў. Бульбу абворвае.

— Паклічце дачку.

Жанчына неахвотна пайшла ў хату. Неўзабаве выйшла з дзяўчынай.

Мялешка не паверыў сваім вачам. Але сумнення не было: на ганку стаяла Вера Мятлік, тая самая дзяўчына, з якой яны сядзелі на элеватары, арыштаваныя немцамі.

Мялешка адразу прыгадаў усё, што тады адбылося, бязлітасныя словы рудога аб здрадзе, Верыну хлусню, што ў яе з чатырох гадоў няма маці, і тое, як яе выклікалі немцы, і ў яго ўжо не было ніякага сумнення, што смерць Васі Блажко звязана з ёю.

— Што вы хацелі? — спыталася Вера ў Казміна. Спыталася спакойна.

Мялешка так і не зразумеў, пазнала яна яго ці не. Здаецца, яна глядзела толькі на камісара.

— Можа, вы чулі стрэлы? — спытаўся камісар.

— Можа, і стралялі, але я моцна сплю.

— Матуля, прынясіце вады,— папрасіў Верыну маці Казмін.

Тая неахвотна пайшла ў хату, але дзверы пакінула адчыненымі.

— Васю Блажко забілі,— ціха сказаў Казмін.

Мялешка заўважыў, як у Веры перасмыкнуўся твар, стаў белы.

«Чуе кошка, чыё сала з'ела»,— падумаў ён.

— Калі? — спыталася яна.

— На світанні.

— Сюды ён не прыязджаў,— сказала Вера.

З хаты выйшла маці з карцом у руцэ. Казмін узяў яго, пачаў сілком піць.

— Добрая вада, дзякую,— сказаў Казмін і стаў паварочваць каня, а за ім і Мялешка з Савачкам.

Мялешка азірнуўся. Вера стаяла, скрыжаваўшы на грудзях рукі. Маці штурхнула яе ў плечы, і тая пайшла ў хату.

Камісар заехаў яшчэ ў дзве ці тры хаты, потым павярнулі коней у лес, дзе на ўскрайку ляжалі ў засадзе роты.

— Будзем вяртацца ў лагер,— сказаў Казмін ротным і паехаў па лясной дарозе.

Мялешка дагнаў яго.

— Я ведаю гэту дзеўку,— сказаў ён.— Яна тая, пра якую мы з Віцькам табе расказвалі; помніш, нас білі з ёю разам.

— Ніяк не магу зразумець, чаму ён паехаў у бок Красынь? — як бы разважаючы з сабой, спытаўся Казмін.

— Слухай, Восіп,— абурана загаварыў Мялешка,— не прыкідвайся спакойным. Пры яе ўдзеле забілі Блажко.

Казмін зірнуў на яго як бы здзіўлена.

— Чаму?

— А таму, што яе тады завербавалі, а цяпер заданне далі забіць Васю Блажко.

— Ну, проста Нат Пінкертон! Ну, проста Шэрлок Холмс! А я і не дадумаўся,— сур'ёзна сказаў камісар.

— Трэба было яе забраць з сабой і ўчыніць допыт,— зацята загаварыў Мялешка.

— Што ж ты мне раней не сказаў? Цяпер яна мо ўцякла. Так што і вяртацца не варта.

Мялешку здалося, што Восіп іранізуе. Але ён быў сур'ёзны.

— Ты, можа, жартуеш? — сказаў Мялешка.— А тут не да жартаў. І наогул не разумею твайго спакою.

— Ну і дзівак,— азваўся Казмін, выцяў каня, і той пабег наўскач, так што Мялешка добра адстаў і ўжо дагнаў Казміна ля Чапліцкіх хутароў.

Ля старой лазенькі нечага сабраліся партызаны з той роты, што засталася ў лагеры. Камісар з Мялешкам пад'ехалі да іх.

Хлопцы выпрабоўвалі бясшумныя насадкі. На калку вісела чыясьці шапка. Хлопцы прымацоўвалі новую насадку да вінтоўкі, стралялі. Стрэлу не было, а толькі

шыпенне, якое бывае, калі адразу ўспыхвае карабок запалак. Куля ўскопвала зямлю крокаў за дзесяць.

— Толькі пасля трэцяга стрэлу куля ляціць,— растлумачылі камісару.— А пасля першага стрэлу і двух метраў не пралятае.

У шапцы было нешта дзіркі чатыры. Пяць насадак ляжалі ўжо прыстраляныя.

— Канчайце гульню,— сказаў Восіп.— З гэтымі насадкамі не наваюеш. Бясшумныя нам не прыгодны. Нам трэба больш шуму.

У штабе сядзеў Золаў, вычэрчваў план нейкай будучай аперацыі. Чарціць планы ён любіў.

— Дзеўку прывялі? — не падымаючы галавы, спытаўся Золаў.

— Якую дзеўку?

— Што ж ты, камісар? Увесь атрад ведае. Я папярэджваў. Завялі баб, дзевак, не атрад — сямейны лагер.

— Гэта хто завёў? — Казмін гаварыў так, быццам нічога не ведаў.

— Стварылі абстаноўку бяспечнасці. А між іншым, камісар, баба — самы падатлівы матэрыял для вярбоўкі. Яшчэ Аляксандр Македонскі ведаў пра гэта.

— Македонскі да Індыі дайшоў, а мы з табой, Золаў, Красыні ніяк не возьмем. Ці падумаў ты, чаму не возьмем?

— Дзеўку гэту я загадаў прывесці. Я з ёю па душах пагавару,— абвясціў Золаў.— К вечару тут будзе.

— Ты, Золаў, лішняй работы не задавай. Ты будзеш загадваць, а мне трэба твае загады адмяняць. Пашлі пасыльнага, скажы: не трэба ісці па гэтую дзеўку.

Казмін гаварыў, нібы жартаваў, але Золаў не стрымаўся. Спакойны тон выводзіў яго з раўнавагі.

— Так не ваююць,— закрычаў Золаў.— Можа, кожны з нас з-за вашай з камандзірам халатнасці ў ворага на мушцы. Мы павінны быць тройчы пільныя. А вы патураеце ворагу. З мяне хопіць! Я радавым пайду. Я здаю штаб. Прызначайце прыдатнага сабе. Хоць паліцая бярыце.

— Золаў, не шалей,— папрасіў Казмін.— У мяне такое ўражанне, быццам ты адзін за Савецкую ўладу ваюеш. Ты каму загадаў?

— Лапшыну...

— Пасыльны,— гукнуў Казмін, адчыніўшы дзверы,— пакліч у штаб Лапшына.

Вярнуўся камандзір атрада.

— Ну што, ёлачкі-палачкі, не зберaглі Блажко,— сказаў ён з парога.— Золаў, падрыхтуй адпаведны загад. Я падпішу.

Ён лёг на ложак, паклаў ногі на спінку.

— Трэба перабазіравацца на новае месца,— ні да кога не звяртаючыся, сказаў камандзір.— Калі яго жывога сцапалі, дык чорт яго ведае, ці вытрымае?

— А я што кажу,— падхапіўся Золаў.— Бяспечнасці ў нас хоць адбаўляй.

— Давайце снедаць,— прапанаваў камісар.

— Правільна, ёлачкі-палачкі, паснедаем ды падумаем, куды перабазіравацца. Пад вечар сарвёмся, падалей ад Красынь.

Нейкі час за сталом панавала цішыня. Першы загаварыў Казмін.

— Я во што думаю, камандзір, у хлопцаў настрой паганы. Смерць аптымізму не дадае. Ды яшчэ такая смерць. Трэба сёння не перабазіравацца, а на чыгунку ісці.

— Без падрыхтоўкі, без разведкі — авантура,— не пагадзіўся Золаў.

— У мяне сякія-такія меркаванні ёсць,— сказаў Казмін.

Усе ведалі, калі Казмін гаварыў так, значыць, ён добра прадумаў усю аперацыю.

— Ну, выкладвай, ёлачкі-палачкі.

— Да вечара яшчэ далёка.

— Апошні тол, берагчы трэба,— нагадаў Золаў.

— Якраз цяпер і настаў час яго выкарыстаць.

У хату ўвайшоў Лапшын. Казырнуў па ўсіх правілах.

— З'явіўся па вашаму загаду, таварыш камісар.

— Гэта начштаба цябе выклікаў,— кіўнуў на Золава Казмін.

— Чакай, камузвода, не трэба па тую дзеўку ісці. Другое заданне будзе,— неахвотна сказаў Золаў.

— Ёсць. Не трэба па дзеўку ісці,— казырнуў Лапшын.— Дазвольце ісці?!

Ён павярнуўся, як на вучэнні, грукнуў абцасамі.

— Выправачка, ёлачкі-палачкі, пазайздросціш.

— Во каго на разведку ставіць,— сказаў Золаў.— Праўда, камандзір?

— А што, камісар, другога такога не знойдзеш, ёлачкі-палачкі.

— Людзей добрых шмат,— адказаў Казмін.— У разведцы апрача выпраўкі галаву трэба мець.

— Кінь, камісар, калі Блажко не вернецца, будзем Лапшына прызначаць.

Камандзір, мусіць, яшчэ верыў, што Блажко вернецца, што, можа, дзе затрымаўся.

— Час ёсць, падумаем. Спяшацца не трэба,— сказаў камісар.

Да вечара час цягнуўся трывожна і нудна. У ротах толькі і гаварылі пра загадкавае знікненне Блажко. У кожнага былі свае меркаванні.

Як і заўсёды, перад баявой аперацыяй Мялешка павінен быў улічыць колькасць патронаў, гранат паўзводна. Па дарозе ён заглянуў у разведку.

На двары, пад паветкай, на дошках сядзелі разведчыкі. Ля часовай канавязі стаялі прывязаныя коні.

— Заходзь, пісар, заходзь, пакуры з намі,— запрасілі разведчыкі.

У іх заўсёды было курыць, бо лазілі яны там, куды звычайнаму партызану не дабрацца. У кожнага з іх у вёсках былі свае людзі, якія перадавалі не толькі звесткі аб гарнізонах, але і гасцінцы.

Мялешка закурыў, папытаўся ў іх наконт боепрыпасаў.

Яны адказалі, хоць ён і ведаў, што звесткі недакладныя, запісаў у сшытак.

Разведчыкі мелі найбольш нямецкія аўтаматы, а дзе яны даставалі для іх патроны, зноў жа была іхняя асабістая справа. Так што па разведузводу звесткі заўсёды былі прыблізныя.

— Ну, што там у штабе новага? — спыталіся ў яго.

— Нічога.

— Каго нам цяпер прышлюць, не ведаеш?

— А вы што, Блажко пахавалі ўжо?

— Мы адно ведаем, пісар, разведчык так проста не знікае. А калі камандзір знік, дык тут задумаешся.

— Нешта не разумею, пра што вы кажаце,— прызнаўся Мялешка.— Падазраваеце каго?

Разведчыкі пераглянуліся. Ад Мялешкі не схавалася, што ўсе яны неяк крадком зірнулі на маўклівага, у гадах Рыгора Калітку.

Хлопцы ў разведцы былі маладыя, гады па дваццаць тры, Калітка сярод іх выглядаў старшы. Было яму за трыццаць, па штабных дакументах Калітка лічыўся з дзесятага года. Ён ужо ваяваў і на Халхін-Голе, і на Карэльскім перашыйку, пад Выбаргам. Так што лічыўся вопытным разведчыкам. Хацелі яго прызначыць памочнікам камандзіра ўзвода, ды ён адмовіўся.

— Падазраваць проста,— сказаў Калітка.— Ды найчасцей падазраваюць невінаватых. Вінаватыя ўсё загадзя абдумаюць.

— А ўсё ж...

Калітка загадкава ўсміхнуўся, памаўчаў крыху.

— Дык каго ж нам у камандзіры паставяць? — спытаў ён.

— Не ведаю,— схлусіў Мялешка.

— Лапшына, каго ж яшчэ!.. — выгукнуў хтосьці з разведчыкаў.

Мялешка аж здзівіўся іхняй здагадцы.

— Лапшын сухар...

— Нічога, у нас памякчэе...

Мялешка пасядзеў крыху і пайшоў у другую роту. Два ўзводы былі на месцы, у пуні, трэці, дзе ўзводным Лапшын,— сказалі яму — пайшоў на вучэнне.

Яшчэ да блакады Золаў напісаў загад, у якім патрабаваў штодзённа праводзіць тактычныя заняткі паўзводна. Першых колькі дзён партызаны хадзілі строем, поўзалі па-пластунску, бегалі ў атаку — спасцігалі на жываце мудрасці ваеннай тактыкі і стратэгіі... Пасля блакады пра загад дружна забыліся. Але Лапшын па-ранейшаму, калі надаралася вольная часіна, выводзіў свой узвод.

Сабраўшы звесткі ў двух узводах, Мялешка пайшоў на поплаў за рэчку, дзе Лапшын праводзіў заняткі. Хацелася да ўсяго пабачыцца з Віцькам. Цяпер яны сустракаліся не так часта. То Мялешка заняты, то Віцька на заданні.

Віцька ўжо камандаваў аддзяленнем.

Яшчэ здалёк Мялешка ўбачыў, як па поплаве бягуць ланцужком партызаны, па камандзе падаюць,

паўзуць, зноў падхопліваюцца, бягуць пад гару, дзе засеў умоўны вораг. Пакуль Мялешка дайшоў да поплаву, заняткі скончыліся, і Лапшын разбіраў іх, бязлітасна высмейваючы камандзіраў аддзяленняў.

— А, пісар! — як заўсёды, іранічна сустрэў ён Мялешку.— Зноў па звесткі. Рапартую...

Лапшын выцягнуў з нагруднай кішэнькі рапарцічку, перадаў Мялешку.

У яго заўсёды быў парадак, не тое што ў другіх. Мялешка паклаў рапарцічку ў сумку.

— Стройся! — загадаў Лапшын.

Партызаны хуценька пастроіліся, пайшлі.

— Аць-два, аць-два, левай... левай...— камандаваў Лапшын, нібы хацеў паказаць каму, які ён здатны камандзір.

Толькі тады, як Лапшын падаў каманду: «Вольна, разыдзіся», Мялешка падышоў да Віцькі.

— Ну і служака,— сказаў Мялешка.

— І дарэмна,— абсек яго Віцька.— Лапшын талковы камандзір.

— А на шашы, памятаеш, як трухнуў...

— Я і пасля яго бачыў у баях. Па-мойму, у яго наогул адсутнічае страх,— адказаў Віцька.

— Дык што, па-твойму, тады было?

— Чорт яе разбярэ. Паглядзеў бы ты на яго ў апошнюю блакаду. Я з ім на прарыў ішоў. Ён галавы не прыгнуў. Каб не ён — хана была б мне. Мы на трох немцаў нарваліся, ужо як кола абароны прарвалі. Я разгубіўся, а Лапшын усіх траіх з аўтамата скасіў.

Мялешка падумаў, што, можа, у яго да Лапшына свой рахунак, таму і не можа ўгледзець ягоных якасцяў. Віцьку Мялешка верыў. І яму стала сорамна, што ставіцца да Лапшына з недаверам.

...Пад вечар нечакана для ўсіх атрад выправіўся ў паход на чыгунку. У штабе да часу не гаварылі куды, хоць па напрамку здагадваліся.

Мялешка папрасіўся ісці з другой ротай. Хацелася паглядзець на Лапшына ў баі, самому пераканацца ў ягонай смеласці.

Чыгунка тады ахоўвалася не так, як пазней, як ужо было пад восень. Нямецкія пасты стаялі за кіламетр-паўтара адзін ад аднаго. Перад цягніком яны правяралі палатно, шукалі міны. І, папраўдзе, знахо-

дзілі. Маленькія дыверсійныя групы ў бai з пастамі не ўвязваліся, стараліся паставіць міну або задоўга да таго, як пойдуць патрулі, або калі яны пройдуць. Немцы і тут знайшлі спосаб: зганялі сялян, ставілі іх на ўчастках, загадвалі не перашкаджаць ставіць міны, а дакладваць пасля, як мінёры адыдуць. Калі ж на чыім участку міна ўзрывалася, сям'ю такога вартаўніка разам з ім расстрэльвалі.

Дыверсійныя групы ўжо тыдні два тыцкаліся ў розных месцах да чыгункі, нават ставілі міны, але толькі глумілі тол.

Казмін надумаў напасці на эшалон. Гэта было новае...

Кіламетры за тры, у лесе, атрад пакінуў падводы і коней, пеша ішоў да чыгункі. Было гадзіны дзве ночы. Узводу Лапшына належала знішчыць пост з боку горада.

Узвод Лапшына заняў пазіцыю нязручную. Чыгунка тут крута выгіналася, ішла далей па крутым насыпе, а там, дзе размяшчаўся пост, ляжала нізка на зямлі. Перад узводам было балотца з невялікай рачулкай, якая па жалезабетоннай трубе бегла на той бок чыгункі.

Над балотцам слаўся туман, а недзе на тым баку, у полі, крычаў драч, быццам іраў анучкі. Партызаны дапаўзлі да самага балота. Да паста заставалася метраў сто. І хлопцы ляжалі, затаіўшы дыханне.

Лапшын так і сказаў:

— Калі хто азавецца: чхне, закашляе ці хоць слова скажа — застрэлю.

Сорак два чалавекі замерлі, зліліся з зямлёй. Во тады Мялешка і ацаніў Лапшына. Хацелася сказаць пра гэта Віцьку, але нельга было нават паварушыцца.

Падышлі яны ў час. Чорт яго ведае, ці вылежалі б хлопцы, каб цягнік паказаўся праз гадзіну. Ды і світаць пачало б.

З бункера, што быў насупраць узвода, выйшлі трое немцаў, памалу пайшлі, асвятляючы ліхтарыкам дарогу. Свяціў адзін. Двое трымалі напагатове аўтаматы.

Прайшло хвілін пятнаццаць, яны пачалі вяртацца назад. Цяпер, мусіць, папаўзлі да чыгункі мінёры. Яны пакладуць міну перад самым цягнікам, калі той падыдзе да паста.

Уначы ўжо чуўся гул цягніка, цяжкага, аж, здавалася, стогне зямля.

Да Віцькі падпоўз Лапшын.

— Як толькі пачуеш выбух, адкрывай агонь,— зашаптаў ён.— Камандаваць будзеш ты. Я папаўзу да бункера. Без гранат не абыдзецца.

— Добра,— адказаў Віцька.

Лапшын папоўз. З ягонай сумкі тырчэла ручка супрацьтанкавай гранаты. За ім папаўзлі яшчэ двое. Яны адпаўзлі ўбок, туды, адкуль ішоў цягнік.

Што праўда, Лапшын па-пластунску поўз выдатна. Аж люба паглядзець. Нібы тая гадзюка, толькі звівалася цела.

Цягнік паявіўся нечакана. З паравознага коміна ляцелі ў цемру іскры. Але ішоў ён няхутка. Ля паста засігналіў промнік ліхтара і знік. Ад напружання Мялешка аж прыўзняўся. Хацелася ўбачыць, як паляцяць пад адхон вагоны.

Вагоны ўсе каціліся паўз узвод, а выбуху не было. Нарэшце і зусім нечакана грымнула. Залязгалі недзе наперадзе буферы. Апошні вагон быў ад будкі метраў за пяцьдзесят. Ён яшчэ каціўся, але не падаў.

Мялешка пачуў, як захлопалі вінтовачныя стрэлы, як залапатаў кулямёт, і толькі тады ўспомніў, што трэба страляць і яму. Ён стрэліў і тут жа ўбачыў, як успыхнуў агеньчык у бункеры. Зацвыкалі, залопалі, разрываючыся ў зямлі, кулі.

Узвод апынуўся пад агнём кулямёта на роўнай, мабыць, прыстрэленай мясцовасці. Збоку нехта крычаў на адной ноце, аж было жудасна. І нельга падняць галавы, каб паглядзець, хто гэта.

Мялешка чуў, як закрычалі «ўра!» там, дзе спыніўся цягнік, як пачалася раз'юшаная страляніна. Партызаны беглі да цягніка. Мабыць, гэта і ўратавала ўзвод ад поўнага знішчэння. Кулямётчык перанёс агонь уздоўж палатна.

Віцька падхапіўся першы і таксама закрычаў: «Ура!», каб падняць хлопцаў у атаку.

Цяпер па ўзводу білі з аўтаматаў, але партызаны прабеглі яшчэ метраў трыццаць. Тады зноў ударыў кулямёт. Рэшткі ўзвода паваліліся на зямлю там, дзе каго застала чарга.

Раптам стала светла як днём. Мялешка падумаў, што немцы выпусцілі ракету і цяпер іх паб'юць, як дурных куранят.

У гэты час і выбухнула. Кулямёт замоўк. Хлопцы падхапіліся, пабеглі. Ля нямецкага бункера ўспыхнуў агонь і прагучаў яшчэ адзін выбух.

Мялешка з ходу ўваліўся ў акоп ці, можа, траншэю. Па ёй бег немец, а Лапшын даганяў яго. Немец павярнуўся і стрэліў, але не папаў у Лапшына, бо нехта прашыў яго аўтаматнай чаргой. Лапшын падбег, асцервянела біў нечым ужо нежывога немца. Толькі цяпер Мялешка ўбачыў, што ў Лапшына ў руках сапёрная рыдлёўка.

Хлопцы ўжо скончылі з тымі, што сядзелі ў бункеры. І цяпер беглі да цягніка. Мялешка ўбачыў Віцьку, страшэнна ўзрадаваўся, што той жывы. Хацеў гукнуць яго, але ўбачыў, што Лапшын ідзе да Віцькі, узняўшы над сабой сапёрную рыдлёўку. Ідзе так, як нядаўна ішоў на немца.

— Ты чаму, сволач, агнём нас не прыкрыў, увесь атрад пад удар паставіў?! — закрычаў Лапшын.

Мялешка кінуўся напярэймы, ухапіў Лапшына за руку.

— Галавы падняць нельга было,— закрычаў ён.

— А ты што ж, пісарчук, думаў, немцы страляць не будуць?

— Не шалей, Лапшын! Раненых ды забітых падабраць трэба.

Лапшын адразу астыў. Загадаў хлопцам, што апынуліся побач, падабраць параненых і забітых, а сам пабег да цягніка.

Той ужо гарэў. Недзе ля паравоза ярка палаў вагон. Другія толькі дыміліся, у іншыя хлопцы кідалі тэрмітныя шарыкі.

Мялешка з Віцькам пабеглі на балота. Ад пажару на поплаве мітусіліся цені. Здавалася, паўзуць людзі.

— Антон, ты ж паранены. У цябе кроў,— выгукнуў Віцька.

Мялешка нічога не адчуваў, але чамусьці адразу схапіўся за левае плячо: пальцы як прыліплі да цёплай вязкай крыві.

Цяпер толькі ён пачуў боль, тупы, як не свой. Мялешка паспрабаваў падняць левую руку. Яна была ні-

бы нежывая. У яго памутнела ў вачах. Здалося, што зямля выкаўзнулася з-пад ног, яны адарваліся ад яе, і ён паляцеў у бездань.

«Ну і што? — падумаў Мялешка ўжо цяпер, за трыдзевяць земляў, у Карлавых Варах, у сваім пакоі з акном на Вітаву гару, на цясніну, па якой цячэ халодная рэчка з назвай Тэпла — цёплая.— Ну і што? I ніякай адгадкі. Ці, можа, я не ўсё помню? За трыццаць і яшчэ тры гады з памяці маглі назаўсёды знікнуць нейкія важныя дэталі, словы, паводзіны, што навялі б на след? А потым, чаму я прыгадаў тую баявую аперацыю на чыгунцы? Вось ужо што не мае дачынення да тых падзей, дык гэта аперацыя на чыгунцы. Але ж ты прыгадаў яе нездарма? Ну і прызнайся сумленна, што і дасюль не дараваў Лапшыну таго арышту і падазрэння, якое ён навёў на цябе. Таму і шукаеш падстаў для абвінавачвання. Перабіраеш чужое жыццё, якое даўно згасла. Мёртвых абвінавачваць лёгка — яны не могуць абараняцца. Помніш жа, як напісаў аднаго разу ў часопісе пра падпольшчыцу, закатаваную ў засценках СД, а другая падпольшчыца — жывая і здаровая — прыбегла да цябе сварыцца, што зрабіў гераіняй здрадніцу і распусную бабу. Можа, і ў яе былі нейкія падазрэнні, няхай не абгрунтаваныя. А яна не проста падазравала, а абвінавачвала тую падпольшчыцу, а заадно і цябе. Пісала скаргі нешта больш года, паліваючы граззю жанчыну, якая вельмі многа зрабіла для Радзімы. Навошта ж ты варочаеш даўнія камяні? Трэба вырваць вайну з сэрца, нельга каб яна сядзела там да скону тваіх дзён, каб ты вечна ўспамінаў адно і тое ж...»

Мялешка падняўся з крэсла і доўга хадзіў па пакоі, мераючы яго ад аднаго кута, дзе стаяў маленькі радыёпрыёмнік, да другога, дзе тулілася мяккае, зручнае крэсла.

Было яшчэ не позна, а нават рана, можа, крыху за дзевяць вечара, але на двары стаяла ноч, і гірлянды электрычных ліхтароў ужо ярка гарэлі ў вячэрняй смузе. Над гарою аднекуль завіслі хмары, і месяц схаваўся за іх. Толькі Вітава гара серабрылася ў яго ззянні.

«Не,— думаў ён,— справа не ў Лапшыне ці ў кімсьці іншым. Справа ў Амендорферу. Ён стварае ілюзію рамантычнасці ваенных дзён. А ніякай рамантычнасці не было. Ён, Амендорфер, ходзіць у героях. Пяшчотны, сентыментальны немец, якому трэба жменька зямлі з магілы мужа сваёй сваячкі».

На стале моцна зазвінеў тэлефон, Мялешка аж уздрыгнуў. Званілі тыя ж, з кім сядзеў на Пятровай гары, у кафэ, запрашалі прайсціся па начным горадзе.

Па шырокай лесвіцы Мялешка спусціўся ўніз, у вестыбюль.

— А вы, мусіць, пішаце? — спыталася Валянціна Сяргееўна.— Трэба ж і адпачыць некалі.

— Праца, калі ў ахвоту, не стамляе,— сур'ёзна заначыў Васіль Андрэевіч.— Так сказаць, адзін з прынцыпаў будучага.

— Зараз пачнецца навуковы дыспут, а яны мне во дзе сядзяць,— сказаў Павел Валянцінавіч, выкладчык, і паказаў на шыю.— Пойдзем, падыхаем карлаварскім паветрам.

— І то праўда,— азвалася Ніна Іванаўна.— Таму не трэба затрымлівацца. Вы не пакрыўдзіліся, што адарвалі вас ад працы?

— А я і не працаваў. Сённяшняя сустрэча з тым немцам, што вітаўся з намі, навяла на цяжкі роздум.

— Ну-ну, пайшлі,— падагнаў інжынер.— Па дарозе і раскажаце.

Праз сквер, па пясчанай сцежцы, яны дайшлі да ланоўкі, выйшлі на вуліцу, якая крута паварочвала направа, агінаючы выступ скалы, спускалася ўніз, на другую, што ўпіралася ў касцёл.

Тут было цемнавата. У дамах ніводнага агеньчыка — мясцовыя людзі рана кладуцца спаць, бо і прачынаюцца рана, на ўсходзе сонца.

Проста на вуліцы, аж да самага касцёла, цісналіся ў гурт машыны самых розных марак. Над горадам ярка свяціў месяц-поўня, і дрэвы на схілах гор здаваліся блакітнымі.

Яны прайшліся ля магазінаў з яркімі вітрынамі, перайшлі мост праз Тэплу насупраць Карлаўскай крыніцы. Людзей тут трохі было. У прывідным святле месяца і вітрын людзі і самі выглядалі прывідна і неяк таямніча.

Мялешку не хацелася ў другі раз усчынаць гаворку пра Амендорфера, і ён быў рады, што ніхто не нагадаў пра яе.

Далёка ад дому людзі найчасцей прыгадваюць сям'ю, працу, сяброў; гаворка адразу ж і пайшла гэтым кірункам. Мялешка ў яе не ўмешваўся. Ішоў, слухаў ды прыглядаўся да цёмных ужо дамоў і да людзей, якія спяшаліся ў свае гатэлі або ішлі, як і яны, купкамі і размаўлялі. На самых розных мовах.

Дзіўна, але зноў ягоныя думкі скіраваліся ў адзін бок, у былое, у тыя дні, калі і ў гэтым курортным гарадку, і ў гарадках навокал дзейнічалі фашысты. Мінулыя разы Мялешка шмат хадзіў па Карлавых Варах. Дасведчаныя людзі многа чаго яму расказалі, у тым ліку і пра далёкія трыццатыя гады, пра нараджэнне тут фашызму. Але тады ён чамусьці ставіўся да ўсяго, як нядбайлівы турыст, у якога расказанае ў адно вуха ўлятае, а з другога вылятае. Цяпер усё прыгадвалася інакш.

Вось там, ля касцёла, у вузенькай вулачцы была некалі папяровая крамка. Служыў у ёй высокі белабрысы малады чалавек з ветлівай усмешкай на дагледжаным твары. Ён спрытна заварочваў пакункі, дзякаваў, запрашаў заходзіць яшчэ, пакорліва схіляў гладка прычасаную, з бездакорна роўным праборам галаву. Потым ён адкрыў маленькае выдавецтва. Ніхто не ведаў — разбагацеў ці што. А неўзабаве ён ішоў па Карлавых Варах побач з фюрэрам, гатовы на ўсё: спаліць Лідзіцэ разам з яе жыхарамі, змесці з зямлі ўсю Чэхію, калі таго запатрабуе фюрэр, і ўвесь свет. Яго звалі Франк.

Мялешку прыгадаўся здымак: Франк, Гейдрых, Гелейн ідуць поруч з Адольфам Гітлерам — пахмурным, недарэчна карыкатурным у сваім доўгім шынялі «звышчалавекам» — на фоне карлаварскай галерэі. Усе трое вясёлыя, шчаслівыя і бадзёрыя. Ідуць да сваёй шыбеніцы. Пра яе яны яшчэ не ведаюць: гэта была першая прыступка. Потым будуць Лідзіцэ, газавыя камеры, Хатынь. Крывавыя прыступкі да ганьбы і пятлі на перакладзіне нюрнбергскай шыбеніцы.

А што іншае мог прынесці непрыкметны прадавец паперы і канцылярскіх рэчаў, злосны на ўвесь свет?

Раптам Мялешку здалося, што ён чуе крокі гэтай

страшнай чацвёркі: суладныя, чоткія крокі вайскоўцаў. Ён павярнуўся і пазнаў Амендорфера. З ім двое: адзін зусім малады, у вялікіх акулярах з залатымі дужкамі, другі — троху старэйшы, тлуставаты і ўжо лысы. Яны абагналі Мялешкаву кампанію, спыніліся насупраць гатэля — «Красна Крулеўна» і з нейкай цікавасцю пачалі ўглядацца праз раку на балкон драматычнага тэатра.

Мялешка ведаў, чаму яны глядзяць на балкон. З яго выступаў Гітлер...

«Чакай, чакай,— сказаў ён сабе,— на тым здымку ёсць Амендорфер. Ён ідзе між Гелейнам і Гітлерам, на крок ззаду, і ўсміхаецца... Дык вось чаму мне здалося, што я яго ведаю».

Мялешку захацелася дацяць Амендорфера.

— Ноч месячная, пан Амендорфер, і здані на балкон не выйдуць,— сказаў ён.— Здані зніклі назаўсёды!..

Мялешкаў зварот да Амендорфера выклікаў трывогу ў спадарожнікаў таго. Яны пераглянуліся, насцярожана нешта запыталіся ў Амендорфера.

Той павярнуўся да Мялешкі:

— Трапіў бы ты мне дзе-небудзь у другім месцы...

«Нарэшце такі ў яго здалі нервы»,— узрадаваўся Мялешка.

Амендорфер адразу ж узяў сябе ў рукі. Ён спакойна павярнуўся і пайшоў у гатэль.

«Дык вось дзе ён жыве! Значыць, тут і Юта, і Марта. Цікава, ці скажа ён ім пра нашу начную сустрэчу?» — падумаў Мялешка.

Закаваная ў каменныя берагі Тэпла каціла па скалістым днішчы халодную ваду. З гатэля «Масква», з бара, выходзілі людзі — кончыліся танцы, і курортнікі разыходзіліся па сваіх гатэлях, вясёлыя і ўзбуджаныя. На прыпынку каля першых лазняў у чаканні апошняга аўтобуса сабраўся даволі вялікі натоўп — мусіць, усе тыя, хто весяліўся ў гэты вечар у бары гатэля «Масква». Насупраць гатэля «Масква», па другі бок Тэплы, асветлены месячным святлом і двума ліхтарамі, туліўся між іншых дамоў прысадзісты будынак яшчэ аднаго гатэля. У ім некалі атлусцелы ад прэпаратаў, якімі лячылі яго ў шведскай псіхіятрычцы, Герман Герынг наладжваў начныя оргіі для выбраных. «Маленькі бар-

дачок вялікага чалавека» — называлі яго блізкія Герынгу саслужыўцы.

У пад'ездзе гатэля неслі варту салдаты са спецыяльнага ахоўнага батальёна. А на ўсходзе другія салдаты ішлі ў атаку, палілі гарады і вёскі, расстрэльвалі, наводзілі жах на людзей, каб вечна існаваў «маленькі бардачок вялікага чалавека».

«Не, Амендорфер, дарэмна ты імкнешся даказаць сваім суайчыннікам, нібы ваяваў за высокія ідэалы. Маленькі бардачок не меў ніякіх ідэалаў, як і ўвесь ваш фашысцкі бардак...» — у думках сказаў Амендорферу Мялешка.

За касцёлам, дзе над дарогай павісае скала, было цемнавата і пустынна. Рэдкія ліхтары чамусьці гарэлі тут цьмяна, а магутныя дрэвы па скалах кідалі густы чорны цень.

Спадарожнікі Мялешкі падзяліліся на дзве групы. Мялешка ішоў у апошняй з выкладчыкам і Валянцінай Сяргееўнай. Ён яшчэ днём заўважыў, што выкладчык заляцаецца да Валянціны Сяргееўны, і яна, здаецца, ставіцца да выкладчыка прыхільна, таму Мялешку было крыху няёмка, усё думалася, што ён трэці лішні, што замінае ім. Ён быў хацеў пакінуць іх, але Валянціна Сяргееўна ўзяла яго пад руку.

— Што вы, што вы,— сказала яна.— Мы зараз зойдзем да мяне і пасядзім крыху. Я жыву адна.

Яны спрамавалі шлях, падняліся па крутаватай сцежцы на гару і адразу трапілі на дачу «Мінерва», а адтуль па яшчэ больш крутой узабраліся на пляцоўку, дзе стаяў санаторый.

Валянціна Сяргееўна жыла адна ў вялікаватым пакоі левага крыла санаторыя. З акна відаць была Пятрова гара, вастраверхая альтанка на кручы і нават бронзавы алень у блакітным месячным ззянні.

Валянціна Сяргееўна дастала пляшку каньяку, два грэйпфрукты, паставіла тры нізкія пузатыя бакалы з абстрактным серабрыстым узорам.

— Давайце баляваць,— сказала яна.— Павел Валянцінавіч, налівайце.

Выкладчык наліў пакрысе.

— За што мы вып'ем? — спытаўся ён і паглядзеў на Валянціну Сяргееўну.— Як кажуць палякі ў такіх выпадках: у першы раз за пекных пань?

— Не, не,— запярэчыла Валянціна Сяргееўна,— давайце вып'ем за вечны сум па родных мясцінах. Бо як бы ні было хараша ў санаторыі, як бы цябе ні акружалі клопатам і ўвагай, а страшэнна хочацца дамоў. Нават чарга ў магазіне, якую мне штодня пасля працы даводзіцца выстойваць, здаецца цяпер мілай забавай.

— За сум, але без чаргі,— засмяяўся Павел Валянцінавіч.

— А вы не смейцеся! І чарга, і ўсё тое, што мы называем недахопамі, але найбольш нашая таварыскасць, сардэчнасць і ўсё тое, што зроблена, што мы маем і на што не вельмі звяртаем увагу, да чаго прывыклі,— усё гэта наша, наш дом, без якога чалавек падобны на адарваны лісток.

— Узнёсла, але шчыра,— пахваліў Павел Валянцінавіч.— Давайце ж вып'ем, бо, яно і праўда, нешта пачынае агортваць сум.

Яны выпілі, і гаворка скіравала некуды ўбок, на неістотнае, неабавязковае і нецікавае. Мялешка пасядзеў крыху і, хоць яго не пускалі, пайшоў да сябе.

Пакой быў заліты месячным святлом, і ён не стаў запальваць люстры, а сеў у крэсла, адчыніўшы балкон. З панадворка пацягнула халаднаватым паветрам. Спачатку па нагах. Было прыемна сядзець і ні аб чым не думаць. Ды неўзабаве ён адчуў, што азяб, а замест нядаўняй расслабленасці прыйшла бадзёрасць.

Тады ён запаліў настольную лямпачку-пражэктар, пасунуў да сябе стосік паперы, і сапраўды, напісаў некалькі сказаў, выпадковых і яшчэ не асэнсаваных, нейкіх непрыгладжаных думак, якія мімаволі авалодалі ім. Сказы гэтыя здаліся яму адкрыццём, хоць ён зусім не ўяўляў, ці спатрэбяцца яны яму.

Такіх сказаў-думак у яго было запісана шмат, то на чыстых аркушах, то на шматках паперы, што трапілася пад руку, то яшчэ бог ведае на чым. Ён складаў іх у папку, папярэдне скалоўшы скрэпкай. Праз шмат гадоў гэтыя сказы памагалі, Мялешка аж дзівіўся, як ён раней не звяртаў увагі на такую цікавую думку.

Ён быў хацеў і яшчэ нешта запісаць, нейкую думку, пакуль яшчэ не акрэсленую, не выразную, паспрабаваў нават аздобіць яе словам і адчуў, што зноў вяртаецца ў мінулае. І не проста вяртаецца, як было дасюль.

«Юта назвала забітага ў Красынях Вернерам? «Бедны Вернер»,— сказала яна. Чаму Вернер? Хіба таго немца звалі Вернер? Вельмі знаёмае імя... Чаму я не спытаўся, якое прозвішча ў Марцінага мужа? Вінаваты зноў жа Амендорфер. Вывеў з раўнавагі сваёй недарэчнай прапановай... Ну, добра, пастарайся лагічна і дакладна прасачыць усе падзеі пасля смерці Васі Блажко. Не трэба спяшацца, пераскокваць у часе. Галоўнае — не выпусціць ніводнай дэталі».

Мялешка лёг у ложак. Лежачы, яму думалася больш прывычна.

«Дык што было назаўтра пасля аперацыі на чыгунцы?»

Ён стараўся ўспомніць і не мог. Дзень сцёрся ў памяці беззваротна. А яму здавалася, што назаўтра адбылося нешта такое, што магло наблізіць яго да разгадкі даўняй таямніцы.

Яна, гэтая дэталь, нейкая нязначная падзея, не давала магчымасці рушыць далей. Мялешка ледзьве перамог сябе.

«Ліха з ім, тым заўтрашнім днём,— сказаў ён сабе.— Ліха з ім. Усё роўна не ўспомню, хоць біся галавой аб сцяну».

— Пакліч Дразда,— папрасіў Казмін Мялешку, калі яны былі ў хаце адны.— Толькі не кажы, што патрэбны мне. Я вас буду чакаць у садзе.

Параніла Мялешку не моцна. Абалонка разрыўной кулі наўскос узарала плячо аж да самага хрыбта, засела пад скурай. Атрадны ўрач — фельчарыца з Дуброўны — выцягнула кулю, прамыла настоем дзівасілу рану, перавязала плячо кавалкам палатна — як спавіла. Але хадзіць і ездзіць было можна.

Віцька спаў, адсыпаўся пасля нарада ў каравуле.

— А-а, пісарчук, чаго пажалаваў?— сустрэў Мялешку Лапшын.

— Да Віцькі прыйшоў. Можа, дазволіш прайсціся з ім?

— Камандзір павінен добра выспацца,— павучальна сказаў Лапшын.— Камандзір, які не выспаўся, дрэнны камандзір.

— Да вечара далёка, выспіцца,— адказаў Мялешка.

— А што там у вас у штабе новага?

— Нічога.

— Кандыдатуру на разведку не падабралі?

— Здаецца, не знайшлі.

— Цягнуць. А разведка — вушы і вочы атрада. Дык, кажаш, хочаш пабачыцца з Віцькам? А чаму?

— У шашкі згуляць,— схітраваў Мялешка.— Адзін я ў штабе. Сумна.

— Вы, штабнікі, навыдумляеце. Сумна! Рабіць вам няма чаго. Ну, ды ведай маю дабрыню, будзі свайго Віцьку. Толькі каб праз дзве гадзіны быў на месцы. Як штык!

Камісар сядзеў пад яблыняй. Устаў, паціснуў руку.

— Можа, пройдземся крыху? Ёсць тут адна сцяжынка, ціхая такая. Ты, Мялешка, з намі хадзі. Бо і цябе гэта будзе датычыць.

Казмін выйшаў з саду, пайшоў па бульбе, па баразне, у поле.

Мялешка з Віцькам ішлі следам, абодва здзіўленыя паводзінамі камісара.

За жытам у полі раслі бярозы абапал зараслай няезджанай дарогі — старога Кацярынінскага шляху.

— Ну, вось і прыйшлі — сядайце...

Казмін сеў пад бярозу.

Адсюль, з-пад гэтай бярозы, былі відаць усё поле, хутары, але ці ёсць хто пад бярозай, не адразу ўгледзіш. І ўсё ж Казмін нейкі час прыглядаўся, прынюхваўся. Нідзе нікога не было, ды і не магло быць. Дзе тут схаваешся, калі ўсё відаць як на далоні?

— Дык вось што, Віця,— пачаў Казмін і паклаў руку на Віцькава калена.— Сёння табе камандзір прапануе ўзяць на сябе разведку.

— Што ты, камісар!..

— Не адмаўляйся. Справа вырашаная. Але паклікаў я цябе не за гэтым. Скажы, што за чалавек Лапшын?

— Строгі, смелы камандзір,— адказаў Віцька.

— Гэта я ведаю... У тую ноч, як прапаў Блажко, дзе быў Лапшын?

— Слухай, Восіп,— абурыўся Віцька,— дарэмна падазраеш Лапшына. Мяне, ды і яго, Антона, таксама падазравалі. Так ваяваць нельга, калі мы пачнём адзін аднаму не давяраць.

— Я не падазраваю. Я высвятляю некаторыя абставіны.

Чаму ты абараняеш Лапшына?— спытаўся Мялешка.— Ён не пасаромеўся чорт ведае што выдумаць пра нас з табой.

— Я хачу быць аб'ектыўным,— адказаў Віцька.— Тады наплявузгаў на нас Анікейчык, а не Лапшын.

— Але Лапшын ухапіўся за хлусню, і гэта магло вельмі дрэнна скончыцца,— запярэчыў Мялешка.

— І ўсё роўна Лапшын адзін з лепшых узводных,— стаяў на сваім Віцька.

— Ну, добра. Хай будзе так,— сказаў Казмін.— Цяпер пра другое. Пра твае, Віця, абавязкі. Так ужо склалася ў нас, што атрадная разведка мае дзве функцыі: прамую разведку і схаваную ад старонніх вачэй. Першая табе вядома. Конныя разведчыкі ўвесь час знаходзяцца ў раз'ездах. Іх задача — у час заўважыць ворага, у час паведаміць камандаванню, каб ніякіх нечаканасцяў не было. Дзяўчаты, што ў тваім распараджэнні, прабіраюцца ў блізкія да гарнізонаў вёскі, высвятляюць колькасць варожых сіл.

— Я ведаю,— адказаў Віцька.

— Але гэтага мала. Патрэбна яшчэ глыбокая агентурная разведка.

— Не па маіх зубах гэта,— сказаў Віцька.— Не дарос яшчэ.

— Справа не ў гадах, калі ты на іх спасылаешся,— зазначыў Казмін.

— І ў гадах,— адказаў Віцька.

— Мне таксама не трыццаць,— сказаў Казмін.— Дваццаць пяць усяго.

Мялешка з Віцькам пераглянуліся. Ім здавалася, што камісару гадоў пад сорак.

— Так што гады ў разлік не будзем браць,— усміхнуўся Казмін.— А вопытам падзелімся. У разведцы няма дробязяў. Усё важна. Паспрабуем разгледзець смерць Блажко з розных бакоў. Дапусцім, Блажко напаў на чыйсьці след, а нейкай дробязі не ўлічыў. Маленькай такой дэталькі. І яго ліквідавалі.

— Чакай, камісар,— перапыніў яго Віцька,— ты лічыш...

— Па-твойму, немцы дурні? У іх пад бокам брыгада, а яны і не чухаліся? Уяві сабе вайсковую субардынацыю. Нехта «А», назавём яго так, выклікае «Б» і пытаецца, што таму вядома пра нашу брыгаду, пра наш партызанскі атрад. «Б» мае сякія-такія звесткі, але «А» незадаволены імі. Тады «А» і загадвае «Б», кроў з носа, а заслаць у брыгаду свайго разведчыка. Цяпер глянем на гэтую справу з другога боку. Брыгада наша расла, як на дражджах. Глеба дужа спрыяльная, каб немцы на ёй не пасадзілі свайго агента. Лагічна?

— Лагічна,— выгукнуў Мялешка.

— Ты мяркуеш, што агент гэты ў нас?— спытаўся Віцька.

— Я разважаю,— адказаў Казмін.— Наш атрад апынуўся на подступах да горада і да чыгункі. Таму немцы зацікаўлены, каб іх агент быў у нас. Вядома, ён можа сядзець паблізу ад штаба брыгады, але ў нашым атрадзе яму зручней. І ў сэнсе аператыўнасці, і ў сэнсе сувязяў. Але і гэта не ўсё. Ёсць адна акалічнасць, пра якую я і хацеў пагаварыць з вамі. Акалічнасць вельмі сакрэтная...

Казмін падняўся, паглядзеў па баках, зноў сеў. Мялешка аж увесь напруніўся, а Віцькка як бы абыякава паставіўся да яго ных слоў. Хоць і яго разбірала цікаўнасць, але Віцька ўмеў хаваць свае пачуцці.

— Справа вось якая. Красыні не проста гарнізон, апорны пункт немцаў на пярэднім краі з партызанскай зонай. Адсюль закідваюцца шпіёны на Смаленшчыну і ў савецкі тыл. Асінае гняздо, я вам скажу, гэтыя Красыні.

— Дык што ж тут сакрэтнае?— не выцерпеў Мялешка.

— Ну нецярплівы,— усміхнуўся Казмін.— А сакрэтнае вось што. У гэтым асіным гняздзе мы маем свайго чалавека.

Мялешка аж падскочыў ад гэтай тайны, нават не таму, што даведаўся пра яе, а ад таго даверу, які аказаў яму камісар. Камісар як бы ўвёў яго ў святая святых тых спраў, якія не належыць нікому ведаць, апроч самага вузкага кола людзей. І тое, што ён,

Мялешка, аказаўся дастойны такога даверу, цешыла яго самалюбства. Ён пабаяўся вымавіць нават слова, каб не здалося, што лезе туды, куды яго не просяць. Затое Віцька да камісаравага паведамлення аднёсся вельмі крытычна, аж Мялешку зрабілася няёмка.

Па-першае, Віцька спытаўся: «А хто той чалавек? Немец?» — што само па сабе здалося Мялешку непрыстойным і нават забароненым.

— Немец...— адказаў Казмін, як бы не заўважаючы Віцькавага жадання глыбей пранікнуць у тайну.

— Дык ці можна яму верыць?— спытаўся Віцька.— Можа, нам падсунулі яго спецыяльна? Сам жа кажаш, што тут асінае гняздо.

На здзіўленне, Казмін не толькі не абурыўся, а нават пахваліў Віцьку.

— Асцярога твая законная,— сказаў ён.— Але мы правяралі і пераправяралі яго. Ды і справы яго-ныя сведчаць за яго, а не супраць.

— Правяраць нам цяжка,— не пагадзіўся Віцька.— Як яго праверыш? А немцам, камісар, я не веру. Фашысты яны, пагалоўна фашысты. Бо той, хто быў супраць фашыстаў, або расстраляны, або сядзіць у канцэнтрацыйным лагеры.

Казмін сарваў адзінокую мятліцу, перакусіў.

— Думаць, што ўсе немцы — фашысты, не толькі няправільна, але і шкодна,— з цвёрдай перакананасцю сказаў Казмін.— Людзей можна прымусіць маўчаць, зусім не думаць можна прымусіць толькі тых, хто дасюль не вельмі думаў. Фашысты не маглі ўсіх немцаў адвучыць думаць. Маўчаць навучылі. Ды пад Масквой многія працверазелі. Цяпер во партызанства наша прымушае задумацца. Адным словам, шмат ужо хто з немцаў пачынае разумець, што камунізм, якім іх палохалі, зусім не страшны, а, наадварот, адзіны для іх ратунак ад спусташэння жывой душы. Не скажу, што такіх многа, можа, нават мала, але зноў жа чалавечыя душы да часу схаваны глыбока. Як пра іх дазнаешся? Але будучыня за тымі, хто думае. І мне, Віця, зусім не абыякава, што стане з Германіяй пасля вайны. Зноў яна стане інкубатарам якой-небудзь новай разнастайнасці фашызму ці зусім новага ладу, пры якім для фашызму не будзе разгону. Што ж датычыць немца, пра якога я гаварыў, дык ён

з такіх, хто не прымаў фашызму ніколі, хоць ён і не камуніст.

— Чакай, Восіп,— перапыніў камісара Віцька.— У тваіх меркаваннях не ўсе канцы сыходзяцца. Па-першае, як вы маглі з ім звязацца, калі сам кажаш, што ў немцаў думкі на самае дно схаваны? А па-другое, як жа ён тут апынуўся, а не на фронце?

«Ну, чаго ён, чаго, як допыт вядзе?» — абурыўся ў думках Мялешка, а ўголас сказаў:

— Кінь, Віцька, сумнявацца. Быццам да цябе ніхто не думаў. Сказана: правяралі і пераправяралі...

Мялешку, папраўдзе, хацелася дагадзіць камісару.

— Дрозд правільна пытаецца. Інакш і нельга,— пахваліў Віцьку камісар.— Магу на абодва твае пытанні адказаць. Як мы з ім звязаліся? Доўгая гісторыя. А чаму ў Красынях, а не на фронце, бо ў яго сваяк вельмі ўплывовы і фашыст да мозгу касцей.

— Хоць і канкрэтна, але не дужа пераканаўча,— адказаў Віцька.

— Пераканаўча тое, дарагі мой недаверлівы разведчык, што немец гэты перадаваў нам такія звесткі, цану якіх цяжка вызначыць.

— Я таму сказаў, што вельмі ўжо ўсё неверагодна.

— Калі для немцаў, дык вельмі добра. Таму яны і не маглі трапіць на след. Хоць падазраю, што пра тое-сёе пачалі здагадвацца. А паколькі ўсё, здаецца, высветлена і пытанняў больш няма, пераходжу да галоўнага. Немец гэты, антыфашыст, павінен быў перадаць нам надзвычай важныя звесткі. Дык вось, звесткі гэтыя мы не атрымалі...

— Чаму?— мімаволі спытаўся Мялешка.

Віцька з дакорам паглядзеў на яго: дзівак, маўляў, пытаецца... Каб Казмін ведаў чаму, дык хіба клікаў бы?.. Але камісар адказаў і на гэтае пытанне:

— Немец не выйшаў на сувязь.

— Яго арыштавалі,— выказаў здагадку Мялешка.

— Каб арыштавалі, дык мы даведаліся б адразу,— спакойна сказаў Казмін.

— Чаго ж тады турбавацца?— здзівіўся Віцька.— Не выйшаў на сувязь, дык выйдзе.

— Турбавацца, сапраўды, як бы і рана. Але вельмі ўжо шмат набралася нечаканасцяў. Немец не выходзіць на сувязь — раз. Камандзір разведкі едзе

ноччу па нейкай справе і знікае бясследна — два, запасная яўка, на крайні выпадак, не выкарыстана — тры. Аперацыя, якую мы праводзім без падрыхтоўкі, удаецца — чатыры.

Мялешка ніяк не мог зразумець, чаму чатыры разрозненыя факты непакояць камісара. Або Казмін штосьці ўтойвае, або ён, Мялешка, не ўмее зазірнуць глыбей у сутнасць падзей.

— Калі не сакрэт, Восіп...— Віцька запнуўся, як бы раздумваючы, ці варта гаварыць далей.

— Калі не сакрэт — адкажу,— засмяяўся камісар.

— ...Як падтрымлівалася сувязь?

— Сувязному ў Красынях падаваўся знак, што тайнік запоўнены. Ён браў звесткі і адносіў іх у Дабрамыслю. Адтуль яны траплялі ў тайнік. Па знаку дабрамысленскага сувязнога наш чалавек з атрада забіраў іх.

— Блажко?— узрадаваны, што ён нарэшце пра нешта здагадваецца, спытаўся Мялешка.

— Не, Клаўдзя Белахвосцікава,— адказаў Казмін.

— Блажко хіба нічога не ведаў? — здзівіўся Віцька.

— Аперацыю гэту вёў я,— сказаў Казмін.— Пра немца ведаў толькі я. Таму і непакоюся, дзе дапусціў памылку.

— Памылку? — здзіўлена вымавіў Мялешка.

— Некаторыя акалічнасці сведчаць, што памылка недзе была. Дабрамысленскі сувязны падаў знак, што тайнік не пусты. Клаўдзя ідзе, але ў тайніку знаходзіць не звесткі, а запіску сувязнога, што ў яго правялі вобыск і што, ён падазрае, не выпадкова, а таму просіць на час закрыць яўку. А ці ведаеце вы, дзе знайшлі канец абарванага повада? На закінутым хутары пад Дабрамысляй!.. Там, ля лазні, быў прывязаны конь. А дзе Блажко?

— Маглі схапіць жывога,— выказаў чутую ад Пашына думку Мялешка.

— Тады ён сустракаўся з кімсьці знаёмым. Прывязаў каня, падышоў, яго і схапілі. А каня пакінулі. Чаму? — Восіп, здалося, падводзіў іх да нейкай высновы.

— Яго забілі з бясшумнай вінтоўкі,— выгукнуў Мялешка.— Восіп, няўжо Лапшын? Нездарма ён пачаў прыстрэльваць бясшумкі.

Віцька недаўменна зірнуў на камісара.

— Вы што, і праўда, яго падазраваеце?

— Вось так, хлопчыкі... Незразумелага шмат, але адно бясспрэчна, што ланцужок недзе парваўся і, можа, адзін канец яго трымае варожая рука,— сказаў Казмін.

— Ці наадварот,— падхапіў Віцька, аж Казмін павярнуўся да яго,— можа, у шэрагу выпадковасцяў толькі адна па-сапраўднаму выпадковая і мае непасрэднае дачыненне да справы.

— Таксама лагічна,— адказаў Восіп.— Ды вось паклікаў вас не дзеля таго, каб марна траціць час. Ты, Віктар, прымеш сёння разведку. Будзеце ўсю ноч весці нагляд за Красынямі. Калі мае меркаванні правільныя, немцы пастараюцца зрабіць засады, каб перашкодзіць нам выйсці на сувязь. Трэба апярэдзіць іх. Абстраляць, але ў бой не лезці. Калі засады не выявіце, на світанні адкрыйце агонь па Красынях. Лепей за ўсё з боку Выдрэі. Толькі вельмі на ражон не лезьце. Ваша задача — разведка. Астатняе — пасля. Ты, Антон, мне паможаш. Вось пакуль што і ўсё.

Трэба было разыходзіцца, але ніхто не падымаўся. Нібы ўсіх да зямлі прыціснуў цяжкі, аж не ўстаць, груз.

— Скажы, камісар, а чаму ты нас выбраў? — памаўчаўшы, спытаўся Віцька.

Казмін загадкава ўсміхнуўся.

— Ёсць меркаванні,— адказаў ён.

Усё гэта прыгадалася Мялешку без вялікіх намаганняў, быццам ад таго часу мінула не трыццаць тры гады, а тры дні. Але тая падзея, што адбылася назаўтра, пасля аперацыі на чыгунцы, чамусьці не прыходзіла на памяць.

«А можа, і не было ніякай падзеі? — падумаў Мялешка, зноў перабіраючы ў памяці акалічнасці тых дзён. Можа, мне толькі здаецца, што нешта тады адбылося. Чакай, чакай, а ці не ў той дзень я застаў Клаўдзю і Лапшына?»

Сустрэчу тую Мялешка памятаў добра. Ён пайшоў да разведчыкаў. Ля канавязі не было ніводнага каня — разведчыкі раз'ехаліся на заданні, якія ў адсутнасць камандзіра даваў Золаў.

Ён, Мялешка, пастаяў на двары, хацеў ужо вяртацца ў штаб, як раптам пачуў голас Клаўдзі. Нават не голас, а смех. Тады ён пайшоў у хату.

Дзверы ў хату былі адчынены. Мялешка ўвайшоў у пярэднюю, зірнуў у бакавы пакойчык і як аслупянеў ад здзіўлення: Лапшын цалаваў Клаўдзю.

Ад неспадзяванасці, няёмкасці і нейкага злога сораму Мялешка выскачыў у сені, зачапіўся за край лаўкі, на якім стаяла пустое вядро.

— Хто там? — крыкнула Клаўдзя.

Мялешка спыніўся — і ў час. На парозе паявілася Клаўдзя, уся чырвоная, збянтэжаная.

Мялешка зрабіў выгляд, што ён толькі што зайшоў у сені і скінуў вядро. Але ад Клаўдзі, здаецца, не схавалася ягоная няшчырасць.

— Ходзіш тут... А я, можа, пераадзявацца хацела.

— Навошта ж дзверы кідаеш адчыненымі?

З-за перагародкі выйшаў Лапшын.

— А я думаю, з кім ты тут,— сказаў ён Клаўдзі і спытаўся ў Мялешкі: — Ты куды ідзеш? Можа, па дарозе, дык пойдзем разам.

Лапшын абняў Мялешку за плечы, вывеў з хаты. Нейкі час яны ішлі моўчкі.

— Слухай, Мялешка,— першы загаварыў Лапшын,— не трапіся, што мы з Клаўдзяй абдымаліся. Кахаю я яе. Скажаш каму, раздуюць такое кадзіла. Мне ўсё роўна, а дзеўку зганьбіш. Я цябе як мужчына мужчыну прашу.

Мялешка паабяцаў маўчаць. Была для гэтага яшчэ адна прычына. Адзін ён, Мялешка, ведаў, як сохне па Клаўдзі Віцька Дрозд. Раней дык Мялешку здавалася, што і Клаўдзя да Віцькі неабыякавая. Убачанае абурыла Мялешку. Але ён ведаў Віцькаў характар. Лепей прамаўчаць. У клопатах і трывогах той выпадак забыўся.

А цяпер настырная памяць як назнарок падсунула яго, і як бы ўсё стала на месца.

«Лапшын быў там агентам немцаў, пра якога гаварыў Казмін,— у думках сказаў сабе Мялешка.—

Праз Клаўдзю Вася Блажко напаў на ягоны след і, напэўна, задумаў злавіць Лапшына ў часе сустрэчы з сувязным. Але Лапшын праз тую ж Клаўдзю нейкім чынам даведаўся, што Блажко западозрыў яго, і забіў Васю... Мог ён непрыкметна ўстаць ноччу, калі ўсе моцна спалі, і пайсці на хутар. Да хутара кіламетра паўтара, не больш... Усё нібы правільна. Усё, ды не ўсё...» Нешта не сыходзілася з тымі акалічнасцямі, пра якія гаварыў тады Казмін. Наадварот, прыдуманае зараз дадавала да шэрагу выпадковасцяў нейкую новую выпадковасць, якая канчаткова блытала ўсё.

Ланцужок раптам парваўся, як гнілая нітка. Але не толькі таму, што не ўсё паддавалася логіцы. Была яшчэ адна немалаважная акалічнасць: смерць Лапшына, якая апраўдвала яго перад судом памяці.

Хоць і ў смерці Лапшына цяпер бачылася штосьці таямнічае. Сам напрасіўся ахоўваць гаспадарнікаў, якія паехалі нарыхтоўваць прадукты. Вяртаючыся ў атрад, трапілі на засаду. Лапшын з трыма партызанамі сталі прыкрываць абоз. Гаспадарнікі вярнуліся, Лапшын і трое партызан загінулі. А можа, не ўсе загінулі?..

Увечары таго ж дня, калі Казмін гаварыў з імі пад бярозай закінутага Кацярынінскага шляху, Віцьку выклікалі ў штаб.

Віцька зайшоў, далажыў па ўсёй форме, што з'явіўся па выкліку.

Камісар нешта пісаў у сшытак, адарваўся ад занятку.

— Сядай, таварыш Дрозд,— сказаў ён Віцьку.

Віцька сеў у парозе на лаўку.

Пашын прайшоўся па хаце, спыніўся перад Віцькам.

— Мы тут раіліся,— сказаў ён,— і вырашылі вылучыць цябе на камандзіра ўзвода разведкі.

Золаў перастаў чысціць пісталет «тэ-тэ», здзіўлена зірнуў на Пашына, потым на Казміна.

— Вы што, у дзіцячы сад гуляеце? — спытаўся ён.— Вочы і вушы атрада, а вы... За разведку я адказваю...

— І я,— спакойна сказаў Казмін.

— Маглі б са мной параіцца...

— Твая думка нам вядомая,— адказаў Казмін,— Лапшын. А ён лепшы камандзір узвода. Дык ці варта яго з аднаго ўзвода на другі перакідваць? Дарэчы, і Мялешку са штаба пераводзім. Хай разам у разведцы працуюць.

— Ты, Золаў, ёлачкі-палачкі, не станавіся ў апазіцыю,— нечакана цвёрда папярэдзіў Пашын.— Ты за разведку адказваеш, а хто мне за Блажко адкажа?

Мусіць, Віцька адчуваў сябе няёмка, бо ён падняўся, казырнуў.

— Таварыш камандзір, калі загадаеце прыступіць да выканання абавязкаў камандзіра разведкі?

— Сёння ж і неадкладна,— адказаў Пашын.

— Я хутка прыйду да вас,— сказаў Казмін.

— Дазвольце ісці?

— Дазваляю! — сказаў Пашын.

Мялешка таксама выйшаў следам за Віцькам. Той чакаў яго на двары.

— Самае непрыемнае,— задумліва сказаў Віцька,— паведаміць Лапшыну пра маё прызначэнне.

— А ты не дакладвай,— параіў Мялешка.

— Паложана,— адказаў Віцька.

На іх здзіўленне, Лапшын вельмі прыхільна сустрэў вестку аб Віцькавым прызначэнні.

— Правільна,— сказаў ён,— хопіць табе аддзяленнем камандаваць. Так што віншую і жадаю поспехаў.

Віцька з Мялешкам пайшлі да разведчыкаў. Казмін ужо быў там.

За хатай, каля сажалкі, на траве паўкругам сядзелі ўсе дзевятнаццаць разведчыкаў і чатыры разведчыцы.

— Сядайце сюды,— запрасіў да сябе Мялешку і Віцьку Казмін.— Мітынгаваць доўга не будзем. Час вельмі сур'ёзны. Таму адразу знаёмлю вас з камандзірам разведкі таварышам Драздом. Калі пытанняў не будзе...

— Блажко, выходзіць, спісалі? — спытаўся адзін з разведчыкаў.

— Пра гэта і хацеў гаварыць,— адказаў Казмін.— Тое, што здарылася, прымушае і нас, камандаванне, і

вас, кожнага паасобку, прыняць самыя энергічныя меры бяспекі атрада. У штабе выпрацаваны мерапрыемствы ў гэтым кірунку. Іх ажыццяўленне залежыць ад вас. Дакладнасць і дысцыпліна — цяпер галоўнае. Нам патрэбны дадзеныя з усіх бліжэйшых гарнізонаў, асабліва з Красынь. Зараз ваш камандзір паставіць перад вамі задачу. Таварыш Дрозд, забірай людзей і дзейнічай. Цябе, Клава, прашу астацца.

Яны засталіся ўтраіх: Казмін, Клаўдзя і Мялешка.

За лесам, чырвонае, як на вецер, хавалася ў барвовай смузе сонца. Два яркія вогненныя слупы працялі на самым даляглядзе невялікую хмарку; яе верхні край быў аж барвовы, затое ніжні злавесна-чорны. Чамусьці Мялешку ўразіла гэтае відовішча ды яшчэ, як у цішыні і спакоі стрымгалоў праносіліся ластаўкі, нібы маленькія чорныя крыжы.

— Чаму ты маўчыш, Восіп? — спыталася Клаўдзя і тым самым вывела Мялешку з задуменасці.

— Табе трэба выйсці на сувязь з Тамарай. Гэта наша запасная яўка,— сказаў Казмін.

— Ну і што? Ці ты нечага баішся?

— Баюся. За цябе баюся. Ты мне, як родная.

— Восіп, можа, і ты ў мяне закаханы?

— Гэта дрэнна?

— Ты стаў нейкі мяккі, Восіп. А я не люблю такіх.

— Я — чалавек,— пранікнёна сказаў Восіп.

— Прыгожа, хоць дужа па-кніжнаму. Што я павінна рабіць?

— Калі ты не вернешся з задання, я не дарую сабе.

Клаўдзя зірнула на Казміна, засмяялася і тут жа абарвала свой недарэчны смех.

— Ну што ж, пашлі другую разведчыцу,— сказала яна.— Можа, яна лепей за мяне выканае тваё заданне.

— Ты не так зразумела мяне, Клаўдзя. Мы залезлі ў нейкую страшную гульню, дзе я хаджу з завязанымі вачыма, шырока растапырыўшы рукі. Можа, хто другі і ўявіў бы, што вочы ў яго не завязаны. Я нічога не бачу. Але іншага выйсця няма.

— Як я выйду на сувязь? — спыталася Клаўдзя.— І што павінна рабіць? Давай, Восіп, без лірычных прадмоў, калі іншага выйсця няма.

— Дамовімся толькі, што ты будзеш асцярожная.

— Добра... Абяцаю...— адказала Клаўдзя.

Казмін крыху памаўчаў, нібы збіраўся з думкамі, хоць Мялешка ведаў, што ён усё абдумаў раней.

— Перарваная сувязь,— павучальна загаварыў ён,— ужо не можа быць сувяззю. Мы выходзім на запасную, якая, магчыма, таксама не дужа надзейная. Таму асцярожнасць і асцярожнасць. У запасе ў нас Тамара. Мялешка ведае, дзе яна жыве. Я паказаў яму.

Гэта было так неспадзявана, што Мялешка ніяк не мог уцяміць, пра каго гаворыць камісар. Ніякай Тамары ён не ведаў.

— Я не ведаю ніякай Тамары,— сказаў Мялешка.

— Мы былі ў яе з табой. Хіба забыўся?.. У Сцёбцах. Тая дзяўчына, з якой ты сядзеў на элеватары...

— Чаму Тамара? — здзівіўся Мялешка.— Яна Вера Мятлік.

— Ты хіба назваўся тады сваім імем? — спытаўся Казмін.

— Не, вядома,— разгубіўся Мялешка.

— Праз Тамару трэба звязацца з немцам. Трэба вывесці яго ў атрад. Неадкладна,— ён крыху памаўчаў: — Мы павінны абхітрыць іх, калі паспеем...

— Чалавек гэты мае важныя звесткі? — спыталася Клаўдзя.

— Інакш не варта было б рызыкаваць,— адказаў Казмін.

— Нешта ты, Восіп, недагаворваеш. Утойваеш ад мяне.

— Я сказаў усё,— нехаця азваўся Казмін.

Клаўдзя паківала пальцам перад ягоным тварам.

— Я магу ведаць, якія звесткі ён павінен перадаць? Важныя для нас ці, можа, і там, за фронтам?

— І там,— адказаў Восіп.— Найбольш там. І ў такіх маштабах...

— Што ж ты тады мудруеш, Восіп? — перабіла яго Клаўдзя.— Ты баішся за маё жыццё і хочаш ратаваць яго цаною другіх жыццяў? Я прывяду таго чалавека.

Казмін моўчкі зірнуў на яе, але нічога не сказаў. Ды і не трэба было гаварыць. У яго позірку прачыталася поўная згода з Клаўдзяй.

Мялешка застаўся ў разведчыкаў. Залез на вышкі,

дзе на дошках і жэрдках ляжала леташняя, пыльная ўжо салома. Трэба было спаць, бо заўтра рана ісці ў Сцёбцы. Але ён не мог заснуць.

Незаўважна пачало світаць, і адразу начную цішыню абудзіла далёкая страляніна. Спачатку азваўся наш кулямёт «дзягцярык», потым густа затакалі нямецкія. «Значыць, Віцька абстраляў Красыні»,— падумаў Мялешка і адразу ж заснуў.

Праз сон чуў, як вярнуліся разведчыкі, як прывязвалі коней і гучна гаварылі. Потым, неяк адразу, нехта асцярожна крануў яго за плячо. Ён прачнуўся і ўбачыў Клаўдзю.

— Пайшлі, Антон,— сказала яна.

...У Сцёбцы яны пайшлі не напрасткі, а кружным шляхам паўз Дабрамыслю і Лоўжу. Раніца была сонечная, цёплая і росная. У ранішнім небе, сінім і вельмі высокім, стылі з ночы рэдзенькія, як туман, хмаркі — бялюткія стужкі смугі.

Клаўдзя ішла басанож: чорныя паношаныя туфлі на венскім абцасіку несла ў руцэ — берагла. У другой руцэ трымала кошык, сплецены з трыснягу, з прышытымі да яго скуранымі ручкамі. Мялешка хацеў быў паднесці кошык, але Клаўдзя адмовілася, сказала, што ён зусім няцяжкі.

Ля Дабрамыслі, на поплаве, касілі жанчыны. Перастаялая, аж бураватая трава была ім па пояс. Убачыўшы незнаёмых, жанчыны перасталі касіць. Клаўдзя падышла да іх, весела і зусім па-вясковаму павіталася:

— Бог у помач.

— Дзякуем,— нястройным хорам адказалі жанчыны.— Самі ўпраўляемся.

— Да Выдрэі далёка?

— Авой, дык жа вы не ў той бок ідзяце,— сказала адна з жанчын.

— Нятуташнія мы. З горада ідзём.

— То лепей бы і не хадзілі. Сёння ў Красынях бой ішоў.

— А хто ж з кім біўся? — спыталася Клаўдзя.

— Ды ўжо ж і не ведаем.

У лесе Клаўдзя павярнула на ўсход. Праз якую гадзіну выйшлі на ўзлесак. Сцёбцы былі непадалёку, можа, за кіламетр.

— Дзе жыве Тамара? — спыталася Клаўдзя.— Табе ісці ў вёску не варта. Мы прыйдзем сюды і ўсё абмяркуем.

Мялешка пагадзіўся.

Ён адышоўся, як дамовіліся, у гушчар, выбраў там зручнае месца, каб усё бачыць, а самому не кідацца ў вочы, стаў чакаць.

Час цягнуўся марудна і нудна, аж нельга было ўседзець на месцы. Мялешка ўсё часцей падымаўся, глядзеў з надзеяй на вёску. Клаўдзі ўсё не было.

Тым часам сонца падабралася ў самы зеніт і адтуль бязлітасна паліла зямлю. Асабліва душна было ў лесе, у густым драбняку, дзе хаваўся Мялешка. Нават у засені не было чым дыхаць, напоенае смалою і пахамі прэлага лісця, паветра аж драпала горла.

Мялешка ўжо раскайваўся, што пусціў Клаўдзю адну. Як яму собіла згадзіцца, нібы ачмурыла яго Клаўдзя, а цяпер во ляжы і чакай. Яму падумалася, што, можа, Клаўдзя заблудзіла і цяпер ніяк не знойдзе тое месца, дзе пакінула яго, Мялешку. І ён ужо зусім разгубіўся, аж хацеў падняцца і пайсці ў Сцёбцы. Ён, і сапраўды, падняўся, выбраўся на ўзлесак, пастаяў, пазіраючы на вёску, нічога не ўбачыўшы, вярнуўся назад і, на сваё здзіўленне, сустрэў Тамару. Яна разгублена азіралася, мабыць, спалохалася, не знайшоўшы яго.

— Дзе Клаўдзя? — спытаўся Мялешка, прадчуваючы нейкую бяду.

— Пайшла да Шлосэра...

— Да каго?

Мусіць, Тамара, ці Вера (Мялешка ніяк не мог прывыкнуць да новага імя), адчула, што сказала нешта не тое, бо пачырванела, збянтэжылася.

— Я думала, ты ведаеш... Мне Клаўдзя сказала, што ты ўсё ведаеш і нічога ад цябе не хаваць...

«...Дык вось адкуль я ведаю прозвішча таго антыфашыста,— падумаў цяпер Мялешка.— Абсалютна дакладна — Шлосэр.

Тамара так і сказала: Шлосэр. Больш ніхто не называў ягонае прозвішча. Ды і хто мог назваць? Казмін не ўпамянуў ні разу. Значыць, Тамара. Цікавая акалічнасць. А чаму я тады не падумаў пра яе? Ну, вядома, я быў устрывожаны тым, што Клаўдзя пайшла ў

Красыні, у асінае гняздо, як называў іх камісар. Я баюся і за сябе. Казмін будзе сварыцца, што пусціў Клаўдзю ў Красыні адну».

— Чаму ты не пайшла з ёю? Як яна знойдзе гэтага Шлосэра?

Тамара зноў нечага збянтэжылася.

— Яна сказала, што пойдзе адна. Што ўдзвюх больш падазрэння.

— Робіце, што вам уздумаецца,— абурыўся Мялешка.— Чорт ведае... За такое караць трэба...

Мялешка і сам разумеў, што злуецца дарэмна, што злаваць трэба на сябе, а не на гэтую дзяўчыну, якая была запасной яўкай, сувязной, ліха яе ведае кім. Але ён не мог стрымаць сябе, бо сам жа быў вінаваты, калі адпусціў Клаўдзю. Трэба было ісці па Тамару самому. Цяпер кусай локці...

— Ты так і не сказала, як яна сустрэнецца з гэтым немцам...

— Ён будзе чакаць яе...

— Як гэта будзе чакаць? Дзе? — здзівіўся Мялешка.

— Дык ён жа прыходзіў да мяне. Мы і дамовіліся...

— Ён быў у цябе? Калі?

— Сёння раніцой. Я хацела бегчы да Казміна, а тут Клаўдзя.

Усё павярнулася не так, як было прадугледжана, як было ўмоўлена з Казміным, і Мялешка не на жарт устрывожыўся і разгубіўся. Мусіць, Тамара заўважыла ягоную разгубленасць, яна пачала супакойваць яго:

— Ты не турбуйся, абыдзецца. Я і не ў такіх сітуацыях бывала — абыходзілася.

Ён паглядзеў на яе з дакорам. У якіх яна магла быць сітуацыях, седзячы ў сваіх Сцёбцах? Запасная яўка, якую скарыстоўваюць у крайніх выпадках.

— Гэты Шлосэр табе нічога не перадаваў? — толькі цяпер Мялешка ўспомніў пра тое самае галоўнае, дзеля чаго і быў пасланы сюды, у Сцёбцы.

— А як жа...

Тамара засунула руку пад кофтачку, дастала невялікі пакет, перавязаны суровай ніткай. Мялешка ледзь не вырваў яго з Тамарыных рук.

— Больш ён нічога не перадаваў? Можа, што-небудзь сказаў?

— Ён сказаў, што не мог выйсці на сувязь. Ён амаль упэўнены, што гестапа натрапіла на след і яго віны ў гэтым няма.

— Шлосэр лічыць, што памылка дапушчана ў атрадзе? — спытаўся Мялешка, прыгадаўшы словы камісара.

— Так... Нехта з атрада спрабуе дабрацца да яго. Таму Клаўдзя і пайшла, каб вывесці яго ці хоць перадаць загад Казміна неадкладна пакінуць Красыні.

— Не трэба была Клаўдзі ісці ў Красыні,— сказаў Мялешка.— Немец гэты і сам мог здагадацца, што не варта рызыкаваць. Дурны ён, ці што?..

— Не ведаеш ты яго,— выгукнула Тамара.— Ён такі... такі акуратны, дысцыплінаваны. Ён жа разумее, якую прыносіць карысць, таму без дазволу і не пакіне Красыні.

— І ўсё роўна, не трэба было Клаўдзі ісці,— сказаў Мялешка.

— Ды ты што? — аж здзівілася Тамара.— Чалавека ў бядзе пакінуць!.. Ну, ведаеш, не чакала...

Яна адвярнулася, быццам Мялешка абразіў яе, а той і сам разгубіўся, не ведаючы ўжо, як жа, сапраўды, лепей было зрабіць.

Нейкі час яны маўчалі. Мялешку трэба было ісці. Але ён як бы саромеўся развітвацца, пакідаць дзяўчыну адну ў гэтым душным лесе.

— А твой сябар, Віктар, таксама ў атрадзе? — раптам спыталася Тамара.

— Таксама.

— Перадай яму прывітанне.

— Перадам... Ну, я пайду...

Тамара стаяла, апусціўшы галаву. Яе твар быў засмучаны, аж перасмыкаўся, як ад болю. Мялешка падаў руку.

— Будзь здарова,— сказаў ён.— Камісару што перадаць?

Тамара страпянулася, на яе твары адбілася рашучасць.

— Перадай камісару, што я больш не магу. Я з восені, як па кручы, хаджу. Павінен жа ён зразумець. У мяне не жалезныя нервы.

На яе вачах набеглі слёзы. Яна адвярнулася, каб Мялешка не бачыў іх.

— Ты хіба з Восіпам так даўно знаёма? — здзівіўся ён.

— З верасня леташняга года сярод немцаў працую. Знаеш, што гэта такое? Не, ты не знаеш. Вам у атрадзе добра. А я кожны дзень рызыкую, кожную хвіліну. Я толькі ў горадзе разоў дваццаць была. Надакучыла мне ўсё: усміхацца, баяцца — усё, усё абрыдла.

Нешта ў яе словах кранула Мялешку. Цяпер ён здагадаўся, адкуль Казмін ведаў пра настроі немцаў...

— Табе не варта заставацца дома,— сказаў ён.— Табе трэба ісці ў атрад. Раскажаш Казміну сама.

— Ды я хоць зараз,— выгукнула Тамара.

— А бацькі?

— Я ім даўно сказала: калі не прыйду часам, дык ведайце, што пайшла да партызанаў. Яны здагадваліся, што я раблю, але маўчалі і таксама баяліся за мяне і за сябе. Цяпер і ім спакайней будзе.

Запозненае расследаванне той даўняй трагічнай гісторыі падыходзіла к фінішу. Мялешка яскрава ўяўляў усё, што адбылося потым, нібы быў відавочцам тых падзей, што завяршыліся подлым забойствам у Красынях. І ўсё роўна ў моцна счэпленым ланцужку не хапала нейкага звяна.

Мялешка стараўся прыгадаць яшчэ нейкія падрабязнасці, але ўжо не так засяроджана і энергічна, як было нядаўна; здавалася, што ён стаміўся ад бясплённых пошукаў яшчэ аднаго вінаватага. Ды і не ў ім, урэшце, справа. А ў Амендорферу, якога ён заўтра выкрые.

Яму страшэнна хацелася падагнаць час, каб убачыць твар Амендорфера. Як будзе паводзіць сябе гэты недабіты фашыст, рамантычны герой у вачах Марты і Юты?

Мялешка хацеў заснуць, нават павярнуўся на правы бок.

Месяц ужо свяціў наўкось, і на сцяне выткаўся мярэжны ўзор ад цюлевай фіранкі.

Ветрык гайдаў фіранку, і ўзор на сцяне варушыўся як жывы.

Было ціха. Ужо не ішлі машыны па дарозе. Мялешка глянуў на гадзіннік. Дваццаць хвілін на другую. Чацвёртая гадзіна там, дома.

Трыццаць чатыры гады назад, у такую пару, але дзён на сорак пазней вось такія амендорферы стаялі на сваім апошнім рубяжы. Цяпер яны хацелі б зноў апынуцца на беразе Буга, зноў рынуцца на ўсход. Час, праўда, не той, але мары ў іх тыя ж. Сёння ўвечары за Амендорферам ішло двое. А дай яму волю — прымусіць ісці многіх...

Вечар той запомніўся Мялешку назаўсёды. Казмін праводзіў партыйны сход. На гуменца пад дуб быў прынесены стол. За ім сядзеў прэзідыум: сам Казмін, камандзір Пашын, Золаў, падрыўнік Андрэй Калёска і палітрук другой роты. Партызаны разлегліся на траве даволі жывапісным гуртам, з кулямётамі, аўтаматамі, вінтоўкамі.

Камісар зрабіў даклад, закрануўшы ў ім усе міжнародныя і ўнутраныя праблемы, сеў, выцер насоўкай твар, закурыў.

— Хто хоча выступіць? — падняўшыся з лаўкі, спытаўся Золаў.— Ці, можа, ёсць якія пытанні, дык давайце, кажыце? Палітрук першай роты, табе слова, калі пытанняў няма. У вас у роце дысцыпліна кульгае.

— Гэта чаму ў нас кульгае? — выгукнуў камандзір роты Салодчанка.— У нас парадак...

— Ну от і паслухаем, які ў вас парадак. Загад, у якім я строга патрабаваў праводзіць вучэбныя заняткі, не выконваецца?..

Палітрук Сухавей, стоячы, чакаў, пакуль ягоны камандзір перакідваўся словамі з начштаба.

— Дазвольце? — спытаўся ён, калі камандзір змоўк.

— Давай, давай, не затрымлівай ды канкрэтна гавары, а то пачнеш...— падагнаў яго Золаў.

— Дык вось, таварышы,— пачаў Сухавей, засоўваючы рукі за камандзірскі рэмень,— з даклада камісара, які мы ўсе слухалі з вялікай увагай і цікавасцю, вынікаюць, так сказаць, два аспекты. Наша армія адступае пад націскам пераўзыходзячых сіл праціўніка, і баі вядуцца на подступах да Сталінграда. А мы, гера-

ічныя партызаны, вельмі слаба ёй памагаем. Мы павінны ўзмацніць удары па ворагу, бо кожны забіты тут немец не паявіцца там, пад Сталінградам.

У гэты час і пачуўся конскі тупат. Не трэба было быць вялікім знаўцам, каб разабраць, што едзе не адзін коннік, а па крайняй меры два, гоняць коней галопам.

І сапраўды, неўзабаве на дарогу вылецелі трое, асадзілі коней ледзь не перад самым прэзідыумам.

— Камісар! Клаўдзю схапілі ў Красынях,— крыкнуў Віцька і саскочыў з каня.

Заўсёды ўраўнаважаны Віцька Дрозд быў усхваляваны як ніколі, і гэтае ягонае ўзбуджэнне перадалося партызанам. Адзін Золаў застаўся спакойны.

— Між іншым,— нагадаў ён,— ідзе сход, таварыш Дрозд. Калі вы прыехалі на яго, дык сядайце і захоўвайце парадак. Я вам слова не даваў.

Апошняе і зусім прагучала недарэчна. Але, здаецца, ніхто не заўважыў гэтай недарэчнасці. Многія паўскоквалі, пасунуліся бліжэй да прэзідыума.

— Ды ты што, начштаба! — выгукнуў Віцька.— Там чалавека схапілі. Можа, катуюць цяпер.

І зноў Золаў спакойна адказаў, хоць Мялешка і заўважыў, што спакой гэты даецца яму нялёгка. Ён быў як напятая струна: кранi — парвецца.

— Спыніце бабскую істэрыю, камузвода,— загадаў Золаў.— Трэба лепей рыхтаваць людзей да задання, каб іх не хапалі... Параспускаліся, а ледзь што — у паніку кідаюцца.

Мялешка бачыў, як Віцька сутаргава хапіўся за кабуру, ніяк не мог адшпіліць яе. Нехта з хлопцаў схапіў Віцьку за рукі.

— Таварышы,— выгукнуў Казмін і ўжо больш ціха сказаў: — Сход прадоўжым пасля.

...У штабе Золаў даў волю свайму абурэнню.

— Хлапчук! Шчанюк! Я табе пакажу пры народзе за пісталет хапацца!.. Вось што, камандзір, або ён, або я... У ваенны час падняць пісталет на старшага па чыну! Ды за гэта трыбунал, расстрэл на месцы.

— Пісталета ён, ёлачкі-палачкі, і дастаць не паспеў,— памяркоўна заўважыў Пашын.

— Ага! А ты хацеў, каб паспеў. Ты хацеў, каб застрэліў...

— Ды спыніце вы нарэшце,— крыкнуў Казмін.— Як малыя дзеці. Давайце справай зоймемся. Дрозд, далажы як трэба... Адкуль звесткі пра Клаўдзю?

— Дык мы пад самымі Красынямі былі. Людзі цяпер на полі косяць. От мы і ездзілі. Цётка адна і расказала. Сёння Клаўдзю схапілі. Яна, вядома, не ведала, як звалі дзяўчыну, але па ўсіх прыкметах — Клаўдзя. У доме яе ўзялі, у нейкай Мальвіны. І Мальвіну тую забралі. Цётка бачыла, як іх у камендатуру вялі.

— Усё? — спытаўся Казмін.

— Не, не ўсё,— злосна адказаў Віцька.— У тым і справа, што не ўсё. Клаўдзя там, у камендатуры, нейкага афіцэра застрэліла.

— Як застрэліла? — спытаўся Пашын.— Ну і дзеўка!..

— Як застрэліла, не ведаю. А толькі заўтра Клаўдзю павесяць. Шыбеніцу ўжо зрабілі.

У хаце настала жудасная цішыня. Нават Пашын перастаў хадзіць — сеў.

— Сітуацыя, ёлачкі-палачкі,— сказаў ён.— Шкада Клаўдзі.

— Што шкада! Як ты можаш гаварыць спакойна?! Выручаць трэба. Нападзём сёння — выратуем. Заўтра позна будзе. Камісар, што ж ты? Скажы толькі... Ды мы разнясём на трэскі гэтыя Красыні...

Казмін сядзеў, абапёршыся локцямі на калені, сашчаміўшы галаву далонямі. Далоні ў яго былі шырокія, цяжкія.

— Атрад загубім, ёлачкі-палачкі,— Пашын зноў ускочыў, прабегся.

— Ды не загубім. Неспадзяванае нападзенне — палова поспеху. Нельга чалавека ў бядзе кідаць.

Віцька гарачыўся. У яго доказах не адчувалася ўласцівай яму логікі. Наадварот, чым больш ён прыводзіў доказаў, тым больш было відавочна, што нападаць на Красыні нельга. Але ён стаяў на сваім і гэтым толькі раздражняў камандаванне. Выключэннем быў Казмін. Камісар адмоўчваўся.

— Ды зразумей ты, ёлачкі-палачкі,— ужо злосна, раздражнёна загаварыў Пашын.— Немцы — не дурні. Яны толькі і чакаюць, каб мы палезлі на Красыні.

— А яму што? Яму дзеўку сваю трэба выратаваць,— кінуў з-за стала Золаў.

Мялешка паспрабаваў заступіцца.

— На што ты намякаеш, начштаба?

— Ведаю, на што намякаю. Развялі ў атрадзе любошчы. Хутка калыскі павесім, дзяцей гушкаць будзем. Ваякі, растакую вас...

Мялешка чакаў, што Віцька зноў схопіцца за пісталет. Але той толькі злосна зірнуў на начштаба і выбег з хаты, грукнуўшы дзвярыма.

— А хоць бы і так, Золаў... Хоць бы ён і кахаў... Людзьмі даражыць трэба. Мы яшчэ парадкам і не падумалі, ці можна што зрабіць... Калі нельга, тады іншая справа,— памяркоўна сказаў Казмін.

— Гарачыя дужа ўсе,— выказаўся Пашын.

— Антон, прыглядзь за Драздом... Каб ён чаго не выкінуў...— папрасіў Мялешку Казмін.

...Віцька забраўся на вышкі хлява.

— Не чапай ты яго,— раілі разведчыкі.— Ён як не свой прыбег. Як бабёр, плача.

Мялешка па драбінах падняўся на вышкі. Віцька ляжаў на пыльнай леташняй саломе тварам уніз. Мялешка сеў ля яго, крануў за плячо.

— Віця! Ну што ты? Супакойся...

Віцька падняў галаву. Твар у яго быў заплаканы.

— Пайшлі вы ўсе!.. Ненавіджу вас, сябе, усіх... Дзяўчыну адну кінулі. Сядзяць, разважаюць. Сорамна, брыдка,— ён грукнуў сябе кулакамі ў грудзі.

— Ну што ты зробіш? Ты ж сам ведаеш, што такое Красыні...

— Ну і ведаю... Я таму, што нельга чалавека кідаць...

Па драбінах адзін за адным падымаліся разведчыкі. Садзіліся на саломе.

— А вы чаго?.. — вызверыўся Віцька.

— Паслухай, камандзір,— загаварыў Савачка.— Мы тут між сабой раіліся.

— Раіцца вы ўмееце,— злосна азваўся Віцька.

— Задумка ў нас паявілася, як Клаўдзю ўратаваць...

Савачка зрабіў выгляд, што не заўважыў Віцькавай рэзкасці.

Віцьку як падкінула на саломе.

— Ну, кажы, кажы, Савачка! Я ж ведаю, вы сваіх не кінеце, не прадасце за ўласнае жыццё...

Ён быў як апантаны.

— Вясной, калі мы ў Кратах стаялі...— пачаў Савачка.— Мы за ракой, а на гэтым беразе нямецкі гарнізон. Ну от і паспрачаліся мы, ці можна днём праехаць праз гарнізон. Аўтамат хлопцы на кон паставілі. Узяў я каня, падабраўся непрыкметна да ракі, пераправіўся на той бераг і праз усю вёску галопам праскакаў. Скачу і страляю, усю абойму з парабелума расстраляў. Панікі нарабіў. Во ён, той выйграны аўтамат.

— Ну і што? — спытаўся Віцька.

— Давай паўторым такую аперацыю. Дзесяць чалавек, больш і не трэба. Налящім на камендатуру, Клаўдзю вызвалім.

— Савачка! Хлопцы! Ды я ж сам пра тое думаў! А не верыў, што вы згодзіцеся. Плюньце мне ў твар, дурню, што так блага думаў пра вас.

— Чакай, камандзір, абмазгуем спачатку,— сказаў Савачка.— Значыць, так. Бяром дзесяць добраахвотнікаў. Прымусу тут не можа быць. Нас тут шасцёра. Яшчэ трох возьмем. Кольку Рыжыкава абавязкова. Свой хлопец. Сцяпана Гарошку яшчэ...

— Па дзве гранаты трэба ўзяць...

— «Эфкі» толькі не трэба, сябе паранім.

— Коля, супрацьтанкавыя ёсць?

— Тры...

— Малавата. Грукату трэба нарабіць!..

— Даўно такой вясёлай аперацыі не было!..

— Ну, хопіць балбатаць. Дваццаць хвілін на зборы,— загадаў Савачка, і хлопцы адзін за адным скаціліся па драбінах на двор.

Па-шчырасці, дык Мялешка напачатку падумаў, што хлопцы стараюцца абнадзеіць свайго камандзіра, развеяць ягоны кепскі настрой. Вельмі ўжо неверагоднай здавалася прапанова Савачкі. Але як толькі разведчыкі пачалі зацягваць папругі на сёдлах, а Савачка паклікаў на двор Ліду і загадаў ёй падрабязна расказаць, дзе і што размяшчаецца ў Красынях, Мялешка ўстрывожыўся.

— Віцька, хлопцы, падумайце, што вы робіце. Ды за такое... Ды вас жа пераб'юць... І Клаўдзю не выратуеце, і самі загінеце... Я Пашыну скажу...

Віцька схапіў Мялешку за грудзі, аж затрашчаў на спіне пінжачок.

— Скажаш — забудзь, што сябравалі. Я табе гэтага ніколі не дарую,— задыхана сказаў ён.

— Авантура гэта... Дурная авантура.

— І няхай, абы не сядзець. У мяне вось тут неспакойна,— Віцька паклаў руку на сэрца.— Я сабе не дарую потым...

— Іх ужо не спыніш,— сказала Ліда.

— Ну, тады і я з вамі,— рашыўся Мялешка.— Паміраць, дык разам, адказваць — таксама разам.

Мялешка раптам уявіў, як будзе крычаць Золаў, і яму стала аж весела. А можа, і праўда, без рызыкі няма вайны? Вайна і ёсць самая адчайная рызыка, якая прыносіць удачу?

— Ды ты не бойся, Мялешка,— сказаў Коля Рыжыкаў.— Да страху прывыкнуць трэба. У штабе ты адвык ад яго...

— А я і не баюся,— не вельмі ўпэўнена адказаў Мялешка.

Яго крыху ліхаманіла.

...Цяпер, з вышыні пражытых гадоў, тая прыгода здавалася нават рамантычнай, і Мялешку аж было няёмка за свой той даўні страх, які скаваў яго, як толькі яны выехалі з двара. Ён чуў, як трымціць у ім кожная клетка, а пад грудзі падкочваецца халодная хваля, і нешта ліпучае як прыклейвае да спіны кашулю. Толькі рукі і ногі напружаны, як адзеравянелі, ды яшчэ коле ў скроні нешта вострае і гарачае.

Хлопцы ехалі па двое: наперадзе Савачка з Віцькам, за імі Мялешка з Рыжыкавым. Савачка нешта гаварыў Віцьку, але Мялешка ніяк не мог разабраць, пра што ён гаворыць.

Да Сцёбцаў яны ехалі дарогай, потым звярнулі на поплаў, перабраліся цераз раку. Поплаў быў напалову скошаны, густа чарнелі на ім копы сена.

Можа, за кіламетр ад Красыняў Віцька з Савачкам звярнулі ў ельнік. Адзінаццаць коннікаў збіліся ў цесны гурт.

— Адсюль коней на паваду павядзём,— ціха загадаў Віцька.— Каб ніякага шуму. Каб чый конь, барані божа, не заржаў, не захроп.

— Не першы раз,— азваліся разведчыкі.

— Тут равок недзе... Раўком бы...

— Па раўку небяспечна.

— Можа, па Выдрэйскай дарозе?..

— Сказаў...

— Ціха вы! — спыніў іх Савачка.— Вунь да тых хмызнякоў па адным, па два пойдзем. Ад іх да вёскі метраў сто. Адтуль і рванём. Насупраць вулачка хат на сем. З яе направа. Там да камендатуры рукой падаць. Пайшлі... Пакуль першыя да хмызнякоў не дойдуць, адсюль не кратацца.

Савачка павёў свайго каня, заціснуўшы далонню храпу.

У хмызнякі перапраўляліся доўга. Так, прынамсі, здавалася Мялешку. Ён быў апошні і, пакуль дачакаў сваёй чаргі, аж знясілеў ад напружання.

З хмызнякоў вёска і возера сапраўды былі як на далоні і зусім блізка. Затаіўшы дыханне, разведчыкі нейкі час услухоўваліся ды ўзіраліся ў ноч, у чорныя сілуэты хат. Было ціха, аж глуха.

Віцька ўскочыў на каня, азірнуўся. Хлопцы таксама ўжо былі ў сёдлах. Віцька першы тузануў павады. Конь асеў на заднія ногі, падскочыў і панёс Віцьку, як на крылах. За ім памчалі ўсе астатнія. Мялешка чуў толькі, як храпуць коні ды гудзе пад нагамі зямля. Глуха, нібы стогне.

Мялешка бачыў перад сабой чыюсьці постаць ды шырокі конскі зад. Яго перастала ўжо ліхаманіць, але ў галаве, як цвік, засела нясцерпнае чаканне стрэлаў. «Ну калі, калі яны пачнуць страляць? Зараз, зараз, зараз...»

Стрэлаў, аднак, не было, хоць разведчыкі выскачылі ўжо на галоўную вуліцу. Мялешка толькі цяпер убачыў, як ад прысадзістага будынка выбег на вуліцу чалавек, замітусіўся і раптам падняў угору рукі.

Яго абкружылі.

— Дзе арыштаваная?..

Чалавек ад страху захліпнуўся. Быў ён невысокі, у нейкім даўгаватым фрэнчы, у галіфэ і ботах. Мялешка чамусьці заўважыў гэта і запомніў на ўсё жыццё.

— У к-кр-а-а-ме! — ён працягнуў руку ў бок будынка, што рогам вылазіў на вуліцу.

Коннікі адразу ж рассыпаліся па пляцы. Вухнула, аж заклала вушы, граната.

Віцька з Савачкам падляцелі да крамы. Саскочылі з коней. Віцька з разгону ўдарыў нагой у дзверы.

— Акаваныя яны,— сказаў Савачка.— Антон, адвядзі коней...

Савачка дастаў брусок толу, абкручанага нейкай анучкай, прывязаў да замка. Усё ў яго было прадугледжана. Выбух быў, здаецца, і не моцны, але дзверы, грукнуўшы аб сцяну, адчыніліся.

— Клаўдзя, выходзь! — крыкнуў Віцька.— Усе выходзьце!

З дзвярэй як бы нясмела паявіліся трое, дзве жанчыны і мужчына.

— Дзяўчына там, і ці жывая,— сказала жанчына.

Віцька кінуўся ў краму.

— А нам жа куды? — спыталася цётка.

— Уцякайце, пакуль не позна,— крыкнуў Савачка.

Дзоты на тым баку вёскі аж заходзіліся ад стрэлаў. Але тут, у цэнтры вёскі, не стралялі. Мусіць, немцы не хацелі рызыкаваць. Трое адразу зніклі, як растварыліся, у ночы.

На парозе паявіўся Віцька. На руках у яго нешта бялела.

— Савачка, на каня. Падтрымай.

Віцька падняў Клаўдзю, відаць, непрытомную. Савачка падхапіў яе, паклаў упоперак сядла.

— Антон, ракету! — крыкнуў Віцька, ускочыўшы на каня.— Савачка, давай Клаўдзю...

Ён забраў Клаўдзю ў Савачкі, абняў адной рукой і прышпорыў каня абцасамі.

Хлопцы напаследак далі па кароткай чарзе з аўтаматаў і зноў галопам памчалі праз завулак у поле.

Толькі тады ўсчалася страляніна і там, у цэнтры. Яна падганяла коней. Тыя імчалі, аж, здавалася, слаліся па зямлі. Так і ляцелі, можа, кіламетры два. Нарэшце коні змарыліся, самі перайшлі на павольны крок.

— Стой, хлопцы! Стой! — закрычаў як не сваім голасам Віцька.— Нежывая яна, нежывая.

Мялешку здалося, што ён і цяпер пачуў гэты крык адтуль, з трыццацітрохгадовай даўнасці.

«І так будзе да скону дзён,— падумаў ён.— Хай будзе праклята вайна і ўсе, хто яе пачынаюць, каб прынесці пакуты людзям».

Яркае ў чорным небе свяціла сонца, асвятляючы нізіну, парослую ніцымі вербамі, раку ў пясчаных адхонных берагах і мурожную даль поплаву за ёй, аж да самага далягляду, там, дзе неба краналася зямлі. Ён, Мялешка, ляжаў на пагорку, ля жыта, паспелага ўжо, з доўгімі вусатымі каласамі. Яму трэба было ісці ў калгас, да Савачкі, які чакаў яго, які, напэўна, ужо злуецца, што Мялешкі няма, а ў яго, Савачкі, шмат спраў.

«Трэба ісці. У старшынь калгасаў, і праўда, хапае спраў»,— падумаў ён і падняўся, сарваў колас, раструшчыў яго на далоні. Зерне было буйное і цёплае. Мялешка пайшоў па ўзмежку лёгка, аж пералятаючы, як птушка, нейкія канавы, раўкі, нейкія страшныя ямы. «Гэта ж нашы акопы,— здагадаўся ён.— Тыя, што мы капалі ўвосень сорак другога, перад блакадай....» Ён азірнуўся і тады ўбачыў, як па поплаве едуць на конях Пашын, Золаў, Салодчанка, Лапшын, Клаўдзя Белахвосцікава і яшчэ ўсе знаёмыя хлопцы з іх атрада. Едуць і не звяртаюць на яго ніякай увагі.

Трава на поплаве высокая, густая, і Мялешку здаецца, што коні плывуць па ёй, несучы ў сёдлах коннікаў.

«А мы думалі, што Клаўдзя загінула, перарэзала сабе вены шклом,— падумаў Мялешка,— а яна во жывая...»

— Клаўдзя! Клаўдзя! — закрычаў ён.

Але Клаўдзя нават не азірнулася, як і ўсе астатнія. Яны плылі на конях па высокай траве, па поплаве пад чорным небам, з якога свяціла яркае сонца.

— Хлопцы, што ж вы? — закрычаў Мялешка і пабег уніз з узгорка.— Вазьміце мяне з сабой. Я хачу з вамі!..

Коннікі ўсё ехалі, не звяртаючы на Мялешку ніякай увагі, але яму здавалася, што яны стаяць на адным месцы, бо ўсё не могуць пераехаць поплаў. Мялешку стала горка і крыўдна, што яго не заўважаюць, аж забалела сэрца. Ён схапіўся рукой за грудзі і тут жа ўбачыў, што ягоная рука ў крыві, і яму зноў стала крыўдна і жудасна.

— Хлопцы! Восіп! Мяне параніла ў самае сэрца!

Што я зрабіў вам кепскае, чаму вы не хочаце ўзяць мяне?

Восіп, не спыняючы каня, павярнуўся тварам да Мялешкі.

— Табе нельга з намі. Ты дзяжурны па атраду...

Ён падагнаў каня і разам з астатнімі пачаў пераплываць раку.

— Я не хачу быць дзяжурным,— закрычаў Мялешка.— Вы кідаеце мяне аднаго.

Ён хацеў быў пабегчы і раптам убачыў, што навокал яго жыта і бегчы па ім ён не можа, бо жыта як спавіло яго ныя ногі. Ён ірвануўся, яшчэ раз крыкнуў: «Восіп!» — і прачнуўся.

Праз акно ярка свяціла сонца, і Мялешка аж спалохаўся, што праспаў працэдуру. Ён схапіў гадзіннік, які ляжаў у галавах, на тумбачцы, побач з тэлефонам. Дзякуй богу, не праспаў. Заставалася яшчэ паўгадзіны, якраз на тое, каб пагаліцца, памыцца і дабегчы да ваннага корпуса.

Ён дастаў з футарала электрычную брытву, сеў на крэсла перад адкідным люстэркам на туалетным століку і, як толькі ўбачыў сябе ў ім, чамусьці ўспомніў пра сон, у якім рэальнае пераблыталася з нерэальным, сплялося ў адзін фантастычны вянок.

Яму стала сорамна, што так і не пабываў ў Савачкі, які колькі разоў, сустракаючы яго ў Мінску, запрашаў да сябе ў калгас, у тыя самыя Красыні, Чаплічы, Сцёбцы, Дабрамыслю, дзе яны некалі ваявалі. А ў яго ўсё не было часу, і ён толькі абяцаў, абнадзейваў Савачку, але так і не пабываў у яго дома. Пад Вежань, дзе загінуў Казмін, некалі з'ездзіў, але Вежань ад Красыняў кіламетраў за сто.

Перад самым маем Савачка зноў пабываў у яго, каб запрасіць на трыццацігоддзе перамогі. За гэтыя гады Савачка раздаўся ўшыркі, пакруглеў, аблысеў да самай патыліцы, на якой нейкім цудам захаваўся пучок сівых рэдзенькіх валасоў. Але і цяпер, праз трыццаць з гакам гадоў, застаўся ён такім, якім памятаў яго Мялешка ў вайну: хітраватым, не дужа гаваркім, асцярожным, але, калі трэба, бойкім і энергічным.

Савачка пазваніў па тэлефоне, спытаўся пра здароўе, сказаў, што па справе ў Мінску і сёння ж паедзе

дадому, хацеў толькі, калі не перашкодзіць творчаму натхненню, паглядзець на яго, Мялешку.

Далікатнасці Савачкі можна было толькі пазайздросціць.

— Тамара табе наказала кланяцца... Нешта хварэе яна ў мяне.

— Адкуль ты звоніш? — пацікавіўся Мялешка.

— Ды тут, з аўтамата, з плошчы, амаль ад твайго дома...

— Навошта ж ты, Андрэй Васільевіч, псуеш дзве капейкі, калі мог бы і без дзвюх капеек націснуць кнопку званка маёй кватэры.

— Яно як бы і няёмка, ды і нумар кватэры не памятаю.

— Наконт няёмка, Савачка, не смяшы, а што нумар забыўся, дык не таму, што састарыўся і памяць паблажэла, а таму, што рэдка ў госці заходзіш...

— Святая праўда, Антон, нікуды не дзенешся. Толькі і ты зусім пра нас забыўся. А трэба ж дома бываць часцей, трэба дома бываць не госцем,— прадэкламаваў ён.— Дык я ўжо забягу.

Хвіліны праз дзве ён ужо ўкаціўся ў кватэру, як той свежаспечаны румяны калабок.

— Я толькі на хвілінку, каб паглядзець на цябе ды запрасіць на святкаванне Дня Перамогі,— з парога сказаў ён.— Нас жа зусім мала засталося...

Мялешка завёў яго ў кабінет, пасадзіў у крэсла.

— Па чарчыне зараз зробім. Так не адпушчу,— сказаў ён.

Савачка замахаў рукамі.

— На машыне я, ды і без машыны асцерагаюся. Сэрца.

— Што ж вы расклеіліся? У самога сэрца. А ў Тамары што?

— Пячонка, хай на яе. Жоўцевы пухір. Аперацыю прапануюць — баіцца.

— У санаторый трэба...

— Дык яна ж у санаторыі. У «Крыніцах».

— Што ты маўчаў? Ды яна добранькая. Хоць бы пазваніла.

— А давай і з’ездзім да яе, калі час маеш. На машыне... Гэта ж не тое што ў вайну. Не агледзішся і на месцы.

— З'ездзім,— пагадзіўся Мялешка.— Тамару я з сорак пятага не бачыў. Трыццаць гадоў — і ці пазнаю.

— Дзіва што!.. Ты цяпер бы і тых мясцін, дзе партызаніў, не пазнаў бы.

— А што ў Красынях? — спытаўся Мялешка і менавіта пра Красыні, а не пра Чапліцкія хутары, на якіх мелі прытулак.

— А Красыняў і няма,— загадкава ўсміхнуўся Савачка.— Казміно, у гонар нашага камісара і выдатнага чалавека.

...Праз паўгадзіны яны ехалі па Паркавай магістралі ў бок Ждановіч.

Недзе ля Камсамольскага возера Савачка павярнуўся да Мялешкі — толькі на імгненне,— дапытліва зірнуў на яго.

— Чаму ты, Антон, адзін жывеш, бабылём, чаму не жаніўся, як усе людзі?..

— Не знайшоў такой, каб... Адным словам, чорт яго ведае чаму. Можа, прывык. Можа, час прапусціў свой...

Не мог жа ён сказаць, што кахаў ягоную Тамару. Кахаў, як апантаны, а яна ўпадабала Савачку.

— Можа, і час прапусціў,— пагадзіўся Савачка.— Час перайначвае чалавека. Ну, проста дзіва, што робіць з чалавекам час. Я цяпер камбайна не даверу дваццацігадоваму хлопцу. А нам у вайну зброю давяралі. Гэта ж як разумець загадаеш? Людскімі лёсамі распараджаліся. Можа, мы нешта не так робім? Можа, свой вопыт дужа шануем, аж не хочам заўважаць, што і ў маладых, у самых маладых, ён ёсць? У іх цяпер і асвета большая...

— Вайна — жорсткі эксперымент,— задумліва адказаў Мялешка,— жорсткае выпрабаванне чалавека. У мірны час такое не дазволена.

— Амаральна?..

— Ды не, хоць, можа, і амаральна. Жорсткасць амаральна. Толькі жорсткасць, яна розная. Наша, маладая, была справядлівая...

— Мы, браце, з Тамарай часта пра тыя часы прыгадваем. Ходзім па адным коле, думаем. Два сыны ў нас. Добрыя хлопцы. Я імі быў бы вельмі задаволены, каб не адна акалічнасць: усё адразу хочуць мець — добрую кватэру, мэблю, машыну, кожны год на курорт

ездзіць і ні за што не адказваць. Пра сябе больш думаюць, а не пра чалавецтва.

— Хапіў,— засмяяўся Мялешка.— Так ужо адразу пра чалавецтва.

— А ты не смейся. Чалавек пра ўсё чалавецтва думаць павінен...

Далей, ад Масюкоўшчыны да самых Ждановіч, яны ехалі моўчкі. Мялешку дык нечага ахапіла сумненне. Ці варта было ехаць да Тамары? Як яны сустрэнуцца з ёю?..

А сустрэча была шчырай і мілай, з успамінамі і слязьмі, з запрашэннем пабыць у іх. Мялешка запэўніў, што ўжо цяпер абавязкова прыедзе, і не на дзень, на два, а, можа, на месяц, можа, нават напіша што.

І не паехаў — прыйшла пуцёўка ў Карлавы Вары. «Вярнуся з Карлавых Вар і абавязкова, абавязкова паеду. Цяпер ужо абавязкова»,— вырашыў ён.

Працэдуру гэтую — кантрастныя ванны — Мялешка любіў больш за іншыя. Прымаў ён ванны праз два дні на трэці, якраз сёння, і раніцай. Пасля іх увесь дзень ён адчуваў сябе бадзёра, нібы занава нараджаўся на свет.

Хвіліны за тры да прызначанага часу Мялешка падышоў да стала, падаў курортную кніжку. Высокі бялявы чалавек у белым халаце, які аж трашчаў на яго магутных плячах, падаў Мялешку ключ ад кабіны, дзе трэба было распрануцца.

Мялешка зайшоў у пакой, знайшоў сваю кабіну, ужо прыбраную, з дыванком пад нагамі, пачаў знімаць вопратку. Побач у кабіне таксама нехта распранаўся, моцна соп і крактаў, мусіць, нялёгка было даставаць рукамі да шкарпэтак з-за вялікага чэрава.

Мялешка ўраз разуўся, скінуў з сябе гарнітур і бялізну, узяў ключ і, выйшаўшы з кабіны, пачаў замыкаць яе. Побач таксама замыкаў дзверы такі ж голы, як і Мялешка — у чым маці радзіла,— нейкі тоўсты чалавек. Ён першы замкнуў дзверы, павярнуўся тварам да Мялешкі... Гэта быў Амендорфер. Мялешку аж нечага стала смешна. Можа, таму, што Амендорфер нагадаў яму бегемота; такі ж няўклюдны, са складкамі тлушчу пад белай друзлай скурай. Ногі ў яго былі

тонкія і крываватыя, як вывернутыя, і дужа кароткія. Ну, проста карыкатура на капіталіста, як малюе Яфімаў.

У гарнітуры ды са сваёй адмысловай палкай ён выглядаў салідна і непрыступна. Цяпер жа быў проста смешны і бездапаможны.

«Цікава, сюды ён таксама ходзіць з палкай?» — падумаў Мялешка.

Амендорфер таксама пазнаў яго і чамусьці збянтэжыўся, разгубіўся. Напэўна, ад таго, што Мялешка бачыць яго голым. Ён апусціў доўгія рукі, прыкрываючы далонямі ніз жывата, і пакланіўся Мялешку. Выйшла гэта зноў жа смешнавата, камічна.

— Як вам спалася, пан Амендорфер? — замест таго каб павітацца, спытаўся Мялешка.

— Дзякую, вельмі дрэнна,— адказаў Амендорфер, прадаўжаючы стаяць.

— Праходзьце, ваша чарга,— прапанаваў яму Мялешка.— Вы першы зайшлі сюда, вам першаму і выходзіць.

— Не, я за вамі,— запярэчыў Амендорфер.

«Ну і добра, ідзі за мной»,— падумаў Мялешка, а ўголас сказаў:

— Вы, і праўда, выглядаеце няважна. А я таксама спаў дрэнна. Усё вайна сніцца, хай на яе...— і пайшоў па вузкім калідорчыку ў працэдурны пакой.

Спачатку трэба было пастаяць пад сістэмай душаў, якія білі адны халоднай, другія гарачай вадою пад моцным ціскам. Быў і яшчэ адзін душ, цёплы і не такі балючы,— ціск у ім быў, можа, крыху большы, чым у звычайным водаправодным кране. Амендорфер стаў пад яго і ўсё стараўся не сустракацца позіркам з ім, Мялешкам.

— Пан Амендорфер, што вы пад гэты, моцны, не становіцеся? — спытаўся Мялешка.— Кажуць, ён супакойвае.

Не павярнуўшыся нават, Амендорфер буркнуў:

— Ён балюча сячэ.

— Хіба гэта балюча? — аж са злосцю адказаў Мялешка, бо адразу ж прыгадаў Клаўдзю, калі яе прывезлі з Красыняў.

— Я не магу,— адказаў Амендорфер і пайшоў у басейн.

Басейнаў было два: з халоднай і гарачай вадой, і ўсё лячэнне заключалася ў тым, што трэба было пасядзець хвіліну ў халоднай вадзе, а потым тры хвіліны ў гарачай. І так разоў чатыры, пяць. Мялешка бачыў, як Амендорфер падышоў на сваіх тонкіх крывыватых нагах да басейна з халоднай вадой, трымаючыся за нікеляваную балясіну, сунуў нагу ў ваду і аж задрыжаў ад таго, што яна халодная. Тады ён палез у басейн з цёплай вадой, дзе сядзелі двое — відаць былі над вадою іх галовы.

Мабыць, адзін з іх быў немец, бо ён штосьці сказаў Амендорферу, той адказаў і акунуўся ў басейн з галавой, вынырнуў, ухапіўся за скобку, прымацаваную да сценкі басейна.

— Гут, зеер гут,— сказаў ён.

«Чакай жа, я цябе падчаплю на кручок і паваджу на ім па басейне»,— падумаў Мялешка і пайшоў да халоднага, ускочыў у яго і аж загагатаў ад задавальнення.

Ён знарок прыладзіўся ля Амендорфера, калі перабраўся ў гарачы басейн. Пасля халоднай вады прыемна было адчуваць, як саграваецца цела, а скуру як бы хто лёгка далікатна пашчыквае.

«А можа, і не варта распачынаць з ім гаворку? — падумаў Мялешка.— Ну яго да д'ябла!..»

Амендорфер сам зачапіў Мялешку.

— Мы перажылі сёння цяжкую ноч. У Марты быў сардэчны прыступ.

— Спадзяюся, ёй зараз лепей?..

— Так, яна заснула толькі, як узышло сонца.

— Я шкадаваў пасля, што не мог вам памагчы. Фраў Марце...

Амендорфер недаверліва глянуў на яго.

— Юта больш прадбачлівая,— сказаў ён.— Яна была незадаволена мною.

— Шкада, што фраў Марта захварэла,— Мялешка пастараўся не дагаварыць, пачаў пераходзіць у другі басейн.

Амендорфер таксама акунуўся ў халодную ваду і хутчэй выскачыў з яе.

Яны зноў апынуліся разам.

— Чаго не зробіш для жанчын,— загаварыў Амендорфер.

— Так, так,— пагадзіўся Мялешка.

— Я ўгаворваў Марту, але, ведаеце, на жанчын не дзейнічае логіка. Яна так прасіла, каб я пагаварыў з вамі. Я і думаў, што вы не згодзіцеся...

— Можа, і я паспяшаўся,— адказаў Мялешка.— Вельмі ўжо незвычайная была просьба. Людзі часта спяшаюцца, ці не праўда, пан Амендорфер?

— Паспешлівасць ніколі не памагала справе.

— Сапраўды... Я быў падумаў, што жменька зямлі з магілы вашага сваяка можа быць выкарыстана ў нейкіх іншых мэтах.

Мялешка заўважыў, што Амендорфер насцярожыўся. «Можа, перабраў меру,— падумаў ён.— Трэба адпусціць вудачку...»

— Падазронасць таксама не лепшая рыса чалавека. Ці не так, пан Амендорфер? Людзі павінны паважаць людскія просьбы. Мяне зняважыла прапанова вашай сястры...

— На яе не трэба крыўдаваць,— памяркоўна сказаў Амендорфер.— Мы маглі б пагаварыць як мужчына з мужчынам...

— Давайце адкладзём размову на пазней...

— Вы яшчэ доўга тут?

— Не, заканчваю лячэнне і еду дадому. У гасцях добра, пан Амендорфер, дома лепей.

— Мне хацелася б, каб вы не ўспаміналі пра мяне дрэнна.

— І ў мяне такое жаданне,— сказаў Мялешка.— Я маю на ўвазе ўчарашнюю размову, увечары...

Амендорфер зноў насцярожыўся.

— Я быў раздражнёны,— адказаў ён.— А потым вы памыліліся. Я не з тых, каго цікавіць учарашні дзень. Я думаю пра заўтрашні.

«Ага, значыць, ты ўсё ж добра зразумеў, якія здані я меў на ўвазе»,— падумаў Мялешка.

— Я таксама люблю думаць пра заўтрашні дзень,— сказаў ён.

Тым часам у басейн залезлі яшчэ два чалавекі, і ўжо стала цеснавата.

Мялешка знарок стараўся трымацца далей ад Амендорфера аж да самага канца працэдуры. Той сам падплыў да яго.

— Зрэшты,— пачаў ён,— справа не ў гэтай жмень-

цы зямлі, сямейнай рэліквіі, справа ў знаёмстве, у разуменні адзін аднаго.

— Так, вы сказалі праўду.

— Я вам дам адрас...

— Пан Амендорфер! Тут? — і Мялешка зарагатаў.

— Вы пачакайце мяне ўнізе. Я не так хутка апранаюся, як вы.

— Шкада! Я спяшаюся. Можа, сустрэнемся пасля абеду, калі вы не адпачываеце?

— Гэта з маёй камплекцыяй?.. Я п'ю ваду з дзесятай крыніцы роўна ў пяць.

— Ну і цудоўна...

Мялешка паляжаў хвілін восем на канапе ў зале адпачынку, апрануўся, пайшоў да каланады.

«Як зрабіць, каб з ім была Марта? — думаў ён.— Інакш іісці на спатканне няварта. Дзівак я, трэба б было абумовіць сустрэчу, сказаць, каб з ім прыйшла Марта. Але яна хворая. Тады навошта была ўся размова? Можна, вядома, кінуць у твар Амендорферу абвінавачанне і з гонарам пайсці. Ну і што?»

Разважаючы так, Мялешка ішоў, нікога не заўважаючы. Нехта з ім павітаўся, ён азірнуўся. Да яго падыходзіла Валянціна Сяргееўна і нечага ўсміхалася.

— Вы бежыце як на пажар,— сказала яна.— Мне здалося нават, што гаворыце самі з сабой. Вось я вас і зачапіла. Раніца якая цудоўная!..

Раніца, сапраўды, была выдатная, сонечная, але не яркая, а мяккая, ціхая, пяшчотная, з мноствам белых воблакаў на небе, з лёгкай смугой ранішняга туману ў гарах.

— Гэта я пасля размовы з тым немцам, які ўчора знаёміў мяне са сваёй сястрой... Во, глядзіце, а вось і яна сама...

Мялешка быў бясконца здзіўлены, але не таму, што ўбачыў Юту — сустрэчу ля каланады ніколі не назавеш выпадковай, бо ўсе сыходзяцца тут, бадай, у адзін і той жа час,— а таму, што з Ютай ішла Марта.

«Навошта ж хлусіў Амендорфер? — падумаў Мялешка.— Не так жа сабе, а з нейкай прычыны? Я думаў абхітрыць яго, а выходзіць, ён мяне абхітрыў.

— Прабачце, Валянціна Сяргееўна, але я павінен падысці вунь да тых жанчын. Можа, разам падыдзем?

— Не, не,— пакрыўджана запярэчыла Валянціна Сяргееўна,— калі ласка, без мяне.

І пайшла, аж Мялешку стала няёмка. Во дзівачка!

Юта ішла памалу, перастаўляючы свае адмысловыя мыліцы. Са спіны яна выглядала маладзенькай дзяўчынкай — худзенькая, з тоненькай таліяй пад вязанай доўгай разлятайкай. Мялешка не спяшаўся даганяць іх. Няхай дойдуць да крыніцы, тады можна і падысці...

Марта набрала ў абодва паільнікі ваду, падала адзін Юце, з другога пачала піць сама. Мялешка пастараўся, каб яны першыя заўважылі яго, і яны, сапраўды, заўважылі. Марта кіўнула яму галавой.

— А пан Амендорфер казаў, што вы захварэлі,— сказаў Мялешка, зусім забыўшыся, што Марта ні слова не разумее.

— Фрыдрыху заўсёды нешта здаецца,— пачырванеўшы, адказала Юта.

Марта нешта спыталася ў Юты, тая адказала.

— Найн, найн,— заўсміхалася Марта.

Мялешка вырашыў адразу ж прыступіць да таго, дзеля чаго і пайшоў да іх.

— Мы з панам Амендорферам дамовіліся сустрэцца а пятай гадзіне,— сказаў ён Юце.— Мне хочацца памагчы фраў Марце, тым больш што просьба такая, што адмовіць нельга.

Юта крыху была збянтэжана такім нечаканым паваротам справы.

— О-о, мы будзем удзячны...

— Не варта,— адказаў Мялешка.— Мне хацелася б, каб і Марта прысутнічала пры нашай размове. Я, уласна, і раблю гэта дзеля яе. Перакладзіце, калі ласка, ёй тое, што я сказаў.

Юта пачала перакладаць, а Мялешка назіраў за Мартай. Ён чакаў, што тая неяк адрэагуе на яго словы, але яна паставілася да яго слоў абыякава.

«Што за дзіва?» — падумаў Мялешка.

— Я адчуваю, што фраў Марта не вельмі зацікаўлена ў той жменьцы зямлі, якую прасіў ваш брат,— схітраваў Мялешка і, здаецца, трапіў у цэль.

Юта крыху разгубілася.

— Ах, каб вы ведалі ўсё! Гэта так складана.

— Тады скажыце ёй,— рызыкнуў Мялешка, — што нам трэба было б пагаварыць, усім разам. Гэта да-

тычыць і яе, і вашага брата, а можа, і вас. На жаль, а пятай гадзіне я не змагу прыйсці. А вось а чацвёртай было б вельмі зручна. Праўда, я не ведаю, дзе нам лепш сустрэцца?

Юта пераклала.

— Марта кажа, каб вы прыходзілі да нас, у гатэль.

— Ці зручна?

— Чаму ж, мы будзем рады...

— Тады яшчэ адна просьба. Я вельмі прашу вас, Юта, не гаварыць пра мой візіт вашаму брату. Хай гэта будзе сюрпрызам. Хачу толькі запэўніць, што фраў Марта будзе задаволена.

Юта пагадзілася, хоць, як здалося Мялешку, не вельмі ахвотна.

Мялешка развітаўся.

«Цяпер трэба знайсці таго серба,— падумаў Мялешка.— Ён перакладзе дакладна, не тое што Юта. Ды і сведка, а гэта вельмі важна».

— Пачакайце, як жа вы нас знойдзеце? — засмяялася Юта.— Я дам візітную картку, а на ёй напішу, куды прыходзіць. Ды і папярэджу, што ў нас госць.

Яна ўзяла ў Марты візітную картку, напісала на ёй назву гатэля і нумар пакоя.

Зрэшты гатэль, дзе жыве Амендорфер, Мялешка ведаў, ды раптам усумніўся, можа, Марта жыве ў другім гатэлі. Не, і яна жыла ў «Краснай Крулеўне».

Трэба было шукаць серба, і неадкладна. Мялешка пайшоў да базару, адкуль ішоў аўтобус паўз Сансусі. Так усё ж было бліжэй, чым падымацца ў ланоўцы, а потым спускацца ўніз.

Аўтобус якраз стаяў. Мялешка зайшоў у салон. У такую пару курортнікаў ехала няшмат. Найбольш сядзелі і стаялі мясцовыя, знаёмыя адзін аднаму, бо горад, калі не лічыць курортнікаў, не такі ўжо і вялікі.

Ля Сансусі ён выйшаў адзін, узышоў па шырокай лесвіцы да шклянога паралелепіпеда вестыбюля і раптам сумеўся: ён жа не ведае ні прозвішча, ні імя серба. Але іншага выйсця не было. Маладзенькая дзяўчына з капой густых чорных валасоў, зграбная, прыгожая, мабыць, убачыла ягоную нясмеласць, спыталася, што ён хоча.

Мялешка пачаў тлумачыць, што яму патрэбен таварыш з Югаславіі, высокі такі, худы, у акулярах, якія служаць яму слухавым апаратам.

— А як яго прозвішча?

— Ды не ведаю. Мы з ім учора пазнаёміліся, і ён вельмі-вельмі мне патрэбны.

— І нумара пакоя не ведаеце?

— Не.

Яна паціснула плячыма.

— Як жа вам памагчы? Здэнка! — паклікала яна кагосьці. З-за перагародкі выйшла яшчэ адна дзяўчына. Высокая, з доўгім тварам, які быў густа засеяны вяснушкамі.

— Ты не ведаеш югаслава, высокага, худога ў акулярах?

— Яны ўсе высокія,— адказала Здэнка.

— Таварышу ён вельмі патрэбны.

— Хай зойдзе ў сталовую,— падала думку Здэнка.

— А можна?

— Ідзіце, ідзіце.

Мялешка з парога прабег вачыма роўныя шарэнгі сталоў. Людзі здаліся яму вельмі падобныя, як на адзін твар, і ён выйшаў.

— Я пачакаю тут, калі можна? — спытаўся дазволу ў дзяўчыны.

— Сядайце, калі ласка.

У вестыбюль уваходзілі курортнікі, выходзілі з яго, а серба не было. Хоць вый! Мялешка выкурыў дзве цыгарэты, а серба ўсё не было відаць.

«Калі не знайду, то і не варта ісці на спатканне»,— падумаў ён.

Ён пачынаў злавацца на сябе, такога непрадбачлівага. А што, калі серб адмовіцца? Навошта яму ўлазіць у гэтую гісторыю?

Думка гэта зусім выбіла Мялешку з каляіны. Яму пачало абрыдваць і гэтае чаканне, і ўся задума, якая яшчэ нядаўна здавалася важнай і прынцыповай. Прыехаў адпачываць, дык і адпачывай! Падумаеш, выкрывацель недабітых фашыстаў. І не такія, як Амендорфер, жывуць сабе спакойна, мітынгуюць не толькі на граніцы за Хебам. Фашызм зноў паўзе па свеце, паўзе пад самымі рознымі шыльдамі. Дык адным нявыкрытым больш, адным менш... Прымірэнства, браце! Кам-

праміс з уласным сумленнем! І ўжо здрада сабе, людзям.

Зрэшты, ён думаў не так лагічна. Думкі кідаліся ў бакі, скакалі, як устрывожаны воўкам статак коней. Мялешка не мог прывесці іх да ладу, ды і не хацеў. Ён замарыўся за гэтыя дні. Замарыўся, быццам працаваў на нейкай катаржнай рабоце.

— Таварыш! Таварыш!

Мялешка атрос думкі, няўцямна зірнуў на дзяўчыну. Тая падавала яму нейкія знакі. Ён павярнуўся. У дзвярах вестыбюля стаяў знаёмы серб і нешта гаварыў дзвюм у гадах жанчынам.

Забыўшыся нават падзякаваць дзяўчыне, Мялешка рвануўся да серба, бо той якраз развітаўся з жанчынамі, збіраўся выходзіць на двор.

— Я да вас,— звярнуўся да серба Мялешка і ўбачыў, што той не пазнае яго.— Учора мы з вамі размаўлялі. Вы перакладалі...

— А-а-а, не пазнаў вас.

— Вы мне вельмі патрэбны... У мяне зноў сустрэча з той жанчынай і мужчынам. А я не ведаю мовы.

Серб пазіраў на Мялешку, як на вар'ята.

— Я не зусім разумею,— сказаў серб тонам, які не абяцаў нічога добрага.

— Ну, як вам растлумачыць? Мужчына той — фашыст! Яго трэба выкрыць! Разумееце?

Серб паглядзеў на Мялешку ўжо з цікавасцю.

— Гэта той стары, з палкай?

— Ён самы.

— Калі яшчэ аднаго фашыста трэба прыбіць да ганебнага слупа, я гатоў. Але ў мяне зараз працэдура.

— Ды не зараз, а чацвёртай гадзіне...

— Тады згодзен. Але спачатку давайце пазнаёмімся: Вуйка Драгавіч.

— Антон Мялешка.

— Я вас буду чакаць за палову да чатырох. На прыпынку.

Ён паціснуў Мялешку руку і пайшоў. Толькі цяпер Мялешка нарэшце здагадаўся падзякаваць дзяўчыне.

Роўна за паўгадзіны Мялешка з Драгавічам селі ў аўтобус і хвілін праз пяць былі ўжо ля першых лазняў.

Адтуль да «Краснай Крулеўны» яшчэ пяць. У запасе заставалася аж дваццаць хвілін, і Мялешка падумаў ужо, як забавіць Драгавіча, каб таму не вельмі цягнуўся час.

Яны перайшлі па мосце Тэплу, апынуліся перад гатэлем. У добрае надвор'е перад гатэлем рэстаран з той жа назвай раскідваў тэнт, выстаўляў пад яго сталы і крэслы, нават засцілаў памост дывановымі дарожкамі. У імправізаваным кафэ курортнікі, найбольш жыхары гатэля пілі каву, джус, піва, віно.

І сёння кафэ працавала. Мялешка адчуў, быццам на яго нехта глядзіць. Узняў вочы і ўбачыў Юту. Яна сядзела тварам да вуліцы, заўважыла яго і па-змоўніцку ўсміхалася.

Мусіць, Амендорфер заўважыў Юціну ўсмешку, бо ён павярнуўся на крэсле ўсім целам і, убачыўшы Мялешку, крыху збянтэжыўся, але тут жа на ягоным твары адбілася знаёмая ўжо абыякавасць.

Мялешка чамусьці спадзяваўся, што нехта з траіх запросіць яго за стол, бо якраз тут было б вельмі зручна пагаварыць, але яны пілі каву і ўжо не звярталі на яго ніякай увагі.

Было падобна на тое, што яго добра разыгралі, каб паздзекавацца і прынізіць. Мялешку аж зрабілася крыўдна за сваю наіўную даверлівасць.

«Усе яны аднаго поля ягады,— злосна падумаў Мялешка.— Чаму я вырашыў, што жонка Шлосэра павінна быць такая, як муж? Можа, яна ніколі не была такой, а калі і была?.. Прайшло ж больш трыццаці гадоў. За такі час погляды маглі памяняцца, і не адзін раз. А можа, яна і не жонка Шлосэра? Можа, яшчэ якога немца, забітага партызанамі іншых атрадаў? Выдумаў нешта, склаў прыгодніцкую гісторыйку і трапіў у пастку. Так табе і трэба!..»

Мабыць, Драгавіч заўважыў ягоную разгубленасць. Ён засмяяўся ціхенькім, дробненькім смехам — здалося, па каменьчыках прабег ручаёк.

— Дарагі мой, вы забыліся на нямецкую пунктуальнасць. У нас ёсць хвілін пятнаццаць, і мы можам таксама пасядзець і чаго-небудзь выпіць.

Яны селі за столік ля самага ўвахода ў гатэль, заказалі па шклянцы кока-колы. Афіцыянт адразу ж прынёс два фужэры пітва з дробнымі кавалачкамі лёду,

з нейкай яшчэ прыправай — на дне фужэра чырванела кансерваваная ягадзіна.

Мялешка цягнуў праз саломінку прыемна халоднае пітво, а сам усё думаў над тым, што, можа, і не адбудзецца гаворка з Амендорферам, можа, усе ягоныя намаганні не вартыя выедзенага яйка, можа, усё гэта звычайнае донкіхоцтва, хоць і кажуць, што на донкіхотах трымаецца свет?

— А вы не сумнявайцеся,— раптам сказаў Драгавіч, аж Мялешка ўздрыгнуў, што той адгадаў ягоныя думкі.— Многія хацелі б забыцца пра вайну, ахвяры, пакуты людзей, спаленыя хаты, перавагу кулі над розумам, дзікую жорсткасць над чалавечнасцю — агідныя грымасы вайны — і ўсё дзеля аднаго, каб рыхтаваць новыя пакаленні да новых, яшчэ больш страшных войнаў. Пакуль мы жывыя, пакуль дыхаем і думаем, мы будзем выкрываць фашызм як самую цынічную і подлую філасофію на права забіваць сабе падобных. Няхай нас абвінавачваюць, быццам мы не дужа далікатныя, не дужа гуманныя, што нагадваем пра мінулыя жахі з настойлівасцю апантаных. Дудкі! У тым і ёсць гуманізм, што мы не можам забыць вайну! Прыгадваецца мне адзін даўні-даўні выпадак. У Парыжы з трыбуны Асамблеі адзін вось з такіх дыпламатаў заклікаў дэлегатаў забыцца пра вайну, забойствы, дараваць крыўды і гора — і ўсё ў імя чалавецтва, у імя будучыні і нічым не азмрочнага шчасця новых пакаленняў. Мір ва чалавецах і на зямлі благаваленне! Ён быў нядрэнны прамоўца, і яго слухалі, затаіўшы дыханне — у зале стаяла мёртвая цішыня,— ды і, шчыра кажучы, адразу пасля вайны ўсе прагнулі міру, спакою, радаваліся ім, і гэтая радасць распірала грудзі, выклікала замілаванне і душэўную патрэбу, сапраўды, усё забыць, усё дараваць. Фашызм жа разбіты! І тады ў гэтай мёртвай цішыні, у гэтай замілаванасці і празе ўсеагульнага даравання ў аднаго з вашых рускіх журналістаў раптам з грукатам паляцелі на падлогу мыліцы. Усе ўздрыгнулі, азірнуліся. І ўсім стала неяк няёмка. Нават прамоўца збянтэжыўся і далей ужо гаварыў з меншым натхненнем. Гэты грукат мыліц і зараз стаіць у маіх вушах як нагадак пра вайну. Вось чаму я і кажу вам: не сумнявайцеся.

— Дзякую вам,— адказаў Мялешка,— я, сапраў-

ды, не тое што сумняваўся, але быў не дужа ўпэўнены, ці правільна раблю, ці маю на тое права?

— Маеце! — выгукнуў Драгавіч.— І справа зусім не ў Амендорферу, а ў амендорферах, якія праз трыццаць гадоў спрабуюць стварыць арэол рамантычных подзвігаў і нявіннага пакутніцтва за гэтыя прыгожыя подзвігі. Вы, можа, і не ведаеце, што ў Аргенціне і дасюль жыве асабісты сакратар найвялікшага брахуна дваццатага стагоддзя Гебельса? Увесь свет, ды і самі немцы, пацяшаліся з яго брахні. А цяпер сакратар Гебельса выдае газету для немцаў. Дык вось, у ёй з нумара ў нумар расказваецца пра высакародныя і гераічныя ўчынкі салдатаў і афіцэраў вермахта і... пра каварных, подлых, без чэсці і сумлення ворагаў, якія забівалі з-за вугла, труцілі, заражалі хваробамі і яшчэ чорт ведае што ўчынялі над даверлівымі, сентыментальнымі, праўдзівымі і шчырымі рыцарамі нардычнай расы. Не здзіўляйцеся з гэтага бязмежнага цынізму! Хлусня, паўтораная сто, тысячу разоў, раз'ядае малады мозг. І тады сама сабой паяўляецца ў разгарачанай галаве высноЎа: калі вораг — гэта мы, камуністы і ўсе, хто супраць фашызму,— Драгавіч пры гэтым пастукаў кулаком у грудзі,— такі злы, каварны, подлы, дык чаму ж не прымяніць супраць яго ягоныя ж метады? І забіваюць з-за вугла, і падкладваюць міны ў цягнікі, у кватэры, у паштовыя скрынкі... Во што страшна!

Мялешка моўчкі паціснуў руку Драгавічу.

— Але глядзіце, яны падняліся. Вы дзе дамовіліся сустрэцца? — спытаўся Драгавіч.

— Тут,— няўпэўнена адказаў Мялешка.

Амендорфер прайшоў ля іх і схаваўся за дзвярыма. Ад стала памалу ішлі Юта і Марта. Юта перастаўляла мыліцы, адразу абедзве, падцягвала непаслухмяныя ногі. Ля стала, за якім сядзелі Мялешка з Драгавічам, яны спыніліся.

— Праз пяць хвілін прашу вас на другі паверх,— і яна пайшла.

Мялешка з Драгавічам дапілі кока-колу, разлічыліся.

У цемнаватым вестыбюлі панавала стоеная цішыня, аж нейкая халодная і непрыемная. Па лесвіцы яны падняліся на другі паверх. Юта стаяла, прыхінуўшыся да сцяны, адпачывала.

— Я вучуся хадзіць,— сказала яна.— Раней мы жылі ў пакоі паверхам ніжэй.

Нумар, які займаў Амендорфер, складаўся з трох пакояў. Калі яны зайшлі, у зале нікога не было. Юта запрасіла садзіцца ў крэслы, даволі нізкія, з высокімі спінкамі, а сама выйшла ў пакой справа. Адразу ж са свайго пакоя паявіўся Амендорфер.

— Што ўсё гэта азначае? — не хаваючы свайго незадавальнення, спытаўся ён.— Мы хіба не дамовіліся сустрэцца а пятай гадзіне ля каланады?

— Прашу даравацъ,— як мага спакойна адказаў Мялешка,— але абставіны прымусілі мяне прасіць Юту сустрэцца з вамі раней. Яна згадзілася.

— Хто гэты чалавек і чаму ён тут? — Амендорфер падазрона паглядзеў на Драгавіча.

— Мой сябар...

— Можа, сведка?

— Хіба сведка перашкодзіць?

— Мы маглі б гаварыць з вока на вока.

— Учора я быў без сведак,— нагадаў Мялешка,— а сёння не магу. Я буду гаварыць толькі ў прысутнасці фраў Марты, а яна не ведае мовы. Вось я і запрасіў чалавека, які перакладзе ёй усё, што я скажу.

Мялешка аж замарыўся ад гэтага казённага сказа.

— Ну што ж, хай будзе па-вашаму,— пагадзіўся Амендорфер.— Ваша асцярожнасць вартая смеху. Быццам я ў вас прашу выдаць нейкую таямніцу...

Ён з зайздроснай лёгкасцю падняўся з крэсла, пастукаў у дзверы.

— Чаго вы там затрымліваецеся? — спытаўся ён, а Драгавіч тут жа пераклаў Мялешку, як і было дамоўлена.

Першай паявілася Юта. Юта села на канапу, паклала ногі на скрыжаваныя мыліцы. За ёй выйшла Марта. Мялешку здалося, што вочы ў яе заплаканыя.

— Выбачайце,— сказала яна,— усё неяк нечакана.

Мялешка падумаў, што Марта, бадай, ужо ведае, дзеля чаго ён прыйшоў. Напэўна, пра згоду яго, Мялешкі, пабываць на магіле мужа ёй сказала Юта. Тым лепш!..

— Я спадзяюся,— пачаў ён,— што вы ведаеце пра нашу размову з панам Амендорферам.

Марта схіліла галаву.

— Справа не ў жменьцы зямлі,— сказала яна,— а ў памяці.

Амендорфер сядзеў, адкінуўшыся на спінку крэсла, але ягоныя вочы пільна сачылі за Мартай.

«Ён яе навучыў, як трэба трымацца са мной,— падумаў Мялешка.— Ён прадбачыў усе варыянты. Але галоўнага прадбачыць не мог».

— Вы вельмі кахалі мужа,— гаварыў далей Мялешка,— калі праз трыццаць тры гады памятаеце яго. Гэта кранае мяне.

— Сын кожны дзень нагадвае мне пра яго,— адказала Марта.— Ён нарадзіўся ў той самы дзень, калі загінуў Вернер.

«У жніўні яму будзе трыццаць тры гады. Дарослы мужчына, якому зараз больш гадоў, чым бацьку ў сорак другім»,— чамусьці падумаў Мялешка.

— Я не хацеў бы адымаць шмат часу,— сказаў Мялешка.— Але перш чым згадзіцца на прапанову пана Амендорфера і вашу, я хацеў бы ведаць прозвішча вашага мужа.

— Вернер Шлосэр,— адказала Марта.

«Ён!» — узрадаваўся Мялешка.

— Вернер Шлосэр... Шлосэр...— уголас паўтарыў Мялешка.— Як жа я знайду ягоную магілу?

— Я вам дам абсалютна дакладныя каардынаты,— парушыў маўчанне Амендорфер.

— За гэтым я і прыйшоў,— спакойна адказаў Мялешка і ўважліва паглядзеў на Марту, калі Драгавіч пераклаў ёй ягоныя словы.

Марта, здалося, з дакорам зірнула на яго, быццам хацела сказаць: «Навошта ты згаджаешся?» Затое Амендорфер хуценька дастаў знаёмую Мялешку карту, паклаў на столік.

— Бачыце, вось гэта Красыні,— пачаў тлумачыць ён.— З усходу да іх прылягае возера. На ім два астравы, адзін большы, другі — меншы. Вернер пахаваны на большым востраве.

«Як у той казцы,— падумалася Мялешку.— У трыдзесятым царстве, у трыдзесятым гасударстве ёсць возера, а на ім востраў».

— Востраў вялікі? — спытаўся Мялешка.

— Не. Адзін бераг яго адхонны, другі высокі. На гэтым высокім беразе пад сасною і пахаваны Вернер.— Амендорфер згарнуў карту і акуратна паклаў у кашалёк.

— Вы думаеце, магіла захавалася? — спыталася Марта.

— Не ведаю,— адказаў Мялешка.— У мяне ёсць адно пытанне, якое я, калі дазволіце, хачу задаць вам, пан Амендорфер. Пры якіх абставінах загінуў Шлосэр?

— Мне не хацелася б гаварыць пра абставіны,— паспешліва адказаў Амендорфер, так паспешліва, што Драгавіч яшчэ не паспеў перакласці Марце Мялешкава пытанне.

Нарэшце ён пераклаў і пытанне Мялешкі, і адказ Амендорфера. На вачах Марты бліснулі слёзы.

— Гэта нешта трагічнае? — спытаўся Мялешка.

— Не будзем траўміраваць Марту,— папрасіў Амендорфер і, заўважыўшы на вачах Марты слёзы, пачаў супакойваць яе.

Драгавіч пачаў быў перакладаць Мялешку, што гаворыць Амендорфер Марце, але той не стрымаўся:

— Ну, гэта вы маглі і не перакладаць,— рэзка сказаў ён.

Мялешка ямчэй усеўся ў крэсле.

— Фраў Марта,— крыху ўрачыста загаварыў ён,— я, бадай, не стану дасылаць вам жменьку зямлі з магілы вашага мужа Вернера Шлосэра.

Ён замоўк і дзеля таго, каб даць магчымасць Драгавічу перакласці і каб паглядзець, як успрыме ягоныя словы Амендорфер.

Той аж уздрыгнуў. Цяпер, мусіць, і ён падумаў, што Мялешка знарок здзекаваўся з яго. Марта здзівілася, але нібы і ўзрадавалася. Мялешка, крыху счакаўшы, звярнуўся ўжо да яе:

— Я думаю і спадзяюся, што вы самі прыедзеце і пабудзеце на магіле Вернера Шлосэра.

— Але гэта немагчыма,— буркнуў Амендорфер.

— Магчыма,— адказаў Мялешка.

— Тады я нечага не разумею...

— Зараз зразумееце,— ужо са злосцю ў голасе адказаў Мялешка.

Драгавіч ледзьве паспяваў перакладаць. А Мялеш-

ка не спускаў вачэй з Амендорфера: падазравае штонебудзь ці не? Здаецца, Амендорфер не падазраваў.

— Мяне не пусцілі ў Красыні,— нагадала Марта.

— Справа ў тым, фраў Марта,— сказаў Мялешка,— што вашага мужа забілі не партызаны. Яго забіў ён...

Мялешка паказаў на Амендорфера.

Той, сапраўды, не чакаў такога павароту размовы. Амендорфер, праўда, пачынаў у чымсьці падазраваць Мялешку. Але ягонае падазрэнне было скіравана ў іншым напрамку. Ён думаў, што Мялешка помсціць і яму, і Марце за ўчарашняе. Ён знарок лёгка згаджаецца, каб потым сказаць, што пажартаваў, што дарэмна Амендорфер спадзяваўся, быццам Мялешка згодзіцца на ягоную прапанову. Але на гэты выпадак у Амендорфера быў падрыхтаваны план, які зусім бы знішчыў «гэтага рускага».

Тое, што адбылося, было так нечакана, што Амендорфер ніяк не мог сканцэнтравацца. Ён разгубіўся дашчэнту. І нейкі час у яго як бы адняло мову, а ягоны твар аж спалатнеў, стаў белы, толькі вушы наліліся яркай чырванню.

— Фрыдрых! — закрычала Юта.— Ён вар'ят! Чаму ты маўчыш? Ён хлусіць? Фрыдрых!..

Амендорфер спакваля набываў раўнавагу.

—Ну, вядома, хлусіць,— ужо спакойна азваўся ён.— Я не хачу адказваць на такую хлусню.

Амендорфер пачаў падымацца з крэсла, паволі, але з паказной рашучасцю.

— Я не хлушу, пан Амендорфер,— як прыціснуў яго да крэсла Мялешка.— Ты добра ведаеш, што не хлушу. Ты сам застрэліў Шлосэра. Таму і хацеў зараз уцячы, але зразумеў, што ўцячы ўжо немагчыма. Час адплаты насцігнуў цябе.

Упэўненасць, з якой гаварыў Мялешка, здаецца, зрабіла ўражанне на Юту і Марту, але не на Амендорфера. На ягоным твары мільганула пагардлівая ўсмешка.

— Аднак жа нахабства вам не пазычаць,— сказаў ён, стрымліваючы сябе, і загаварыў да Марты. Драгавіч пачаў перакладаць Мялешку.— Я рад, Марта, што так здарылася. Нарэшце ты сама можаш пераканацца, якога гатунку гэтыя людзі... Ды, урэшце, канцы

вы перакладаць гэтаму ідыёту,— закрычаў ён на Драгавіча.— Хоць чорт з вамі, перакладайце. Ведайце, што я думаю пра вас: вы мне ўсе ненавісны.

Мабыць, ужо не мог вытрымаць Драгавіч. Ён аж пабарвавеў ад абразы і злосці. Мялешка бачыў толькі, што Марта разгубілася ад яго слоў і нешта сказала Амендорферу. Той адразу прыняў позу зняважанага чалавека.

— Я сказаў жанчыне, што ты ведаў Шлосэра і што, калі яна хоча пачуць праўду, няхай або прагоніць подлага забойцу, якім мы лічым Амендорфера, або скажа яму, каб ён абараняўся па-джэнтльменску, калі лічыць, што вы гаворыце няпраўду.

— Мяне гэта задавальняе,— адказаў Мялешка.

Некалькі секунд — Мялешку яны здаліся доўгімі хвілінамі — у пакоі панавала насцярожаная цішыня. Усе як бы чаго чакалі, як бы на нешта спадзяваліся. Маўчанне гэта парушыла Юта. Яна раптам паднялася з канапы, зрабіла крокі тры па пакоі.

— Фрыдрых, ты абавязаны сказаць ім,— яна падняла мыліцу, каб ткнуць ёю ў бок Мялешкі, і пахіснулася, не ўстаяўшы на сваіх спаралізаваных нагах.

Амендорфер паспеў падтрымаць яе, не па гадах спрытна ўскочыўшы з крэсла.

— Як вам не брыдка? — закрычаў ён.— Я не дазволю здзекавацца... Гэта, нарэшце, бесчалавечна... Пакіньце нас у спакоі...— Ён быў абураны так шчыра, што Мялешку аж стала смешна.

— Наколькі я ведаю, пан Амендорфер,— прыйшоў на выручку Драгавіч,— не мой савецкі сябар набіваўся вам са сваімі паслугамі. Вы звярнуліся да яго самі. Таму давайце і давядзём справу да канца. Я хоць і староннi чалавек, але, паверце, і мяне зацікавіла гэтая гісторыя. Можа, вы скажаце самі, як усё было.

— Так, так, Фрыдрых, ты павінен сказаць,— падтрымала Юта.

З дапамогай брата яна зноў села на канапу. Амендорфер прымасціўся ля яе.

— Марта ведае, як загінуў Вернер. Я расказваў і ёй, і ўсім, хто ведаў Вернера, хто цікавіўся яго лёсам. Паўтараць я не буду.

— А што вам расказваў Амендорфер? — звярнуўся Мялешка да Марты.

— Гэта жахліва,— закрыла тая далонямі твар.

— Вы хочаце ведаць? — падхапіўся Амендорфер. Яго выцвілыя вочы сталі жорсткімі, калючымі.— Я скажу. Я скажу тое, што хаваў ад цябе, Марта. Твой Вернер закахаўся ў дзяўчыну, як хлапчук. Я маўчаў пра гэта. Ён быў даверлівы і, як усе мы, немцы, сентыментальны. Бедная дзяўчына, галодная... Яму хацелася дапамагчы ёй. Ён адрываў ад свайго пайка, карміў і яе, і хворую маці, даваў ім грошы. А яны заманілі яго ў пастку. Яны патрабавалі ад яго выдаць тайну. Ён з гонарам, паўтараю, з гонарам адмовіўся. Тады яго пачалі катаваць... Ну, ды пра гэта я расказваў. Мы адбілі яго, але ён праз гадзіну памёр. На маіх руках.

Амендорфер апусціў галаву ў падстаўленыя далоні. Яго шырокія плечы згорбіліся. Нават Мялешка быў уражаны, як дасканала сыграў ён сваю ролю.

— А цяпер паслухайце, як было на самай справе. Ваш муж, фраў Марта, быў, сапраўды, выдатны чалавек, прадбачлівы і разумны. І ніякай дзяўчыны ён не кахаў. Ён вас кахаў, фраў Марта. Моцна кахаў. Яшчэ ён любіў Германію. Але не фашысцкую, а свабодную Германію. Таму ён і завязаў сувязі з партызанамі. Што праўда, праз дзяўчыну. Ён шмат дапамог нам. Амендорфер не горш за мяне ведае, якія звесткі перадаваў нам Вернер Шлосэр. Дарэчы, і апошнія звесткі мы атрымалі ад Вернера. Гэтага вы, пан Амендорфер, бадай, і не ведаеце. Мы хацелі вывесці Шлосэра з Красыняў. На сувязь з ім пайшла другая дзяўчына, якую вы, Амендорфер, схапілі. Вы паклікалі Шлосэра, каб зрабіць вочную стаўку, і застрэлілі яго.

— Глупства! — буркнуў Амендорфер.— Я аддаў бы яго гестапа...

— Не, Амендорфер, ты пабаяўся аддаць яго гестапа. Бо звесткі Шлосэр дастаўваў праз цябе. Ты дрыжаў за сваю кар'еру. Табе нават было нявыгадна паведаміць, што сам застрэліў Шлосэра. Ты пусціў чутку, быццам яго застрэліла сувязная. А гісторыйку гэтую, што цяпер расказаў, ты выдумаў пазней. Ва ўсёй гэтай гісторыі я не ведаю толькі аднаго: хто быў той агент, які навёў цябе на след Шлосэра?

Мялешка так нечакана задаў пытанне, што Амендорфер не стрымаўся:

— І не даведаешся,— сказаў ён.

Мялешка хацеў сказаць, што гэта цяпер ужо і не мае значэння, як Марта ўскочыла з крэсла, падбегла да канапы, выцяла з усяе сілы Амендорфера па твары і выбегла ў свой пакой.

На нейкі час зноў запанавала цішыня.

— Фрыдрых, гэта праўда, што ты забіў Вернера? — ціха спыталася Юта.

— Праўда! Праўда! Праўда! — аж са злосцю, з нянавісцю закрычаў Амендорфер.— А ты думала, са здраднікамі цалуюцца?

— О, мой бог, што будзе з Вернерам, калі ён даведаецца, хто быў яго бацька?

— А мне пляваць,— зноў закрычаў Амендорфер на Юту.— А ўсё ты, ты... З імі можна знаёміцца толькі ў акопах, з аўтаматамі ў руках.

Ён быў як апантаны. Ад нядаўняй ураўнаважанасці, абыякавасці не засталося і следу. Раптам ён спыніўся перад Мялешкам, быццам толькі цяпер заўважыў яго.

— Ты чаго расселся? Вон! Вон! Ах, як я вас ненавіджу!

Здавалася, ён кінецца зараз на Мялешку з кулакамі. Але ў гэты час адчыніліся дзверы. На парозе стаяла Марта.

— Вы забываецеся,— пачала яна ціха, але ўparта,— яны мае госці. І пакоі мае. І я не хачу бачыць вас.

Амендорфер нейкі час стаяў, няўцямна пазіраючы то на Мялешку, то на Юту.

— Ну і чорт з вамі! — ён выбег, моцна грукнуўшы дзвярыма.

— Я шкадую, фраў Марта, што мы сустрэліся так позна,— сказаў Мялешка.

— А мне здаецца, у самы час,— сказаў Драгавіч.

— У самы час,— адказала Марта.— Я, праўда, змагу прыехаць у гэтыя Красыні?

Мялешка моўчкі схіліў галаву.

Праз паўгадзіны яны выйшлі з гатэля. Нейкі час моўчкі ішлі сярод вясёлага, бесклапотнага курортнага натоўпу, што памалу рухаўся да каланады, да крыніц.

Абодва былі ўзрушаныя і засяроджаныя сваімі думкамі.

— Таварыш Драгавіч,— перапыніў маўчанне Мялешка,— што вы думаеце наконт Юціных слоў аб маладым Вернеру? Чаму яна спалохалася?

Драгавіч скупа ўсміхнуўся.

— Вы, таварыш Мялешка, мне так здалося, сімпатызуеце Юце ці, можа, спачуваеце ёй? А дарэмна. Юта ў Амендорфера выконвае тую ж ролю, што Гебельс у Гітлера.

— Але ж яна...

— Ну, так, так,— перапыніў Мялешку Драгавіч,— яна больш далікатная, калі хочаце, танчэйшая ў метадах прапаганды старых ідэй. Але яна — душа Амендорфера. Сам Амендорфер — грубая, неабчэсаная сіла. Мне здалося, што ідэя зрабіць Шлосэра, забітага Амендорферам, героем-пакутнікам за нацысцкую ідэю, належыць якраз ёй, а не яе брату. Амендорфер не здатны на такую тонкую ігру. А цяпер уявіце, што азначаў для іх сын такога «героя» — сцяг, штандар, пад якім аб'ядноўваюцца новыя сілы. І павучальны ўрок. Бацька Вернера быў даверлівы сентыментальны — і ён загінуў ад рук ворага. Не будзьце ж такімі! Да такога магла дадумацца толькі жанчына. Вы не згодны?

— Усё лагічна,— адказаў Мялешка.— Але Юта была абурана, калі ўчора Амендорфер...

— Кіньце,— махнуў рукой Драгавіч,— аб людзях мяркуюць не па словах, а па справах. Я вам не пераклаў адной яе фразы. Яна сказала Марце: «Усё толькі гной, на якім расце новае». А словы гэтыя прыдумала не яна.

Яны выпілі вады, прайшліся аж да шостых лазняў. У каланадзе аркестр іграў вальсы Штраўса. Лёгкая, вясёлая музыка, здавалася, лунала пад сінім-сінім небам з рэдзенькімі воблачкамі над зялёнымі шатамі гор.

— У вас ёсць час? — спытаўся Драгавіч.— Калі ёсць, зойдзем вунь у той дом. Там я сядзеў у сорак другім годзе. Аднойчы следчы гестапа, з тых, што не б'юць, можа, ад суму, а можа, з нейкай іншай прычыны намаляваў мне перспектыву будучага нацысцкага раю на зямлі. Страшную такую казачку стэрылізава-

— Што вы хацелі? — спытаўся ён.

Мялешка, ва ўсякім разе, так зразумеў ягонае пытанне, хаця, можа, ён і пераклаў яго для сябе недакладна. У голасе чалавека не адчувалася вялікай прыхільнасці.

Драгавіч пачаў тлумачыць. Чалавек за перагародкай слухаў яго ўважліва, не хаваючы свайго здзіўлення і разгубленасці. Ён пазіраў то на Драгавіча, то на Мялешку, і было відаць, што нічога не разумее. Драгавіч гаварыў на сербскай мове.

— Разумееце,— прыйшоў на выручку Мялешка, чамусьці ўпэўнены, што вахцёр разумее рускую мову,— у гэтай будыніне ў часе вайны размяшчалася гестапа. Вось ён, таварыш Драгавіч, з Югаславіі, сядзеў тут у камеры,— Мялешка паказаў рукою ў столь,— дык мы хочам паглядзець камеры гестапа.

— Гестапа? — перапытаў вахцёр.

— Ну, так, гестапа, у гэтым доме,— сказаў Мялешка.

Па твары вахцёра было відаць, што ён нічога не зразумеў. Ён няўцямна пазіраў то на аднаго, то на другога, мабыць, спрабуючы здагадацца, што патрэбна гэтым двум іншаземцам.

— Вуйка, можа, ён ведае нямецкую мову. Многія чэхі ведаюць яе,— выказаў здагадку Мялешка.

— Твая праўда, паспрабуем,— пагадзіўся Драгавіч і загаварыў з вахцёрам па-нямецку.

Вахцёр сапраўды валодаў нямецкай мовай. Мялешка прыслухоўваўся да іх гамонкі, якая спачатку ішла роўна, але з кожнай хвілінай станавілася ўсё больш рэзкай.

Было падобна на тое, што Драгавіч спрачаецца з вахцёрам, ці, можа, наадварот.

— Найн, найн, найн,— аж узлавана крыкнуў вахцёр.

Мялешка зразумеў, што вахцёр не хоча пусціць іх наверх. Як чалавек далікатны, ён крануў за рукаў Драгавіча.

— Вуйка, не трэба дамагацца, калі не дазваляюць,— сказаў ён.

— Чаму не дазваляюць? — усё яшчэ разгарачаны спрэчкай, аж выгукнуў Драгавіч.— Ён кажа, што тут

не было гестапа. Ён кажа, што прыехаў сюды ў сорак пятым і тады ўжо тут быў склад.

— А можа, ты памыліўся,— пачаў ужо сумнявацца і Мялешка.

— Ты скажаш, што я тут і не сядзеў,— абурыўся Драгавіч.— А я сядзеў, і мяне катавалі. Такое не забываецца.

Тым часам вахцёр набраў нумар тэлефона.

— Пані Петрачкава?..— спытаў ён і, пачуўшы адказ, пачаў нешта гаварыць у трубку, не спускаючы з іх вачэй.

Заставалася толькі дачакацца пані Петрачкаву, мабыць, нейкае тутэйшае начальства. Яны пачалі пазіраць уверх, на лесвіцу.

Раптам ніжняя частка паралелепіпеда раз'ехалася ў бакі, з яго выйшла невысокая, але даволі поўная жанчына з капой белых, сонечных валасоў. Яе твар асвятляла такая ж сонечная ўсмешка, аж здалося, што ў вестыбюлі пасвятлела.

Жанчына энергічна працягнула руку. «Петрачкава,— назвалася яна.— Ці магу быць чым-небудзь карыснай?»

Давялося зноў расказваць пра тое, чаму яны прыйшлі сюды. З твару жанчыны памалу спаўзала ўсмешка, і тады стала відаць, што яна зусім немаладая.

— Першы раз чую, што тут у вайну размяшчалася гестапа,— сказала яна.— Можа, вы памыліліся?

Драгавіч загаварыў горача:

— Можа, мне прысніўся вось гэты ліфт, на якім вы апусціліся, спадзяюся, не з неба. Там, на апошнім паверсе, дзе я сядзеў, калідор зламаны літарай зэт. У двух ягоных тупіках па тры камеры з вузкімі закрачанымі вокнамі. У калідоры арачная столь. Налева ад ліфта размешчана пляцоўка. З яе відаць унутраны двор і стромкая скала. Можа, і гэта мне прыснілася?

Пані Петрачкава была ўражана. Нейкі час яна здзіўлена пазірала на Драгавіча.

— Калі ласка, пойдзем са мною,— сказала яна і першая пайшла да ліфта.

Дзверы ліфта нячутна зачыніліся, і гэтак жа нячутна ліфт павёз іх угору.

На пляцоўцы чацвёртага паверха — як па-нашаму, дык пятага, бо на Захадзе паверхі пачынаюцца з таго,

што размешчан над вестыбюлем,— яны выйшлі. Сапраўды, над імі вісела нізкая, закругленая столь, але Драгавіч нечага азірнуўся, як бы не пазнаючы таго памяшкання, дзе ён некалі сядзеў.

Мялешка нават падумаў, што Драгавіч няйначай памыліўся, і яны дарэмна патурбавалі людзей. Але той павярнуў направа, апусціўся на тры прыступкі ў кароценькі тупік.

— Вось тут я сядзеў,— упэўнена сказаў ён.

У дзвярах захаваліся маленькія акенцы. Яны па чарзе заглянулі ў пакой — вузкі, з гладкімі сценамі і цэментнай падлогай.

— Гэта зусім неверагодна,— сказала Петрачкава.

— Чакайце, Вуйка,— звярнуўся Мялешка да Драгавіча,— але мне здаецца, што з гэтай камеры ты не мог бачыць каланады і немцаў, якія па ёй гуляюць.

— Ну, так,— спакойна адказаў Драгавіч,— ну, так. Я прасядзеў тут дні тры ці, можа, чатыры. Потым мяне перавялі ў другую камеру. І абавязаны я таму следчаму, што маляваў мне будучы нацысцкі рай. Думаю, што зрабіў ён гэтак знарок. Каб я кожную хвіліну бачыў вясёлых, сытых, непераможных салдат вермахта, каб адабраць у мяне ўпэўненасць і веру ў перамогу над імі. А выйшла наадварот. Я ўсё болей распаляўся нянавісцю да іх, і дух мой мацнеў.

Ён павярнуўся і пайшоў у канец калідора. Перад дзвярыма, на якіх была прымацавана акуратная шыльдачка, Драгавіч спыніўся.

— Вось адсюль я ўцёк,— сказаў ён.

— Заходзьце,— запрасіла Петрачкава.— Тут працую я.

Толькі цяпер Мялешка разабраў надпіс, перавёўшы яго дзеля сябе так: загадчык аддзела школьных прыналежнасцей Петрачкава.

Пакой таксама быў невялікі, амаль квадратны. У ім — стол, крэсла. Яшчэ два крэслы ля сцяны. Шафа. Праз акно Мялешка ўбачыў Тэплу, а за ёй каланаду і крыніцу, з якой піў ваду. Ля галерэі цякла жывая людская плынь. Людзі адпачывалі, весяліліся.

— Вось тут, дзе стаіць шафа, быў мой ложак. А ў сцяне — комін. Праз яго я і ўцёк. Вылез на дах, адтуль перабраўся на скалу...

У пакой заглянула жанчына. Пабачыўшы незнаё-

мых, хацела зачыніць дзверы, але Петрачкава паклікала яе.

— Марыя, заходзь. Уяўляеш, тут было гестапа, і вось у гэтым пакоі жыў таварыш з Югаславіі,— сказала Петрачкава.

Мялешка не мог стрымаць усмешку, так неpraўдападобна прагучала слова «жыў» у дачыненні да гестапа. За трыццаць гадоў шмат што змянілася. У былых засценках гестапа — склад школьных прылад, падручнікаў, і слова жыў, жыве набыло свой непасрэдны сэнс. Зрэшты, можа, пані Петрачкава і не памылілася. Драгавіч не сядзеў, а жыў, дзеля таго, каб змагацца. Усе жылі: вязні Асвенціма і вывезеныя на катаргу ў фашысцкую Германію людзі, ахвяры Лідзіцы і Хатыні. Жылі і жывуць, каб нават пасля сваёй смерці змагацца з фашызмам.

Мялешку зноў прыгадаліся словы таго старога, якога павесілі на элеватары. «Во ў чым наша сіла. Каб нават мёртвага баяліся. Дзецям сваім гаварылі, як мы паміралі». Амендорфер баіцца і цяпер. Такія, як ён,— мерцвякі. Яны ніколі не жылі, нават тады, калі шпацыравалі вось ля гэтай галерэі па-над Тэплай, а аркестры ігралі маршы.

Тым часам Петрачкава дастала з шафы кубкі, Марыя зварыла каву. Размова, аднак, не ладзілася. «А можа, мы і дарэмна нагадалі людзям, што тут калісьці было гестапа і ў ім катавалі людзей,— падумаў Мялешка.— Вось і на твары пані Петрачкавай больш неззяе сонечная ўсмешка. А ёй так да твару ўсмешка. Яна маладзіць яе».

Дапіўшы каву, яны пасядзелі яшчэ крыху моўчкі, пачалі развітвацца.

— Я праўяду вас,— сказала Петрачкава,— ведаеце, неяк жудасна заставацца адной у пакоі. Цяпер... І гэта надоўга. Фашызм нагадвае пра сябе нават камяніцамі. Ён забруджвае ўсё, да чаго не дакранецца.

У вестыбюлі яна паціснула ім рукі. Яны выйшлі на вуліцу пад сонца, пад чыстае неба. Мялешка пайшоў праводзіць Драгавіча на прыпынак аўтобуса.

Іх шлях ляжаў па-над Тэплай, паўз гатэль «Красна Крулеўна».

— У мяне будзе да вас просьба,— сказаў Драгавіч,— можа, выпадзе нагода прыехаць да вас у Бела-

русь, дык дайце мне свой адрас. У нас будзе яшчэ пра што пагаварыць. Па-брацку.

Мялешка напісаў адрас, а ўзамен атрымаў візітную картку Драгавіча і просьбу абавязкова наведаць яго, калі надорыцца выпадак пабываць у Югаславіі.

Ля пад'езда «Краснай Крулеўны» стаяла машына і ў яе грузілі чамаданы.

— Бачыце, пан Амендорфер уцякае,— сказаў Драгавіч.

Яны спыніліся якраз насупраць фірменнага магазіна «Мозер». У вітрыне пералівалася, ззяла на сонцы мозерскае шкло: вазы, бакалы, чаркі.

З гатэля выйшаў Амендорфер. Нават не азірнуўшыся па баках, сеў у машыну. Тая рванула з месца і неўзабаве схавалася за паваротам.

Амендорфер уцёк. Але Юта засталася.

— Вам абавязкова яшчэ трэба сустрэцца з Мартай,— сказаў Драгавіч.

Мялешка зразумеў яго. Юта, бадай, страшней за Амендорфера, хоць яна і калека.

ЗМЕСТ

Александр Харитонович Асипенко
ДВА ДНЯ И ДВЕ НОЧИ
На белорусском языке

Рэдактар Я. І. Курто. Мастак Ю. І. Кухараў. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Е. У. Дзмітрыенка.

ИБ № 1

АТ 21005. Здадзена ў набор 26/VIII 1976 г. Падп. да друку 25/I 1977 г. Тыраж 14 000 экз. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 15,96. Ул. выд. арк. 16,5. Зак. 3547. Цана 1 руб. 34 кап. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Асіпенка А.**

А 90 Два дні і дзве ночы. Аповесці. Мн., «Маст. літ.», 1977 г.

304 с. з іл.

У новую кніжку Алеся Асіпенкі ўвайшлі дзве аповесці: «Канец бабінага лета» і «Два дні і дзве ночы». Першая — пра навукова-тэхнічную рэвалюцыю ў калгаснай вёсцы, пра людзей, якія робяць гэтую тэхнічную рэвалюцыю, пра іх складаныя ўзаемаадносіны ў сярэдзіне сямідзесятых гадоў. «Два дні і дзве ночы» — гэта як бы рэха вайны. Былы партызан Мялешка, выпадкова сустрэўшы ў Карлавых Варах ваеннага злачынцу Амендорфера, выкрывае яго.

$А \frac{70303\text{-}047}{М\ 302(05)\text{-}77}$ 1-77 Бел 2